# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

## № 8

1925

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

## НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Байкоў М., Баліцкі А., Баравы М., Барашка Іл., Буйло К., Бядуля З. (Ясакар), Бываеўскі Н., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. проф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Гэрчыкаў І., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ў. проф., Колас Я., Купала Я., Каранеўскі Я., Каліноўскі Ул., Кацэнбогэн С. проф., Круталевіч А., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Маразоўскі М., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Пічэта Ў. проф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Смоліч А., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарвякоў А. Чарот М., Чарнушэвіч Н., Чорны К., Шатэрнік М., Шукевіч-Трэцьцякоў Р. і інш.

# НА ПЕРАГІБЕ

## Часьціна другая

*(З другое квадры роману „Сокі Цаліны“)*

**Цішка Гартны**

I

Рыгор разумеў Сёмку і калі судзіў аб ім, то судзіў упапад.

Расстаўшыся з таварышам, Сёмка не пасьпеў яшчэ выехаць з прывакзальнага пляцу, як ужо выпусьціў з думак ня толькі Ганну, а і ўвесь абраз вакзальнага руху. Усё зьлілося ў мінютным выбуху нейкай мятусіны і зразу расплылося ў лёгкім тумане. Астаўся адзін Рыгор, з якім не разрываліся яго думкі, які загартаў сабою і вакзал і яго рух. Усьлед цягніку нясьліся Сёмкавы думкі, а ў грудзёх яго адчувалася прыкметная пустата. Ня верылася, што прыдзецца аднаму вярнуцца ў Сілцы. Вырасла ў яго галаве многа розных плянаў,—вялікіх, якія захоплівалі ўсё жыцьцё і вярцеліся вакол яго. Як і што іх разьвязаць, да чаго яны,—Сёмка ня мог зразумець, нават выявіць іх выразна ня меў мажлівасьці. Глыбока ўздыхаў аб сваёй бязмоцнасьці перад прымусамі жыцьця ды раз-по-разу азіраўся ў бок вакзалу, пакуль ня выехаў за пасёлак, у поле. Тут ён пацiху супакоіўся, пагадзіўся з рэчаіснасьцю і з самым сабою.

Цёплая сонечная раніца чаравала поле. Зелень кушчастае густое ярыны ізумрудзіла пад полівам чырвоных праменьняў сонца, сапла цёплым, парным паветрам пасьля мыцьця халаднаватай расою. Цёмнымі лахматымі брыжамі акідалі поле маладыя лясы-хвойнічкі. З кута роўнакутніка, які апісваў маладняк, каля Пералесак нёсься гук трубы-беразоўкі і зычныя рэзвыя галасы пастушкоў. Крычалі вароны і перакідаліся з месца на месца сіваваронкі. Цыбаты бусел спацыраваў па граніцы лесу, адначасна сумяшчаючы службу палясоўшчыка і паплаўнічага. Паважна апускаў голаў, пасьля паднімаў яе і глядзеў у бакі. Пэўна цікавіўся заліўным трэскатаньнем некалькіх жаўранкаў над руньню. Косаю сьценкаю, што выходзіла з хвойнічку і накіроўвала ўлевы ад Сёмкі бок, да вёскі Пралескі, пацiху чуць-чуць варушачыся, ехала на адгоне адна ад другой пара фурманак. На драбінах сядзела па адным чалавеку ў белых сарочках; яны выглядалі гіпсовымі фігуркамі, якія хтось акуратна паставіў на вазох і пусьціў ціхім тупам коні, каб не разьбіць іх ад трасяніны па кал-

дабоінах выбітае сьценкі. Хутка вышла з рогу хвойнічку трое кабет ці дзяўчат з поўнымі мяшкамі травы на плячох. Здалёк паказвалася, што вось-вось цяжкая ноша прыгне кожную з іх да долу, ападзе сваёю вагою і прыдушыць або пераломіць падкасаныя за калені, забруджаныя ў балотную гразь ногі. У паветры было ціха; расьліны стаялі заварожанымі.

Сёмка ўладзіўся сесьці так, каб паглядаць абапал гасьцінцу, сочачы за пасевамі. Ён суздром захапіўся полем і любаваўся ім, як мастак сваім вобразам. Яно родна Сёмкавай душы, блізка яго разуменьню. Змалку прывучыў яго бацька хадзіць каля зямлі, любіць яе і даглядаць. За якія восем гадоў Сёмкавы ногі пакінулі мільёны сьлядоў у мяккай глебе, па вільготных разорах і на цёплым баранаваньні; яго праца, што цеплатою і потам пералілася ў мяккі пясок чорназёму і суглінку, напаіла мільёны камялькоў аўсу, жыта, грэчкі, ячменю; яго вочы, шустрыя і празрыстыя, афарбаваліся колерам валошкі і нажылі зоркасьць птушкі. Сёмка чуў голас зямлі і ўмеў на яе адзывацца. Ён пашоў па бацьку, толькі ад натуры прыдалося яму больш ахвоты да працы пры зямлі. Зложыўшы яго з бацькавай сілу, стараннасьць і ахвоту—яны-б за пяцярых напрацавалі. Але шмат зямлі ў чатыры-пяць дзесяцін, які меў Сёмкаў бацька, не даваў мажлівасьці разгарнуцца. Прыходзілася спыняць размах. Тымчасам Сёмка бачыў, што ёсьць многа людзей, якія маюць па пятнаццаць, па дваццаць, па сорак і па больш дзесяцін. Сёмка бачыў цэлыя маёнткі і ведаў, што ўласьнікі іх самі не працуюць, а другім не даюць... Гэта заўважыў ён яшчэ юнаком, калі ўпяршыню пачуў скаргу бацькі на розныя недастачы ў хаце. І з таго часу задумаўся глыбока над пытаньнем, як зрабіць, каб лепей разьмеркаваць зямлю. З гэтымі думкамі ён умешваўся ў бацькаўскую гутарку, з імі ён падрастаў, аручы зямлю, праз іх дашоў да соцыялістых. Але Сёмка стаў соцыялістым асабовым—бунтаром і ў той час прыхільнікам „надзелу зямлі, колькі можна апрацаваць уласнымі рукамі". Гэтага надзелу ён ні на момант не выпускаў з галавы; надзел зямлі, „колькі можна апрацаваць уласнымі рукамі" стаяў у асяродку програмы ўсіх яго дамаганьняў, каля яго вярцеліся мары аб самым соцыялізьме. Можа, каб програма соцыялістых не казала аб зямлі,— Сёмка далучыўся-б да іншай партыі, хоць далёкай ад соцыялістых. Для яго зямля—як абраз для мастака.

Вяртаючыся з адвозу Рыгора, Сёмка пільна сачыў за нівамі паабапал дарогі, крывіўся на вузкія і зайздросьціў шырэйшым. Тайком варушылася гострае жаданьне: мець-бы сабе такую—гэтак, дзесяцін у дзесяць гаспадарку. Усё-ткі было-б на чым разьвярнуцца. Відаць, дзе шырэйшая палоска, там збожжа лепшае. А ў фальварках—дык проста яно паказвае на другі завод, на інакшы сорт. „Я апрацаваў-бы з бацькам дзесяцін пятнаццаць—сьмела", думаў ён: „чаму-ж мне іх не дастае? І ніякім чынам іх нельга дастаць? Папы, паны, шляхта—маюць тысячамі дзесяцін, а мужыку—тры, пяць, сем... Няпраўда, соцыялізуем!" матаў Сёмка пугаўём

у бок фальваркаў і пераходзіў да думак аб рэволюцыйным руху, аб яго посьпеху, аб мажлівасьці прыходу соцыялізму. Тут-жа пераміґаліся ў памяці таварышы з Сілцаўскае організацыі, усё нейкія асаблівыя, не-падобныя адзін да другога, і ўсе—на яго. „Зямля мала каго цікавіць. Працоўны дзень, паляпшэньне ўмоў працы, павялічэньне пэнсіі. А працаваць да цёмнага ў полі? Замурзанаму, босаму, забруджанаму ў гной? Найбольш гарбары, шаўцы, краўцы—вось яго таварышы. А сялян-земляробаў—два-тры: ён—Сёмка, Пятрусь Зьмітраў, Янка...

Сёмкавы думкі краталіся Рыгора. „І Рыгора, нават, не клапаціць зямля—можа, гэта і лепш. Узяў, вось, кінуў-рынуў Сілцы і паехаў—нічога пазадзе, Сілцы пры ім і без яго—тыя-ж Сілцы; прыехаў у Рыгу—яго Рыга, пераедзе ў іншае месца—і там сваё. Рукі—вось яго статак. А каб гэта сказаў мне: Сёмка, едзь у Вільню ці ў Рыгу—кідай Сілцы, ці-ж бы я паехаў? Ласьне можна мне кінуць гаспадарку, ніву, каня і ехаць? А бацькі, якія з яе жывуць? Ха-ха-ха! Рыгор мо' й паверыў, што я адзін раз калі-небудзь, так, раптоўна, вазьму і апынуся ў Рызе... Не-э-э, даражэнькі-ж сябра, мабыць гэтага ня будзе-э... Я так сабе, да слова сказаў. Нялёгкая справа: прыкаваўся да зямлі—тупай. Каб і хацеў, то не адарвешся зразу. Аднаму сьцены заводу—другому прастор нівы, лес, поплаў... Рыгор кажа, што „зямля любіць вучоных"—то праўда. Шчырая праўда. Толькі тое бяда, што часта зямля не дае мажлівасьці вучыцца. Ну, хоць-бы ўзяць мяне: я—цёмны нявольнік зямлі. Куды-ж мне да гораду!.. Я ведаю, што горад можа навучыць, як ляпей і мацней змагацца за зямлю. Але гэтае навукі мне ня трэба: мяне само жыцьцё загартавала на гэта.

Сёмка цалкам аддаваўся гэтым думкам, ажно забываў пра ўсё іншае Конь паціху клыпаў, трасучы воз. Усё гарачэйшым рабілася сонца. Прыпякала, цяжыла яго, хіліла ко-сну. Але ён упарта адганяў драмоту, папраўляўся на месцы і далей перабіраў думкамі. Ад тэмы аб зямлі перашоў асабіста да Рыгора: зразу паўстаў яго вобраз у тым выразе, які адбіўся пры разьвітаньні. Як жывы, вось. Здавалася, што ён не пакінуў Рыгора ў Ліцку, а адвёз іншага чалавека. Вернецца ў Сілцы і стрэне яго ці ў сьценцы між палеткаў, ці каля хаты на прызьбе. Сёмка пражыў і прадружыў з Рыгорам вясёлыя рэзвыя гады юнацтва: разам вучыліся ў дарэктара па хатах; разам рабілі саначкі і лыжы ды коўзаліся на іх; разам па чатыры гады пасьвілі каровы. Дружылі і тады, калі падрасьлі Сёмка стаў земляробам, а Рыгор астаўся служыць у балагольстве. Па адных зборнях хадзілі, браліся адзін за другога, калі хто хацеў аднаго з іх пакрыўдзіць. Самі ў дваіх дашлі да дэмакрацтва і адначасна Сідор Вузел упісаў іх у соцыял-дэмакрацкую організацыю. Як-жа забыць ім адзін другога? Як пагадзіцца з думкамі, што Рыгора ўжо ня будзе ў Сілцох, калі вернецца Сёмка. Каб то Рыгор не прыяжджаў—мо' яно йначай было-б: усё-ткі час патроху бярэ сваё—памяць паддаецца новым

абставінам. Але Рыгор—вазьмі і прыедзь; а далей спатканьне, гульня, гутаркі, успаміны аб мінулым—і мяжа перарэзалася, як-бы Рыгор ніколі не выяжджаў з Сілцоў. А гэта йзноў—шась і зьнік, і ня будзе яго... Няўжо такі ня будзе?“

Гэткі пераплёт жыцьцёвых зьявішчаў блытаў Сёмкавы думкі, як-то так усё робіцца на сьвеце...

„Гэта-ж прыеду ў Сілцы і мушу зайсьці да яго мацеры, каб паведаміць, як і што мы даехалі. А пайду на зборню—Рыгора не знайду. Яго ўжо ня будзе ў Сілцох, ён ужо будзе ў Рызе“.

Сёмка азірнуўся навакола, мэрам хочачы праканацца, што ён адзін, бяз Рыгора. Погляд яго коўзаўся па гладзі руцяністай зелені і дзе губіўся ў сівай далі, а дзе перасякаўся сьцяною лесу або шэрым узгоркам—Сёмка Рыгора ня бачыў. Ён ад злосьці ці з крыўды хвасянуў займаздароў па кані і ў голас нокнуў: „Но-о-о, каб ты здох! Падбяжы крыху“. Конь рвануўся і мо‘ з поўганоў прабег скорай рысьсю, а дале ізноў умерыў хаду.

Белая шырокая дарога выхілястаю стужкаю бегла далёка да ўсходу, рэжучы зялёныя нівы.

## II

Быў полудзень, калі Сёмка прыехаў дамоў. Сялянская палавіна мястэчка Сілцоў была маўклівая, заклапочаная. Гарачае летняе сонца няшчадна пякло і яшчэ больш прыдавала людзям вяласьці ды санлівасьці. Калі праходзіла вуліцаю якая-колечы кабета ці дзяўчына, то ступала ціха, неахвотна, чуць варушылася, хоць і была на лёгцы, у ваднэй кашулі з расшпіленымі гузікамі, з падатканаю спадніцаю; калі ехаў земляроб на ворыва ці на скароджаньне—то конь клыпаў чуць прыметна, матаючы галавою. Дзеткі, па-двое, па-трое, ці грамадкамі, туліліся ў цянёк. Толькі сьвіньні не баяліся жары і назнарок лезьлі на сонца і пясок. Гэты вобраз, знаёмы і прывычны, разам захапіў Сёмку, павеяўшы агульным клопатам звычайнае будзёншчыны.

Сёмка паціху праехаў на сваю, Сівулінскую, вуліцу і завярнуў у свой двор. Якраз нікога ня было ў доме—на зашчапцы дзьвярэй вісеў замок. „Дзе-ж бы яны былі ўсе?“ падумаў Сёмка, супыніўшы каня перад дзьвярыма і пазіраючы на горад. Пасьля зьлез з возу, пастаяў з хвіліну ды пачаў распрагаць каня. Але не пасьпеў ён рассупоніць хамута, як пачуў з-за вешніц голас:

— Дзень добры, Сёмачка! Ці-ж ужо вярнуўся, сынок?

То казала Стэпа—Сёмка пазнаў па голасу.

— Ідзеце, цётка, сюды,—пазваў яе.

Стэпа прашла ў двор, падблізілася да Сёмкі і некалькі хвілін памаўчала, сочачы за распраганьнем. Калі-ж Сёмка вывеў каня з аглабель, завёў у хлеў і стаў зьбіраць збрую, Стэпа ўлучыла момант і запытала:

— А як-жа, сынку, заехалі?

— Добра, цётачка. Скора і добра. Пасадзіў яго на поезд...

— На поезьдз-і-ы?

Стэпа разгорнілася і ўцерла фартухом вочы.

— Добра-а, кажаш? Мой сынок, сеў на поезд ужо. Мае дзеткі, калі-ж я яго ўгледжу ўжо... Гой, Сёмачка-а, дзе ўжо тое дабро. Вось ты прыехаў, а яго няма; вас дваіх у бацькоў ды абое дома, а гэта адзінадзінёшанек—і таго ня суджана бачыць. Адна мушу жыць, як манашка якая... І мне нядобра і ён, пэўна, ня зусім спакойны...

Абое прыселі на прызьбе.

— Нічога, цётка, ня сумуйце-э так... Ехалі мы весела, праз усю дарогу гутарылі, сьмяяліся. А на станцыі ў Ліцку я яшчэ падшукаў яму на дарогу дзяўчыну, як ляльку. Разам паедуць... Вяргіня проста—куды там Прыдатчанка!

Перад Сёмкам выразна залунаў вобраз Ганны.

— Чаго тужыць,—Сёмка далей казаў.—Вы думаеце, што толькі адзін Рыгор і паехаў? Тысячы людзей едуць: маладыя і старыя, адзінкамі і сем'ямі; пэўна, многія ад бацькоў у сьвет, іншыя да бацькоў, бацькі да дзяцей. З месца на месца, з гораду ў горад, за шчасьцем і праз няшчасьце. А ўсе разам—ганяюцца за сваёю доляю, шукаюць чагось лепшага... Ці-ж толькі вам адным нядобра? Гэта тут, у Сілцох, седзячы, думаецца, што Рыгор адзін такі, а паглядзелі-б, што чаўпецца ў Ліцку на станцыі—дзіва!

Стэпа зьдзіўлена ківала галавою, і відаць было па яе міне, што сэрцу няма спакою ад Сёмкавых слоў. Мала дзе што ёсьць—ёй балючы свае раны.

— Што-ж, Сёмачка,—загаварыла яна:—і я-б, мілы мой, ахвотна кінула-б усё ды паехала з ім. Як падумаю, што мне аднэй давядзецца жыць—няма сілы цярпець.

— Пачакайце, вось; ажывецца трохі і перавязе вас да сябе. Ці-ж тут вельмі трудная рэч?..

— Ай, дзе там, сынок, вязьці старыя косьці няведама куды,—не згадзілася Стэпа:—добра вам, калі вы маладыя, перад самым жыцьцём, а мне... Вось пацягаемся які гадок—ды на пасечныя. Яно-ж таму і цяжка гэтак, што на парозе сьмерці, можна сказаць, ды аднэй заставацца. Каб ранейшыя сілы ды рухавасьць—мо'-б іншым паглядам глядзелася-б, а цяпер, вось... Як у людзей—то ёсьць блізкія, родныя або свая добрая стача, а гэта—як кол—адна аднэю... А быў-бы дома Рыгорка—іншыя паперы: я чула-б сябе як за мураванаю сьцяною; захварэла-б—было-б каму даглядзець, памёрла-б—было-б каму пахаваць палюдзку. А цяпер, схопіць хвароба, задушыць, дык дзён пяць паляжыш, пакуль даведаюцца людзі. Або, каму гэта трэба праведваць? Каму й дзеля чаго я карысна? Вось, мой Сёмачка, у чым захаваны ўвесь жах мае адзіноты... Паглядзіш

на другіх, вясёласьць з воч ня зыходзіць: дзеці дома, поўна хата гоману, рэзвасьць, вясёласьць некая, а ты, колькі ні прызірайся—Рыгоркі ня ўгледзіш...

Стэпа да таго разгорнілася, што не магла далей казаць. Яна ўнырыла тварам у фартух і мо' з хвілін пяць выцірала заплаканыя вочы... Ад гэтага ніякавата рабілася й Сёмку: шчырая споведзь Стэпы праходзіла ў яго нутро і кратала за душу. Яго пачуцьці зьліваліся з пачуцьцямі кабеты і адчынялі перад Сёмкам глыбокую пустэчу, якую нядаўна займаў Рыгор. Аднак, ня хочучы паддавацца цалком сумнаму настрою, Сёмка жадаў разьвеяць яго і ў Стэпы. Памаўчаўшы крыху, ён пачаў разважаць старую:

— Дый чаго ўжо вам, цётка, занадта сумаваць! Няўжо такі й сапраўды вы памрэце, не дачакаўшыся Рыгора? Ня трэба глядзець у вочы выключна нядобраму; трэба ведаць, што жыцьцё не бяз добрых выпадкаў. Вось пражывеце якога з поўгода адны, а дале Рыгор забярэ вас да сябе, ажэніцца там, возьме многа пасагу, адчыніць сваё дзела і ўсё паверне на новы шлях. Рыгор—чалавек нядурны; у яго ёсьць і талент, і ахвота, і спрыт. Чулі-б вы, колькі раз ён мне дапамінаў, каб я, прыехаўшы, суцешыў вас, ня даў сумаваць па ім!

Тон, з якім Сёмка выказаў гэтыя словы, яго бадзёры выгляд і адчуваная Стэпаю шчырасьць ды спагада да сябе зьлёгку разагналі насядаўшы на яе душу цяжар, адчынілі ёй край цёмнага пазему і блеснулі крохкаю, нясьмелаю надзеяй. Стэпе адчувалася крыху весялей. і месца смутку займала пачуцьцё нявыказнай любасьці да Рыгора.

— То-ж то, каб-жа бог даў так...

— Або прыедзе сам па вас,—дадаў Сёмка:—забярэ і паедзеце. Мо' нечакана гэта выпадзе... Горад усё можа зрабіць—то ня наша зямля, якая адно ведае—выцягнуць з цябе ўсе сокі, а пасьля забраць да сябе.

— Ой, зробіць горад,—з напускным недавер'ем сказала Стэпа:— вось колькі часу ўжо ён пражыў у ім, а што добрае знашоў? Толькі адно, што вытравіў хаценьне жыць у дому, пры мацеры... Бачыш, сынок, ты тут цішком, паважна рыешся й рыешся ў зямлі, даглядаеш бацькоў і сябе, а Рыгор—носіцца са сваймі думкамі, плянуе ды мяркуе, ліха ведае што і аб чым. Думаеш, гэтае не мяшае яму? Вельмі ўжо шырокую душу мае—каб усім добра зрабіць...

Сёмка ня стрымаў ухмылкі на губах.

— Цётачка, ці-ж гэта ганьба? Рыгор ведае, што толькі тады будзе добра і нам, як добра ўсім будзе. Ён ведае, што вам цяжка жыць таму, што занадта лёгка жыць другому. Або Рыгор паехаў-бы ў горад, каб тут было добра?...

— Ай, дзеткі, дзеткі, што вы задумалі? Ці мала ў вас свайго клопату? Ласьне вы можаце перайначыць тое, што вякамі стаіць?..

Стэпа не дасказала: голас Сёмкавага бацькі, Хведара, які няпрыметна для іх падышоў к возу, перабіў Стэпін сказ.

— Ужо й дома?—раптам прамовіў Хведар.

— Як бачыце. Ужо больш гадзіны вас чакаю: прыехаў, а хата замкнута...

— Дзень добры, Стэпа!—перабіў Сёмку бацька і прысеў поміж са Стэпаю.

Дзьве касы, што прынёс з сабою, палажыў з правага боку.

— А дзе-ж маці?

— Або я ведаю!

— Пэўна ў траву пашла з хлопцам...

— Так, так, пашла ў траву Саламея; я бачыла.

— Гм! А трэба было ёй ісьці. Прысьпела. Паабедаўшы, пашла-б. Нябось, есьці, Сёмка, хочаш?

— Ды нічога, пачакаю.

Хведар выцер рукавом пот на лбу, разгладзіў доўгую клінастую бародку, паправіў косы і пытальным узрокам паглядзеў на Стэпу.

— А ты ўжо прышла аб сыне праведаць што-кольвечы? Непакоішся, вядома.

— Дзе ты бачыў—спакой. Сэрца чарнее, работа няміла...

— Вось тота-ж і тое: на сьвежую памяць... Што-ж ты з імі парадзіш,—кінуў і паехаў, а ты тут, маці, як сабе хочаш,—сумуй, біся, тужы... Гэткі ўжо сьвет.

— Навошта казаць—кінуў,—умяшаўся Сёмка:—а што-б яму тут рабіць?

— Чаму, што рабіць? Касіць, служыць, а мацеру сьцерагчы. Сьцерагла-ж яго, як быў малы, працавала. Нябось, згубіць мацеру—ня найдзе другое...

— Ды што ім бацькі!

— Або Бэрка ня ўзяў-бы да сябе?

Сёмка зарухаў на месцы.

— Кіньце ўжо гэтага Бэрку. Досі ўжо яму балагольства. Мала ён папацягаў цяжару да папаблытаўся і ў Ліцк, і ў Вільню, у восень і ў мароз. Наеўся гэтага хлеба ўдосталь...

— Яно-ж гэтак, сынок, ня вельмі добра служыць балаголам, але як трэба—нічога не парадзіш. Робяць-жа людзі і цяжкую работу. Вось Бэрка, глядзі, як неміласэрна працуе... Ды, думаеш, там, на заводзе, лягчэй?

Хведар безнадзейна матнуў рукою.

— Ай, кінь ужо ты, Стэпа. Ласьне іх угаворыш? Ня ў нас яны, што й казаць. На іншы шлях пашлі—няхай. Пабачым—выграюць што ці не...

— То-ж вядома... Ды яно-б маўчалася, каб тое здароўе або крыху лепшыя ўмовы жыцьця; але ўсяго бяды—жыць старому няма як; чакалася ўцехі, вясёласьці, а тут вунь што.

— Я-ж ведаю. Вельмі дрэнна...

Хведар падняўся з прызбы, падышоў да пералазу ў гарод, паглядзеў направа й налева, пасьля вярнуўся к вешніцам і пацікавіўся на вуліцу.

— Прапалі недзе. Скора каровы пагоняць, а іх няма.

Падышоў да прызбы і праказаў Сёмку:

— Давай самым пашукаць чаго есьці; дакуль-жа яе будзем чакаць. Час не чакае, а работа стаіць. Трэба перакусіць сяго-таго да ехаць у Лужкі зябліць папар. Конь крыху адпачыў, няхай зьесьць травы—і трэба ехаць.

— Ды я ўжо так і думаў; хіба дайце каню.

Хведар адшчапіў замок і пашоў у сенцы, а Сёмка, падняўшыся з прызбы, падышоў к возу, каб зьняць з яго салому, посьцілку й палукашак.

Стэпа некалькі часу пасядзела моўчкі, а пасьля ўстала з прызбы і зрабіла два крокі да вешніц.

— Дык дзякуй табе, Сёмачка,—прамовіла яна, мэрам апамятаўшыся:—хоць крыху адвяла душу, а то цэлую ноч неспакоілася. Што-ж зрабіць, няхай здароў едзе—гэтак ужо трэба... Хаця, сынок мой, не адмовішся лісту напісаць. Мо‘-ж хутка паведаміць ён аб сабе.

Яна пашла з двара.

— Добра, цётка, добра!—паслаў ёй удагон Сёмка. І тут-жа адцягнуўся думкамі ад Стэпы і ад Рыгора, а пачаў меркаваць, як і што павясьці бліжэйшую працу па гаспадарстве. Здавалася, што гэты час як быццам-бы павінен быць крыху вальнейшым, а тота-ж цэлая процьма работы! Папар ня зяблены, пасека не ачышчана, не загароджаны пастаўнік, засекі ў гумне не падрапараваны. Ці ўдасца, наогул, справіцца зусім гэтым да касьбы! І Сёмку задрэнчыла хутчэй сьпяшыць у Лужкі, каб заараць к вечару ганоў з чацьвёра. Ён паглядзеў на сонца—паказвала на другую гадзіну пасьля палудня.

— Хадзі есьці,—пазваў яго бацька.

Сёмку ня вельмі хацелася абедаць. Утома ад бяссоннай ночы давала аб сабе чуць: балела галава, вісеў нейкі цяжар на сьпіне, рабілася млосна. Добра было-б легчы адпачыць.

— Ня хочацца есьці.

— Хоць малака кубак выпі.

На гэта Сёмка згадзіўся: выпіў малака і хутка завіхнуўся каля возу. Праз хвілін дваццаць быў гатоў і выехаў у Лужкі на ворыва. Дарогаю ён ізноў углыбіўся ў думкі аб жыцьці, аб яго рознастайных патрэбах і вымаганьнях, аб настойным, упартым змаганьні з ім. Дзівіўся, якім раз-

воем здарэньняў патыхала ад яго, і адзначаў сам сабе паступовы пось-пех у сваім разуменьні ўсё большага ліку жыцьцёвых зьявішчаў. І тут-жа адчуваў, што чым глыбей адчыняюцца перад ім жыцьцёвыя тайны, тым веліч іх страшнейшая і ўражаньне ад іх—цяжэйшае. Ажно не хацелася ўглыбляцца ў яго нетры, а цягнула адвярнуцца на лёгкія зялёныя пэйзажы прыроды. Управа роўнаю сьцяною струніў хвойнік, калісь яднаўшыся з густым непраходным лесам Скадыбамі. За Скадыбамі пачынаўся Галаўскі лес, а гэты, у свой чарод, падыходзіў да суседніх лясоў. Гэткім чынам на дзесяткі вёрст цягнулася шырокая паласа лясоў, якая абнімала вакола Сілцы, мэрам шаль чалавечую шыю. Сёмка ўваскрашаў перад сабою даўно забытыя моманты з часоў пастушыных, калі цэлымі днямі прыходзілася яму блудзіць са стадам па гушчэрных нетрах ельніку, залазіць у балотныя багны, губіць гавяду і губіцца самому. Часта злучаўся з Рыгорам і, не паладзіўшы, разлучаўся: браў сваё стада і гнаў у іншы бок.

Ад хвойніку і пастушых часоў Сёмкава думка пераносілася да недалёкай пары сёмага і восьмага-гадоў, калі яму, разам з Рыгорам, упяршыню, цёмнай перадвялікоднай ноччу, даводзілася раскідаць па дарогах проклямацыі. Вось па гэтай самай сьценцы, што зараз едзе, накладалі яны дзесяткі лістовак і кніжачак, якія заклікалі да нізрынуцьця самадзяржаўя, да адабраньня ад паноў зямлі, да заваёў установчага збору.

А пад‘ехаўшы да крыжавой дарогі—Сёмка нанава пераносіўся ў ранейшыя, юнацкія гады, калі верыў, што на скрыжаваньні дарог водзіцца нячыстая сіла і што вечар палохае людзей. Колькі раз ён напалохаўся тут! Помніцца яму—адзін раз нешта гналася за ім да самага мястэчка. Уцякаў, а калі прыгледзеўся, бегла Гладышова авечка...

А вось і грэбля! Тая самая, што летась бачыла дзікі вобраз зьдзекаў над ім паліцэйскага стражніка. Толькі падсохла зямля, як сагнал поўмястэчка на папраўку грэблі. Дзяўчаты, хлопцы, старыя, моладзь,—прыняліся за работу, а стражнікі ўсё падганяюць. Сёмку не сьцярпелася і ён агрызнуўся. А стржнік, нічога ня кажучы,—раз, два, тры разы нагайкаю. Ён паспрабаваў бараніцца, але куды там! Стражнік яшчэ больш раззлаваў і даў, не шкадуючы.

Па целе Сёмкі прашоў сударажны ўздрыг, а ўнутры закіпела злосьць.

Ён перакінуў пагляд на захад, у бок панскага двара. Вузкая градка маладога бярэзьніку абмяжоўвала панскую зямлю ад зямлі вяскоўцаў. Зусім нядаўна на тым месцы, дзе раскіданы хаты сялян, стаялі вялікія лясы, куды часта зганялі сільчан на аблаву на ваўкоў. Адну гэткую аблаву Сёмка добра запомніў. Пашоў, адбіўся ад мяшчан, заблудзіў у лесе і да цёмнага швэндраўся па глыбокім сьнягу, пакуль вышаў на дарогу. Папакалаціўся нямала! Цяпер тых лясоў ні сьледу...Бярэзьнік вырас на вачох. О, гэты бярэзьнік! Як люб ён Сёмку! У ім, гуляючы з

Волькаю, Сёмка пачуў першыя позывы любасьці да яе. То была пара, калі маладыя бярозкі брынялі салодкім сокам. У шэрых мяккіх купінах тырчэлі блакітныя вочкі пралесак. Рухавы заяц прабягаў некалькі раз перад імі, адварочваючыся. То ён, то Волька ламалі пруткія ралкі голых бярозак і глядзелі, як з іх сачыўся сок, як хацелася яго піць! Цяпер зялёныя лісьці шатуюць маладыя галовы стройных дзярэўцаў. Пераліваецца залаты пыл сонца і п'еццa белымі камялькамі. Дзе яна, Волька, цяпер? Арэ, сее, ці мо' ў бярэзьніку?

— Но-о! малы, малы!

Пагнаў каня—бо нельга-ж так захапліваццa ў той час, калі мусіш ехаць на працу, на капаніну ў зямлі! Але вочаў не закрыць—ня спыніць пагляду: так і цягне яго то сюды, то туды, з месца на месца. Пранёсься заходам ды поўначчу і рвеццa на поўдзень-усход. Там сьцелюцца між хвойніку паплавы сенакосу, упіраючыся ў маленькія засьценкі і хутаркі. Зялёнае возера, сярод якога шэрыя выспачкі-будынкі. Куды можна заплысьці па яго хвалях? Да ўсходу, адкуль устае сонца?..

Сёмка пад'ехаў да месца, дзе трэба было зварачваць у бок, на папярочную сьценку. Конь ужо ведаў гэта і сам павярнуў направа. Сёмку пакарцела праверыць, ці ўсё ў парадку на возе, ці не забыўся чаго-колечы. Пaглядзеў і супакоіўся—было ўсё пад рукамі: прытуплены, зрэзаны плуг, аброчная торба з кормам каню, прыпон і жукетка. Тады ён зьлез з возу падвязаў лейцы за біла і пашоў сьледам. Ішоў і аглядаў папарныя галы. Сонца шмат зьнізілася, але яшчэ грэла добра. Пахла сухою зямлёю і гавяжым гноем. Па сьвежай ральлі скакалі кучамі вераб'і; бегалі жаваранкі і тупалі вароны. Птаства да таго было сьмелым, што й не ўважала ні стуку калёс, ні фырканьня каня, ні посьвісту Сёмкавай пугі. То сям, то там, на шэрым гале бачыліся аратыя, якія прыдавалі свае монотонныя зыкі да рэзвага сьпеву жаўранкаў. Дзьмуў лёгкі ветрык, ласкаючы твар і зганяючы сьпякоту.

Праз некалькі хвілін Сёмка спыніўся каля свае палоскі,—вузенькай, заросшай пырнікам і дробным дзятлікам. Праворна і ўвіхна распрог каня, залажыў яго зараз-жа ў плуг, паправіў на возе торбу і жукетку і пагнаў. Лямеш глыбока нырнуў у прасохшую зямлю, выварачваючы яе на бок рассыпчатымі камякамі. Роўная ўстужка разоры ціха разьвіналася сьледам за Сёмкам, нідзе не адыходзячы ад мяжы наболей, чымся ставала ўлегчыся вывернутай плугам зямлі. Сёмка на вока адмяраў першыя гоны, якія хапалі ад сьценкі да невялікага ўзгорку з тоўстым каменем пасярод палоскі.

III

Упусьціўшы плуг у зямлю а гадзіне чацьвертай, Сёмка ня выняў яго на працягу цэлых пяці гадзін. Гоны за гонамі, ён узараў без адпачынку, засаб, трое ганоў, пакінуўшы недаворанымі толькі адны. Араў наўзьдзіў ахвотна, з некім асабістым захапленьнем, з заядласьцю ўпар-

тага, неўгамоннага крата. Дзе дзеліся тыя ўтома, млявасьць і санлівасьць, якія апаноўвалі яго ў доме і спраходзілі на ворыва. Аднекуль надыходзіла ахвота, стараннасьць, нават карцела скончыць і чацьвертыя гоны, але, разьлічыўшы, што можа захапіць змрок, Сёмка рашыў аставіць на другі раз. Ды нельга-ж так мучыць каня, трэба адпачыць жывёле. Сёмка даў каню пасьля ворыва захвачаны з дому авёс, і, пакуль конь падпасваўся, Сёмка прылёг каля возу. Астыўшае паветра дыхнула вячэрнім заспакаеньнем: адзін за другім сьціхлі жаўранкі, сталі разьяжджацца аратыя. Пералётам да балот далі аб сабе знаць кані. Сёмка нічога не прапускаў, каб не ўсачыць, але, сьцешыўшыся, усё-ж ня мог змагацца з надыходзячай санлівасьцю. Пазіраў к небу, у яго глыбіню, і міжвольна плюшчыў вочы, мэрам-бы нябесная сінь давіла на векі, аглядаўся на пачырванеўшае сонца, што села на лясныя верхавіны, і ня мог каліва часу пабыць з адплюшчанымі вочмі. Пасьля апусьціў голаў на скрыжаваныя рукі і паціху пачаў засыпаць. Заснуў-бы, мо' і надоўга, але раптоўны зык пастушай трубы далятцеў з-пад бярэзьніку, абудзіў яго. Сёмка хутка падняў голаў і паглядзеў на каня: той стаяў на адным месцы, трымаючы на шыі пустую аброчку-торбу.

— Чакаеш ехаць!—выказаў Сёмка, падняўся й запрог каня:—пакуль заеду, якраз зьмеркне,—і крануў. Паганяць шкадаваў, а пусьціў паволі: і так утаміўся конь. Сам прысеў на возе, бокам да коня, спусьціўшы ногі між калёс і бяздумна змоўк. Моўчкі даехаў да шляху—ня помніў і ня прыкмеціў-бы, нават, што выехаў са сьценкі, каб пры павароце не пачуў воклічу:

— У яму ўедзеш! Правей трымай!

Сёмка падняў голаў і абярнуўся ў бок воклічу. На грудку пры дарозе, аблёгшы на вялікі поўны мех травы, сядзела Зося.

— Адкуль ты вынікла, як русалка? Ці не ў канаве спала?—пажартаваў Сёмка.

— Гэта твой сон?

Зося паднялася.

— Ты думаеш, што я спаў?

— І думаць ня трэба, калі бачыла; конь, ліха ведае, куды зашоў за канаву.

— Ці ліха? Няўжо такі я драмаў?

— Сумняваешся?

— Яно то й ня дзіва—вабраў за гэту пару ня мала... Ну, ну, ідзі, садзіся да па дарозе пагутарым.

Зося спрытным замахам рук ускінула на плечы мяшок з травою, ажно схавалася пад ім, і паднясла на воз. Сёмка памог зьняць і ўлажыць.

— Садзіся на траву,—запрапанаваў і пагнаў каня.

Яна ўскочыла і села тварам да Сёмкі.

—Чаму-ж ты так позна варочаешся?—запытаў Сёмка, паглядзеўшы на Зосю.

— А чаму ты так позна з ворыва?

— Я?!

— Так, ты...

— Бачыш, цэлая гісторыя са мною.

— Цікава!

Зося настаражылася.

У баку Жмыгінскага лесу пачуўся нястройны гук некалькіх пастушых труб; яго папоўніў плач жалейкі і трывожныя крыкі пастухоў. Да гэтых гукаў дадалі свой рознастайны рык каровы. Абое, Сёмка з Зосяю, забыўшы аб гутарцы, адвярнуліся к лесу. З яго гушчэчы, пацямнеўшай ад змроку, як з агромністае закуранай дымам і сажаю лёхі, роўным шэрагам, строем, як птушкі на адлёце ў вырай, зашнуравала рознакалёрная. рознарослая гавяда. Матаючы галавамі і пачаргова рыкаючы, яна выводзіла сабою жывую нітку, якая пацеркамі раскідалася па зялёным чале выгану. Мэрам-бы хтосьці раскідаў яе, як фокусьнік стужкі, каб паказаць асаблівую стройнасьць жывёльнага параду. Ужо пярэднія хаваліся ў платох гародаў, заходзілі за грудок і зьнікалі, а з лесу ўсё яшчэ не пакідалі паказваццa новыя й новыя. Хутка над іх шэрагам завіўся космамі белы лунь, выпушчаны пасекаю ды бярэзьнікам, і вакольны вобраз прыняў яшчэ больш дзіўны выгляд, дапамінаючы ўрачыстае вандраваньне казачных пілігрымаў з кадзільніцамі ў руках. Забелены дол служыў ім абрусамі, а вячэрнія птушкі—вястунамі аб дасягненьні блізкай мэты.

— Паглядзі адно, як цікава расьцягнуўся цуг кароў? Вось колькі гавяды ў Сілцох!

Сёмка працягнуў пугаўё.

— А гэта-ж ня ўсё: гэта з лясное пашы толькі.

— Вось і згадзіся пастароньні, што Сілцы бедныя.

— А сапраўды яно й так: каб гэта зусім бедных—дык наўрад ці нойдзеш.

— Што ты, Зося!—пераняў Сёмка,—плявузгаеш ліха ведама што. Як-бы нічога ня ведае... Колькі ёсьць гэткіх, што малака ў вочы ня бачаць; я не кажу таго, што ў большасьці каровы—фундамант усяго: здохні карова і няма чаго есьці і прападае гаспадарства. Гэткіх сотню можна налічыць... А Рыгорава маці?..

То прышлося зусім нядумана: Сёмка зусім забыў, што з гэтым мем цесна зьвязаны Зосіны перажываньні.

Зося змаўчала; каб Сёмка паглядзеў на яе—то зразу падмеціў-бы, што дапамінаньне аб Рыгоравай мацеры адбілася смуткам на Зосіным твары. Унутры-ж нельга бачыць—а там у Зосі так і захадзіла хадуном, так і разьлілося нешта цяжкім атрутным жарам. Яна папpавілася сядзеньнем, каб хоць крыху астудзіць раптоўнасьць у перамене настрою і

думак... Стэпа—што, то, бач, Рыгор! Зранку кратаў ён Зосіных думак пачуцьця, а з паўдня да самага вечару і зараз вось, едучы й гутарачы з Сёмкам, яна выпадкова адцягнулася ад яго сваімі думкамі. І так было добра, неяк лёгка і спакойна, нядбайна неяк. Ня прыходзіла на памяць, што Сёмка ўчора адвозіў Рыгора, што сёньня вярнуўся, што, адвозячы, пэўна, многа аба ўсім гутарыў з ім і... кратаў яе, Зосі. А гэта—на табе— нечакана!

— Што-ж ты маўчыш?—паглядзеў ёй у вочы Сёмка. А Зося ўжо цалком была захоплена нахлынуўшымі на яе ўспамінамі аб нядаўніх днёх, аб гульні з Рыгорам, аб выніках каханьня і аб яго скутках. Жывасілам цягнула глядзець на дарогу ў бок Лужкоў, высочваць тую сьценку, дзе яны разьвіталіся. Выпукла, як яблык, паўстаў перад яе вачыма вобраз Рыгора ў хвілі разьвітаньня: вось ён стаіць, спагадліва прынагнуўшы галаў і ўстраміўшы ў яе твар пытальны пагляд. А ў вачох, празрыстых і глыбокіх, буйныя кроплі сьлёз спачуваньня і абадком гэтак аколілі яны бялкі. Стаіць, а далей схінаецца да пацалунку: пару рук, важкіх, здаровых, выгінаецца ў дугу, адна настрэч другой, і зьмяёю агібаюць яе стан. Хвіліна, міг—і цёплыя губы кладуцца мяккім, сочным абрыкосам на яе прагныя вусны.

Зося парухала губамі, прыкусіла іх, мэрам-бы хочучы праверыць, ці не пакінуў на іх Рыгор чаго-кольвечы. Тут-жа захацелася ёй таксама, хоць-бы ў сотай долі адчуць тое самапачуцьцё, той настрой, тыя перажываньні-заміраньні, якія прамігнулі пры пацалунку тым... што-б яна дала за гэта! Настойна выплывала з далёкіх глухіх куткоў яе нутра гаручая крыўда—Зося ня ведала, на каго гэту крыўду кіраваць, чаму тады ў хвойніку ўсё так ціха, пуста абышлося? „То Рыгор вінават“, мігнула думка, як іскра з крэсіва, але Зося не пагналася за ёю, а барджэй дастала апраўданьні Рыгору: „А чаму-ж Рыгор ажно на Лужкі прышоў да мяне? А чаму яго вочы туманіліся сьлязьмі, калі ён глядзеў на мяне пры разьвітаньні? А чаму ён мяне прытрымоўваў за руку, калі я намервалася ехаць? А праз вошта ён так дрыжэў увесь і ў горнасьці вымаўляў словы? А чаму калі разышліся, дык пакуль можна было бачыць, раз-по-разу спыняўся на мяжы, напружваў узрок праз шэрасьць адвячорку і сачыў за мною? Напэўна, ён тады верыў моцна, што я ня згублена для яго, што мы не разлучаліся ў той момант. Напэўна!“ Ёй здэцца, што так, яна з кожным часам усё больш пераконваецца ў гэтым. А каб-жа хто падмацаваў гэтыя яе дагадкі! Го, як-бы была яна шчасьліва! На што-б яна тады рашылася! Якім-бы моцным штырхачом было-б гэта ёй адважыцца да рашучых, непаваротных крокаў. Акрыліла-б яе, паставіла-б на цьвёрды грунт. „Ці не адкрыўся толькі Рыгор Сёмку?“ падумала нерашуча Зося і няўпрыкмет паглядзела на яго, „Няўжо ён утоіць? Няўжо не прагаворыцца? Няўжо астанецца ўсё ў тайне?“

Зосі задрэнчыла вызваць Сёмку на гутарку. Як найхутчэй, каб пасьпець хоць што-кольвек пачуць, пакуль даедуць да мястэчка. Яна заварушылася на сядзеньні, некалькі раз глыбока ўздыхнула, павярцела галавою і стала перад пытаньнем—з чаго-ж пачаць? Ласьне раптам, столькі памаўчаўшы, ёмка зачапіць Рыгора? Што падумае Сёмка? Ці ня ўгледзіць яе слабасьць?

Зося занэрвавала яшчэ больш. Нямерна хацелася вызваць Сёмку на гутарку аб Рыгоры, а няёмкасьць не дазваляла пайсьці на гэта. Каб гэта сам Сёмка зачапіў гэта пытаньне! Яна прагна сачыла за ім, заглядала ўкрадкаю ў яго твар, чакала. Але ён маўчаў, мэрам назнарок чакаючы, што скажа яна.

Так праехалі з поўганоў.

Зося, нарэшце, не сьцярпела.

— Сёмка!—раптам акліннула яна:—хоць-бы ты расказаў...

І сумелася, не дасказаўшы.

— Аб чым?—запытаў Сёмка, дагадваючыся аб Зосіных думках.

— Ды аб тым, як вы ехалі з Рыгорам у Ліцк.

— А цябе гэта цікавіць?

— Пытаю—раскажы.

Сёмка ўсьміхнуўся.

— Ехалі добра... Была цёплая ноч... Гэткая панавала ноч, што хацелася пяяць да думаць... аб вас.

— Ты жартуеш, Сёмка!—не здаволілася Зося й працягла мятліцаю па яго твары.

— Я кажу праўду, я ня люблю жартаваць... Рыгор праз усю дарогу гаварыў аб табе...

— Не жартуй, Сёмка!—перабіла Зося, а ў самое так і зацюкала радасьцю сэрца. Нявыказнае ўміленьне разьлілося па ўсёй істоце і дзяўчыне стала добранька-добранька.

— Што ты ўшалопала?

— Я думаю, што калі ды ўспамінаў мяне Рыгор—то толькі ліхам.

— Каб мне такога ліха жадалі мае ворагі...

Гэты сказ паказаўся для Зосі сур'ёзным, і прыемнае пачуцьцё ўвераньней завалодала ёю. Яна пачула, што вось-вось заплача ад шчасьця. І яшчэ раз выспрабавала Сёмку:

— Ну ўсё-ж, вельмі крыўдаваў на мяне Рыгор?

— Чаго табе хочацца? Ну, крыўдаваў... крыўдаваў за тое, што ня мог папярашкодзіць бацькавай волі. Так крыўдаваў, але на сябе, на сваю нерашучасьць, на сваю трусьлівасьць і маладушнасьць. А на цябе—нізваньня. За вошта мог ён крыўдаваць на цябе, калі ён так цябе шануе, шануе...

Зося абярнулася ў адно прагнае чуцьцё. Міжвольна падбліжылася да Сёмкі, ажно кранула яго шчакі сваёю, ды лісьліва, завабна пагляда-

ла ў яго замрочаны твар. Толькі-б ён казаў праўду! Толькі-б не прыхарошваў ды не прыбаўляў! Толькі-б не суцяшаў! Ёй ня трэба абманчывых мар!

— Ну, што-ж ён хаця казаў? Што ён думае...

— Рыгор у многае верыць і на многае спадзяецца... Між іншым, ён прасіў мяне перадаць табе паклон.

— Ты ня хлусіш?

— Што ты, Зося, ушалопала сабе!

Сёмка нокнуў і абярнуўся да Зосі—пачуў цеплату яе цела. Тут-жа раптам прыпомніў Ганну. Вокзал у Ліцку, суматоха, бегатня, процьма людзей і між усімі—Ганна. Падобная на Зосю—як блізьнец.

Ён прыглядзеўся Зосі ў вочы і падумаў: „Якое ўражаньне яна зрабіла-б цяпер на Рыгора?“ Перад Сёмкам вырас радасны твар Рыгора, калі той углядзеў Ганну. „Пэўна, ён ужо зусім іначай думае аб Зосі“, і Сёмка пашкадаваў суседкі, як брат шкадуе сястры: „Зося ня ведае таго і ня трэба, каб ведала“.

— Ды што й за карысьць, што ён думаў пра мяне. Усё роўна ад гэтага мала карысьці,—уздыхнула Зося.

— Чаму?

— Ці-ж ты ня ведаеш? У мяне вызначаны шлях.

— Усё ў тваёй волі.

— Кінь, кінь, Сёмка. Мне тое самае казаў Рыгор. Я сама гэта ведаю, але я ня ў сілах што-колечы зрабіць. Мне трэба падмога—трэба, бо я... тану. На мяне напала моцная варожая сіла, якая або задушыць мяне, або прывядзе да роспачы, да няпрытомнасьці, і тады толькі...

У Зосіных словах зычэла праўда: яна выкладалася Зосяю ў абгаленым страшным выглядзе. Ці-ж сароміцца тварыша? Але ўсю цяжкую няпрыкрытасьць гэтае праўды Сёмка сам ведаў і адчуваў. Болей таго: калі ён дапускаў мажлівае захапленьне Рыгора Ганнаю, то глыбіня Зосінай трагэдыі на многа павялічвалася.

Сёмка бачыў гэта так яскрава, як свайго каня, што клыпаў упорадзе, як зорку, што міргала над маладым бярэзьнікам,—і шкадаваў Зосю. Шкадаваў уразіць яе самалюб‘е хоць адным намёкам на тое, што далейшыя іх адносіны з Рыгорам безнадзейны. Нават сам цярпеў ад таго павароту спраў, якіпхаў Зосю ў Берагаў абдым. Сёмку, як чалавеку шчыраму, верылася да апошняга часу, што тыя некалькі дзяўчат-мяшчанак, з якімі доўгі час яму з Рыгорам, з Янкам, з Пятрусём Зьмітравым даводзілася гуляць, а гуляючы ўплываць на іх сьвядомасьць, што гэтыя дзяўчаты выхаваюцца пад іх уплывам у іншыя, больш чыстыя ад наслояў мяшчанскае бросьні натуры, злучаць сябе з імі і пакажуць прыклад новае сям'і, новых абставін у сямейных адносінах. Раней малявалася гэта Сёмку ў ружовых хварбах і чакалася першай спробы ажыцьцявіць крылатыя пляны. Колькі было гутаркі сяброўскай на гэты тэмат! Якою ідыліяй патыхала!..

А тота-ж—вось як. Падыходзіць момант—і ўсё рушыцца... Сёмка бачыць гэта перад сабою, а пасобіць ня можа і толькі мае самаўцеху, што „цяжкія абставіны“, „якая, усё-ж, крыўда!“ І ў Сёмкі не паднімаўся язык на гутарку—хацелася маўчаць і ня раніць Зосінае душы рознымі абяцанкамі. „Пацешыў крыху і будзе з яе. Хай памарыць аб шчасьлівых хвілінах“. Ён здаволіўся, што Зося аддалася розным перадумам мінулага і маўчала. Вось-вось яны даедуць да мястэчка і зусім перарвуць гутарку,—бескарысную, бязгрунтоўную.

Ужо ім у вочы заблюскалі рэдкія агеньчыкі з вокан хат, ужо пачуўся клапатлівы скрып варот, пярэгукі па дварох, перадсонны рык гавяды. Ужо конь пачуў блізасьць адпачынку і зарагатаў прывітаньне мястэчку.

Моўчкі даехалі да платоў вулачкі, кудэю Сёмка накіраваў каня; мінулі першае гумно.

Зося агледзелася і прамовіла:

— Чаму ты сюдэю едзеш?

— Ды вось, хачу каня напаіць.

— Чакай, я зьлезу.

— Чаму?

Зося не сказала. Але Сёмка дагадаўся. што яна не хацела, каб Васіль Бераг, ці яго маці ўгледзелі, што яна з ім едзе.

„Чаму-ж бы мне не аб‘ехаць іх хаты“, папікнуў сябе Сёмка і спыніўся:

— А хай-бы даехала да студні.

— Усё роўна, дайду. Ты яшчэ будзеш каня паіць ды што, а я проста пайду...

Яна зьняла з возу мех, падкінула на плечы і, падзякаваўшы Сёмку, пасьпешна пашла ўперад. Сёмка прыпыніў на некалькі хвілін каня, а пасьля ціха рушыў сьледам за Зосяю. Ён бачыў, як яна, параўнаўшыся з Берагаваю хатаю, ускорыла хаду і за рэчкаю патанула ў цені. Даехаўшы да Берагоў, ён угледзеў вялікае сьвятло ў іх хаце і пачуў рэзвую дзелавую гамонку. Стала ясна—чаму Зося ня ехала з ім.

„Якая ўсё-ж асьцярожная“, праказаў Сёмка па яе адрасу і гавярнуў каня ў бок студні.

## IV

Прычынаю таго, што ў Берагавай хаце жукацела сьвятло ды шла гучная гутарка, была невялічкая, зусім выпадковая суседзкая бяседа. Яе выклікаў сваёю асобаю старшыня Андрэй, які наведаў Берагоў па справе куплі імі пляцу ў мешчаніна Шэі Краўца, на які пазарыўся сусед Шэі і завёў гутарку аб тым, каб памяшаць Берагом. Старшыня прышоў папярэдзіць Тадосю, а якраз у хаце іх папаўся і Апанас Хрыпак, сусед з Берагамі па полі. Гэта надаўміла Тадосю пачаставаць рэдкіх гасьцей. Ва-

сіль дастаў пляшку гарэлкі, зазваў яшчэ дзядзьку Хлёра і Дзям'яна Квіта і вышла бяседа.

Усадзіўшы гасьцей за стол, поўны ўсякае закускі, Васіль з мацераю, няўмеру раздобраныя, тупалі вакол стала і шчыра ўпрошвалі гасьцей выбачыць іх ашчаднасьці і закусіць.

— Чым хата багата!—пераказвала разьвяселеная Тадося.—Затое, даражэнькія, калі прыжджом Васілёвага вясельля, дык ня гэтак загуляем!.. Закусвайце—вы-ж у нас рэдкія госьці. Як бачыце—сёе-тое прыдбана: бог пасылае. Сяк-так пераҗылі цяжкую пару, калі мне аднэй даводзілася на ўсе бакі кідацца... Ведаеце, мае даражэнькія, як пакінуў мяне гаспадар, дык так прыпякло, так прыпякло, што я думала не акрыяю ніколі—вядома, адна. Васіль яшчэ малы, а гаспадарства, дзякуй богу, нялапое—і што-ж ты аднэй бабе зробіш. Дзякаваць, Хлёр пасобіў, а то-б... ну, а цяпер—цяпер усё іначай. Цяпер я пані. Мой Васіль усё мае...

— Няма чаго казаць,—патураў Тадосі старшыня:—ты маладзец, кабета; я ўжо сяджу і думаю сабе: добра выкруцілася Тадося; пахавала гаспадара, нацярпелася, а ўсё-ж і з гаспадарствам справілася і сына выхавала, як лялльку, ды жаніць прычакала. Відаць, што ты цяпер непакрыўджана ў жыцьці...

— Так, майго Васілька, каб не ўрачы, усе любяць за яго людзкасьць і самавітасьць. Бацюшка-ж дык не нацешыцца, бо, прызнацца, апроч усяго, ён у мяне і набожны. Жывом—а ніколі ня сварымся, як-то бывае ў іншых. Трэба мне—я ўступаю, прыходзіцца яму—ён падаецца; ніякіх супярэчак у хаце. Вось і цяпер, парадзіліся з Хлёрам, каб жаніць, сказалі яму, і хоць-бы слова—добра. Намякнулі на Прыдатчанку—добра.

Васіль маўкліва слухаў мацерыну атэстацыю і нібы-та той падліваў дзядзькам гарэлку ды падсоўваў закуску. Чуючы іншыя лісьлівыя словы ад мацеры ён адварочваўся ў акно і паглядаў у цемру надворку. І толькі тады, калі Тадося перашла да вясельля, Васіль пачуў некаторую каразьлівасьць гутаркі і перасьцярог мацеру:

— Ды будзе ўжо вам так расхвальваць мяне...

— Чаму? Ласьне я ганьбую цябе? Можна ўсім ведаць аб тваіх дадатных бакох, не пашкодзіць гэта...—не здаволілася Тадося.

— Так, так, так,—уставіў старшыня.—Каб я меў гэткага сына, як ты, нічога не хацеў-бы. Сваё званьне з прыдачаю аддаў-бы... нават...

Ён павесялеў і прыняў іншую, зухвальскую міну.

— Каб ды ведаў, што будзе такі сын, прылажыў-бы ўсе стараньні мець яго...

Гэтыя словы расьсьмяшылі ўсіх; засьмяяўся й старшыня.

— Ну, вядома,—дадаў ён:—абыякіх то й радзіць ня варта; я такога правіла трымаюся. А харошага сына мець—трэба быць шчасьлівым.

— Жартаўнік наш старшыня!—выказаўся Апанас і пастукаў Андрэя па плячы.

Гэта фамільярнасьць казала за сьмеласьць, якую прыдала Апанасу гарэлка. Увашлі ў вясёлы настрой Дзям'ян і Хлёр. Апошні шчыра паціснуў руку старшыні за яго словы, а Дзям'ян нават памкнуўся падняцца, каб пацалаваць Андрэя, але раптам перадумаў і толькі няпрыметна для другіх пашавяліў губамі. Старшыні-ж імпонавала агульная ўвага прысутных і ён не сароміўся прыняць адпаведныя свайму чыну тон, позу і настрой.

— А думаеце, мужчыны, не вялікая заслуга ў выхаваньні Васіля за Хлёрам? Памойму, каб ня Хлёр, то Тадосі-б вельмі цяжка было справіцца з гэтым. Яна праўду кажа, адзначаючы гэта. Ужо адно тое колькі варта, што Хлёр сумеў пераняць Васіля ад розных непахвальных кампаньняў. Тут патрэбна цьвёрдая мужчынская рука, хітры падыход. каб правясьці між ямак і калдабоін. Маці! Мала што маці! Кабета, пры гэтым занятая кабета,—ці-ж бы яна дагледзела за ім? І будзьце пэўны, Васіль даўно круціўся-б з гэтымі басякамі-дэмакратамі; а можа-б к гэтаму часу і сядзеў-бы дзе. Цяпер дужа неспакойны час, скрутны, так што вельмі цяжка абмінуць, каб не папасьці ў яго вадакрут. Вы паглядзеце!—старшыня ўвашоў у ваплёмб:—колькі вы налічыце ў Сілцох, ды, нават, ва ўсёй воласьці гэткіх людзей, як Васіль? Нават мужчыны—і тыя, на іх цурака, многа дзе забаламучаны дэмакрацтвам—не кажу ўжо аб моладзі... Вось чаму Тадося павінна дзякаваць свайму швагру.

Словы старшыні пападалі ў цэль: Хлёр няскрытна лісьціўся імі і, пакуль Андрэй казаў, умільна пазіраў то на старшыню, то на Васіля, то на Тадосю. І думаў пра сябе: „А разумны, аднак, чалавек Андрэй. Не здарма каторы раз яго воласьць абірае за старшыню. Удаецца ў кожнага жыцьцё і ведае яго, як сваё“.

— Я—дзядзька Васілёў,—зьмяніў старшыню Хлёр:—і мусіў ахоўваць свайго нябога. Бо праўду кажа наш паважаны старшыня, каб не глядзелі за ім—магло-б многае што стацца. Цяпер, калі я гляджу на Васіля, устае гонар ва мне—то-ж мой выхаванец! Я не хвалюся, а дзяцей гадаваць умею добра. Вось у мяне двое малых, а загадзе магу сказаць, што выведу іх у парадачныя людзі.

Хлёр адкінуўся на сьцену і выцер рукавом губы.

— Вядома, вядома, вядома...—не астаўся ў даўгу Апанас Хрыпач.—З дзяцьмі цяпер, як са шклечкам, трэба акуратна абыходзіцца: так і сачы за імі, каб ня выпусьціць з рук. У мяне, праўда, іх няма, але ўжо лепш ня мець, як мець распусных ды зьвіхнутых з пуціны. Ці-ж добра бацьку, калі яго дзіця ўлада арыштоўвае ды саджае ў астрог або ссылае? А гэткіх цяпер процьма: па ўсім краі, па ўсім сьвеце. Пішуць-жа газэты аб гэтым. Ды навошта далёка шукаць, калі вось, пад бокам колькі хоць такіх. Сёмка Хвёдараў, Янка Прахораў, Пятрусь Зьмітраў, процьма жыдкоў... як па-

ветра якое—гэта дэмократва: па ўсіх куткох і шчылінках разыходзіцца. Вунь і ўчора, расказвалі, дык чалавек пяць стражнікі прывялі з вёскі Тынак. І, думаеце, што яны чаўплі? Сабралі нядзеляю сход мужыкоў і давай пад'южываць: „Глядзеце, зямлі ў вас—курыцы ступіць, а пад бокам тысячы дзесяцін у паноў Высоцкіх. Адкуль яны набралі, як не паадбіралі ад вашых дзядоў, ад працоўнага народу. А яны забралі—дык і ў іх трэба забраць... Таксама і з лесам: у вас хаты рушацца—а ў паноў Высоцкіх сотні дзесяцін будаўлянага лесу. Яны сякуць яго, прадаюць і складаюць грошы ў банку, а на вас гэда цячэ. Ці-ж так справядліва? Ці-ж мы павінны моўчкі глядзець на гэта?“ І іншага ўсяго набаялі мужыком, а тыя вазьмі й паслухай. Наз.ўтрае ранюсенька сабраліся грамадою—і гайда ў панскі лес. Пашла павальная рубка. Іх прасіць, перасьцерагаць—дзе там! Пакуль ня вытрабавалі стражнікаў... Вось як, ці праўда, ці не? Андрэй ведае...

— Вядома, ня хлусьба,—падмацаваў старшыня.

— А-яй-яй! Як распусьціліся людзі!—падзівіўся Дзям'ян.

Пахаяў бунтаўшчыкоў і Хлёр.

— Вось і бачыце!—заматала галавою Тадося.—І то, бадай, работа сілцоўскіх соцыялістых? Пэўна так! З чаго-ж яны жывуць? Хоць-бы гэты Стэпіньчык—езьдзіць па сьвеце, як валацуга; мала чаго ён навучыцца. А прыедзе сюды—і давай пераймаць другіх.

Некалькі хвілін намаўчала, мэрам дапамінаючы аб нечым.

— А Сахрона Быка, думаеце, хто спаліў, як ня Стэпіньчык?—дадала яна.

— Можа стацца, вельмі проста!—падмацавалі ў адно слова Хлёр з Апанасам.

— Тут, на добры лад, мусіць Андрэй сказаць сваё важнае слова!—вывеў Дзям'ян.

— У чым?—не зразумеў Хлёр.

— А ў тым, каб троха павылавіць гэтае рыбкі з сілцоўскага возера.

Старшыня задаволена ўхмыльнуўся. Пасьля пагладзіў разьвесістую бараду і патрос паважна галавою.

— Вылавім! А вы думаеце—мы дрэмем? Я ручаю сваёю галавою, што вылавім...

— Закусвайце, дзядзькі,—перабіваў Васіль, захопліваючыся гутаркаю мужчын.

А старшыня завяраў, рухаючы тулавам, рукамі й нагамі, мэрам-бы дзеля таго, каб прыдаць сваім словам непарушную аўторытэтнасьць:

— Як венікам, вымецем усю гэту нечысьць. Ведаеце, усё неяк ня хочацца займацца; думаеш, а будуць крыўдаваць, а пачнуць наракаць... А зараз я бачу, што ўсе на маім баку. Грамада са мною. Чаго-ж больш трэба! Вось я й прылажу пячатку.

Старшыня стукнуў кулаком па стале, ажно пасуда забранчала.

Васіль зарагатаў ва ўсё горла і адышоў ад стала. Але тут-жа скочыў на ранейшае месца і, скардзячыся, загаварыў:

— Дык ведаеце, дзядзечкі, на мяне і на Бокавага Пятруся ўвесь час грозяцца. Нават па вуліцы прайсьці боязна. Прыехаў, згуртаваў хэўру і пад'южвае...

Ад надышоўшай злосьці Васіль ня мог усяго выказаць і, замест слоў, некалькі хвілін адчаянна памахаў рукою.

— Думаеш, ніхто ня ведае?—уставіла Тадося.—А з Прыдатчанкаю праз каго ўсё вышла? Праз гэтага самага абармота. Падгаварыў-падгаварыў дзяўчыну, наплёў усяго на нашу сям'ю і зьбіў з панталыку... То была добраю, рахманаю дзяўчынаю, а гэта гаварыцца не дае аб Васілі.

Тадося паглядзела на сына.

— Праўда?

Васіль кіўнуў галавою.

— Вось бачыце...—Ну, яшчэ закусеце... Каб не бацькі—зусім зьвіхталася-б дзяўчына. Але добра, што Мікола ды Марта—моцныя людзі: узялі дачку ў рукі... Ого, што й казаць! Гэта згубцы нейкія... Тут толькі ад Андрэя залежыць...

Старшыня-ж з усіх гэтых гутарак выводзіў адно: на яго сілу і начальнічую моц пакладаюць надзею многія „паважаныя“ сілкаўцы. Значыць, яму суджана зрабіць вялікую справу „ўміратварэньня“ воласьці. Няхай ён падчыняецца земскаму ці прыставу, а без яго нельга падысьці ўмела і дасьціпна да вясковых умоў. Гэта заданьні старшыні. Часамі гэтага не ўважаюць па начальству, а сапраўды яно нясуменна.

— Будзь спакоен, Васіль!—пацешыў старшыня:—усё зробіцца. Твайго кшталту людзям будзе заўсёды лепш жыць. Вер! Усе гэтыя дэмократы і соцыялістыя нойдуць сабе належны прытулак... Начальства ня сьпіць,—Андрэй паківаў пальцам:—яно ведае, дзе ракі зімуюць...

У гэтым кірунку гутаркі працягнуліся яшчэ з поўгадзіны: госьці не шкадавалі ні слоў, ні праклёнаў, накіроўваючы іх на бунтаўшчыкоў-дэмократаў; вынаходзілі розныя абвінавачваньні іх, прыпісвалі ім віну ў сухавеях, у градабіцьці, у няўродах і інш. А калі выказаліся ўволю, расходаваўшы цікавасьць і запас слоў, перашлі да песень. З добрага пачатку старшыні прапялі некалькі трапароў, „Коль славен“ і перашлі да сьвецкіх. У пяяньні прынялі чынны ўдзел Васіль і Тадося. Да гэтага ўвіхаўшыся каля гасьцей, цяпер яны прыселі да стала і шчыра, да адказу адчынілі вусны.

Пяяньне забрала цэлых дзьве гадзіны. Ажно зьдзівіліся ўсе, калі Хлёр выпадкова паглядзеў на гадзіньнік і праказаў:

— Ого, а ўжо першая гадзіна па поўначы!

Тады ѐарухалі на месцах і тут-жа пачалі вылазіць з-застольля. Першым вылез на хату старшыня. Каб паказаць сваю далікатнасьць, ён падышоў да Тадосі, працягнуў ёй руку і падзякаваў; тое самае зрабіў і з Васілём. Апанас і Дзям'ян абмежаваліся славеснай аддзякай.

Тадося з прыемнасьцю прыняла далікатнае абхаджэньне з сабою Андрэя і для выгляду запрасіла мужчын яшчэ крыху пасядзець.

— Чаго вам дрэнчыць? А калі дзень спачынеце? Расклапаціліся ўжо вельмі! Астанецца на ваш век працы! Частуйцеся!

У яе голасе і ў рухах адзначаўся павышаны настрой і рэдкая для яе раздобранасьць. Падыходзіла то да аднаго, то да другога і таўхала іх у плечы, цягнула за рукі, намервалася цалавацца. А калі ўсё-ж гэта не пасобіла і госьці намерыліся ісьці, Тадося зрабіла нездавольную міну і чэрства прамовіла да ўсіх:

— Ну, калі ўжо згаварыліся не паслухаць—нічога не парадзіш. Сілаю-ж мы вас ня ўтрымаем...

Крыху памаўчала і іншым тонам дабавіла:

— То ўжо выбачайце хаця: чым хата багата. Бог дасьць прыжджом Васілёвага вясельля—іначай загуляем...

І, правёўшы гасьцей з двара, на разьвітаньні дапомніла ім:

— Вы-ж помніце тое, што я мушу вас бачыць на Васілёвым вясельлі. Вы для мяне—найлепшыя сваякі... Андрэй, ці чуеш? Прыяцель ты наш харошы—не адлучайся нікуды!

— Не, не! Дзякую, Тадоська, дзякую.

— Тут не ў падзяцы рэч...

Іх гутарка, рэзкая і гульлівая, сярод ціхай ночы, зычным водгукам разносілася ва ўсе бакі.

Адказам на яе з Сівулінскай вуліцы данёсься трывожны стук бражджоткі. Гэта паслужыла перасьцярогаю і госьці змоўклі ды паціху разышліся.

Тадося з Васілём вярнуліся ў хату і пагасілі агонь.

## V

Вярнуўшыся з ворыва, Сёмка пры ўезьдзе ў двор прыкмеціў, што ў хаце нехта чужы: запаленая з гэтае прычыны лямпа сьведчыла, што да іх зашоў рэдкі госьць—пры сваіх паліцца газьнічка. „Хто-б то быў і з якое прычыны, цікава?“ падумаў Сёмка і толькі параўняўся з дваровым акном, як насустрэч яму данёсься зычны голас:

— Дзе ты блытаўся гэтак доўга? Ты, брат, мы бачым, буржуем хочаш стаць. Жарты, да поўначы сядзець на полі!

Сёмка пазнаў па голасе Сроля Рэзьніка, наезнага ў Сілцы гарбара, сябра Сілцаўскай арганізацыі. Прыцішыўшы каня, адказаў:

— А як-жа, мушу гаспадарства даглядаць. Гэткія ўмовы нашы.

Зьлезшы з драбін і паглядзеўшы ў акно, угледзеў у хаце і Віктара Стаўбуна, які аб чымсьці вёў гутарку з Сёмкавым бацькам.

— Наша справа—ня вашай: у нас няма абмяжованага рабочага дня: узышло сонца—выяжджай, зашло—канчай. А ў вас перабыў свае дзесяць гадзін—і бывай здароў.

Зачым прышлі таварышы—Сёмку ня цікавіла.

Наадварот, загаварыўшыся, ён паціху пачаў распрагаць каня і ўладавацца з ім.

— Ды кінь ужо, я сам распрагу,—вышаўшы ў двор, пераняў бацька:—хлопцы, вунь, чакаюць гадзін тры. Ідзі да іх у хату... Пэўна. настаў, каб заарадь усю паласу—так бавіцца...

— А такі чуць-чуць і не ўхадзіў ад сьценкі да граніцы!—пахваліўся Сёмка.

— Я так і ведаў... Чуеш, маці?—крыкнуў Хведар праз акно:— Сёмка ўхадзіў каля чацьвярых ганоў! Ха-ха-ха! Вось маладзец!

— Ды навошта табе было гэта?!—выказалася маці.

Сёмка пакінуў бацьку пры кані, а сам увашоў у хату і павітаўся з таварышамі.

— Бачыце, як страшыдла якое!—паказаў ён на сваё адзеньне.— Калі тое будзе, што магчыму я з поля прыехаць падобным на чалавека?

— Можа і будзе, — выказаў Сроль: — тады, як і мы ляпей выглядацьмем.

— Ды не, дзеткі, вам гэтага ўжо не прычакаць,—разуверыла яго Сёмкава маці.—Хаця-б так, як ёсьць, было заўсёды...

Сёмка прысеў на ўслоне, скінуў шапку і паведаміў таварышоў:

— Думаеце, чаму я так запазьніўся? Ехаў да гасподы і напаткаў Мікалаішку Зосю; узяў падвезьці, і як разгутарыліся, дык і заняўважылі, ці йдзе конь, ці стаіць. Так шагам і краталі болей гадзіны.

— Мы так і ведалі, што тут не бяз прычыны,—пакпіў Сроль.

— Тота-ж: дзяўчына тым болей.

— Да ты за дзяўчатамі, бадай, шчырэй гонішся, як за зямлёю,— дадаў Віктар.

Маці за нечым вышла ў сенцы.

— Ды тут, ведаеце, надзвычайны выпадак: трэба было з Зосяю перагаварыць сёе-тое. Рыгор перадаў паклон, а разам хацелася вызнаць яе настрой у зьвязку з сватамі; усё разам мела пэўную цікавасьць...

— Дык Рыгор, знача, ужо кінуў нас,—з несхаванаю спагадаю вымавіў Віктар.—Так, а шкада, ведаеце, яго. З ім—іначай чулася. Слаўны, разумны чалавек! Каб жыў тут—можна было-б шырока працу разьвярнуць—яго і вопыт багаты, і здольнасьці немалыя... Бяда наша ў тым, што нічога добрага не застаецца ў нас; вынікне, пакажацца таленавіты хлопец—і зараз-жа едзе ў горад. А тут—як была пустэча, так і астаецца... Вось і паварушы людзей...

— Няма з намі, то ў горадзе сваё нагоніць,—суцешыў Сроль.

— У горадзе!—не згадзіўся Віктар.—Горад больш нашага мае... ды гораду ня столькі людзей і трэба... Самы грунт у нас ды вось у гэтых вёсках. А Рыгор якраз і падходзіць да мясцовых умоў: і норавам, і душою адпавядае нашаму краю. Вядома—селянін, і гэткі верны ідэалам соцыялізму... Не здарма-ж яго так ненавідзелі нашы багацеі. Чулі, чым пахла ад яго. Колькі стараньняў палажылі, каб збавіцца як...

— Праўда, праўда,—падмацаваў Сёмка:—каб Рыгор пабыў яшчэ колькі часу, дык не здабраваць-бы яму...

— Ну, з часам аддзякуем.

Сёмка засьмяяўся і пачасаў патыліцу.

— Братка, Сроль! Хто яго ведае, ці дачакаем мы таго часу... Бачыш, прыкмет пакуль жадных. Дзевяцьсот пяты год адышоў далёка, а новага нічога ня відаць. Тымчасам абцугі ўсё цясьней сьціскаюцца.

— Пэўна, яшчэ шмат трэба змагацца. Можа і не прычакаць нам; ну, а дзеля другіх ня трэба?..

Сроль змоўк і паглядзеў на дзьверы ў сенцы. Сёмкавы бацькі ўвіхаліся на дварэ, абгаварваючы хатнія пытаньні. Брат Сёмкі, Ігнатка, што дагэтуль пільна прыслухоўваўся да іх гутаркі, занябыўся і прыкархнуў.

— Слухай, Сёмка!—на вуха Сёмку ціха прамовіў Сроль.—Мы прынясьлі да цябе схаваць літаратуру; толькі што атрымалася з Вільні. Трэба будзе распаўсюдзіць на Пётру, а ў нас няма як пакінуць. Ты дзе-колечы ў гумно ці ў хлеў запхні і хай паляжыць.

Сёмка памаўчаў і прычыніў акно. Падумаў крыху і адказаў:

— Што-ж зрабіць: няма дзе ў вас—захаваю я. Ці-ж то пяршыня? Прыносьце.

Сроль засьмяяўся:

— Ужо прынесена—вось.

Ён паказаў на нялапы пак паперы.

— Тут пяць тысяч—хопіць па ўсіх дарогах. На Пётру ў абед трэба будзе рассыпаць.

Сёмка ўзяў пак і хутка аднёс яго ў падпечак.

— Заўтра перахаваю...

У гэты момант у хату вярнулася маці. Не падазраючы нічога, яна адвярнулася ў мыцельнік і пачала ўвіхацца з пасудаю. Неўзабаве ўвашоў і Хведар.

— Сёньня ўжо хай конь пастаіць у хляве,—прамовіў ён да Сёмкі і прыняўся за люльку: накалупаў з капшука тутуню, падышоў да ямкі і закурыў. Шчыра зацягнуўся некалькі раз засаб і пусьціў на хату густыя камякі дыму. Па хаце расплыўся цяжкі ўдушлівы пах атрутлівага самасею. Маці ня ўцерпела і вылаялася:

— Прыпаў ізноў, як муха да мёду. І ня скучыць, ліха яму! Адну за другою, адну за другою! Гэта-ж сталёвае сэрца трэба... Ды тое пера-пятрэе... Можа ўжо й так усё нутро прасмаліў. То-ж жартачкі, няма

ўнімку, няма сьціханку: смаліць ды смаліць... Вось-жа і Сёмка мужчына, а і не падумае...

— Годзе, годзе ўжо!—пераняў Хведар:—ты не перайначыш мяне... Ён сеў каля печы і прадаўжаў спакойна курыць.

— Цьфу!—сплюнула маці і перашла на ціхі голас.

Сёмка пераглянуўся з хлопцамі і ўсе цішком засьмяяліся.

Але, каб не прыдаваць увагі бацькаўскім супярэчкам, яны перашлі да новай гутаркі, якую ўзьняў Сёмка.

— А вы ведаеце што? Нашым хлопцам усім трэ' было-б у горадзе пабываць. Апроч карысьці—іншага нічога. А то мохам абрасьцеш у гэтым глухім кутку.

Віктар сышоў на хату.

— Ды прызнацца вам!—з настроем прамовіў ён:—а я такі і рашыўся пусьціцца за Рыгорам. Паеду, павандрую па сьвеце. Можа не загіну... Працы найду—абы здароўе было. Няпраўда?

— А што ты думаеш?—падтрымаў яго Сроль:—паедзеш і работы дастанеш і сьвету пабачыш, і назад вернешся. Ды калі які час прыдзецца бяз працы пабыць—выручаць хлопцы... Я таксама быў у гэткім становішчы, як у Сілцы дабіраўся з Веліжу: каля дзесяці местаў праехаў, пакуль натрапіў на работу; і хлапцы ўсюды выручалі—не галадаў. А з дому пусьціўся з адным рублём... А калі, часамі, і давядзецца крыху пацярпець—што-ж: на горы жыць вучацца.

— Да яно-ж так. Баішся воўка—у лес ня йдзі. Думаю восеньню проста на Слонім пусьціцца.

— Хіба й мяне бяры з сабою?—напоўжартоўна ўставіў Сёмка:—куды-ж мне аднаму ў Сілцох заставацца. Хай яна залядзеецца гэта зямля.

— А чаму-ж не?—ухапіўся Віктар:—сапраўды давай разам. Зьбяры з поля і паедзем.

Сёмкавы бацькі нашарохаліся: Рыгор быў яскравым прыкладам. Чаго добрага, возьме і Сёмка паедзе. Хведар заварушыўся на лаўцы і многазначна кашлянуў. Настаражылася ў мыцельніку маці; яна кінула важданіну з пасудаю і адвярнулася да хлопцаў, паглядзеўшы на іх сур'ёзным узрокам.

— Бацькі-ж мо' ня будуць пярэчыць,—дапэўніўся Віктар і пагледзеў на мацеру.

Тая зрабіла крок уперад і замахала падкасанаю рукою.

— Вось ты толькі не пад'юшвай Сёмкі!—з налётам злосьці у голасе праказала яна.

— Зьбіраешся ехаць—то едзь сабе здароў... Добра табе, калі яшчэ твае бацькі маладыя ды здаровыя... А Сёмка навошта нас пакіне? Жабраваць? Вунь глядзі, як Стэпе соладка бяз Рыгора... Едзем!..—Едзь...

— Чакай, чакай, Саламея,—перасьцярог жонку Хведар, падняўшыся з лаўкі і вышаўшы на хату:—ты ня крычы гэтак, можна й ціха пагаварыць...

Ён пагладзіў бараду і адкашляўся.

— Баба—пабабскаму... Давайце цішэй пагутарым... Вось хоць-бы ты, Віктар: кажаш—разам з Сёмкам ехаць у горад. Пачакай-жа, ну, а ты ведаеш, што гэта цягне за сабою? Пэўна й ня думаеш аб гэтым—сказаў і ўсё. Ты-ж—рамясьнік, а Сёмка?—хлебароб. Ты ў кожным месьце можаш дастаць работы—а Сёмка? За дворніка якога ці за вартаўніка йсьці? Чым ён выграе на гэтым? Абы ў горадзе быць... Браток, перад тым, як зрабіць, трэба перш добра падумаць ды рашчытаць, а што ў скутку атрымаецца?

Хведар падступіўся яшчэ бліжэй.

— Вось у нас маецца мізэрнае гаспадарства—ведаеш сам: крыху тае зямлі, пара кароў, сьвінча, каняка; мы паціху варушымся каля яго, уходжваемся і сяк-так назьбіраем на год хлеба; а то прызаробіш часамі—так і жывецца. Няважна, бедна, затое незалежна; ніхто цябе не зачэпе, ніхто на цябе ня крыкне: як і што захацеў—тое зрабіў. Ня так—сваё дзела, асабістае. А ў горадзе?—Папіхачом быць... Вось што важна браце.

— Тота-ж і ёсьць,—дадала маці.

— Ат, дзядзька, часамі й ня гэтак!—не згадзіўся Віктар.—Вы кажаце—ніхто вас не чапае? А праўды—кожны дробны начальнік мае ўласьць над вамі. Урадкік, старшыня, сотнік, каму няцяжка—кожны мае права парканудь вас. Гэта толькі лічыцца—вольны... А бывае ў горадзе так добра нападзеш на работу, што можна махнуць рукою на ўсё іншае. Едуць-жа бяз жаднага рамясла і жывуць... ды яшчэ як жывуць! Хоць-бы ўзяць Рыгора: які ён вельмі быў рамясьнік—а, бачце, так падвучыўся, што зараз лічыцца лепшым спэцыялістым.

— Або ты ведаеш?—перабіла Саламея.

— Ды не, братка, Сёмку няма чаго зарыцца на горад. Я-б і не перашкодзіў яму, нічога, але трэба праўду казаць...

Хведар матнуў рукою і вярнуўся на лаўку. Прынялася зноў за кінутую работу Саламея. Хлопцы пераглянуліся між сабою і некі час памаўчалі. Сроль паглядзеў у вакно і паказаў на нешта Віктару. Перашапнуліся.

Пасьля Сёмка знарушыў маўчанку.

— Ай, яно-та нам і ў горадзе кепска, ды і тут ня лепш. Каб ужо сапраўды тая гаспадарка, а то сорам сказаць. Часам падумаеш-падумаеш—і, здаецца, кінуў-бы яе ды зьбег-бы куды-небудзь. Сьлёзы—ня жыцьцё. Каб ня верыў у будучыну—ня варта й жыць было-б...

— Дый што ты, сынок, кажаш! Не грашы яшчэ богу за сваё жыцьцё. Вунь, як я жыў з мацераю, пакуль агараў гэту зямлю! Хлеба ў хаце ня было, абадранымі хадзілі. А прыходзілася маўчаць—каму-ж паскардзіцца?..

— Эх, дзядзька,—умяшаўся Сроль:—у тым уся бяда, што вы маўчалі. А мы ўжо ня думаем маўчаць. І каб павясьці іншае жыцьцё, дык езьдзім па гарадох, вучымся, як адвыкнуць ад маўчанкі.

Хведар падняў вочы і некалькі хвілін пільна паглядзеў на Сроля. Пасьля спагадліва выказаўся:

— Памагай вам божа. Ці-ж я супроць гэтага што маю? Ніколі. Вучэцеся жыць іначай—можа што й выйдзе, але... ласьне ўся навука ў горадзе? Адны няхай тут, а другія—там. Бо калі й перайначваць, то з адным горадам не патрапіць...

Саламея адышлася з мыцельніку да печы і завіхнулася ў качэргах Пасьля адчыніла засланку і палезла ў печ. Сроль з Віктарам пераглянуліся.

— Выбачайце,—раптам перапрасіў Сроль:—мы да таго заседзеліся, што далей нельга; а, тымчасам, Сёмка галодны сядзіць. Даруйце, што перашкодзілі вам цэлы вечар... Самі павячэралі, а людзям...

Яны накіравалі да дзьвярэй.

— Ды нічога. Думаеце, мы вас сароміліся-б, каб ужо вельмі хацелі есьці?—супакоіў Сёмка.

— Усё-ж пара есьці нам.

Хведар зноў зьлез з месца і намерыўся прайсьці за хлопцамі.

— Выбачайце, што горача пагутарылі з вамі. Усяк бывае...

— Ды што вы!—у вадзін голас загаварылі Сроль з Віктарам.—Хто мог падумаць гэта? Ласьне мы ня ведаем цёткі ці дзядзькі? Вось калі! Наадварот—яшчэ нам трэба перапрасіць вас. Бывайце здаровы!

— Ідзеце здаровы, дзеткі!

Яны вышлі з хаты. Хведар пашоў за імі. А Сёмка адвярнуўся к акну і пачакаў, пакуль таварышы пройдуць міма.

— Ну, бывай!—кінуў Віктар.

— Прыходзьце нядзеляю!

— Яшчэ мо' й да нядзелі раз пяць наведаем. Апошнія словы Сроль падаў з канца двара, пасьля чаго хлопцы схаваліся за рогам хаты. Сёмка паглядзеў усьлед ім, а далей кінуў узрокам на неба.

— І цямнюткая-ж ноч!—зьдзіўлена праказаў сам сабе.

— А паветра—мэрам-бы хто разьліў луг. Проста, як у дзень! Добрая ўстанавілася пагода.. Каб толькі так пастаяла які тыдзень, то ўжо касіць патрэбна.

— Ды будзе—ня будзе пагоды, а тыдняў за два трэба зьбірацца на касавіцу,—рассудзіў Хведар. Саламея падала вячэру на стол.

— Будзеце хлопца.

Хведар падышоў да ложка і пачаў катурхаць Ігнатку. Хлапец паварушыўся і штосьці замармытаў.

— Уставай! Зьверадзіўся вельмі!

Малы ўсхапіўся і пачаў чухацца со-сну. Але хутка разглуздаўся і пашоў за стол.

За вячэраю ўзьнялася хатняя гутарка.

— А ў каго вы куплялі косы? Ці добрыя хаця будуць?—запытаў Сёмка бацькі.

— Хто іх ведае: выбіраць—то-я, здаецца, выбіраў старанна. Можа з сотню перабраў. Зьвіняць добра... Ды, ліха іх бяры, на касавіцу хопіць. Ня ўлезеш-жа ў сярэдзіну!

— Пэўна. Толькі і бяды...

— Толькі і бяды! Чаму-ж ты гаворыш так? Цудны які! Гэта-ж грошы каштуе! А дзе ты іх набярэшся, калі пачнеш выкідаць...—уставіла Саламея.

Хведара заўзяло:

— То хай-бы сама пашла і купіла! Ушчуваць можаш, нябось, а самой зрабіць няздатна.

Сёмка заспакоіў бацькоў.

Пагутарыўшы яшчэ пра сенакос, як і што прыдабыць яго з боку дзесяціну-другую, сям'я скончыла вячэру і разышлася спаць.

Было ўжо за поўнач.

## VI

Сілкаўцы пачалі касавіцу за чатыры дні да Пятра і Паўла. Пагода якраз устаялася і абяцала працягнуцца на далей. Гэта спрыяла касавіцы і нельга было адкладаць. Тым болей у гэтым годзе шпарка пасьпявала жыта. За якіх тыдні паўтары пасьля Пятра магло наскочыць жніво.

Ужо перад выхадам на паплавы дзён за два пачалася падгатоўка: сілкаўцы зарухалі каля гумен, каля кос, каля вазоў. Хто цягнуў з лесу жэрдзьдзе для стаўбоў, хто ўвіхаўся з сухастойнаю ялінаю, апрацоўваючы яе на рубель, хто строіў касьсё, хто майстраваў да парогу ці да калодкі бабку. А з полудню, перад днём касавіцы пашло агульнае дружнае, як па згаворы, кляпаньне кос. Перш рэдкія нясьмелыя стукі паляцелі з аднаго двара, адгукваючыся праз вуліцу ў другім, а пасьля часьцай і часьцей, пераскокваючы з двара на двор, з вуліцы на вуліцу, пакаціліся яны срэбным шротам усьцяж вуліц, праз гароды і сады, па ўсім мястэчку. Зазьвінелі тысячамі неразрыўных, перабойных удараў, зьліліся ў густыя пацёкі зьяднанага, пагоджанага пяяньня. Мэрам-бы па нечым вяленьні іх стальны перапеў выліваў магутныя мэлёдыі працоўнае сымфоніі.

Час-ад-часу, папераменна, неабачнаю хваляю пераліваўся ўздоўжкі і ўшыркі лёгкае ападаньне гукаў траскатні, каб зараз-жа аддацца новым уздымам. Праз гадзіну, калі стук увашоў у роўнавагу, ён, здавалася, зьліўся ў адну суцэльную крэпкую гаму, выглядам конусу, верхавіна якога сыходзіла ў версе гострым шпіцам, а аснова шырокім веерам абдымала ўсе Сілцы. У віхры бразгу танулі ўсе іншыя зыкі. Ды іх, напэўна, ня было ва ўсім мястэчку. Бо птушкі, што не пасьпелі вылецець у поле, гавяда,

што асталася пры доме, дзеці і старыя, што не адлучыліся з мястэчка,— усе замоўклі і прыслухаліся да ўрачыстых зыкаў кляпаньня кос. Нават дзярэўцы ў садох настаражыліся і не трапяталі лісьцем; нават ветрык, зранку павяваўшы, прыціх між платоў, за кугольлем, зьнізіўся да расьлін. І атакованае на небе, сінім, пабялеўшым ад жары, сонца не хацела доўга сходзіць к нізу. Толькі цёплае паветра, раскалыханае самым стукам нэрвова трапяталася пад асьвечанымі капяжамі хат, над зелянінаю гародаў, у шчылінах загарадзі. Мэрам-бы ўцякала кудысь к лесу, за мястэчка, на прастор, дзе-б ня гудзелі гэтыя сталёвыя восы...

Кляпаньне цягнулася да заходу сонца, да цёмнага, урэзалася ў нетра ночы, дасягнула поўначы і, праўда, зацішаным голасам, але падляцела на спатканьне ўсходу сонца. І было яму вітаньне, і было разам маршам для касцоў, якія з расою, што вытварылася з гучных мільённых udараў малаткоў, пашлі на свае палоскі...

Так, касцы амаль што ня спалі. Чуць завязаўся ў небе золак плямінкаю нязначнаю, яны паўзьнімаліся з пасьцелі, зарухалі, забегалі. У белыя торбачкі ўлажылі прыгатаванае жонкамі і мацяркамі сьнеданьне. У спалосканыя баклажкі нацадзілі халоднае чыстае вады. Пераярыжаваліся, мэрам рыцары зброяю, ядою і трункам. І як тыя-ж рыцары, у роўна-белым зрэбным палатне з косамі, адбітымі да бляску, адточанымі да брытвы, уснашчанымі мянтушкамі, пашнуравалі сьценкамі і дарожкамі, сьцежкамі-межамі ў бок хвойніку. Шнуравалі, а сьвятло ярчэла, золак разгараўся: у першых—серабрыліся на косах джалы, а ў іншых— чырванелі. Першыя адзначалі касьсямі косыя крыжы на ўзрошчанай траве, апошнія не падмочвалі і ног. Але к усходу, калі над хвойнікам спыхнуў крывяны пажар праменьняў і вярхоўі стройных хвой абярнуліся голкамі ў бок выглядаючага сонца і апошні касец змоўк, перабег прагон ад Сілцоў да паплавоў і стаў у новы шэраг, у шэраг на работу. Тым-жа зьяданным гмахам, які выцінаў музыку кляпаньня, захапіліся касцы ў касьбе. Так плывуць рыбакі на доўгім цяжкім чаўне, паднімаючы і апускаючы ў воду вёслы; так сякуцца ў атаках на вайне, размахваючы шаблямі і штыхамі. Касцы былі першым шэрагам салдат, што ідуць у наступ, стыкаюцца з ворагам і пачынаюць секчыся. Толькі мігалі доўгія дугі пад лязамі блішчастых кос! Толькі сьвісталі сьмяртэльную песьню стромыя замахі, кладучы сьвежую траву ў роўныя пакосы. Мэрам разгорненыя сувоі палатна—расьціліліся роўныя пракосы зялёнага мяккага мошасту. Радкамі, на локаць адзін ад другога, між прагалін зялёнай пакошы. Пракос ад пракосу аддзяляўся густою бародкаю травы, якое не падцінаў насок касы... Над зялёнымі паплавамі насіліся дробныя хвалькі густога паветра; качалі на сабе матылькоў, стрэлак, вос; блыталі лёгкія нітачкі павуцінкі. Трапяталі незгамонныя жаўранкі, то ўзьнімаючыся высока ўверх, то каменем падаючы ў траву. А трава, падцятая касою, выдыхала сваё зялёнае жыцьцё густым мядовым водырам. Дзяцельнік выпускаў белы

мёд, мяцёлка—крышталёвыя капелькі сыропу, малачайнік—ліпкую белую сьмятанку, казачкі—цукроўку. Кожная травінка, кожная зялінка вылівала апошнія сокі, варочаючы іх паветру, касцом, каб пасьля пераняла іх зямля дзеля новага ўзросту травы. І шырокімі бурлівымі пацёкамі разьліваўся пахучы імпэт над поплаўным галам, паіў касцоў, бадзёрыў іх для нясупыннай працы. Жывільнаю сілаю пераліваўся ён па разгарачаных постацях, асьвяжаў кроў, бунтаваў сэрца, роіў бадзёрыя жыцьцярадыя думкі і надзеі. Глыбока дыхалі касцы! Узьнімаліся падгарэлыя смуглыя грудзі, выстаўленыя з-пад кашулі на гарачае сонца, пілі мядовы сенны пах; трапаліся на галавах лахматыя палойкі нерасчэсаных валос, цьвёрда пераступалі ногі. Тыя, што прышлі першымі, урэзаліся сваймі палоскамі глыбей ад другіх, ад прышоўшых пазьней. Шэраг касцоў выглядаў паломаным, пабітым на ўступы, але калыхаўся роўнамерна, як па ўказцы. Толькі тры-чатыры чалавекі з агульнага ліку, папераменна мянцілі косы. І шасталі мянтушкі скрыпячымі зыкамі, пераплятаючы імі посьвіст кос, і аддавалася рэха дзесьці далёка-далёка за паплавамі, мэрам-бы звала каго... Звала грабцоў. Ужо з абеду пачалі яны прыбываць на пакос. Ішлі па адным, па два, грамадкамі; з паднятымі ўгору граблямі, з гаршчэчкамі і слоікамі нясьлі абед для касцоў вясёлыя, рухавыя: жанкі, дзяўчаты, хлапчукі, дзеці; жанкі і дзяўчаты—у белых хустачках, схаваўшы ня толькі голаў, а і ўвес твар у лёгкіх кашульках, высока падаткаўшыся. На зялёных межах выразна адзначаліся тоўстыя ікры ног, як белыя слупкі; над гладзьдзю жытніх палеткаў, ужо пасьпяваючых, калыхаліся пукатыя грудзі. Дзе ішла грамадка, чуліся песьні: неразрыўным касьнікам слаліся ад Сілцоў да паплавоў.

Абед рабіў перабой у настроенай працы: касцы клалі на пракосах косы, утыкалі іх пры сабе і ўсаджваліся за яду. Пачыналася гутарка, але не надоўга. Ня можна марнаваць часу: толькі мігалі рукі над гаршкамі. У хвілі спраўляліся з страваю, запівалі падагрэтаю ў баклажцы вадою, уціралі пот і зноў браліся за косы. Мянцілі, пазіралі на сонца і на поплаў, адмяралі шагамі правіловасьць мяжы. Касілі. А пабялеўшыя пракосы, накошаныя зраньня, перакідаліся грабцамі на другі бок. Мігаліся граблі, і ў агульным выглядзе паяднаная работа касцоў і грабцоў выказвала сабою вясёлую рэзвую ігру-гулянку ў русалкі, у карагод ці што іншае.

Яшчэ дзівавей стала к вечару, калі на паплавох пачалі ўзрастаць круглыя стройныя копы; яны выступалі, мэрам з зямлі, адбягаліся адна ад другой, гналіся за касцамі, ухіляліся ў бакі. Вяртунамі забягалі між іх шалаўлівыя дзеці. І асеўшае над лесам сонца разагнала іх даўгія цені. Пастухі прыгналі стады кароў: пакоша—каровіна вясельле. Замукалі, зарыкалі, уподбег кінуліся на поплаў. Захрумсталі зубы сочную маладую травіцу.

# ЖАРТАЎЛІВЫ ПІСАРЭВІЧ

**М. Гарэцкі**

I

Пустая вуліца ў глухім расійскім горадзе. Адзін дом з белымі налепкамі: „Здаецца пакой“. Па вуліцы плятуцца зморанныя Пісарэвіч і яго жонка. Безнадзейна азіраюцца... Раптам уталопіліся ў налепкі, зрадзелі.

Пісарэвіч (*скача на аднэй назе, паказваючы на налепкі*). Знашлі, знашлі, знашлі! І налепачкі налеплены!

Жонка (*сьцішае яго за рукаў*). Апамятайся і людзей пастыдайся. Ледзьве ногі цягаеш, а скачаш, як малое дзіцянё.

Пісарэвіч. Гуляй, хата, гуляй, печ!

Жонка. Кінь вырабляцца, прашу цябе! Мне ад тваіх жартаў зусім малая пацеха. Стукай, ды пацiху, а то пакрыўдзяцца, як там.

Пісарэвіч. Стуцыце—і адверзецца вам! Шукайце—і знойдзеце! (*Стукае ў дзьверы. Выходзіць мяшчанка*).

Мяшчанка. А што вам, добрыя людзі?

Пісарэвіч. Дзень добры, панічка!

Жонка. Дзень добры вам!

Мяшчанка. І вам добры дзень, мілыя людзі! А чаго-ж вам трэба? Мусіць, вы ўцекачы з Польшчы?

Пісарэвіч. Блізу таго, панічка... Турбуем во добрых людзей... Кватэру шукаем.

Жонка. Трэці дзень шукаем... З ног зьбіліся шукаючы.

Мяшчанка. А-а! Чаму-ж вы стаіцё? (*Сядае сама на лавачку на ганках*). А вы-ж хры-шчо-ныя?

Пісарэвіч. Абое, панічка! І ў дакумэнтах паказана.

Мяшчанка. А вялікдзень-жа вы сьвяткуеце?

Пісарэвіч. Дый яшчэ як, панічка!

Жонка (*хоча быць прыемнай*). Мы ўсе сьвяты спраўляем: і вялікдзень, і каляды, і наогул усе сьвятцы.

Мяшчанка. Дык сядайце-ж, калі ласка,—пагамонім... (*Жонка сядае на лавачку, Пісарэвіч абцірае пот*). А ці многа-ж у вас дабра?

Пісарэвіч. О, зусім мала: зьмесьцім у вадным пакойчыку.

Мяшчанка. Ну, ведаеце, мне гэта ня надта падабаецца. Таму што—жылі ў мяне такія... Два месяцы пражылі—і ўцяклі, не заплаціўшы. Ім што: усё сваё дабро адным кошыкам перацягнуць могуць.

Жонка *(устае)*. Выбачайце, але мы не та-кі-я... І дабро наша ў адным кошыку ня зьмесьціцца.

Мяшчанка. Маеце шмат чаго-о? Дык вы мне пакой згноіце, заставіўшы сваім дабром.

Пісарэвіч. У нас яго зусім мала, панічка...

Мяшчанка *(перабіваючы)*. А вы-ж казалі: многа.

Пісарэвіч. Ды так... ні многа, ні мала: ні кошыкам перанесьці, ні пакой згнаіць.

Мяшчанка. Гм! Вас таўкачом у ступе ня зловіш... Тут нейкая крутня.

Жонка *(гневаецца)*. Хадзем, Алесь! Што тут...

Пісарэвіч. Стой, жонка! А вы, панічка, не сумлявайцеся, гэта нічога, што мы так кажам. Гэта ад вашага клімату ў нас у галаве круціцца... Горача надта... У-ух... *(Абцірае пот)*.

Мяшчанка. Дык вы—кручаныя! Чаму-ж вы адразу не казалі? *(Устае з лавачкі)*. Як я магу аддаць свой пакой нейкім кручаным з чужога боку? Бывайце здаровыя!

Пісарэвіч. Бывайце, панічка, бывайце! А як-жа пакойчык?

Мяшчанка. Не для вас! *(Пашла)*.

Пісарэвіч *(разводзіць рукамі і паказвае ўсьлед ёй язык)*. Вось табе й налепачкі!

Жонка. А ўсё твае дурныя жарты, Алесь! У цябе няма ніякага падходу да людзей... Ну, куды цяпер?

Пісарэвіч. Куды? Ці я ведаю? Давай пастукаемся яшчэ во ў гэты, бяднейшы дом. А можа што і знойдзем. *(Стукае)*.

Жонка. Хоць-бы ж які пакойчык... Цішэй стукай, ідуць...

Баба *(вылятае раскудлачаная, гнеўная)*. Вы хто? Уцекачы?! Забілі майго Йвана, каб вас бог забіў! Забілі! Забілі! Што я цяперака параю з аднэю галавою? А-а, вы, немцы праклятыя! *(Кідаецца на жонку)*.

Пісарэвіч *(выступае наперад, каб схваліць жонку)*. Ня бойся, Стася, ня бойся! Якія немцы, цётка? Што вы гэта? Мы ўцекачы, кватэру шукаем... Мы-ж вам ніколі нічога ніякага, як той казаў... Стасенька, супакойся! *(Жонка трасецца й хліпае)*.

Баба. Каб вас паралюш разьбіў! Басурманы! Ідалы! Нехрысьці! Забілі мне мужыка! Зьвялі мяне з капылоў! Чаго вам трэба ад мяне, ірады?! Якая ў мяне кватэра?

Пісарэвіч. Супакойся, цётачка! Чаго-ж і вам трэба ад нас?

Баба. А чаго вы лезеце да мяне? Нашто вы мужыка мне з сьвету зьвялі? А-о, галовачка мая бедная з вамі... *(Пашла назад у хату)*.

Пісарэвіч. Супакойся, Стася,—бывае...

Жонка. Нейкая шалёная: не разьбірае, што немцы, што ўцекачы.

Пісарэвіч. Ня дзіва: адзін муж быў, і той асірацію бабу, не падумаўшы, што з гэтага можа быць...

Жонка (*нэрвова*). Ізноў ты вырабляешся, Алесь! Дзеці галодныя, адны на станцыі, а ты тут жарты строіш... Кіну і пайду, шукай адзін, а мы там будзем плакаць... (*Абцірае сьлёзы*). Ну, куды, цяпер? Ну, куды, кажы?

Пісарэвіч. А што я ведаю? Папаў, як у нерат: ні ўзад, ні ўперад. А без цябе я не застануся,—знайду, а табе яшчэ не спадабаецца.

Жонка. Ты сам пачынаеш нэрвавацца. Дажартаваўся! Ну, цяпер паскачы на аднэй назе!

Пісарэвіч. Я й на дзьвюх магу... Во стану сярод вуліцы і буду ў кожнага пытацца, ці няма кватэры... Убачыш, як добра будзе.

Жонка. Убачу, убачу... Вунь ідзе бацюшка, пытайся.

Пісарэвіч. Дзень добры, бацюшка! Можна спытацца?..

Поп (*грубы, гладкі, потны*). А ў чым справа? Кватэру шукаеце?

Пісарэвіч. Так, бацюшка, кватэру! Ці няма?..

Поп (*пераб'ваючы*). Вы ўцекачы?

Пісарэвіч. Відаць-жа пана па халявах.

Поп. Не, не па халявах, а так па ўсім... О-ох, горача сёньня, а мне яшчэ панахвідку па ўбіенным на полі брані трэба адправіць. А ці няма ў вас прадажнага сабакі?

Жонка (*зьдзіўлена і пакрыўджана ўзьнімае плечы*). Што вы, бацюшка?

Пісарэвіч. Застаўся наш Мурзачка ў немцаў, у палоне.

Поп. Шкада! А я купіў-бы ў вас добрага сабаку. Ведаеце, столькі цяпер зладзеяў разьвялося, уцекачоў панаехала...

Жонка (*абурана*). Я не разумею...

Пісарэвіч. Скажу вам, як на споведзі, бацюшка: век злодзеем ня быў, і за жонку прысягнуся.

Поп. Я не пра вас; так, да слова трапілася. Дый няма ў мяне для вас кватэры. Адзін пакойчык для аднае інтэлігэнтнае асобы, калі матушка згодзіцца, падумаўшы, можа, і можна было-б аддаць, але, бачыце...

Жонка. Выбачайце, бацюшка, але мы людзі інтэлігэнтныя, толькі што, ведама, здарожыліся, пакуль ехалі.

Поп. Але-ж, мілая, дзьве асобы гэта не адна асоба.

Пісарэвіч. Э, бацюшка, якая там у жонкі з мужам матэматыка: адно цела і адзін дух. Лічыце за адну асобу маю жонку, а я буду як прэмія, бацюшка...

Поп. Я бачу інтэлігэнтнасьць і па духу, бяз усякай прэміі.

Жонка. Вось як...

Пісарэвіч. Стой, жонка! У сьвятым-жа пісьме сказана, бацюшка: не ўгашайце духу.

Поп. А хто вам угашае дух?

Пісарэвіч. Вы нам, бацюшка, усё-ж ткі аддайце гэты пакойчык за якую скажаце цану, і дух у нас ня ўгасіцца.

Поп (*паважна*). Уцякач вы, уцякач! Такое глупства, як кватэра, з пытаньнем веры зьвязваеце. За няверу і карае вас бог. Духу ў вас шмат, але нядобрага духу.

Жонка (*нэрвова*). Алесь, пойдзем!

Пісарэвіч. Паслухайце, бацюшка! Мы трэці дзень на станцыі, з дзяцьмі, і трэці дзень мусім цягацца па такой пякоце, шукаць кватэру. Гэта-ж ня глупства. Аддайце нам свой пакойчык.

Поп. А, у вас яшчэ і дзеці! Выбачайце, але, на жаль, нічым не магу вам памагчы... Пашукайце яшчэ ў каго .. Во там, бачыце, ёсьць налепачкі... Бывайце! (*Пашоў*).

Жонка. А ўсё ты, Алесь! Зусім ня так трэба было гаварыць з духоўнаю асобаю.

Пісарэвіч. А як з ім гаварыць? У руку яму цалаваць?

Жонка. Ты й не цалаваў, а ўсё роўна ён падумаў, што мы простыя.

Пісарэвіч. А чым-жа мы крывыя, каб яму вочы павылазілі!

Жонка. Цярпець не магу тваіх грубых выразаў! Сапраўды, ад твае інтэлігэнтнасьці нічога не асталося. Ну, куды цяпер? Куды?

Пісарэвіч (*зьбянтэжаны*). Чоррт... Хоць-бы тут комітэт які быў.

Жонка. Разьлічай на комітэты, дык цэлы год на вокзале пражывеш... Ты зусім здурнеў, Алесь.

Пісарэвіч. Не клапаці: з вокзалу выганяць. А вось я зараз здурнею—і буду мець кватэру. (*Сядае пасярод вуліцы на зямлю*).

Жонка. Што ты робіш, Алесь?! Не рабі скандалу!

Пісарэвіч. Ты йдзі на вокзал, пакармі дзяцей, а я буду сядзець тут і ня ўстану, пакуль мне не дадуць кватэры.

Жонка. Алесь, што ты робіш?! Цябе паліцыя забярэць.

Пісарэвіч (*сьмяецца*). Няхай забірае.

Жонка (*тармосіць яго*). Не звадзі мяне з розуму, Алесь! Глядзі, людзі ўжо бачаць, што ты робіш...

Мяшчанка. А матачкі, што гэта з чалавекам?

Пісарэвіч (*вясёла*). Самлеў, панічка, шукаючы кватэру. Ратуйце мяне, а бо і вас паліцыя ў протокол запіша.

Мяшчанка. Уставайце вы, кручаны! Якую вам кватэру: вялікую, маленькую?

Пісарэвіч (*устае*). Як ваш пакойчык, панічка! Ах, добрая-ж вы гаспадынька!

Мяшчанка. Добранькая! А вы ці добранькія? Хто вас ведае, якую цану з вас браць.

Пісарэвіч. Мы людзі простыя, панічка! Просьценькую цану бярэце.

Мяшчанка. Разьбярэш вас, якія вы... Як у нас мужык, дык ён бараду носіць, а вашы папрыяжджалі голеныя. Няведама: ці ён заможны, ці ён убогі? Усе ў сурдутах і без барады.

Пісарэвіч. Здасьцё нам пакойчык, я запушчу бараду, калі, хочаце,—няхай расьце!

Мяшчанка. Нашто? Галіце...

Пісарэвіч. Дык пойдзем глядзець ваш пакойчык, панічка?

Мяшчанка. Ды ўжо хадзіце, што з вамі зробіш... Але не, чакайце: а дзеці ў вас ёсьць?

Пісарэвіч. Ой! *(Жартаўліва млее).*

II

Убогі і нудны пакойчык у расійскім мяшчанскім доме. Пісарэвіч сядзіць у пантофлях на босую нагу і піша.

Пісарэвіч. Дастаў шмат перапіскі, зараблю шмат грошы—і справім мы з Стасяю баль! І хлопчыкаў сваіх з прытулку возьмем: хай дзеткі пацешацца. *(Пяе).*

Чаму-ж мне ня пець,
Чаму ж ня гудзець,
Калі ў маёй хатаньцы
Парадак ідзець...

Не бядуй, Стася! Скончыцца вайна, паедзем дамоў, ня будзеш ты стаяць па восем гадзін у чарзе за поўфунта хлеба на картачку. *(Ізноў, яшчэ весялей, пяе).*

Ах ты дуй, ах ты дуй,
Мая Стася, не бядуй:
Па маёй галаве
Застанецца ўсё табе!

Мяшчанка *(уваходзіць, не пастукаўшыся).* Дзень добры яшчэ раз, пан Пісарэвіч!

Пісарэвіч. Ах, Мар'я Йванаўна, Мар'я Йванаўна! Як я рад! Выбачайце толькі, што вы забыліся пастукаць... Я ў хатнім выглядзе. Сядайце-ж, калі ласка, прашу вас, Мар'я Йванаўна!

Мяшчанка *(сядае).* Ат! Заўсёды вы з сваім стуканьнем, пан Пісарэвіч! Ну, прыдзіце раз у мой пакой не пастукаўшыся,—паквітаемся.

Пісарэвіч. Добра вам казаць, а што мне жонка запяе на гэта?

Мяшчанка. Які вы жартаўлівы, пан Пісарэвіч! Вам няма ведама што ў галаве.

Пісарэвіч. Калі я гляджу на вас, Мар'я Йванаўна, калі я любуюся на вашы нябескія лупаценькія вочкі, дык сапраўды я сам ня ведаю, што робіцца ў маёй галаве.

Мяшчанка. Кіньце ўжо, кіньце насьмяхацца,—жонцы скажу. А дзе-ж гэта пані Пісарэвічыха? Яшчэ не вярнулася з „хваста“ па хлеб?

Пісарэвіч (*глядзіць на гадзіньнік на сьцены*). Не, яшчэ не вярнулася; восьмую гадзіну ў чарзе. Балазе, з услончыкам пашла: можна пасядзець.

Мяшчанка. Ах, пан Пісарэвіч, я дагэтуль не магу насьмяяцца з гэтай вашай выдумкі: услончык у „хвост“ з сабою браць. А якія-ж цяпер „хвасты“ вялікія; сяньня я бачыла, на цэлую вуліцу ад харчовай крамы расьцягнуўся, аж да рогу і за рог загнуўся. А найболей стаяць уцекачы.

Пісарэвіч. Вось, каб лісіцу з такім хвастом забіць: шмат грошы можна было-б за скурку пабраць, а?

Мяшчанка. А ці ведаеце вы, пан Пісарэвіч, я прышла да вас па аднэй важнай справе...

Пісарэвіч. Калі па грошы, Марья Йванаўна, дык пачакайце: вось я скончу гэты заказ на перапіску...

Мяшчанка (*сьмяецца*). Але-ж не, пачакаю, бог з вамі, я не аб тое.

Пісарэвіч. А-а! Ведаю, ведаю! Аб гэтых новых уцекачох? Так, угадаў?

Мяшчанка. Мне здаецца, яны ня будуць плаціць акуратна. Супакойце мяне, пан Пісарэвіч! Вы гэткі вясёлы чалавек.

Пісарэвіч. О, я надта вясёлы. Змалку гэтакі. У нашым краі ўсе гэтакія: нязвычайна жартаўлівы народ.

Мяшчанка. Дык супакойце мяне, пан Пісарэвіч! Што вы думаеце аб іх, гэтых новых з вашага боку?

Пісарэвіч. Ведаеце, Мар'я Йванаўна, як дзеля вас, скажу па шчырасьці. Мне здаецца, што яны нічога свайго ня маюць, у іх усё крадзенае.

Мяшчанка. Ах, што вы? Ня можа быць! Яны мне дровы пацягаюць...

Пісарэвіч. О, напэўна, напэўна, пацягаюць. Прапалі вашыя дроўцы, Мар'я Йванаўна!

Мяшчанка. Ах, божа мой! Парайце, пан Пісарэвіч, што-ж гэта мне цяпер рабіць?

Пісарэвіч. Ня журыцеся, Мар'я Йванаўна! Уздумайце на штоколечы вясёленькае, прыемнае, Мар'я Йванаўна!

Мяшчанка. Вы-ж мяне павесяліце, пан Пісарэвіч. Як гэта вы казалі, што ў вас ня так, як у нас, не на дрэве, а на зямлі йгрушкі растуць... Хі-хі!

Пісарэвіч. А так, так, у нас там і зімы ніколі ня бывае.

Мяшчанка. А матачкі! Ото няшчасьце! А як-жа ў вас масьлянка?—без каўзяля?

Пісарэвіч. Чаму—без каўзяля? Го-го! Мы сабе з Масквы сьнег выпісваем, а з Варшавы саначкі. Так і пакатаемся і паваляемся... го-го!

М я ш ч а н к а. Які вы жартаўнік, пан Пісарэвіч! Скуль у вас што бярэцца? Лацьвей такому жыць на сьвеце,—ніколі ён не засмуціцца. Я вас заўсёды з такою прыемнасьцю слухаю... Але трэба мне йсьці. Задалі мне вы клопату з дрыўмі, пан Пісарэвіч. Пайду пазначу крэйдаю.

П і с а р э в і ч. Крыжыкі пастаўце, Мар'я Йванаўна! Нават нячыстая сіла не падступіцца.

М я ш ч а н к а. Жарцікі вам... усё вам жарцікі, ня тое што паспагадаць чалавеку.*(Пашла, потым вярнулася)*. Ведаеце, падабаецеся вы мне, пан Пісарэвіч, хоць вы й нянаскі чалавек. Я так ужо да вас прызвычаілася, што мне цяжка будзе й растацца з вамі.

П і с а р э в і ч. Каму я магу спадабацца, гэткі худы і бедны!

М я ш ч а н к а. А мне якраз худыя да спадобы!

П і с а р э в і ч. Мар'я Йванаўна! Я маладзею. Давайце пацалуемся, а з кватэрнай платай, калі ласка, пачакайце...

М я ш ч а н к а. Ціха, ціха, саромцеся. (*Затыкае вушы*). У мяне дровы там пакралі... Другім ужо разам! (*Радасна засьмяялася і пабегла*).

П і с а р э в і ч. Другім разам—няхай сабе другім разам. Але колькі яна мне часу зглуміла, бараболка, ах, ты нячыстая каланіца! Ну, нічога. Усё добра будзе... Ах ты дуй, ах ты дуй! мая мілая, не бядуй. (*Дастае з-за печы чурбанак, бярэ бот, вялікую іголку з ніткай,- насаджвае бот на чурбанок і пачынае залатваць дзюрку*). Я шавец-маладзец! Я шавец-маладзец!

Г а с п а д ы н я (*узьнімае галас яшчэ на падворку і ўлятае ізноў не пастукаўшыся*). Чурбанка няма! Чурбанка няма! Дзе мой чурбанок? Сьцягнулі-ткі... Ах, каб гэтых уцекачоў!..

П і с а р э в і ч (*схаваўшы чурбанок з ботам за сьпіну*). Выбачайце, Мар'я Йванаўна, што вы не пастукалі: я ў хатнім выглядзе і боты сабе рапараваў. (*Скача на аднэй назе*). Дылі-дылі, го-ца-ца! Дылі-дылі, го-ца-ца!

М я ш ч а н к а. Кіньце свае жарты, пан Пісарэвіч! Чурбанка няма. Ці ня бачылі вы часам?

П і с а р э в і ч. Вядома, Мар'я Йванаўна! Уцекачы сьцягнулі, дальбог уцекачы!

М я ш ч а н к а. Насланьнё мне з гэтымі ўцекачамі... Сьцягнулі-ткі чурбанок!

П і с а р э в і ч. Яны бачылі, дурныя, і думалі, што гэта кавалак мяса. Дык вось яны схапілі ўночы, а цяпер вараць...

М я ш ч а н к а. Што-о?! Ня дурыце вы!

П і с а р э в і ч. Вараць, дальбог, вараць, Мар'я Йванаўна!

М я ш ч а н к а. Ня сорам вам бажыцца, пан Пісарэвіч? Ці-ж гэта можа быць тое, што вы кажаце?

П і с а р э в і ч. Можа, ня зусім так, але каля таго; калі ня ймеце веры, дык вось, Мар'я Йванаўна... (*Цягне з-за сьпіны чурбанок*). Трымайце! Я на ім боты рапараваў, а думаў сабе: пасьля звару яго ды зьем. Далі-

бог, так думаў! Але неяксь пашкадаваў. Бярыце, Мар'я Йванаўна: мо' калі голад будзе ў вашай губэрні,—ня вам, дык добрым людзём спатрэбіцца замест кавалку мяса...

Мяшчанка. Дык гэта ўсё вашы жарцікі, пан Пісарэвіч? А я спалохалася—дзе, думаю сабе, мой чурбанок? Ну і жартаўнік!

Пісарэвіч. Дык бярыце, Мар'я Йванаўна! Толькі добранька схавайце, а то ўцекачы-ткі яго сьцягнуць.

Мяшчанка. Рапаруйце, рапаруйце боцікі, а я пасьля забяру. Ну і жартаўнік чалавек! *(Пашла, а ён садзіцца за боты).*

Жонка *(прыходзіць за нейкі час з услончыкам і фунтам хлеба, сядае і моўчкі плача)*. Да чаго мы дажыліся, да чаго мы дажыліся...

Пісарэвіч *(пяе)*.

Ня плач, ня плач, мая ты Стасенька,
Ня плач, ня журыся!..
Дый за свайго краўца-шаўца
Богу памаліся...

Жонка. Да чаго мы дажыліся, да чаго мы дажыліся!.. *(Плача, трасучыся, ня могучы стрымацца).*

Пісарэвіч. *(Кідае бот і ўстрывожаны падходзіць да жонкі)* Стасенька, міленькая, супакойся!

Жонка. Лепей-бы нас бомба нямецкая там забіла, чымся тут гараваць на ўцякацтве!.. Да чаго мы дажыліся...

Пісарэвіч. Да чаго там дажыліся? Дажыліся казакі—ні хлеба ні табакі... Бывае горш, вялікая рэч! Супакойся, Стасютка... *(Цалуе ў рукі)*. Паўзірайся, колькі я аркушоў сьпісаў—кучу грошай дастану, баль справім. Дзяцей на сьвята з прытулку прывядзем. Лячыцца я пачну... Вайна скончыцца, дамоў паедзем!

Жонка. Дамоў, дамоў...

Пісарэвіч *(пяе)*.

Ой дамоў, дамоў,
Бо ўжо ня рана,
Бо ўжо ня рана—
Расіца пала!

Жонка. Ну пашто ты пяеш, Алесь? Ты думаеш разьвесяліць мяне гэтым?

Пісарэвіч. А ці-ж не? Ці-ж табе не весялей ад гэтай песьні? Памятаеш, мы яе чулі, як езьдзілі к майму дзядзьку ў госьці ўлетку 1913-га году? Дзяўчаты ішлі з поля і пяялі... Га? Хораша? І пра вайну тады ніхто і ня думаў. От, добра, ах!

Жонка *(скрозь сьлёзы)*. Памятаю, Алеська, памятаю... Але-ж гэта ўсё даўно-даўно мінулася, і здаецца, што ўжо ніколі ня вернецца. Ты добрую пасаду меў, жылі добра... А цяпер, як ні працуй—на кавалак хлеба не заробіш. А стаяць мне ў гэтай чарве, па восем гадзін за хунт хлеба—Алесь, гэта-ж такая мука, такая мука...

Пісарэвіч. Нічога, Стасенька, няма хлеба—што рабіць? Усе стаяць, ня мы адны...

Жонка. Хто там усе? Парадачныя людзі не стаяць... Самая дрэнь—бабы маскоўкі ды нашы ўцекачы галодныя. Нашых штурхаюць, б'юць, сьмяюцца... Кажуць, мы аб'ядаць іх прыехалі. Ой, якая гэта мука там стаяць.

Пісарэвіч. Не бядуй, Стася! Глядзі, колькі перапісаў...

Жонка. Ты хворы зусім, Алесь. Табе лячыцца трэба... Што ты мяне пацяшаеш?

Пісарэвіч. Я—хворы? Глядзі, які я здаровы! *(Махае кулакамі)*. Го-го! На мяне яшчэ маладзіцы заглядаюцца! Го-го! Ну, сьмейся-ж, Стасенька! Чаго там плакаць? Го-го! Мы яшчэ... о-го-го!

Жонка. Не жартуецца табе, Алесь! Кінь...

III

Узімку, маразамі, у сьцюдзёнай, няпаленай кватэры, Пісарэвіч займаецца шавецтвам. Ён—галодны, хворы на выгляд, абшарпаны. Ладзіць мужыцкія боты.

Пісарэвіч. Ну, нічога! Хутка дамоў паедзем,—не дарма-ж існуе на сьвеце „пленбеж“[1]). (*Кідае бот і робіць гімнастыку, каб сагрэцца*). Раз-два! Раз-два! Раз-два! Раз-два! Шкада што ў войску па слабасьці здароўя ня трапілася быць: дрэнна гімнастыку раблю... Раз-два! Ах, сьцюдзёна, трасца ёй у бок. Брр... Усё мне здаецца, што нешта па мне паўзе... (*Шаволіць плячыма*). Быў конь, ды зьезьдзіўся. Ну, нічога! Добра, усё добра! (*Пяець, махаючы ад сьцюжы рукамі—ботам і шылам*).

Хто быў нічым,
Той будзе ўсім!

Таварышы, ратуйце! Гіну! Мушу боты мужыком за гнілую бульбу ладзіць. Хай вас ліха, хай вас ліха з вашымі парадкамі. (*Чуваць стуканьне ў дзьверы*). Калі ласка, можна, прымаю!

Паня (*яшчэ маладая і даволі харошая, але пустая, выглядае*). Мо-ожна?

Пісарэвіч (*устае і падходзіць да дзьвярэй*). Хрышчоныя? Бараду носіце? Сурдут новы? Гаворка людзкая?—Тады можна... Калі ласка!

Паня. Я вас не разумею... Выбачайце: тут мяшкаюць панства Пісарэвічы?

Пісарэвіч. Тут, тут... хоць якое там панства! Быў конь, ды зьезьдзіўся. Ну, нічога, нічога...

Паня. Можна мне бачыць пані Пісарэвічыху?

Пісарэвіч. О, колькі ваша ласка! Толькі яна пашла цяпер на промысел.

Паня. Промысел? які промысел?

---

[1]) Комітэт па эвакуацыі пленных і бежанцаў.

Пісарэвіч. Промысел—чым мы будзем жыць і што мы будзем есьці. Але, грамадзянка, ня стойце ў дзьвярах, праходзьце далей у нашы палацы!

Паня (*нясьмела заходзіць*). А хто вы такі? Ці сапраўды тут жывуць панства Пісарэвічы?

Пісарэвіч (*тыцкаючы сябе пальцам у грудзі*). Вы, грамадзянка, бачыце перад сабою грамадзяніна, ці, як вы кажаце дзеля старой сваёй прызвычаёнасьці, пана, грамадзяніна-пана Пі-са-рэ-віча! Проша! (*З выкрутасамі запрашае сесьці*).

Паня. Божа! А я вас не пазнала... Як вы зьмяніліся, пане Пісарэвіч.

Пісарэвіч. А вы, грамадзянка, здаецца,—панна Ліхтароўчанка, калі не памыляюся. Можа, тымчасам—быўшая панна Ліхтароўчанка?

Паня. Так, проша пана, я ўжо замужам, па мужу—Пшэпюркоўская. Мой муж доктар. Мае прыватную практыку і лекарам пры бежанскім комітэце.

Пісарэвіч. Ах, як прыемна!

Паня. Прызнайцеся, пане Пісарэвіч: вы мяне адразу пазналі ці не? Як я цяпер выглядаю?

Пісарэвіч. Дадушы, ня ведаю: ці я вас адразу пазнаў, ці не адразу, бо я тады пра бульбу думаў. Выглядаеце-ж вы адменна, пані Пшэпюркоўская, ну, адным словам—адменна!

Паня (*ахарашваецца*). Праўда, добра? А мне здаецца, я дужа зьмізарнела. Я сяду... (*Сядае на скрынку*). Скажыце праўду: дзе пані Станіслава?

Пісарэіч. Што? пані Станіслава? А ці-ж я вам сказаў няпраўду? На промысел пашла. Дадушы! Гэта, знацца, опровізацыйны комітэт дазволіў уцекачом прыходзіць у склад і выпыльваць мяхі з-пад мукі. Дык яна мела ахвоту—пашла. Ну, нічога, зараз вернецца.

Паня. Ах, як шкода! А якія-ж гэта могуць быць для пані Станіславы заробкі?

Пісарэвіч. Не заробкі, не, пані грамадзянка Пшэпюркоўская. Уцякачкі гэтую выпылку пасьля зьмятаюць і забіраюць сабе на хлеб есьці.

Паня. Ах, ах, ах! Што-ж гэта вы кажаце? Вы жартуеце, пане Пісарэвіч! Бедная пані Станіслава...

Пісарэвіч. Ну, нічога, добра! (*Пяе*)

Хто быў нічым,
Той будзе ўсім!

Паня. Хіба толькі з вашаю ўдачаю можна пяяць, пане Пісарэвіч, у гэткім становішчы. Скажыце: як-жа гэта вы тут апынуліся? Як уцяклі з-пад немца? Здаецца-ж, вы меліся застацца пад нямецкай окупацыяй?

Пісарэвіч (*бегае і махае рукамі, дзьмецъ у іх ад сьцюжы*). Не мы не засталіся, мы выехалі, толькі ўсё чакалі на асобнае купэ ў вагоне, дык трохі спазьніліся выехаць. Адзін наш бедны Мурзачка застаўся.., Ведаеце: зачынілі мы яго ў будцы, дык ён выў і драпаўся, пакуль-ткі ня выскачыў. Прыбег на вокзал, знашоў нас, кідаўся ў вагон—і мусіў застацца ў палоне, начальства не дапусьціла яго эвакуавацца. Бачыце, мы ехалі ў цяплушках, а сабачых вагонаў ня было. Чула яго сэрца сьмертухну...

Паня. А што з ім сталася?

Пісарэвіч. А сьніцца мне, часта сьніцца, што сабачка наш тры дні ня еў, ня піў і ляжаў у сваёй будачцы, як хворы. А на трэці дзень, як бухнуў нямецкі знарад, дык і яго і будачку закапаў у зямлю. Як сасьню, дык аж плакаць хочацца. А сьніцца мне яго сьмерць вельмі часта.

Паня. Я не разумею, чаму вы так шкадуеце свайго сабаку?

Пісарэвіч. І то праўда: сабаку сабачча сьмерць!

Паня. Дзякаваць богу, што самі выбраліся з гэтага пекла. Нам ехаць было добра, а вам?

Пісарэвіч. І нам нішто: ехалі, сьмяяліся, жартавалі. Цеснавата крыху было спачатку. Людзі абляпілі цягнік, як мухі,—нават на буфэрах ехалі. Нічога, няшчасьцяў было мала, толькі на першай станцыі адзін старэнькі ўцякач сядзеў на прыступачцы, загледзеўся,—як трахнецца галавою аб жалезны нейкі стоўпік, зваліўся—і душа з яго вон. Ну, нічога, яго панясьлі на насілках, а кроў прысыпалі сьвежанькім пясочкам.

Паня. Ах, так... Хваліць бога, што з намі нічога дрэннага ня трапілася.

Пісарэвіч. А за Тулаю папсавала мне настрой другая прыгода. Па ўсім цягніку, з вагона ў вагон, вадзілі добрыя людзі нейкага хлопчыка, зусім маленькага. Ён шукаў сваю матку і плакаў. І ніхто ня ведаў, дзе яго матка падзелася... Дагэтуль чую сябе вінаватым!

Паня. Што вы, што вы, пане Пісарэвіч! Чым-жа вы тут вінаваты. Кожнаму трэба сваіх дзетак пільнаваць, а ня чужых. Пане Пісарэвіч, а якжа вашы дзеткі маюцца? Што гэта іх ня відаць?

Пісарэвіч. Мае хлопчыкі? А нічога, нічога, дзякую! Аддалі былі іх у прытулак,—хоць Стася й дужа не хацела, але крута нам прышлося. Дык нічога! Красьці троху няліся там, навучыліся ад сяброў, а цяпер во з намі жывуць, бо прытулак зачыніўся,—нічога, добрыя хлопчыкі... Так і жывём. Дамоў ехаць зьбіраемся, бо ў гасьцёх, кажуць, добра, а ў сваёй хаце яшчэ лепей!

Паня. Бальшавікі, бальшавікі праклятыя да гэтага давялі. Да іх нішто было, а цяпер ні ў чым няма парадку. Да бальшавізму нам з мужам, можна сказаць, нішто сабе жылося, а цяпер ня тое, што францускай булкі,—хлеба белага і ў вочы ня бачым даўно. Ах, як цяжка жывецца, і ўсім, усім так.

Пісарэвіч. Праўда, праўда! І я вось ніяк не зараблю на гнілую бульбу. Шыю-шыю, а каб спагнаць ахвоту з бульбяных бліноў—дык аніяк. Ну, нічога! *(Яшчэ весялей пяе).*

Бульбу пякуць, бульбу варацъ,
Бульбу ядуць, бульбу хваляць!

Паня. Шчасьлівы маеце характар, пане Пісарэвіч. Я не магла-б пяяць у вашым становішчы.

Пісарэвіч. Гэ, а чаго мне журыцца? Я шыю боты, жонка мяшкі выпыльвае, дзеткі ў школе...

Паня. А ў якой школе?

Пісарэвіч. У школе жыцьця!

Паня. Бальшавіцкай, значыцца? Многа яны там наўчацца!

Пісарэвіч. Дазвольце вытлумачыць, грамадзянка! На станцыі стаіць эшалон з чырвонаармейцамі, што едуць на белых, на фронт. *(Бярэцца за працу і адварачваецца).* Дык яны там цэльны дзень пільнуюць з місачкамі. Астаткі крупнічку, камочак кашы, скарыначка хлеба, селядцовы хвосьцік—усё на патрэбу чалавеку...

Паня. Ах, ах, ах! Бедная пані Станіслава! (*Прыкладае к вачом беленькую хустачку).*

Пісарэвіч. Нічога, усё добра будзе! *(Пяе).*

Хто быў нічым.
Той будзе ўсім!

Жонка *(Адчыняе дзьверы і з трудом уваходзіць у хату. У руках, у мяшочку, трошкі мукі).* Ізноў глотку дзярэш, а хворы, галодны. Ах, хто тут у нас?

Пісарэвіч. А вось табе зараз будзе сорамна за гэтыя словы: Я ня глотку дзяру, а песенькі пяю, душу весялю, даражэнькая!

Паня. Пані Станіслава!

Жонка. Ах, ах!

*(Цалуюцца, пасьля трохі плачуць, абціраючы вочы, адна хустачкаю, другая кончыкам трапачкі, і тады з падзівам, без асаблівай прыемнасьці аглядаюць адна адну).*

Паня. Я ўжо, пані Станіслава, замужам. Мой муж доктар Пшэпюркоўскі, ён лекарам пры бежанскім камітэце.

Жонка. А мы... *(Махнула рукою і абцёрла вочы).* Вось... напыліла на ўсю сямейку хлеба!

Паня. Падумаць толькі, падумаць! Праклятыя бальшавікі!

Жонка. А вось іхны абаронца! (*З злосьцю паказвае на мужа*).

Пісарэвіч. Яны маёй абароны не патрабуюць. І калі я бараніў іх?

Жонка. Ты? Заўсёды! У цябе няма вінаватых сярод гэтых душагубцаў, хамаў гэтых, арганізаваных хуліганаў. Яны невінаваты ў тым, што жонка твая ходзіць горш за ўсякую жабрачку...

Паня. Страшэнна! Страшэнна!

Пісарэвіч. Але-ж...

Жонка (*перабіваючы*). Што сам ты, інтэлігэнтны чалавек, за гнілую бульбу боты мужыком шыеш, патрэбныя каморкі падмятаеш,—яны невінаваты!

Пісарэвіч. Але-ж пачакай, дай сказаць!

Жонка. Досыць я начакалася! Прычакалася таго, што дзеткі мае, замест вучыцца ў клясычнай гімназіі, марнуюць час пад вокнамі салдацкага эшалёну, каб выпрасіць у гэтых хамаў кавалачак хлеба-а-а... (*Плача*).

Паня. Страшэнна! Страшэнна! (*Прыціскае к вачом хустачку*).

Пісарэвіч. Але-ж, Стасенька, пачакай! Дай сказаць!

Жонка. Чаго—пачакай? Новага ліха? Разумеюць яны слабоду? Выйдуць з вагону, „інтэрнацыяналам“ глотку дзяруць, а кідаюць у натаўп галодных дзяцей якую скарыначку недаедзеную і любуюцца, што дзеці, як галодныя псы, б‘юцца за тую скарыначку, за іхны аб‘едак...

Пісарэвіч. Але-ж кідаюць! Дзеляцца з дзяцьмі апошнім кавалкам, самі галодныя!

Жонка (*з непрыязьню*). У-у, ты ад гора з глуздоў зьехаў! Разумееш: ты не-нор-маль-ны!

Пісарэвіч. А даўней, калі мы кідалі свае аб‘едкі дзяцём беднякоў, дык я быў нормальны...

Жонка. Маўчы! Маўчы лепей!

Паня. Не, я-то ўжо бальшавікоў хваліць не магу. Галайстру гэтую, хвэ! І муж мой, доктар, цярпець іх ня можа...

Пісарэвіч (*устае*). Охо-хо... Выбачайце, грамадзянкі, але мне трэба выйсьці за фізыолёгічнай патрэбаю: гнілая бульба робіць часьцейшы кругазварот. (*Насьвіствае і выходзіць*).

Хто быў нічым,
Той будзе ўсім!

Жонка. Чулі вы, пані Ядвіга, што ён сказаў? Гэта інтэлігэнтны чалавек! Ён робіцца ненормальны... Горачка мае!.. (*Плача*).

Паня (*устае.*) Бедная вы, пані Станіслава! (*Цалуе яе*). Але выбачайце, пара ўжо мне ісьці. Як я рада, што мы ўбачыліся. Заходзьце да нас, пані Станіслава... Толькі я баюся запрашаць да сябе пана Пісарэвіча, бо яны пэўна пасварацца з маім мужам... Мой муж, як і ўсе парадачныя людзі, страшэнна ненавідзіць бальшавікоў...

Жонка. Дзякую, дзякую, пані Ядвіга. Так хочацца з інтэлігэнтнымі людзьмі пабачыцца, пагаманіць. А куды я з сваім ненормальным пакажуся? І хто ў нашых лахманох убачыць інтэлігэнтных людзей? Я вас падвяду трошкі, пані Ядвіга.

Паня. Не, не, ня трэба, дзякую... Нашто вам са мною па холадзе хадзіць... Я адна. Бывайце здаровенькі, пані Станіслава! (*Цалуюцца. Паня выходзіць*).

Жонка. Шчасьлівая пані Ядвіга... А я дажылася, што са мною парадачнаму члавеку ісьці сорамна. Гора маё! Гора маё! (*Ламае рукі і плача*).

Пісарэвіч (*прыходзіць: пяючы „Хто быў нічым“...*) А што, пашла ўжо гэтая лялька? Няўжо і да сябе запрасіла?

Жонка (*халярue*). Змоўкні, змоўкні, змоўкні з гэтай песьняй! Ты ненормальны!

Пісарэвіч. Стасенька, супакойся! Можа яшчэ й горай будзе, пасьпееш наплакацца... А ў мяне, брат, нічога ня вышла... Я зусім хворы...

Жонка (*іншым голасам*). Не палохай мяне, Алесь!

IV

Дзеецца ў хаце ў беднае бабы. Сама яна з дзяцьмі жывець у кухні. Пісарэвіч— хворы, каля яго жонка, доктар.

Доктар. Давайце яму лякарства, якое тут прапісана. А самае галоўнае: каб быў поўны супакой. Каб хворы бяз крайняе патрэбы і ня кратаўся зусім.

Жонка. А гэта-ж не страшная хвароба, пане доктар?

Доктар. М-м-м... не, пры супакоі, пры добрай ядзе, належным даглядзе... Але бывайце, мяне чакаюць іншыя пацыенты.

Жонка (*нясьмела і сарамліва кладзе яму грошы ў руку*). Выбачайце, пане доктар, болей ня можам, уцекачы мы...

Доктар (*насупліваецца*). Колькі тут? (*Лічыць вачыма*).

Жонка. Выбачайце, паважаны пане доктар! Уцекачы... Самі разумееце...

Доктар. Я сам уцякач, і не магу дарма лячыць пры ўсім маім жаданьні...

Жонка. Паночку, мы ня ведалі, мы думалі... Верце нам, у канец сышлі...

Доктар (*злуецца*). А мне якая да гэтага справа? І вы павінны разумець, што цяпер доктар дарма лячыць ня можа... Маглі ў комітэцкую больніцу завезьці вашага мужа, а не запрашаць доктара на кватэру, калі вы бедныя. Уцекачы... Чоррт!.. (*Выходзіць, стукнуўшы дзьвярмі*).

Жонка (*зьбянтэжаная*). Я-ж думала, досыць яму. Хто-ж іх ведаў, што яны цяпер так многа бяруць.

Пісарэвіч. Ат, кінь, Стася. Яму абы грошы. Ён, відаць, з гатунку тых, як муж тваёй калежанкі.

Жонка (*зьбітая з роўнавагі*). Дык гэта-ж і ёсьць сам пан Пшэпюркоўскі, лекар бяжэнскага комітэту.

Пісарэвіч. А-а?! Чаму-ж ты з ім не пазнаёмілася? Знаёмы і сам уцякач, гэта-ж: „пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся“.

Жонка. Не жартуй, Алесь! Якое-ж цяпер у нас можа быць знаёмства з парадачнымі людзьмі? Сорам прызнацца, хто мы ёсьць...

Пісарэвіч. Ах, пся крэў! Ну, доктар!

Жонка. Супакойся, Алесік, супакойся! Ах, ці хопіць у мяне на лякарства? (*Пералічае марачкі*). Пабягу ў аптэку.

Пісарэвіч. Ня пускай толькі гаспадыніных дзяцей сюды. Як пойдзеш у аптэку, скажы, каб не хадзілі сюды...

Жонка. Добра, добра! Ах, Алесік, я-ж цябе пакармлю спачатку. Скажы мне, можа хочаш яешаньку? Ад комітэцкай падмогі яшчэ маем колькі рублёў.

Пісарэвіч. Нашто мне твая яешанька? Лішнія выдаткі.

Жонка (*утупіла вочы*). Якія там выдаткі. Я невялічкую, з двух яек.

Пісарэвіч. Ну, добра! Але, Стася, і ты будзеш есьці са мною.

Жонка. Добра, добра, Алесік. Я зараз прыстрою. Пабягу яек пашукаю... (*Пашла*).

Пісарэвіч. А-ах... (*Стогне*). Вось калі-ткі, па праўдзе, быў конь, ды зьезьдзіўся. Няўжо памру тут на чужыне? А можа й лепей... Шкода толькі хлопчыкаў... Сапсуюцца тут. Але як памру, то ўжо з прытулку іх ня выганяць—і то балазе. А-ах... З сваімі дзяцьмі жыць ня прыходзіцца, а гаспадыніны сваім галузваньнем з розуму мяне зводзяць. А-ах, дзеткі, дзеткі... Няўжо памру? Яблыкамі мне часта пахне,—што-б гэта значыла? Скажу Стасі, хай прывядзе заўтра хлопчыкаў з прытулку: хачу з імі пабачыцца. Гм, няўжо памру?

Дзяўчынка (*калматая, худая, абшарпаная; спачатку выстаўляе галаву ў трохі адчынены дзьверы*). Пан! У вас быў доктар? Ён жыд?

Пісарэвіч. Быў, але ня йдзі сюды, Манічка, я хворы.

Дзяўчынка (*уваходзіць і бярэ рэцэпт*). Што тут напісана?

Пісарэвіч. Пакладзі рэцэпт. Можа-б ты пашла пакуль што назад у кухню?

Дзяўчынка. Гэта наша хата, а ня ваша.

Пісарэвіч. Мы вашай маме плоцім за яе.

Дзяўчынка. А мама казала, што вы не заплоціце, бо голыя вы, як бізуны. Ведама, уцекачы, палякі праклятыя.

Пісарэвіч. Што ты там разумееш... Пакладзі рэцэпт і йдзі ў кухню.

Дзяўчынка. Я хачу тут быць. Вы не забароніце, бо хата ня ваша.

Пісарэвіч. Стася! Стася! (*Дзяўчынка схапіла рэцэпт і ўцякае*).

Жонка (*прыбягае, запыхаўшыся*). Што, Алесік?

Пісарэвіч. Дзяўчынка схапіла рэцэпт і ўцякла... Кідаеш, Стася, абы-дзе.

Жонка. Ах, свавольніца! Я матцы пажалюся на яе! (*Пабегла, але дзяўчынка сама нясе скомканы рэцэпт і кідае*).

Дзяўчынка. Наце! Ня бачыла я вашых паперак, падумаеш!

Жонка. Ах ты, распусьніца! Навошта-ж пакомкала? (*Разгладжвае*), Ну, ідзі ў кухню, гуляй там, бо хвораму дакучаць няможна.

Дзяўчынка. А я не хачу. Хата ня ваша!

Пісарэвіч. Выйдзі вон, дзяўчынка! Ты мяне раздражняеш!

Дзяўчынка. А я не хачу. Хата ня ваша!

Пісарэвіч. Выйдзі вон, брадзяга!

Дзяўчынка. Я не брадзяга,—майго бацьку на вайне забілі за вас, праклятых.

Жонка. Ідзі, ідзі! (*Бярэ яе за плечы і выводзіць*). Бач, распусьціла язык, як карова.

Дзяўчынка (*наўмысьля крычыць*). Ай, ратуйце! бяжэнка б'ецца! (*Потым сьціхае*).

Пісарэвіч. Ну, скажэце! Вось так нумар! Яна мне ўсё нутро пераверне, гэтая жаба малая...Стася! Стася!

Жонка (*прыбягае*). Што, Алесік?

Пісарэвіч. Што ты там робіш? Кінь ты іх там, пасядзі са мною

Жонка. Што табе, Алесік?

Пісарэвіч. Прывядзі ты заўтра нашых хлопчыкаў з прытулку...

Жонка. Добра, добра... Я зараз яешаньку табе прынясу... (*Выходзіць*).

Пісарэвіч. Дзеткі мае любыя! і навошта мне было сварыцца на гэтую дзяўчынку? Што яна разумее, малая? (*Маўчыць, а з кухні чуецца дзяціны рогат*). Што такое? Ізноў нейкія штукі?

Жонка (*прыбягае знэрваваная*). Ну, што ты скажеш?! Ня хлопчык, а д'ябал! У самую скаўраду з яешняю скінуў з печы брудны чаравік!..

Пісарэвіч. Ах, шэльма! Вось гэта жарцікі! (*Сьмяецца*).

Жонка. Укінуў чаравік і заліваецца сьмехам на печы. Прост ня хлопчык, а д'ябал. Сапсаваў яешню...

Пісарэвіч. Аддай яму гэтую яешню, хай сам есьць, гад.

Жонка. Я табе другую сьпяку, Алеська. Ах, пракляты хлопчык!

Пісарэвіч. Што яны вінаваты, малыя: маці цэлы дзень ля вагонаў таргуе, а яны тут адны прост на галаве ходзяць.

Жонка. Вось і будзь тут супакойны... І калі-ж гэта ўжо мы павернем у сваю хатку? Хай яны тут згінуць з усім сваім, кацап'ё гэтае.

Баба (*раптоўна ўваходзіць у пакой і грозна надступае*). Хто гэта хай згіне? Хто гэта хай згіне, паны, скажыце вы мне? Га?

Жонка. Чаго вы крычыцё? Мой муж хворы, яму патрэбен супакой.

Баба. А мне супакою не патрэбна? Я вас пусьціла ў сваю хату як добранькіх, каб вы пад плотам дзе не прапалі, а вы што гэта выраб-ляеце? Га? Якое вы права маеце дзяцей з хаты выганяць? Нашто вы мне дзяўчынку маю біцё, га?

Пісарэвіч. Хто яе калі біў? Кіньце, вы...

Баба (*на жонку*). Яна біла! Што гэта такое?

Жонка. Я ня біла, а вам-бы трэба навучаць іх троху, а ня слухаць, што дзяўчынка набрэша...

Баба. Што? Сваіх дзяцей ідзеце ў прытулак вучыць!

Ж о н к а. Нашы дзеці ня кідаюць вам у яешню брудных чаравікаў.

Б а б а. А мае каму-ж гэта кідаюць!

Ж о н к а. А сяньня хлопчык мне ў яешню кінуў з печы брудны чаравік.

Б а б а. Я-ж яму пакажу, нягоднаму! (*Кінулася за дзьверы, дзе зараз пачынаецца страшэнны гвалт. Матка б'е, а хлопчык крычыць благім матам: „А мамачка, ён сам уваліўся! А мамачка, ня бiся!“*).

П і с а р э в і ч (*затыкае вушы*). Нашто ты казала? Нашто ты казала? Я не магу чуць гэтага крыку! Ідзі адбяры ў яе. Адбяры!

Ж о н к а. Алесь, супакойся! Ну, што я тут вінавата? Што мне рабіць! Ай! Ай! Ай!

Б а б а (*прыбягае разьюшаная*). А цяпер вон з мае хаты, палякі праклятыя! Каб і духу вашага тут не сьмярдзела! Зладзеі вы! З-пад чужой курыцы яйкі выбіраеце ды яешні сабе смажыце! Падумаеш, па-ны дужа вялікія!

Ж о н к а. Алесь, галубок, даражэнькі! Яна брэша, няпраўда, я ня брала, я на рынку купіла... (*Тупіць вочы, уцягвае галаву*).

Б а б а. Купіла пад чужой курыцай!

Ж о н к а. Няпраўда, Алесь, няпраўда! (*Плача*).

Б а б а. А што, нялюба слухаць? Паня такая! Мінулася вам панства. Вон з мае кватэры! Каб заўтра ўжо і вочы мае вас тут ня бачылі! (*Ляпнула дзьвярмі і крычыць у кухні*).

П і с а р э в і ч (*калі ўсё сьціхла*). Глупства! Завязі ты мяне, Стася у больніцу. Можа я палепшаю... А калі й памру, дык бяз гэтага гвалту... Эшалёну я ўжо не дачакаюся.

Ж о н к а (*плача*). Алесічак, што ты кажаш, як-жа я буду адна, з дзетачкамі, божа мой!

П і с а р э в і ч. Прасіся ў кухаркі ў прытулак, бліжэй к дзяцём. А можа бяжэнскі комітэт дасьць якое месца. А там эшалён пададуць, дамоў паедзеце...

Ж о н к а. Алесь, не жартуй! Што ты гэта кажаш?! Не краі ты мне сэрца, Алесь...

П і с а р э в і ч. Якія жарты...Аджартаваў я сваё. Не дачакацца ўжо мне эшалёну. Тут застануся...

Ж о н к а. Алесь, што ты мяне палохаеш? Эшалён пададуць, дамоў паедзем...Дзеткі гадаваць будзем...

П і с а р э в і ч. Ня плач, Стася. Ну, паедзем...Будзем гадаваць...Адзін Пісарэвіч памрэ, два Пісарэвічы вырастуць. Эт, нічога! Добра...усё добра будзе...

Ж о н к а. Алесь, не жартуй! Падумай, што ты кажаш!

П і с а р э в і ч. Найлепшы быў-бы жарт, каб я памёр тут да адпраўкі, а то нараблю табе клопату ў дарозе...Ах, трудна мне, Стасенька, трудна! А вось, бачыш, ня плачу. І ты ня плач...

## V

Дзеецца на эвакуацыйным пункце ў Воршы, у бежанскім бараку пад лесам. Поўная стадола і палаці, і падлога ўцекачоў. Ляжаць, сядзяць, ядуць, стогнуць, шукаюць у галаве—бабы, дзеці, старыя мужчыны. Скрозь—лахманы, бяда, пакута. Пры дзьвярох стаіць нямецкі жаўнер з цесаком. Адзін маладзейшы ўцякач вядзе другога ўцекача—сьляпога дзеда, і садзіць на падлозе пры жаўнеру.

Сьляпы. Дык гэта мы ў вагон прышлі, братку?

1 ўцякач. У вагон, дзядзька. Вось тут сядзі і чакай адпраўкі. *(Сьмяецца).*

Сьляпы. А чаму-ж мы нікуды не ўзьлязалі, усё па роўнаму йшлі?

1 ўцякач. Гэта-ж нямецкія вагоны такія. Ну, дык сядзі тут і маўчы. (*Сам ідзе к 2-му ўцекачу, садзяцца побач і гамоняць*).

2 ўцякач. Што гэта—дурны?

1 ўцякач (*ціха*). Не, ён сьляпы. Блукаецца і начальству і ўсім дакучае, пытаецца, калі паедзем. Дык я яго і пасадзіў: хай думае, што ў вагоне.

2 ўцякач. Камэдыя, як хто ня ведае.

1 ўцякач. Адзін, стары дый паверх—сьляпы, адбіўся ад свайго эшалёну. Бяда мне з ім. Мы землякі.

Сьляпы (*з свайго кутка*). Дзякуй табе, добры чалавеча, што ты ў вагон мяне пасадзіў, але чаму-ж гэта марудзім, чаму ня едзем?

1 ўцякач. Чакай, чакай там, дзядзька, як прыдзе пара—паедзем.

Сьляпы. А па мне—хоць-бы й зараз ехаць.

2 ўцякач. Дзівак ён! Не, старэнькі, яшчэ ня зараз прыдзе гэтая пара...

1 ўцякач. Еду-еду я ад самага Тамбова і што бачу: па ўсіх вакзалах страшэнны бруд і непарадак. Людзі, як быдла, як вось і мы цяпер валяюцца на голым ды запаскуджаным памосьце. Цесната, бесталач, гарачае вады няма. Ня дзіва, што людзі хварэюць ды паміраюць у вагонах і на вакзалах, і ў бараках, як тыя сьвіньні ў пошасьці.

2 ўцякач. Есьці, братка, няма чаго людзём, во бяда!

1 ўцякач. І я тое кажу. А тут-бы во пашоў куды, можа дзе зарваў-бы што,—калі ня купіў, дык хоць-бы выпрасіў,—а ён стаіць пры дзьвярох і ня пускае. Куды ні ступі, усё „цурук!“ ды „швайн!“—крычаць на нашага брата, як на дурную авечку.

2 ўцякач. Няўжо-ж няма способу вырвацца з гэтага пекла,—і прыдзецца, апрача таго, два тыдні ў карантыне сядзець?

1 ўцякач. На немцаў няма, братка, способу,—сядзі... (*Чуваць выцьцё ў другім пакоі*). Ах, як галосіць... Чуеш, галосіць?

2 ўцякач. Гэта адзін памёр начою, дык пляменьніца галосіць З пляменьніцаю ехаў. Слухай!

Голас. А мой дзядзюхна, а мой родненькі! Поўненька тут людзей, толькі ня ў госьцейкі прышлі к табе, няма нікога і разьвітацца з табою.

Не на сваёй лаўцы ты лёг, дзядзюхна! Мой міленькі, мой сухлявенькі! А ты так лёгка адзеты, і табе ня холадна... Не пачакаў ты нас, паляцеў наўперад за ўсіх даведацца, што там робіцца ў роднай хатачцы... Хто-ж цябе там ад марозу прытуліць? Там-жа, кажуць, усё спалілі, усё паразьбівалі. А мой дзядзюхна! Ці ты за што загневаўся? Можа калі дрэнна паслала, нячыста памыла... А ў мяне-ж было поўна работы, аб аднэй думала, на другую забывалася... Намучыліся мы, нацярпеліся на чужой староначчы, нагаладаваліся, намёрзьліся... А ты і пачакаць трошкі не захацеў... Паляцеў адзін, мой дзядзюхна...

1 ўцякач. Пайду, пагляджу...

2 ўцякач. Ня ідзі, ня пусьціць! (*Паказвае на жаўнера*).

1 ўцякач. Пайду, хоць ласкавае слова ёй скажу. (*Ідзе*).

Немец. Цурык! (*Варочае яго назад*).

2 ўцякач. Вярніся, хай ён падавіцца сваім цуруком.

1 ўцякач (*жаўнеру*). Пусьці, братка, хай я ёй ласкавае слова скажу.

Немец. Цурык! Швайн! (*Уцякач варочаецца*).

2 ўцякач. Ты на яго „братка“, а ён, ведаеш ты, што ён на цябе сказаў: „назад, сьвіньня!“

1 ўцякач. Чаго-ж гэта ён так раззлаваўся?.. Ой, што гэта за гвалт, што там такое, братачка мой?

Жонка (*ляціць, як шалёная. Немец яе ловіць*). У мяне муж памёр, дзеці галодныя! Не чапайце мяне! (*Плача*).

Перакладчык (*у дзьвярах*). Мадам, усіх трасуць, і вас мусяць агледзець. (*Кажа нешта немцу панямецку і выходзіць назад за дзьверы*).

1 ўцякач. Панечка! Гэта яны думаюць: можа вы золата ў спадніцу зашылі ці якую газэціну, дык мусяць трэсьці. І шпіёнаў ловяць так. Усіх трасуць...

Жонка. Я не капіталістка, не бальшавічка, не шпягоўка! Нашто мяне трэсьці? У мяне муж учора памёр, дзеці галодныя... Пра гэта ў мяне ніхто ня пытаецца! (*Сядае і плача*).

2 ўцякач (*1-му*). Чаму-ж гэта яе ня трэсьлі адразу, як прыехала?

1 ўцякач. Мусіць, паўважаліся, што ў жалобе. У панечкі муж памёр у вагоне, добры такі чалавек быў, яшчэ перад сваёю сьмертухнаю ўсіх нас разьвесяліць хацеў: „Нічога, кажа, усё добра будзе“... Аж во яно добра!

2 ўцякач (*жонцы*). Грамадзянка, ня бойцеся нічога: яны завядуць вас у сакрэтную каморку, і нямкіня там вас агледзіць.

1 ўцякач. Пакарыцеся, панечка.

Жонка. Не чапайце мяне! Ня рушце мене!

2 ўцякач. Калі ў грамадзянкі брыльлянтаў няма, чаго-ж баяцца?

Жонка. Мужа без абраду, бяз труны, як сабаку, у пясок закапалі, дзеці з голаду пухнуць, а ў мяне брыльлянты... Хто гэта сказаў? Ты? (*Кідаецца на яго, як тыгрыца*). Сволач ты, дрэнь, бальшавіцкая морда!

2 ўцякач (*уцякае*). Што вы гэта, пані? Я-ж так сабе сказаў, прыкладам... Я бачу, як вам баліць. Усе мы няшчасныя.

Жонка.. Сволач, сволач! „Усе мы няшчасныя"... Пайду глоткі дзецям перагрызу, сябе заб'ю,—тады будзеце ведаць, якая вам няшчасная... У-у-у!.. (*Вые, рагоча і выбягае міма немца, аж ён зьбіўся з панталыку*).

2 ўцякач. Усіх-жа трасуць, хто ні едзе. Праўда, і ўчора з аднэй паняй, што з намі ехала, тое самае было. Крычала, як рэзанае парасё а тады бразнулася на зямлю, замалаціла галавою аб падлогу—і зрабілася быццам няжывая. Дык у тэй-жа такі перад гэтым брыльлянты з спадніцы выпаралі. А гэта чаго?

1 ўцякач. З гора, бедная, заходзіцца. Як-жа: мужа ўчора толькі закапалі. Я за ногі нёс яго ў яму—лёгкі, высах, як трэска. Панскае пароды, відаць, быў чалавек, а да чаго дашоў. Двух хлопчыкаў і во яе асіраціў, пакінуў без пары.

2 ўцякач. Дык паны ў няшчасьці заўсёды болей халяруюць, чымся просты чалавек. Вось ёй баліць, што без абраду пахавалі, а яму што? Ня ўсё аднакова целу гніць—у труне ці бяз труны?

1 ўцякач. Ну як-жа, братка; і мёртваму свая чэсьць належыцца.

2 ўцякач. А як я цяпер сьвету паглядзеўшы, дык памойму—усё роўна чалавеку, ці так ці гэтак. З зямлі і ў зямлю. Што чалавек, што чарвяк... Скача, скача, як блыха, заваліцца—і па ўсім.

1 ўцякач. Але-ж, братка, чалавек-жа ня блыха!

2 ўцякач. У чым ня блыха, а ў чым дык зусім, як блыха!

1 ўцякач. Не вярзі ты братка, пустое. Будзем во лепей думаць, як-то прыме нас ізноў да сябе родная старонка. Як цяпер разжывацца на голенькім месцы?..

# БАТРАЧКА І ЛЕНІН [1])

I

За што мяне судзіць
Вы будзеце, паны?
Пакіньце вы чудзіць.
Ці можа вы п‘яны?
За мной хоць век жыцьця,—
Душа мая крыштальна;
Ад злыбеды біцьця
Яна, як накавальня,
Ня покнула—трывала.
Яе прысуд ваш не застраша.
А думкі—пальцы вашай
Душы пустой—
Напракудзілі нямала,
Балотныя яны.
Ня рушце-ж вы душы маёй!
    За што, паны,
Мне слугі вашы табалой
Стапталі цела працавітае,
Спаганілі мазоль батрачкі—
Мэдаль адбіты
Працаю найміткі штодня?
    Я не прашу ў вас падачкі
Ні ласкі—
Вы для мяне ні ворагі і не радня,
А цені, маскі
Жудасных і прошлых дзён.
Дык што мне ваш закон!
Ад пабояў я хворая
Ды ўся паранена.
Душа, аднак, бадзёрая,
А вопратка—рваніна.

---

[1]) Верш гэты надасланы з Заходняе Беларусі; ён адбівае ў сабе закардонную сытуацыю барацьбы і настрою. *Рэдакцыя.*

II

Змалку, як рыба аб лёд,
Білася з нэндзай і голадам,
Каб хоць скарыначку ў рот,
Не акалець-бы ад холаду.
Працу і сілы мае
Краў пан штодня рукой белаю,
Клаў у палацы свае,—
Грабіў ён чэлядзь згалелую.
Пухла з бясхлебіцы я,
Бацька і маці зваліліся...
Доля сіроча мая—
Красьці, аднак, не манілася.

III

Чысты паніч цёмнай ночаю
Хітра пакусай завабіў.
Эх, гордасьць, славу дзявочую
У рванай батрачкі аграбіў.
Што-ж... а далей рэч вядомая—
Нехаця сына прыдбала.
І непатрэбнай нікому я,
Лішніцай, блудніцай стала.
На бездарожжа на лютае
Выгнаў паніч ў непагоду,
З дзіцяткам родненькім скутую,
З помстай да панскага роду.
Слухайце ўважна, судзіцелі:
Час залячыў болькі, раны,—
Дык не згарэў двор крыўдзіцеля,
Чэрап ня быў пашчапаны.

IV

Ой, трудна бяздомнай вялося—
Пад тынам жыла, начавала,
Дзіця мне дадзела, ўпяклося:
„Дай есьці, мамулька“, крычала.
У адказ калыханачку пела
І голад двайны я цярпела.
У каравы лахман свой жабрачы
Сыночка празябнута цела
Туліла і хухала з плачам.
З мальбой на прахожых глядзела.

Такія, як я, спачувалі,
Паны—дык здалёк абміналі.
За тое, што хаты ня мела,
Была комам брудных анучак...
За то, што за ўсіх я цярпела,
Што нэндза і блуд мой іх мучыў,—
Абодвух за краты густыя
Укінулі людзі благія.
Усё, што маглі, адабралі:
Бацькоў, чэсьць, здароўе і волю.
І быццам яшчэ вытыкалі
— Няўжо ёсьць ахвота жыць болей?
Ня кончыла я самагубствам.
Прашло і здаецца ўсё глупствам.

V

Каб вы бачылі, каб чулі,
Вось дзе быў дзяцюк удалы.
Ні яму на мысьлі гулі,
Ні дуронствы. Строгі, сталы,
Сам чытаць, пісаць асіліў.
Ўсё аддаць гатоў быў маці.
Вельмі-ж дружна мы ўжо жылі.
Добра ўспомніць тут, прызнаці:
Ня любіў паноў да сьмерці—
Перад панам ці начальствам
З галавы каб шапку зьдзерці—
Дык ніколі. Ён з удальствам
Словам, дзелам быў, дзе трэба.
Бараніў лапцюжных, кволых,
Дасьць кусок апошні хлеба.
Ня згінаў у горы голаў.
Але стукнула чорна гадзіна.
Злой душы, бы жыгала, язык—
Болей зьлейшаму пану на сына
Насычэў, быццам ён бальшавік.
І з абоймаў пяшчотных, матчыных
З болем вырвалі ноччу глухой
Груганоўымі кіпцямі сына,—
Як успомню, стаіць прада мной.
Ён зьяўляецца мне сьветлай хмаркай.
Я сьпяшу прытуліць той прывід,
Але-ж гора: ён чэзьне так шпарка,
І ізноў сумам сьвет апавіт.

Знаць, забілі жыцьцё веснавое.
Што ім мукі батрачкі якой!
Я-ж, сыночку, ня мсьціла за двое,—
Ня ўбівала мазольнай рукой.

VI

На чужым, на панскім полі
Працавала, як мурашка,
Без надзеі, без патолі.
Трэба жыць, хоць трудна, цяжка.
Ад цярпеньня ды ад гора
Лік днём, месяцам згубіла.
А як часам сьцісьне змора,
Дык я сьмертухны прасіла.
І ня думала ніколі
Ў гэтай нэндзы, паняверцы,
Што й мяне чакае воля,
Што к жыцьцю заб'еццa сэрца.
Раз на двор з стральбой напалі
З помстай пану хлопцы з вёскі.
Ну і білі-ж, рабавалі.
Не шкадуючы ні трошкі.
Згінуў пан-бы ў страшных муках
І дабро-б яго спылала,
Каб я ў гэтых стуках-груках
Паліцэйскіх не пазвала.
Посьле бойкі іх скруцілі,
Да крыві вяроўкі ўелісь.
Да бяспамяці набілі,
Самі п'янстваваць заселі.
Варту мне здалі з ахвотай.
Частаваў пан рознай стравай,
На пагібель ўсёй галоты
Выпіць чарку даў ласкава.
А нявольнікі снапамі
Ў яме звалены ляжалі,
Злосна бліскалі вачамі,
З болю вылі і стагналі.
— Маці, рэзані па путах
(Так адзін з натугай кажа),
Хай заместа нас пан люты
Тут з прыслужнікамі ляжа.
Не ўцячэ ад нас нягодны,
Штых, нагайка не паможа.

Ты і мы—сям'я працоўных,
Наша сіла пераможа.
— Кінь, кажу, чаўпсьці пустое,
То Антыхрыставы штукі.
Ўсё ён выдумаў на тое,
Каб людзям надбавіць мукі.
Як і чым асіліш, сынку.
То-ж за імі войска, грошы.
Змнуць, як мялі, бы былінку,
Скрышаць вось, як ліст прысохшы.
Нават вожыка рукамі
Голымі ніяк ня возьмеш.
Век былі паны панамі.
Лобам сьценкі не праломіш!—
... Мне адказ—прысуд збавенны
Далі мучальнікі тыя...
Дрэнь цяпер мой боль страшэнны
Ды намеры вашы злыя.

VII

Як ударылі словам сталёвым,
Іскры пасыпаліс з цёмнай душы.
Адрадзіла бадзёрасьць абновы
Думкі, лятункі ад будняў, глушы.
І здавалася мне, быццам чую
Голас ня іх, а свой сказ нутраны.
Што сынкоў мілых, родных пільную,
Каб падушылі пасьля іх паны.
Запякло ў сэрцы з жалю балесна,
Раны іх сталі мне ранамі быць.
Штось зьвязала нас моцна, сумесна—
Разам памерці, ці разам нам жыць.
Бо як-жа, кажуць, волат Ленін
Збудаваў дзяржаву для рабочых,
У якой трымаюць упраўленьне
І батрачкі—ўмела ды ахвоча.
Раз сталася ўжо слова дзелам,
Раз змаглі там—лопнуць тут таксама.
Аб гэтым нават сьніць ня сьмела,
Што вяльможных расьцярушаць „хамы“.
А ўсё ты, цемната, забітасьць!
Бы за плот сьляпая—я трымала
Падол паноў—ім працавітасьць
І пакору за дваіх давала.

Дзяржавіць я хачу і мушу—
Апраўдацца трэба прад народам.
Ачысьціць вольнай працай душу,
Мужычы грунт ад недародаў.
Пявучай працай прамяніся,
Жыцьцё заняпаўшых кутоў.
Дзень кожны зьвіні, адзавіся
Здароўем работы і слоў.

VIII

Прышла да пана ды кажу
(А банкет быў у разгары):
— Эх, дрэнна пану я служу,
Бо замест навукі, кары—
Здароўе, сілы аддаю
На распусту, роскаш пану,
А на пагібельнасьць маю.
Дай нізрынем лад паганы.
Шпурнём час нэндзы, крыўды, сьлёз,
Шкодны ён для нас, для сьвету—
Крывёю жыў ды з помсты ўзрос.
Дык ня час тут на банкеты.
Дзялі зямлю, саху бяры,
Слухай грамады загаду,
Старыя межы ты ўзгары,—
Будзеш дзякаваць за раду.
Калі-ж сам чалавекам быць,
Працай жыць з людзьмі ня хочаш,
За панствам станеш зноў тужыць,
А папоўскія мець вочы,
Жраць воўчым горлам, як калісь,
То ў нагах шукай збаўленьня
Пакуль у скуру не далі
Тыя, з кімі я і Ленін!
Я путы панскія цяпер
Скінула з паўстанцаў жвава.
Час, каб рэволюцыянэр
Ладзіў лад, заводзіў права.—
Ох, біў-жа мяне ашалелы!
Кроў брызгала кату на твар.
Шыпеў ад нянавісьці белы
— Бяры вось падзяку і дар.
Забіць лёгка мог—гад праклятьі,
Аднак, ні тады, ні цяпер

Ні ён, ані допыты катаў
Ня вырвуць мой цьвёрды намер.
Ня вырвуць да волі імкненьне
І веры у моц нашых рук,
Якімі мы зьнішчым з карэньнем
Лад вызыску, зьдзеку, прынук.
Паўстанцы з ратункам пасьпелі—
(Будзь гэта навукай для вас!)—
Каб людзі атруты ня мелі,
Забілі нягодніка ўраз.

IX

Расказала я ўсё ад пачатку,
А канчаткам хай будзе ваш суд.
Можа кінець у „татаву хатку“,
Можа вынясе сьмерці прысуд.
Доўгі час па дрыгве я брадзіла.
Быў няпэўны і зыбкі мой шаг.
І дарма надрывала я жылы.
Выхад гору шукала ў сьлязах.
Толькі ён, Ленін, бацька працоўных
На грунт цьвёрды паставіў мяне,
Каб узьняцца магла веры поўна
К недаступнай для вас вышыне.
Знала мукі, пакуту, цярпеньне,
Зло змагала дабром у жыцьці.
Вам прасіць у мяне выбаўленьня,
Ня судзіць па бязглуздай стацьці.
Каб для вашай душы вушы сталі
Бы раскрытыя дзьверы, праход,
Чуйце голас мінулае далі,
Скуль гразяць вам мае сьлёзы, пот.
Каб раскрыліся цёмныя вочы,
Для душы, каб ім вокнамі быць,
Дык глядзеце на шлях мой рабочы,
На агонь, што у сэрцы гарыць.
Што-ж судзеце, аднак, адзначаю,
Не герой і ня шышка я ёсьць.
Грамады часьць—сябе называю,
На зямлі я ня вечна, а госьць.
Толькі ўчынкі мае векавечны,
Бо ўзрасьлі з працы цела, душы—
Не нябесныя, а чалавечны.
Імі дуж пераможац-мужык.

Пасьля Леніна хто ня прызнае,
Што для мудрасьці лад—родны брат.
Што рабочая моц паканае,
Хоць ня мае аружжа, гармат.
Хто пярэчыць, той хоча, знаць, сонка
Альбо час затрымаць у бягу.
Ці машыне, што прэцца так гонка,
Падстаўляць з злоснай мэтай нагу.
Бажавольнік такі сьмехатворны,
Ён ні вораг, ні грозны сілач,
Ён ні шэльма, ні белы, ні чорны,
А дурны, як з асіны таўкач.

X

У Заходняй Беларусі гэткі суд,
Панскі суд канчаецца расстрэлам
Тым, хто хоча скінуць мулкі іх хамут
Ды апека іх астачарцела.
Драчка загрудкі валтузіць беларус
Окупанта, што налёг з-за Буга.
Не адзін склаў косьці барацьбіт-гарун;—
Прагавіт на трупы пан-падлюга.
Ня зьлічыць тут за Савбеларусь ахвяр
Па астрогах, перасыльных, пушчах.
Марш хаўтурны і сяброў прамовы жар
К ім няведамым ніяк ня луча.
На прадсьмертны іх бунтарскі заклік, бой
„Ўра“ ня крыкне ані Кім ні Акцябрына.
І ня прыдуць саветчане табалой
На магілу сумнай гадавінай.
Што-ж, памерці добра, нават трэба
За то, што шляхам вечнасьці ідзе.
Бо сапраўды-ж мала толькі хлеба
На творчы рух працоўнай грамадзе.
Лёгка паміраць з чырвоным сьцягам—
За ім мільёны, ён пабеды знак.
Побач ворага пракляцьця, зьвягі,—
Легэнды, песьні ткуць для тых ваяк.

XI

Штогод, як стукне студзень,
Ў дзень гадавін сьмерці Леніна,
Калі на зямелькіны грудзі
Сьнег па калені
Ляжа падушкай пуховай,—

Тады на магіле батрачкі,
Нашай змагаркі вясковай,
Можна убачыць ня зьвяўшай
Радосту[1]) чырвоную,
Бы з неба упаўшай,—
Бо ня знаць, каб к магіле
Заслужонай
Сьляды падхадзілі.
А шпегі і ўсе служкі паноў
Праз пыткі і кроў
Хочуць дайсьці, хто радосту
Прыносе.
Баяцца ўзросту
Бальшавізму, бо пакосе
Іх чорныя рады.
Аднак, ніяк не давялося
Зымаць віноўніка бяды.
І так за гадамі гады
Выходзяць у вечнасьць чаргой,—
Магілу сьняжком пабялёную
Харошыць радостай чырвонаю
Сам Ленін студнёвай парой.

---

Так заместа вянка для замучанай
Злажыў легэнду ўдзячны люд,—
Барацьбой ён з батрачкаю злучаны
Насупроць панска-польскіх пут.

---

1) Радоста—садовая роза.

## ПАМЯТАЙ...

**А. Гурло**

Памятаю ліпнёвыя ночы я —
Быццам учора былі яны,
Тады радасьць лілёва-дзявочая
Запляталася ў косы вясны.

Памятаю і водары кветак я
Ды ліпнёвыя ночы і дні,
Калі сэрца, вясною сагрэтае,
Пачынала у грудзях званіць.

То пара была надта прыгожая —
Я ня ведаў—што гора і сум;
А падкралася нешта варожае
І адцяла дачасна красу.

І паўстала вось здань парыжэлая,
Пазірае ў асеньнюю твань.
Мара, ў сэрцы маім заімжэлая,
Ўсе-ж ня хоча забыць хараства.

## НУ, ЗАСЬМЕЙСЯ...

**А. Гурло**

Ну, засьмейся, засьмейся ты, сэрца!
Сваім сьмехам са мной падзяліся,—
Няхай ведаюць ўсе, што жывецца
Мне цяпер весялей, як калісь.

Я калісь-та часамі праз сьлёзы
Выцінаў сваю песьню паволі,
А цяпер, як цьвітуць вербалозы,
Маё сэрца, сябе не няволь!

Як сьмяяцца, дык сьмейся ты шчыра,
А з табой засьмяюся і сам я.
Ўжо мурожацца далі і шыры,
Ўжо вясновая ўсходзіць краса.

І брынчаць ужо новыя струны,
І хвалюецца новая радасьць.
Дык грымі, маё сэрца, пярунам
Там, дзе сыпаўся холаду град!

## ЗНОЎ Я ТУТ

Р. Мурашака

Па палетках,
паплавох,
лясох
Праходжу я.
Дожджык дробна-дробна серабрыць
Туманом-імгою агароджу,
Вёску кволую й радзімы—явары.

Доўга швэндаўся я,
доўга па далёку
вандраваў, забыўшы аб табе...
Па гарадох я ночы-дні галёкаў...
У жыцьцёвай падаў барацьбе.

Падаў...
Уставаў,
ішоў,
і зноў я падаў...
Целу сілы адмаўляліся служыць...
О! Я сам сабе здаваўся гадам...
Падыходзіў да апошняе мяжы
. . . . . . . . . . . . . у жыцьці.
Але...
Жыцьцёвая
рашучасьць
і жаданьне
Пазмагацца і яшчэ хоць раз
Паўзірацца на цябе, бо здань твой
Уздымаў мяне, а твой выраз
У ваччу яскравіўся,—ўзрасьлі, перамаглі.

Ідзу...
Палеткі...
Паплаўцы...
Лясы растуць...
Сэрца пачынае моцна калаціцца...
Вёска родная!.. Я зноў у табе, тут!

# СОНЭТ

**П. Трус**

Над кубкам возера шліфована-шкляным,
Пад ветравей між кросен багавіньня
Лілеі плакалі у хвалях сініх,
Ў прадоньне цёмнае ўглядаліся яны.
А плыньню кволаю навеяныя сны,
Як вобразы далёкіх успамінаў,
Вянкамі слаліся над сплеценаю цінай,

Дзе усплывалі водгукі вясны.
Так кветкі гінулі на жвірыстым загоне,
Расой крынічнаю упоеныя сёньня
Прыгожа-стройныя на волі расьцьвілі.
І воды чыстыя жыцьцёвых пераліваў
Змываюць цьмянае з грудзей зямлі,—
Губляюць цень на дне вякоў бурлівых.

65

# Я ЖЫУ

**Аркадзь Моркаўка**

Мільёны год таму назад я жыў...
Яшчэ зямля, ад сонца адарваўшысь,
У згоду лёсу астывала,
Як сьлед па попеле мой вырысы лажыў
І зорка ў сэрцы начавала...

Вугольлі, помню, тлелі каля кучы
Каменьня вострага.
Я падышоў да іх,
У попел ногі палажыў
І крыкнуў першы раз у вушы гучна:
—Жыў!—
І рукі грэў,
І ў першы раз з грудзей памкнуўся сьпеў,
Мой сьпеў!..

А дні ішлі звычайнай чарадою.
Я вартаваў іх.
Я быў першы,
Хто з задзіўлёнасьцю сачыў за грамадою
Хмар сьвінцовых.
Тады-ж і вершы
Зароіліся ў сэрцы, сэрцы новым...

Калі-ж мільёны зор выходзілі на пашу
І мігаценьнем роўным вабілі у глыб;
Калі зямлю цяперашнюю нашу
Маланкі секлі, быццам дровы:
Калі зара ружовіла абшары,—
Я пазіраў, як талі хмары,
Я—дзівіўся,
І—стромы чулі мае словы—
Я—маліўся...

Вякі плылі, бы ціхая вада.
Я сёньня—ўнук. Я заўтра—дзед.
Я—грамада...
Пясок Эгіпту мой хавае сьлед,
Дзе я пастроіў піраміды.
Я--раб... Мае балелі рукі,
Мяне тапілі акіяны мукі,—
Я-ж абышоў зямныя кругавіды,
Стварыў мільёны дзіў
І—сам дзіўлюся...
Я—жыў,
Але нікому не малюся.

# ФЭДЭРАЦЫЯ ЦІ ЦЭНТРАЛІЗАЦЫЯ?

**Проф. М. Даўнар-Запольскі**

*(Зарыс з галіны ідэолёгіі дэкабрыстых)*

У цяперашні юбілейны год, калі ўспамінаюць аб дзейнасьці і паўстаньні дэкабрыстых, было-б зусім натуральным высьветліць адносіны дэкабрыстых да Беларусі. Але гэта задача не набывае для нас глыбокага гістарычнага інтарэсу, паколькі дзейнасьць дэкабрыстых мае невялікую сувязь з Беларусьсю, з яе тэрыторыяй і народам. Сярод другарадных яе дзеячоў, асабліва сярод членаў „Таварыства Аб'яднаных Славян" („Общество Соединенных Славян"), праходзяць прозьвішчы, як відаць, беларускага ці украінскага пахаджэньня, але працавалі гэтыя асобы на Валыні, напр., Глінка, як відаць, з смаленскіх дваран і інш. Сярод членаў „Польскага патаемнага таварыства" („Польского тайного общества") ёсьць некалькі прозьвішчаў беларускіх паноў (Празора, Хадкевіча, Крыжаноўскага). Але гэтыя члены дзейнічалі ад імя польскага таварыства, знаходзячыся ў сувязі з Варшавай. Такім чынам, біографічныя шуканьні не далі-б грамадзка-цікавых вынікаў. Праўда, войска царскае гвардыі стаяла ў 20-х гадох у беларускіх гарадох. Так, Тызэнгаўзэн стаяў з сваім палком у Бабруйску. Тут таксама быў паручык Бястужаў-Румін. Сярод меркаваньняў дэкабрыстых маецца проэкт паўстаньня ў Бабруйску ў часе агляду войск Аляксандрам I, які меўся быць утворан. Але гэты проэкт зьяўляецца параўнальна скромным эпізодам. Галоўная кватэра гвардзейскага корпусу ў 1821 г. знаходзілася ў Менску. У восень таго самага году тут жыў Мікіта Мураўёў. Тут ён пачаў пісаць свой проэкт конституцыі. У наступным годзе Мураўёў быў у Лідзе, дзе ён сустракаўся з князем Абаленскім. У Менску-ж тады знаходзіўся палкоўнік Нарышкін. Як відаць, большыя адносіны да Беларусі мог мець дэкабрысты Лукін, які служыў у Літоўскім корпусе, а таксама Глінка, што паходзіў ад смаленскіх дваран.

Але справа ў тым, што да гэтых часоў нельга ўлавіць, ці мелі дэкабрыстыя які-небудзь уплыў на беларускае грамадзянства, ці засталося якое-небудзь ураджаньне ад іх дзейнасьці ў мясцовасьцях Беларусі. На гэтае пытаньне, мусіць, прыдзецца адказаць адмоўна раней за ўсё дзеля таго, што гвардзейскія афіцэры, як відаць, адчувалі сябе чужымі сярод

мясцовага апалячанага дваранства. Мы ведаем толькі, што афіцэры ў часе нудных для іх стаянак на Беларусі шмат чыталі, і гэтыя часы яны часта ўспамінаюць, як пэрыод росту свае палітычнае сьвядомасьці.

Такім чынам, сувязь дзейнасьці дэкабрыстых з Беларусьсю зьяўляецца вельмі малапрыкметнай. Такія разважаньні можна вывесьці ва ўсякім выпадку на падставе дагэтуль вядомых даных.

II

Але ўсё такі ў ідэолёгіі дэкабрыстых ёсьць адно пытаньне, якое мае вялікую цікавасьць і для беларускае грамадзкасьці. Нас ня можа ня цікавіць пытаньне аб тым, як прадстаўлялі сабе гэтыя рэволюцыянэры з асяродзішча вялікарасійскай інтэлігэнцыі і вышэйшага дваранства будучы лад дзяржавы ў выпадку перамогі рэволюцыі. Гэтае пытаньне само-па-сабе зьяўляецца вельмі цікавым і гэты бок ідэолёгіі дэкабрыстых набывае для нас інтарэс асабліва ў цяперашнія часы.

Пры вывучэньні палітычнай ідэолёгіі дэкабрыстых трэба мець на ўвазе цэлы шэраг акалічнасьцяй, якія вызначалі характар іх ідэолёгічных пабудаваньняў. Паводле свайго пахаджэньня дэкабрыстыя ў агульнай масе зьяўляліся прадстаўнікамі буйнага дваранства. Выключэньне складалі толькі далучаныя да дэкабрыстых у 1825 годзе члены „Таварыства Аб'яднаных Славян", якія вышлі з асяродзішча армейскіх афіцэраў і па пахаджэньні належалі да дробнага вялікарасійскага дваранства ці да дробнай, часткай украінскай, часткай беларускай, шляхты. Усе яны былі бліжэй да народнае масы, і гэта адбілася на іх палітычных поглядах, на тым, што да падрыхтаваньня к паўстаньню яны прыцягвалі і салдат. Паміж армейскімі афіцэрамі таго часу і паміж гвардзейскімі, прадстаўнікамі магнацтва, была вялікая розьніца. Прыніжаныя ў грамадзянскіх адносінах, беднякі або напалову беднякі, якія карміліся толькі службаю, па сваім матэрыяльным становішчы яны бліжэй разумелі стан грамадзкіх нізоў, асабліва селяніна, які стагнаў пад паншчынай. Адсюль тая палкасьць, з якою славяне імкнуліся да волі для ўсяго народу. Прадстаўнікі вяльможнага дваранства ідэі волі, ідэі барацьбы з самаўладзтвам, ідэі абароны ніжэйшых кляс у значнай меры ўспрымалі шляхам вывучэньня асьветнай літаратуры канца XVIII-га і пачатку XIX-га сталецьцяў, шляхам параўнаньня расійскіх парадкаў з заграніччымі. З прычыны таго, што гэтыя парадкі ў вогуле імкнуліся выкрышталізавацца ў дэмократыю, прадстаўляючы сабою ў той самы час па сваёй істоце клясавую дзяржаву, дзе на чале ўлады фактычна стаяла зямляўладаньне, асабліва радавітае, то гэтыя погляды ў тэй ці іншай форме адкладваліся ў мазгох радавітае групы дэкабрыстых.

Агулам, на поглядах дэкабрыстых адбілася і філёзофія таго часу і іх клясавая ідэолёгія. Гэта былі людзі свае эпохі.

З другога боку трэба памятаць, што палітычная ідэолёгія дэкабрыстых ня выкрышталізавалася ў адно цэлае вучэньне.

Самі дэкабрыстыя афіцыяльна складалі 3 групы, тры патайныя таварыствы (Паўночнае, Паўднёвае і Таварыства Аб'яднаных Славян), але ў кожным таварыстве былі члены або нават групы членаў, ня зусім згодныя з пануючым у данай групе напрамкам. Гэта мае адносіны асабліва да групы членаў Паўночнага Таварыства.

Усе гэтыя ўмовы патрэбна прыняць пад увагу, калі мы жадаем дасьледваць той бок політычнай ідэолёгіі дэкабрыстых, які абхапляе пытаньне аб дзяржаве і ролі ў ёй асобных нацыянальнасьцяй. Па гэтых пытаньнях мы маем, уласна кажучы, 2 напрамкі, якія панавалі ў асяродзішчы дэкабрыстых. Вельмі падрабязна пытаньне аб дзяржаве, у формах яе кіраўніцтва, у сувязі з роляю нацыянальнасьцяй дэбатавалася ў Паўднёвым Таварыстве. Яго ідэолёгія адбілася ў „Русской Правде" або ў „Наказе часоваму ўраду", які быў складзены палкоўнікам Пэстэлем. Добра вядома, што Пэстэль адзначаўся вялікаю адукацыяй, розумам, нязвычайнымі здольнасьцямі дыялектыка і ў той самы час ня мог цярпець чужых думак. Ён ня толькі рабіў вялікі ўплыў на Паўднёвае Таварыства, але фактычна быў дыктатарам у ім. Дзеля гэтага ня дзіва, што яго ідэолёгія лічылася прынятай у васяродзішчы сяброў Паўднёвага Таварыства і па гэтым пытаньні мы ня ведаем у васяродзішчы Таварыства спрэчак і сумненьняў. Іншая справа ў Паўночным Таварыстве, галавою якога лічыўся капітан Мікіта Мураўёў. Тут рознагалосьсяў было болей. Сам Мікіта Мураўёў, ня гледзячы на сваю вучонасьць, хістаўся і ў розных проэктах свае канстытуцыі дапушчаў тыя ці іншыя зьмены. Пытаньне аб будучым дзяржаўным парадку ў асяродзішчы пецярбурскіх членаў ня лічылася канчаткова вырашаным, былі хістаньні. І нават, поруч з проэктам канстытуцыі Мураўёва, мы сустракаем проэкт палкоўніка Баценкова. Усё ж такі канстытуцыя Мікіты Мураўёва адбівае на сабе раней за ўсё ідэолёгію большасьці пецярбурскіх членаў, а ня толькі ідэолёгію аднаго з вядомых членаў. Дзеля гэтага нам прыходзіцца спыніцца, галоўным чынам, на двух плынях, якія панавалі ў асяродзішчы дэкабрыстых і якія адбіліся ў „Русской Правде" Пэстэля і ў проэкце канстытуцыі Мікіты Мураўёва.

III

Пачнем з першае.

Пэстэль—складаная натура і больш політычны мысьліцель, чым рэволюцыянэр-практык. Яго „Русская Правда" зьяўляецца ня столькі проэктам канстытуцыі, колькі навуковым трактатам дзяржаўна-праўнага характару. Мы ўжо калісьці характарызавалі „Русскую Правду" Пэстэля, як такі навуковы трактат, які, калі-б быў надрукован своечасова, зрабіў-бы вялікі ўплыў на разьвіцьцё навукі дзяржаўнага права. Практычнага-ж значэньня, нават у выпадку посьпеху рэволюцыі, яго „Правда" ці „Наказ часоваму вышэйшаму ўраду" ня меў-б.

Пэстэль, больш чым хто-небудзь з дэкабрыстых, тэорэтык, прасякнуты ідэолёгіяй эпохі асьветнага веку. Паводле заўвагі профэсара Сы-

рамятнікава, Пэстэль—рацыяналісты чыстае вады. Ён будуе сваю ідэёвую дзяржаву на падставе прадпасылак асьветнай філёзофіі тэй эпохі. Трэба ў двух словах паказаць на тое, што прадстаўляе сабою дзяржава Пэстэля, каб зразумець тое месца, якое ён дае ў сваёй ідэёвай дзяржаве асобным нацыянальнасьцям.

Дзяржава Пэстэля зьяўляецца насіцелем абсолютнай палітычнай ісьціны, яна ўладае абсолютным непагрэшным аўторытэтам. Паводле яго думкі, кіраўніцтва і законы „соделывают народы таковыми, каковыми они суть“. Гэта азначае, што шляхам законаў можна выхаваць народ, можна надаць ім „правы, звычаі, паняцьці“, можна кіраваць напрамкам розумаў і воляй. Зразумела, такая дзяржава высока стаіць над народнымі масамі, яна адна ўладае ісьцінай, яна адна ведае, як утварыць у дзяржаве ісьціну, як дастаўляць народу дабрабыт. Яна выхоўвае народ пры дапамозе законаў і правіл. Увасабленьнем дзяржавы зьяўляецца яе ўрад. Праўда, урад сам зьяўляецца выбраным, але ўсё-ткі і ён сам павінен кіравацца раз устаноўленымі ў Наказе правіламі. Гэта дзяржава павінна даць народу вышэйшае дабро матэрыяльнага і моральнага характару. Але затое яна патрабуе ад падданых бесьпярэчнага паслухмянства.

З другога боку, дзяржава Пэстэля павінна быць прасякнута адзінствам ідэолёгіі, у вышэйшым стопні цэнтралізавана. Народ атрымае найвялікшае дабро ад такое дзяржавы, але па сутнасьці ён павінен адмовіцца ад шмат якіх бакоў выяўленьня свае волі; ён ня мае свабоды цясьненьня і свабоды сходаў. Але затое ўсе грамадзяне лічацца свабоднымі, усе лічацца роўнымі, зьнішчаюцца ўсялякія станавыя перагародкі. Пэстэль нават імкнецца да параўнаньня ўсіх у матэрыяльных адносінах шляхам раздачы ўсім жадаючым зямельных вучасткаў з нацыяналізаванае памешчыцкае ўласнасьці. Наогул, ідэя найвялікшага параўнаньня ўсіх элемэнтаў грамадзкасьці прасякае Наказ Пэстэля. Адначасова з тым у ім пануе ідэя зьмятаньня, зьнішчэньня цалком усіх перажыткаў гістарычнага мінулага. Утвараецца новая і, паводле слоў Пэстэля, свабодная дзяржава, бяз усякай сувязі з гістарычнымі традыцыямі, зусім цэнтралізаваная, цалком прасякнутая духам адзінства палітычнага, філёзофскага погляду і часткай матэрыяльнай структуры.

Лёгка здагадацца, што ў такой дзяржаве асобныя народнасьці з іх гістарычнымі асаблівасьцямі ня могуць мець месца.

Пэстэля вельмі цікавіла пытаньне аб становішчы асобных народнасьцяй у складзе дзяржавы. Пэстэль ведаў, што гэтае пытаньне заўзята дэбатавалася ў асяродзішчы пецярбурскіх членаў. Разумеючы мажлівасьць пярэчаньняў, ён парашыў разгледзець гэтае пытаньне ва ўсіх дэталях і прыстасаваць да яго ўсю моц сваёй лёгікі і аргумэнтацыі.

Ён разумее, што Расія складаецца з розных пляменьняў. Ён прызнае, „што народы, якія падуладны вялікай дзяржаве і паходзяць не ад пануючага ў данай дзяржаве племені, але ад іншых пляменьняў, жада-

юць для сябе заўсёды незалежнасьці і асобнага палітычнага існаваньня, грунтуючыся на праве складаць асобныя дзяржавы і называючы гэтае права *„права народнасьці“*. Але, з другога боку, разважае ён, усякая вялікая дзяржава імкнецца да таго, каб мець моцныя натуральныя межы і каб прылягаючыя да яе суседнія невялікія народы ня ўзмоцнілі-б суседняе-ж вялікае дзяржавы. Гэта—права бясьпекі, якое называецца „правам выгоднасьці“. Абодва гэтыя прынцыпы—права народнасьці і права выгоднасьці—зусім натуральны, па думцы Пэстэля. Але права выгоднасьці існуе для бясьпечнасьці дзяржавы. Права-ж народнасьці „ісьцінна“ існуе толькі для тых народаў, „якія, карыстаючыся ім, маюць магчымасьць яго захаваць“. (Усюды прыводжу выняткі з выпісак з орыгіналу архіўна есправы аб дэкабрыстых, якія маюцца ў мяне). Народнасьці, якія страцілі свой самастойны стан, ня могуць ужо адсылацца на права народнасьці. У дадатак гэтыя народнасьці часта служаць шляхам ваенных дзеяньняў. З прычыны гэтага для іх саміх лепш скласьці з пануючай народнасьцю адзін народ. Праўда, вялікая дзяржава заўсёды павінна памятаць, што ёй дадзена магутнасьць не для ўціску суседзяў, але для дзеяньняў згодна з справядлівасьцю. Далучаныя пляменьні павінны складаць ня „дрэнна прылепленыя часткі да вялікага, але злучацца ў адзін агульны склад“, „забываць сваю ранейшую слабую народнасьць“ і ўступаць „з прыемнасьцю“ ў новую народнасьць.

Адсюль ясна, што свае разважаньні Пэстэль хіліць да таго, што дробныя народнасьці паводле права выгоднасьці павінны злучыцца.

Пэстэль падзяляе дзяржавы на непадзельныя і на фэдэрацыйныя. „Непадзельная дзяржава мае адзін парадак кіраўніцтва, адны законы і ні адна краіна ў ёй ня мае права выдаваць для сябе законаў“. У фэдэрацыйнай-жа дзяржаве краіны маюць права выдаваць для сябе законы, хоць і зьвязаны яны паміж сабою ў адно цэлае. Такім чынам, у фэдэрацыйнай дзяржаве ўтвараецца падзел улады паміж цэнтрам і краінамі.

Думку, што такі падзел удалы, Пэстэль адхіляе цэлым шэрагам аргумэнтаў. Трэба зазначыць, што ім формулявана разуменьне фэдэрацыі досыць агульна, неазначальна і недакладна, хоць дзяржаўнае права тэй эпохі магло-б даць Пэстэлю вычэрпваючы адказ у гэтых адносінах. Пэстэль добра ведаў францускую літаратуру, быў прасякнуты яе ідэолёгіяй, ведаў старажытны сьвет, але нідзе ў яго ня відаць веданьня і разуменьня ня толькі нямецкага ладу, але нават і Паўночна-Амэрыканскага. Тут выказваюцца ў Пэстэлі або надта моцныя захапленьні францускімі поглядамі або невыстарчаючае разуменьне і веданьне практычнага жыцьця. Гэта быў філёзоф, далёкі ад таго, каб углыбіцца, напрыклад, у існасьць амэрыканскіх умоў жыцьця. Дзеля таго ня дзіва, што яго пярэчаньні супроць фэдэрацыйнага ладу зьяўляюцца нежыцьцёвымі, неадпавядаючымі рэальным умовам фэдэральнага права таго часу.

Ён, напрыклад, даводзіць, што ў фэдэрацыйнай дзяржаве вышэйшы ўрад не дае законаў агульна-фэдэрацыйных, ён дае „толькі парады“. Краёвая ўлада можа не падлягаць вышэйшай. Адсюль магчымасьць войнаў паміж краінаю і цэнтральным урадам. Асобныя законы, асобны парадак кіраўніцтва паслабляюць сувязь паміж краінамі. Краіны будуць нездаволены агульнай уладай. Фэдэрацыйная дзяржава зьявіцца асобнай дзяржавай і ў часе вайны можа перайсьці на старану ворага. Пры такіх умовах дзяржава можа перайначыцца ў фікцыю, ня будзе замілаваньня да агульнае бацькаўшчыны.

Асабліва небясьпечным быў-бы фэдэрацыйны лад для Расіі. Іменна для Расіі Пэстэль баіцца фэдэрацыі. Расія складаецца з рознастайных частак. Гэтыя часткі маюць розныя законы, мовы, рэлігію, рознае гістарычнае мінулае. Усе гэтыя краіны аддзяляюцца ад карэннае Расіі і яна нават можа згінуць. Фэдэрацыйны лад быццам-бы адновіць няпрыемную для дзяржавы ўдзельную сыстэму.

Прывёўшы гэты шэраг аргумэнтаў, наогул, як мы ўжо ведаем, слабых, Пэстэль нават проэктуе, як агульны вывад, што карэнным законам будачае Расійскае дзяржавы зьнішчаецца ўсякая думка аб фэдэрацыйным ладзе, „яко пагубнейший вред и величайшее зло“. Дзяржава абвяшчаецца „адзінай і непадзельнай“.

Выставіўшы тэорэтычныя абасновы, накіраваныя супроць фэдэрацыі, аўтар „Русской Правды“ яшчэ некалькі раз зварачаецца да пытаньня аб адзінстве дзяржавы, аб адзінстве законаў для ўсіх: для дабра і вялікасьці дзяржавы патрэбна, каб у ёй былі адны й тыя самыя законы, адзін і той самы спосаб кіраваньня. У адносінах інаверцаў Пэстэль нават рабіў дапушчэньне забараніць усе тыя іх законы і звычаі, якія супярэчаць духу хрысьціянства. Ён вельмі клапоціцца аб адзінстве і аднастайнасьці закону на ўсім абшары дзяржавы, што надасьць ёй моцную палітычную сувязь. Прывёўшы шэраг аргумэнтаў, Пэстэль лічыць, што ўсе выказаныя ім меркаваньні павінны служыць кіраўніцтвам для часовага вышэйшага ўраду.

Але калі для Пэстэля ўтвараючая сіла дзяржавы зьяўляецца агульна-абхапляючай, калі дзяржава ўтварае сваімі законамі образ мысьляй усяго народу, то ён ідзе далей. Часовы вышэйшы ўрад павінен прыняць меры для таго, каб з усіх пляменьняў і народаў Расіі ўтварыць „адзін народ і ўсе розныя адценьні ў адну агульную масу зьліць так, каб жыхары цэлага абшару Расійскае дзяржавы *ўсе* былі *рускія*“ (падкрэсьлена Пэстэлем). І аўтар прапануе сродкі, якімі можна ажыцьцявіць гэтыя мерапрыемствы. Раней за ўсё павінна быць уведзена адна расійская мова. Гэта будзе дапамагаць устанаўленьню аднастайнага вобразу мысьляй. Патрэбна зьнішчыць асобныя назвы пляменьняў і народнасьцяй. Агульныя законы і кіраўніцтва нададуць Расіі „від адзінародзтва, аднастайнасьці і адзінадуманьня“. Пэстэль не сумняваецца, што шэрагам мерапрыемстваў

мэта гэта будзе дасягнута і што ўсе пляменьні Расіі „абрусеюць“. Пэстэль наогул верыць у моц законадаўчае ўлады, у моц урадавага ўплыву так моцна, што ўпэўнівае, быццам-бы практыка ўсіх вякоў і ўсіх дзяржаў даводзіць, што народы ўсюды бываюць такімі, „якімі іх робяць урады і законы“. Такімі зьяўляюцца агульныя палажэньні, якія павінны былі, паводле пляну Пэстэля, легчы ў аснову дзяржаўнага ладу будучай Расіі ў выпадку посьпеху рэволюцыі.

У іншых мясцох свае кнігі Пэстэль некалькі разоў зварачаецца да пытаньня аб народнасьцях. Паводле яго думкі, усе гэтыя народнасьці, апрача палякаў, па праву выгоднасьці павінны зьліцца з карэнным расійскім народам.

Разважаючы аб розных народнасьцях, што насяляюць Расію, ён паказвае на тое, што „маларусы“ і „белорусцы“, якія насяляюць Віцебскую і Магілеўскую губэрні, па сваёй мове блізкія да вялікарусаў, гэтак сама і па веры, адрозьніваючыся толькі тым, што ў Беларусі маюцца яшчэ і вуніяты. Апрача таго, украінскія і беларускія губэрні адрозьніваюцца ад вялікарасійскіх асобнымі сваімі правамі. Але Пэстэль думае, што калі агульнае праўленьне будзе аднолькава ўпарадкавана, тады ўсе гэтыя заходнія губэрні злучацца з вялікарасійскімі. Дзеля гэтага ён і прапануе лічыць, што украінскія і беларускія губэрні ня трэба адрозьніваць ніякімі асобнымі назвамі. Нават на сваёй карце будучага адміністрацыйнага падзелу ён разрывае Беларусь на часткі. Папершае, Заходняя Беларусь адходзіць да Польшчы разам з Літвою. Частка Віленскай губэрні, што застаецца за Расіяй, уваходзіць у Мітаўскую акругу. Менская губэрня ўваходзіць часткаю ў Віцебскую, а часткаю ў Чарнігаўскую акругу. Назва Магілеўскай губэрні зусім зьнішчаецца.

Наколькі ведама, Пэстэль сам з войскамі гвардыі не стаяў у беларускіх губэрнях. Ён мог толькі ведаць часткаю Віцебскую губэрню, бо стаяў адзін час у Мітаве. Яго назіраньні над бытам латышоў адзначаюцца встыарчаючымі ведамі. Ён нават, як мы бачылі, дрэнча ўяўляе сабе геаграфічныя межы Беларусі, уключаючы ў склад яе толькі Магілеўскую і Віцебскую губэрні. Украіну ён ведае добра па асабовым назіраньням. Ён ня толькі дрэнна ведаў Беларусь, але, як відаць, меў некаторае ранейшае пераканаьне супроць асобных парадкаў і законаў гэтага краю. У гэтым няма нічога дзіўнага нават для вельмі адукаванага чалавека таго часу. Беларусь тады ў Расіі вельмі мала ведалі. Акадэмік Севяргін вандраваў па Беларусі і сам, зьяўляючыся праваслаўным, не заўважыў, што беларусы мелі праваслаўную рэлігію. Гэтаму назіральніку ўся Беларусь уяўлялася каталіцкай краінай. Пэстэль, па крайняй меры, ведае, што беларуская мова бліжэй да расійскае, чым да польскае, што беларусы зьяўляюцца праваслаўнымі і што сярод іх ёсьць вуніяты. Але пры ўсім гэтым няма нічога дзіўнага, што Віленшчыну і Горадзеншчыну, магчыма пад уплывам палякаў, Пэстэль аднёс да Польшчы.

Адмаўляючы ўсім народнасьцям Расіі, нават Фінляндыі, у самастойнасьці, Пэстэль толькі ў асобе Польшчы бачыў будучую саюзную з Расіяй дзяржаву. Прычына такіх адносін да палякаў захоўваецца зусім ня ў тым, што Пэстэль прызнаваў якія-небудзь асобныя аргумэнты для адбудаваньня Польшчы. Прычына захоўваецца ў другім. Члены Паўднёвага Патайнага Таварыства заключылі саюз з Польскім Патайным Таварыствам для агульнай рэволюцыйнай барацьбы супроць царскага ўраду. Умовай дагавору з боку палякаў было прызнаньне будучай незалежнасьці Польшчы. Як відаць, члены Паўднёвага Таварыства мелі надзею на моц і дапамогу польскіх рэволюцыянэраў. Але, наогул кажучы, нават самастойнасьць Польшчы ў колах дэкабрыстых не карысталася асаблівай сымпатыяй.

Такімі зьяўляюцца погляды Пэстэля, а разам з ім і погляды Паўднёвай групы дэкабрыстых, на значэньне народнасьцяй у складзе дзяржаўнага організму наогул і паасобку на палажэньне Беларусі. Весьці полеміку з гэтай ідэолёгіяй у цяперашнія часы ня прыходзіцца. Яна для нас цікава, як вядомага роду экономічны фактар, як ідэолёгія вядомайársткі тагачаснае расійскае грамадзкасьці. Яна высунула барацьбітоў супроць царскага рэжыму, яна давяла справу да рэволюцыйнай спробы зьнішчыць рэжым. Але на поглядах прадстаўнікоў гэтае грамады нават рэволюцыйна настроеных, адбіліся ідэі, часткаю нанесеныя кніжным шляхам, часткаю ў розуме іх адбіліся ідэі цэнтралізацыі, якімі быў прасякнут увесь лад пэрыоду Імпэрыі. У нашу задачу ўваходзіла толькі імкненьне вылажыць гэтае пытаньне і прааналізаваць яго.

IV

Мы ўжо ведаем, што „Наказ часоваму вышэйшаму ўраду“ Пэстэля быў проэктам дзяржаўнага ладу, які выяўляў сабою погляды групы членаў Паўднёвага Таварыства. Цяжка сказаць, наколькі сьвядома ўся гэтая група ведала і ўспрымала філёзофскі трактат свайго правадыра. Ва ўсякім выпадку важнейшыя прынцыпы і асабліва прынцыпы рэспубліканскага ладу былі стала ўсвоены гэтай групай. У Пецярбургу нават асноўнае палажэньне,— палажэньне аб тым, ці быць будучай Расіі, у выпадку посьпеху рэволюцыі, монархіяй ці рэспублікай,—ня зусім было ясным для шмат якіх членаў. Рылееў, напрыклад, схіляўся ў бок рэспубліканскага ладу. Палкоўнік Баценкоў, наадварот,—прадстаўляў сабою правае крыло гэтае групы, бо ён гатоў быў згадзіцца з монархіяй, абмежаванай у вельмі слабай меры. Мікіта Мураўёў, да думкі якога прыслухоўвалася, як відаць, большасьць, будаваў свой конституцыйны проэкт на базе выўчанай ім паўночна-амэрыканскай конституцыі. У супроцьлегласьць Пэстэлю, ён ня імкнуўся да тэорэтычных абасноў сваіх думак. Ён пісаў проэкт конституцыі ва ўласным сэнсэ гэтага слова. Напісаны быў проэкт не адразу і нават не адзін варыянт яго, а два. Як відаць, пад уплывам абгаворваньняў у васяродзішчы дэкабрыстых, Мікіта Мураўёў зьмяняў асобныя часткі

свайго проэкту. Але для нас, уласна кажучы, ня важны гэты нутраны бок работы Мураўёва над яго констытуцыяй. У абедзьвюх рэдакцыях контур яе заставаўся нязьменным. Гэта проэкт дзяржавы, на чале з монархам, які зьяўляецца першым яго чыноўнікам, мае вельмі абмежаваныя функцыі; монархія складаецца з асобных фэдэрацыйных частак. Такім чынам, самай выдатнай рысай проэкту Мураўёва зьяўляецца фэдэрацыйны лад будучае дзяржавы. Мы ня ведаем тых тэорэтычных абасноў, дзякуючы якім Мураўёў прышоў да гэткага тыпу дзяржаўнага ладу. Дзеля гэтага прыходзіцца знаёміцца толькі з канчатковымі вывадамі яго поглядаў.

Паводле проэкту Мураўёва вышэйшая ўлада ў дзяржаве давяраецца выбранай Вышэйшай Думе, Палаце Прадстаўнікоў, Народнаму Вечу і, нарэшце, імпэратару. Законадаўчая ўлада знаходзіцца ў веданьні 2-х першых палат. Народнае Веча, якое зьбіраецца рэдка, ёсьць вышэйшая контролюючая ўлада ў дзяржаве.

Выканаўчаю ўладаю зьяўляецца міністэрства; іх усяго 4: фінансаў, замежных спраў, ваеннае і морскае. З гэтага пералічэньня відаць, што межы веданьня агульна-фэдэрацыйных палат абмяжоўваюцца толькі гэтымі 4-ма галінамі дзяржаўнага кіраўніцтва. Усе іншыя функцыі дзяржаўнага кіраўніцтва перанесены на краёвыя палаты. Трэба толькі памятаць, што права выбараў у Палаты, паводле констытуцыі Мураўёва, вызначаецца маемасным цэнзам, неаднолькавым, аднак, у розных вэрсыях яго констытуцыі.

Паводле больш распрацованага і, мусіць, больш пазьнейшага проэкту констытуцыі, уся Расія падзяляецца на 14 дзяржаў і на 2 краіны. Гэты падзел дапушчаецца толькі па адзнаках заселенасьці, але ўсё-ж такі Мураўёвым прыняты пад увагу гістарычныя адзнакі. Беларусь падзялілася-б на 2 краіны: на Заходнюю з цэнтрам у Вільні (як відаць, сюды-ж цягнула-б і Літва) і на Дняпроўскую з цэнтрам у Смаленску.

Кожная краіна ці дзяржава прадстаўляе сабою фэдэрацыйную частку дзяржавы. Кожная дзяржава мае ўлады: законадаўчую, выканаўчую і судовую.

Законадаўчая ўлада кожнай дзяржавы належыць законадаўчаму сходу, які складаецца з палаты выбарных і з дзяржаўнай думы. Палата выбарных складаецца з абраных грамадзянамі членаў на 1 год. Цэнз для абраньня параўнальна нявысокі: 2.000 руб. нярухомае маемасьці або 4.000 руб. рухомае. У Заходняй дзяржаве павінна быць, паводле разьліку Мураўёва, 130 членаў, а ў Дняпроўскай—280. Выбарныя сходы ўтвараюцца пад старшынствам тысяцкага. Члены Дзяржаўнае Думы выбіраюцца на 4 гады на тых-жа сходах і тымі самымі выбіральнікамі. Кожны год абнаўляецца 4-ая частка палат. Выбарны цэнз членаў Дзяржаўнай Думы ўжо значна вышэйшы—у 15.000 руб. нярухомае маемасьці альбо ў 30.000 руб. рухомае. У Заходняй дзяржаве павінна быць 43 члены, у Дняпроўскай—43.

Абедзьве палаты і зьяўляюцца насіцелямі вышэйшае ўлады ў дзяржаве. Кожная палата мае свайго старшыню. Пастановы палаты законны, калі даюць $^2/_3$ галасоў. Законадаўчыя проэкты могуць паступаць у абедзьве палаты. Проэкты падлягаюць разгляду асобна ў кожнай палаце. Толькі пропозыцыі аб налогах і абвінавачаньні, якія падаюцца супроць грамадзянскіх чыноўнікаў, спачатку ўваходзяць у палату выбарных, а потым пераходзяць у думу. Законапроэкты зацьвярджаюцца дзяржаўным правіцелем. Калі-б ён не зацьвердзіў, то пытаньне пераглядаецца нанава. Але калі ў абедзьвюх палатах другі раз проэкт закону будзе прыняты $^2/_3$ галасоў, то тым самым ён становіцца законам. На абавязку законадаўчых сходаў ляжаць усе пытаньні ўнутранога кіраўніцтва—фінансы, народная асьвета, шляхі зносін. Палаты дзяржаў абмежаваны толькі тым, што яны ня маюць права заключаць згоды і абвяшчаць вайны, выпушчаць грошы, адсылаць паслоў у чужаземныя дзяржавы, накладваць увозныя мыты і ўтрымліваць у мірныя часы войска—у абодвух апошніх выпадках бяз згоды Народнага Веча. Выданьне грамадзянскіх і крымінальных законаў і суд належаць таксама Палатам дзяржаў, чаму Мураўёў прысьвячае асобны разьдзел.

Выканаўчая ўлада ў дзяржаве даручаецца дзяржаўнаму правіцелю, яго намесьніку і Савету. Правіцель абіраецца з ліку грамадзян, якія ўладаюць буйным цэнзам—30.000 р. нярухомае маемасьці або ў 60.000 р. рухомае. Законадаўчы Сход кожнай дзяржавы вызначае кандыдатаў, з якіх выбар утвараецца Народным Вышэйшым Вечам. Правіцель, як мы ўжо ведаем, зьяўляецца контролюючым органам у адносінах да Палат; ён вызначае судзьдзяў, ён таксама распараджаецца войскам у межах дзяржавы. Савет пры правіцелі абмяжоўвае дзейнасьць самога правіцеля, дзеля таго што ўся апошняя праходзіць праз Савет. Правіцель назначае ўсіх вышэйшых грамадзянскіх чыноўнікаў.

Пытаньні суду найбольш падрабязна распрацаваны Мураўёвым у першым проэкце. Не ўдаючыся ў дэталі, скажам толькі, што Мураўёў імкнецца паставіць суд, згодна доктрынам тэй эпохі, зусім незалежным. Суд—выбарны з прыцягненьнем прысяжных. Галоснасьць суду зьяўляецца яго абавязковымі абставінамі.

Краіны падзяляюцца на паветы, а паветы на воласьці. Паветы маюць свае выбарныя сходы, на якіх выбіраюць тысяцкага, які зьяўляецца органам выканаўчай улады павету. У валасьцёх існуюць валасныя сходы, якія абіраюць валаснога старшыню.

Такая констытуцыя Мікіты Мураўёва. Як бачым, яна зусім супроцьлегла проэкту Пэстэля па сваіх асноўных пачатках. Галоўныя рысы яе навеяны амэрыканскай констытуцыяй. Але яна далёка не зьяўляецца простым перапказам гэтае констытуцыі. Імпэратар Мураўёва мае значна меншую ўладу, ён амаль што пазбаўлен улады, параўнальна з тэй шырокай уладай, якую мае прэзыдэнт Паўночна-Амэрыканскіх Штатаў. Межы

веданьня агульна-дзяржаўных народных сходаў вужэй у штатах, чым па констытуцыі Мураўёва. Але межы суду апошняй констытуцыі вельмі набліжаны да амэрыканскай.

І ў даным выпадку нашай задачай зьяўляецца выявіць і прааналізаваць дзяржаўную ідэолёгію Паўночнай групы дэкабрыстых. Нас можа цікавіць пытаньне аб тым, у якой меры былі распаўсюджаны ідэі Пэстэля і Мураў'ёва ў асяродзішчы тагочаснай грамады. Проэкт Пэстэля наогул стаіць адзінока. Не ў яго характары было даваць для крытыкі свае творы. Нават бліжэйшыя да яго члены Паўднёвага Таварыства ведалі толькі скарочаную „Русскую Правду“, якая вельмі мала адбівае на сабе няпрыхільныя адносіны Пэстэля да фэдэрацыі. З усяго гэтага пакуль што цяжка развcovажаць, наколькі Паўднёвая група была прасякнута антыфэдэрацыйным настроем аўтара „Русскай Правды“, ва ўсякім выпадку цяжка развважаць аб тым, наколькі сьвядома члены яе ўсвоілі гэтыя прынцыпы. Іншая справа, процэс выпрацоўкі констытуцыі Мураўёва. Яна чыталася шмат якім членам, абгаварвалася, выпраўлялася пад уплывам крытыкі. Да нас нават дашоў адзін экзэмпляр з крытычнымі заўвагамі якогасьці яе чытача. Крытыкі пярэчылі супроць шмат якіх пунктаў. Шмат якія пункты пераапрацоўваліся. Але нідзе ня відаць, каб крытыка закранала выстаўленыя Мураўёвым фэдэрацыйныя асновы. Мала таго, з дашоўшых да нас 2-х варыянтаў проэктаў у больш пазьнейшым фэдэрацыйныя асновы яшчэ болей пашыраны і ўдакладнены.

Усім гэтым мы жадаем сказаць, што фэдэрацыйныя асновы ў констытуцыі Мікіты Мураўёва не сустракалі опозыцыі сярод дэкабрыстых, а думкі Пэстэля стаяць, як відаць, досыць ізолявана. І больш таго, у Пецярбургу яшчэ ад проэктаў вядомага папярэдніка дэкабрыстых Дзьмітрыева-Мамонава ўжо ідзе пачатак ідэй і патрэбы для Расіі фэдэрацыйнага ладу. Папярэднімі заўвагамі натуральна згладжваюцца тыя пачуцьці нездаволенасьці, якія выклікае проэкт Пэстэля. Як відаць, шырокія пласты тагочаснага грамадзянства ня лічылі мажлівым адмовіць будучаму свабоднаму ладу Расіі ў фэдэрацыйных асновах.

Гэта ідэя атрымала сваё шырокае разьвіцьцё ня толькі ў верхавінах тагочаснага грамадзянства, але і ў ніжэйшых пластох яго інтэлігэнцыі.

## V

На жаль, мы мала ведаем ідэолёгію Таварыства Аб'яднаных Славян. Бязумоўна, гэта былі энтузыястыя свабоды, гэта былі людзі, якія давялі на справе, што яны могуць падняць зброю супроць царскага рэжыму.

Іх політычныя ідэі прасякнуты романтызмам, што так уласьціва тэй эпосе. Славяне марылі аб утварэньні грандыознай фэдэрацыі з усіх славянскіх народаў. У гэтай фэдэрацыі павінны існаваць свабода, роўнасьць, брацкая любоў. У кожнай асобнай фэдэрацыі ўводзіцца дэмократычная форма прадстаўніцкага праўленьня. Кожная фэдэрацыйная адзінка неза-

лежна ва ўнутраным будаўніцтве і выдае для сябе асобныя законы. Уся фэдэрацыя, аднак, зьвязана ў адзін саюз, які кіруе агульны конгрэс. Пры гэтым вельмі цікава, што ва ўяўленьні славян фэдэрацыя зьвязваецца ня толькі ідэямі свабоды, але яны не давалі вялікае значэньне разьвіцьцю прамысловасьці і гаспадаркі наогул і народнае асьветы.

Як вядома, славяне, пад уплывам пераконаньняў Бястужава-Руміна і Мураў'ёва ўлетку 1825 году ўвашлі ў саюз з Паўднёвым Патайным Таварыствам. Да саюзу яны падышлі асьцярожна і не без опозыцыі. Цікава, што якраз адным з прадметаў дыскусіі паміж славянам і членамі Патайнага Таварыства было пытаньне аб стане народнасьцяй, якія насяляюць Расію. Калі маёр Сьпірыдаў атрымаў ад Мураў'ёва сьціслыя тэзісы „Русской Правды", ён напісаў на яе пярэчаньні, якія разглядаліся на адным з агульных сходаў. Сьпірыдаў не прызнаваў правільнаю думку Пэстэля „аб пераварачваньні яўрэяў, татар і іншых шматлікіх народаў у рускіх". Праўда, ён ня лічыў, што патрэбна прыцягнуць да ўдзелу ў кіраваньні ўсе нерасійскія пляменьні. Яны павінны кіравацца асобна і атрымаць шырокія правы ўнутранага кіраўніцтва.

Пярэчаньні Сьпірыдава, зразумела, зьяўляюцца адгалоскам думкі ўсіх членаў Таварыства Аб'яднаных Славян, бо гармонуюць з асноўнымі іх тэзісамі. Яны не зьявіліся прадметам разрыву паміж дзьвюма групамі рэволюцыянэраў, якія злучаліся, дзеля таго, што славяне былі надта захоплены мажлівасьцю шпаркага перавароту, яны былі захоплены жаданьнем дасягнуць галоўнай сваёй мэты—зьнішчэньня самаўладзтва.

Але для нас важна асноўная думка гэтае групы рэволюцыянэраў. Усё папярэдняе паказвае нам на тое, што ідэолёгія дэкабрыстых—большасьці іх членаў—была адным з этапаў, і пры тым найбольш раньнім, паступова разгорнутых у расійскім грамадзянстве ідэй аб пераважнасьці фэдэрацыйнага і нават саюзнага ладу для аграмаднага дзяржаўнага організму былое Расійскае Імпэрыі. Нават у Мураўёва гэта ідэя яшчэ толькі нараджалася. Яна яшчэ дрэнна стасуецца з ідэяй фэдэрацыі асобных народнасьцяй. І ўсё-ж такі ідэя была кінута. Семя было пасеяна. І ў наступнай гісторыі расійскай грамадзянскай думкі мы сустракаем заўсёдныя спробы зьвярнуцца да гэтай ідэі. Зразумела, ідэі Кастамараўскага Кірыла-Мэфодзьдзеўскага брацтва ў Кіеве зьяўляюцца рэмінісцэнцыяй высунутай Мураўёвым і асабліва славянамі ідэолёгіі, бо яны не забываліся ў розумах прадстаўнікоў украінскае думкі. І нават вучэньне Драгаманаў яшчэ бліжэй падыходзіць да вучэньня Мураўёва, уцяміўшы, аднак, цьвёрда прынцып нацыянальнага расчляненьня на фэдэрацыі.

Так, гэтая ідэя пражыла амаль што сталецьці, заўсёды злучаючыся з ідэяй рэволюцыі, і калі апошняя перамагла царскі рэжым, яна адразу абхапіла народнасьці Расіі і выявілася ў сталай форме дзяржаўнага ладу.

---

# АБ ПРОЛЕТАРСКАЙ КУЛЬТУРЫ *)

**С. Вольфсон**

Пытаньне, якое зьяўляецца прадметам гэтага нарысу, ёсьць адно з тых пытаньняў, што набылі асаблівую важнасьць альбо, як цяпер часта гавораць, асаблівую актуальнасьць на працягу 2-3 апошніх гадоў.

Зразумела, самая проблема пролетарскай культуры не зьяўляецца зусім новай для соцыялістычнай, для марксыцкай мысьлі. У клясыкаў навуковага соцыялізму, у цэлага шэрагу марксыцкіх тэорэтыкаў мы знаходзім асобныя, раскіданыя думкі наконт культуры, якая будзе характарызаваць эпоху панаваньня рабочае клясы і эпоху бясклясавага, соцыялістычнага грамадзянства. Але гэта былі асобныя, далёка не сыстэматызаваныя вaказваньні, гэта былі беглыя зазіраньні ў прыгожую краіну будучага, гэта былі спробы чуткім вухам дасьледчыка ўлавіць хаця-б адрывістыя гамы чароўнай Zukunftsmusigue.

Узьнікненьне і 8-гадовае існаваньне першае ў гісторыі чалавецтва дзяржавы пераходнага пэрыоду робіць проблему пролетарскай культуры ня толькі акадэмічнай, але надае ёй асаблівую практычную вострасьць. Гэтая-ж вострасьць патрабуе, зразумела, для свайго правільнага *практычнага* вырашэньня *тэорэтычнага* абмэзгаваньня пытаньня. Мы павінны запытаць сябе і, карыстаючыся мэтодам рэволюцыйнага марксызму, адказаць: „што такое пролетарская культура, ці магчыма яна і, калі магчыма, то якія шляхі яе разьвіцьця?“

Мне здаецца, што, пачынаючы гаварыць аб пролетарскай культуры, мы павінны раней за ўсё ўмовіцца наконт самага тэрміну „культура“. Мы павінны раней за ўсё вызначыць гэта паняцьце „культура“, якое ўжываецца вельмі часта і ў вельмі розных сэнсах. Маючы ў сваіх руках такое азначэньне, мы зможам блізка падыйсьці да цікавай для нас проблемы і высьніць: ці прыложым мы да паняцьця культуры коэфіцыэнт „пролетарскі“, ці дазваляюць гістарычныя ўмовы і соцыолёгічны аналіз лічыць, што, падобна да таго, як клясы, якія зышлі з гістарычнай арэны або з яе сходзяць, утваралі сваю культуру, таксама і рабочая кляса, якая высоўваецца на авансцэну гісторыі, утварае сваю культуру.

*) Стэнограма дакладу, зробленага на дыспуце: „Пролетарская культура і шляхі яе разьвіцьця“.

Такім чынам, мы пачнем з выясьненьня нашае прадпасылкі. Што такое культура?

Ёсьць, калі не памыляюся, у Шніцлера апавяданьне аб тым, як дзесьці ў швайцарскім пансыоне дзесятак сабраных там асоб розных нацыянальнасьцяй пачалі спрачацца аб тым, якая нацыя дасягнула вышэйшага стопню культуры: „Тая, якая пабудавала лепшыя фабрыкі і заводы“, сказаў амэрыканец. „Тая, якой належаць лепшыя музэі і карцінныя галерэі“, значыў італьлянец. „Тая, якая мае найлепшую армію ў сьвеце, прасякнутую духам дысцыпліны і дакладнасьці“, была думка немца. „Тая, якая спажывае ў год на душу большую колькасьць мыла“, сказаў ангелец. „Тая, якая прачытвае найбольшую колькасьць кніжок“, зазначыў яўрэй і г. д., і г. д.

Калі мы запытаем сябе, хто з Шніцлераўскіх пэрсонажаў правільна разумеў культуру, то нам прыдзецца сказаць, што ніхто, але ў той самы час і ўсе. І такі адказ, зразумела, ня будзе парадоксам. Усе яны памыляюцца дзеля таго, што ні прамысловая тэхніка, ні музэі і галерэі, ні іншыя моманты, якія падкрэсьліваліся амэрыканцам, італьлянцам і інш., самі па сабе ўзятыя, зусім не ўтвараюць таго, што можна назваць культурай. Гэта ўсё ня культура, а *элемэнты культуры*.

Але ў той самы час кожны з іх зьвяртаў увагу на якую-небудзь больш-менш істотную азнаку культуры ў моц вызначаных соцыяльных прычын, якія лёгка могуць быць раскрыты і якія мелі ў вачох разважаўшага домінуючае, пануючае значэньне. І трэба стала сказаць, што гэтую самую памылку звужваньня паняцьця „культура“ да якога-небудзь, няхай вельмі істотнага і паважнага, але ўсё-ткі *аднаго* элемэнту культуры, рабілі ня толькі намаляваныя нямецкім пісьменьнікам пансыонэры, але яе рабілі і робяць часта ў нас у часе спрэчак аб пролетарскай культуры. Гэтак сама часта ў нас спрэчкі аб пролетарскай культуры пераводзяцца на пытаньне аб пролетарскай *літаратуры*. Няма нічога больш памылковага, чым такое звужваньне паняцьця „культура“, звужваньне, якое скажае самым гібельным чынам пэрспэктыву тэй вялікай, адказнай і складанай проблемы, імя якое „пролетарская культура“.

Пад культурай трэба разумець увесь *матэрыяльны* і адбіваючы яго *духоўны быт данага грамадзянства*; толькі злучнасьць матэрыяльна-тэхнічных і ідэолёгічных форм, у якія адліваецца існаваньне грамадзянства, утварае тое, што можна назваць „культураю“. Як правільна зазначыў у адным з сваіх артыкулаў тав. Троцкі, „культуру трэба разумець, як разгорнутую і ўнутрана пагоджаную сыстэму ведаў і ўменьня ва ўсіх галінах матэрыяльнае і духоўнае творчасьці, як органічную злучнасьць ведаў і ўменьня, якія характарызуюць усё грамадзянства або ў крайнім выпадку яго кіруючую клясу. Яна абхапляе і прасякае ва ўсе галіны чалавечае творчасьці, уносячы ў іх адзінства сыстэмы“.

Грамадзянства, якое мае разгорнутую поўнакроўную культуру, такое грамадзянства ўвязала, аб'яднала, прыцягнула адзін да другога розныя элемэнты культуры: тэхніку, дзяржаўны апарат, нормы трыманьня, мастацтва, навуку і г. д. і г. д. Адсутнасьць гэтых асобных элемэнтаў робіць культуру ўвечанай, ушчэмленай, анэмічнай.

Матэрыяльна-тэхнічныя формы існаваньня грамадзянства зьяўляюцца асноўнымі зьвеньнямі культурнага ланцугу. Мы ўжо не гаворым аб вытворчых сілах, якія зьяўляюцца вырашаючым і накіроўваючым увесь культурны процэс фактарам. Але вазьмеце матэрыяльныя абставіны існаваньня грамадзянства—памяшканьне, адзежу, гігіэнічныя і санітарныя ўмовы яго быцьця,—усё гэта адбівае і ўтварае сабою культуру грамадзянства. Нью-Ёркскія небаскробы і накрытая саломаю хатка беларускага селяніна, шарлотэнбурская віла і кіргіская вандроўная юрта, фабрычная казарма Манчэстэра і шотляндзкі котэдж,—усе гэтыя віды памяшканьняў адбіваюць і характарызуюць розныя ступені чалавечай культуры. Хіба ня розная культура, якая ажыцьцяўляецца ў падземнай чыгунцы, трамваі і хоць-бы ў нашай паважнай менскай концы. Якраз гэтак сама смокінг і скураная куртачка, жаночы крынолін і косаваротка, халат і рабочая куртачка, лакіраваныя лодачкі і лыкавыя лапці—выяўляюць сабою культуру эпохі і клясавай групы. Касьцюм, мода чакаюць яшчэ свайго дасьледчыка-соцыолёга, які пакажа, што мода дыктуецца не фантазіяй краўца, а абумоўлена ўсё-такі прычынамі соцыяльнага характару. Машыністка, якая піша на машынцы, ня можа зьявіцца ў сваю кантору ў плацьці са шлейфам, а ангельская лэдзі да гэтых часоў валочыць на прыдворным рауце трохаршыновы шлейф... Мы маем тут адбітак розных клясавых псыхолёгій, якія можна, нарэшце, зьвесьці к даўленьню эканомікі... Усё гэта—зьвеньні культурнага ланцугу, якія характарызуюць даную грамадзянскую групу. І тая падушная лічба ўжываньня мыла, у якой бачыў істотнейшую азнаку культуры адзін з шніцлераўскіх пэрсонажаў, ня можа быць выключана з агульнага ланцугу народнае культуры. Яна ўваходзіць у якасьці аднаго з складаных элемэнтаў у паняцьце „культура“.

У таленавітым фэльетоне „Аб культуры і мяшчанстве“ („Правда“, 27—X—25) тав. Сасноўскі зусім правільна зазначыў, што „час больш уважліва аднесьціся да паняцьця культура“, што надышоў час зразумець, што з гэтым паняцьцем зьвязаны тысячы бытавых драбніц аж нават да ўжываньня плявацельніцы.

Як я ўжо казаў, у культуры разьвітое асобныя яе элемэнты прымыкаюць адзін да другога, адзін з другім злучаны і ўтвараюць сабою стройную, гармонічную, культурную сыстэму. Гэткую сыстэму мы звычайна маем у прогрэсыйнае клясы, якая знаходзіцца ў пэрыодзе свае соцыяльнае сталасьці. Кляса, якая пачынае слабнуць і якая ўступае ў паласу занападу, такая кляса пачынае губляць асобныя зьвеньні свайго

культурнага ланцугу,—яе культура становіцца ўшчэмленай, усечанай... Атрымліваецца своеасаблівае злучэньне высока і слаба разьвітых элемэнтаў культуры. Ёсьць у нас такі выраз „культурны дзікун"; мы падкрэсьліваем гэтым выразам, што культура данага індывідууму скажана, скалечана, што гэты індывідуум уладае ў частцы элемэнтаў культурай высокага, так сказаць, напруджаньня, культурай высока разьвітое цывілізацыі, а ў шэрагу другіх элемэнтаў яго культура знаходзіцца на вельмі нізкай ступені, роўна культуры дзікуна.

Прыкладаў ня трэба доўга шукаць. Вазьмеце бліскучага паручыка польскае арміі, якая окупавала пяць год таму назад Беларусь. Дасканальныя манеры, монокль, лайкавыя рукавіцы сьведчаць аб высокай тэхнічнай культуры, на дражджох якое ён вырас. Унівэрсытэцкі значок сьведчыць, што яго ўладар мае дыплём аб вышэйшай адукацыі. У размове з вамі ён выкажа свае веды Пшыбышэўскага і знаёмства з Сьвентахоўскім. І такі джэнтльмэн, паліраваны, можна сказаць, эўропэйскай культурай у яе вышэйшых праявах, такі джэнтльмэн з адчуваньнем сапраўднае радасьці кіруе катаваньнем сялян або назірае, як давераныя яму салдаты стрыгуць бараду старому яўрэю... Пад бліскам тэхнічнай культуры самая агідная моральная тупасьць, культурны нігілізм. Злучэньне таго і другога надзвычай характэрна для культуры, на чале якое стаяць трухлеючыя клясы. Альбо—вось амэрыканскі мільярдэр, уладар нафтавых крыніц, медных капалень, усяго, што дае прыбытак аж да газэт і дамоў цярпімасьці, сотнямі шчупальцаў выціскаючы сокі бесчалавечна эксплёатаваных тысяч, крастом, малітвай і сотняй доляраў, выкінутых на пабудаваньне царквы божае, купляючы міласьць господа-бога,—ён страхуе сабе месца ў царстве нябесным, пасьля таго, як яго бясьсьмертная душа пакіне яго грэшнае цела... Хіба ён, гэты заваявацель верхавін сучаснай капіталістычнай цывілізацыі, ня родны брат таму дзікаму-тунгузу, які, утвараючы якую-небудзь грахоўную і супярэчачую богу справу, завязвае на поўгадзіны вочы свайму ідалу, каб апошні ня бачыў граху... Уладар Нью-Ёркскага небаскробу і жыхар вандроўнай кібіткі ў некаторых адносінах могуць знаходзіцца на аднэй культурнай ступені. Гэта зноў прыклад ушчэмленае, скажанае культуры... Зьява таго самага соцыялёгічнага парадку і „нелепый джаз-банд", бессэнсоўная нэграўская „музычная" какофонія, якою захапляецца эўропэйская буржуазія; фокстрот, пачуцьцёвы і эстэтычны,—родны дзікунскім скокам; стограмавыя завушніцы, цэлюлёідныя абручы на голых жаночых руках; губы, вымазаныя сіняй памадай,—гэты апошні крык эўропэйскай моды,—цэлы шэраг характэрных зьяў, якія паказваюць, наколькі эстэтычныя густы, пануючыя сярод падаючай клясы, наколькі яе культура, якая пачынае гніць, супадае з прымітыўнай культурай напалову дзікіх пляменьняў...

Разважаючы аб культуры, мы павінны заўсёды памятаць аб яе дыялектычным характары. Дыялектыка культурнага разьвіцьця заключаецца

ў тым, што кляса, якая высоўваецца гісторыяй на ролю грамадзкага гегемона, што такая кляса ў першы пэрыод яшчэ далёка не ўладае сваёй уласнай разгорнутай культурай. Спачатку яна мае ў сваім распараджэньні толькі некаторыя элемэнты культуры, ёй належаць толькі асобныя зьвеньні культурнага ланцугу—гэта ў пераважнасьці зьвеньні экономічнага парадку; толькі крыха-па-крысе, стаўшы на чале грамадзянства, зрабіўшыся клясай-кіраўнікомо, даная кляса разгортвае сваю культуру, выкоўваючы зьвяно за зьвяном—прававыя нормы, этычныя прынцыпы, прыстасоўваючы да сваіх інтарэсаў навуку і мастацтва. Максымум у разгортваньні клясавай культуры супадае з зэнітам экономічнае моцы клясы—яе здольнасьці штурхаць наперад разьвіцьцё вытворчых сіл. З таго моманту, калі прогрэсыйная роля клясы адыграна і яе моц пачынае схіляцца да заняпаду, занепадае яе і культура... Асобныя зьвеньні яе культурнага ланцугу пачынаюць іржавець, ланцуг пачынае раскідацца. Мараль клясы, яе сьветапагляд і ідэолёгія становяцца ўпадачнымі. Набліжаецца зьмярканьне багоў... У гэтым зьмярканьні выяўна чутны ўдары малатка па гістарычным кавадле, якім новая кляса куе першыя зьвеньні свае наступнае культуры... Гэткаю зьяўляецца дыялектыка культурнага разьвіцьця. Аб гэтай дыялектыцы мы не павінны ні на мінуту забываць, разважаючы аб пролетарскай культуры, выращаючы пытаньне аб яе існаваньні і шляхох яе разьвіцьця...

Дазвольце, скажуць мне, ці ёсьць патрэба ставіць пытаньне аб магчымасьці існаваньня пролетарскай культуры? Бо культура-ж чалавецтва на ўсім яе шматтысячагадовым працягу кавалася тэй клясай, якая стаяла на чале грамадзянства ў даную эпоху. Мы маем справу з культурай пэрыоду нявольніцтва, з культурай фэўдальнай, з культурай буржуазнай. Калі мы маем веру ў тое, што цяпер на зьмену кляс мінулага йдзе пролетарыят, то якія ў нас ёсьць падставы сумнявацца ў тым, што рабочая кляса, стаўшы на чале грамадзянства, утворыць сваю ўласную пролетарскую культуру? Гэта пытаньне будзе зусім законным, але далёка няправільным.

Справа ў тым, што тыя конкрэтныя гістарычныя ўмовы, у якіх павінна разгарнуцца панаваньне пролетарыяту, абуджаюць у некаторых розумах сумненьне наконта таго, ці дазволяць гэтыя ўмовы рабочай клясе разгарнуць сваю ўласную культуру. Аналіз гэтых конкрэтных умоў прыводзіць некаторых марксыстых да сьцьвярджэньня, што мы перашагнём ад культуры буржуазнай беспасярэдна да культуры бяскласавай, не ўтварыўшы паміж тэй і другою ніякай новай спэцыфічнай пролетарскай культуры.

Найбольш вядомым прадстаўніком і заўзятым абаронцам такога пункту пагляду зьяўляецца, як вядома, Леў Давыдавіч Троцкі. Яго думкі па цікаваму для нас пытаньню—ён іх выказваў не адзін раз—у васноўным зводзяцца да наступнага.

„Формаваньне новай культуры каля пануючае клясы патрабуе, як сьведчыць гісторыя, вялікага часу і дасягае завяршэньня ў эпоху, якая йдзе раней эпохі палітычнага заняпаду клясы.

Ці хопіць у пролетарыяту, проста кажучы, часу на ўтварэньне „пролетарскай“ культуры? У вадзнаку ад рэжыму пэрыоду нявольніцтва фэўдалаў, буржуа, дыктатуру сваю пролетарыят мысьліць, *як каротка-тэрміновую пераходную эпоху...* Ці можа пролетарыят за гэты час утварыць новую культуру? Сумненьні па гэтым выпадку тым больш законны, што гады соцыяльнай рэволюцыі будуць гадамі жорсткай барацьбы кляс, дзе зруйнаваньні займуць больш месца, чым новае будаўніцтва. Ва ўсякім выпадку, галоўная энэргія самога пролетарыяту будзе накіравана на заваяваньне ўлады, яе ўтрыманьне, замацоўваньне і прыстасаваньне ў імя неадкладных патрэб існаваньня і далейшай барацьбы. Вышэйшай напружанасьці і поўнага выяўленьня свае клясавае існасьці пролетарыят дасягне, аднак, якраз у гэту рэволюцыйную эпоху, якая ўводзіць у такія вузкія межы мажлівасьць пляновага культурнага будаўніцтва. І, наадварот, чым паўней будзе новы рэжым забясьпечан ад палітычных і ваенных выбухаў, чым спрыяльней будуць умовы для культурнае творчасьці, тым больш пролетарыят будзе раставаць у соцыялістычным агульным жыцьці, вызваляючыся ад сваіх клясавых рыс, г. зн. перастаючы быць пролетарыятам. Другімі славамі, у эпоху дыктатуры аб утварэньні новай культуры, г. зн. будаўніцтва найвялікшага гістарычнага маштабу, ня прыходзіцца гаварыць; а тое ні з чым мінулым непараўнальнае культурнае будаўніцтва, якое будзе, калі адпадзе патрэба ў жалезных цісках дыктатуры, ня будзе ўжо мець клясавага характару.

Адсюль трэба зрабіць той агульны вывад, што пролетарскай культуры ня толькі няма, але й ня будзе; і шкадаваць гэтага, сапраўды, няма падставы: пролетарыят узяў уладу якраз дзеля таго, каб назаўсёды расквітацца з клясавай культурай і працерабіць шляхі для культуры чалавечай.

... Асноўны процэс нагрмаджэньня элемэнтаў буржуазнай культуры і іх крышталізацыі і стыль гэтае культуры вызначаўся соцыяльнымі ўласьцівасьцямі буржуазіі, *як заможнае эксплёататарскае клясы;* яна ня толькі матэрыяльна разьвівалася ўнутры фэўдальнага грамадзянства, рознастайна пераплятаючыся з ім і сьцягваючы к сваім рукам багацьце, але і прыцягвала на свой бок інтэлігэнцыю, утвараючы свае апорныя культурныя базы (школы, унівэрсытэты, акадэміі, газэты, журналы) яшчэ доўгі час да таго, калі на чале трэцяга стану адкрыта заўладала дзяржавай... Буржуазія прышла да ўлады ва ўсеаружжы культуры свайго часу: пролетарыят-жа прыходзіць да ўлады толькі ва ўсеаружжы вострае патрэбы аўладаць культурай. Задача пролетарыяту, заваяваўшага ўладу, заключаецца, папершае, у тым, каб прыбраць к рукам не яму раней служыўшы апарат культуры—прамысловасьць, школы, выдавецтвы, прэсу,

тэатры і інш.—і праз гэта адчыніць сабе шлях да культуры... У васнове *дыктатура пролетарыяту ня ёсьць вытворча-культурная організацыя новага грамадзянства, а рэволюцыйны-баявы парадак для барацьбы за яго.*

...Тыя, што гавораць аб пролетарскай культуры сур'ёзна і надоўга, якія з пролетарскай культуры робяць пляцформу, тыя мысьляць у гэтым пытаньні па формальнай аналёгіі з буржуазнай культурай. Буржуазія ўзяла ўладу і ўтварыла культуру; пролетарыят, заўладаўшы ўладаю, утворыць пролетарскую культуру. Але буржуазія—кляса заможная, і таму адукаваная. Буржуазная культура існавала ўжо да таго, калі буржуазія формальна заўладала ўладаю. Буржуазія заўладала ўладаю, каб увекавечыць сваё панаваньне. Пролетарыят у буржуазным грамадзянстве—незаможная і абяздоленая кляса, і таму культуры свае ўтварыць ня можа. Заўладаўшы ўладаю, ён толькі першы раз як належыць і пераконваецца ў сваёй надзвычайнай культурнай адсталасьці. Каб перамагчы яе, яму трэба зьнішчыць тыя ўмовы, якія захоўваюць яго, як клясу. Чым больш можна будзе гаварыць аб новай культуры, тым менш яна будзе мець клясавы характар".

Такім чынам, у васнове довадаў т. Троцкага ляжаць дзьве цэнтральныя думкі: 1) пролетарыят у вадзнаку ад сваіх клясавых папярэднікаў, не пасьпеў стварыць у нетрах старога грамадзянства сваёй уласнай культуры; 2) пэрыод панаваньня пролетарыяту будзе занадта кароткачасовым для таго, каб на працягу яго магла быць створана новая клясавая культура.

Папрабуем праверыць абодвы гэтыя палажэньні. Ці праўда, што пролетарыят не разьвіў у нетрах капіталістычнага грамадзянства сваёй культуры? Праўда, у васнове гэта зусім правільна; але таксама-ж правільна, што ён пасьпеў стварыць пры капіталізьме шэраг *элемэнтаў* сваёй уласнай, пролетарскай культуры, а большага ня мела ў сваім актыве і буржуазія, калі яна стала пануючай клясай.

З 40-х гадоў XIX сталецьця эўропэйскі пролетарыят пачынае выступаць, як сьвядомая клясавая адзінка. На працягу трох чвэртак сталецьця ён у васяродзішчы капіталістычнага грамадзянства куе зьвяно за зьвяном сваю культуру, процістаўляючы яе культуры буржуазіі.

Марксызм зьяўляецца найвялікшым выяўленьнем гэтай новай культуры. Сьмяротна-варожы сьветапагляду аджываючай свой век буржуазіі, рэволюцыйна-марксыцкі сьветапагляд зьяўляецца сьветапаглядам пераважна пролетарскім.

Актыўнасьць супроць пасыўнасьці, атэізм супроць рэлігійных забабонаў, рэволюцыйнасьць супроць эволюцыйнасьці, колектывізм супроць індывідуалізму, клясавая згоднасьць супроць воўчага эгоізму, інтэрнацыяналізм супроць патрыотызму, міжнароднасьць супроць нацыяналізму, комунізм супроць уласьніцкага інстынкту, шуканьні супроць догмы, досьлед супроць веры, крытыцызм супроць фэтышызму...

Навуковая тэорыя, якая, пачынае аўладаць масамі, робіцца соцыяльным падважнікам надзвычайна магутным—а ці-ж марксызм не зьяўляецца каштоўнейшым элемэнтам новай пролетарскай культуры, якая нарадзілася ў нетрах капіталістычнага грамадзянства?..

Адзначым далей такі факт, як профэсыянальныя і вытворчыя саюзы, якія згуртавалі ў Эўропе і Амэрыцы дзесяткі мільёнаў пролетараў. Мы стаім тут перад самым фактам новай культурнай формацыі, народжанай пролетарыятам. Далей—*рабочыя* коопэратывы, *рабочыя* дамы, *рабочыя* тэатры, *рабочыя* спортыўныя організацыі, *рабочыя* коледжы, *рабочая* прэса,—які сузіральнік жыцьця капіталістычных дзяржаў сучаснасьці зможа прайсьці міма гэтых фактаў вялізнай культурнай важнасьці, хто выключыць іх з набыткаў новай культуры?..

Ужо адны пералічаныя зьявішчы досыць пераконваюць у тым, што пролетарыят, яшчэ падчас панаваньня свайго клясавага антагонізму, пасьпеў стварыць каштоўнейшыя элемэнты сваёй культуры, што к моманту заваёвы ўлады ён будзе мець пры сабе досыць значную практыку ўласнай клясавай культуры. Давядзецца яшчэ дакладна абмеркаваць, падумаць, ці шмат чым уступае гэтая практыка тэй, якую мела падчас заваёвы ўлады буржуазія.

Ва ўсякім выпадку, казаць аб тым, што пролетарыят не стварыў у нетрах капіталістычнага грамадзянства элемэнтаў сваёй культуры, значыць супярэчыць рэчаіснасьці.

Паглядзім цяпер, ці правільна другая вышэйпаданая думка тав. Троцкага: пэрыод панаваньня пролетарыяту будзе, бач, такі кароткачасовы, што ня прыходзіцца і думаць аб тым, каб пры ім разгарнулася спэцыфічна-пролетарская культура, тым больш, што гэта будзе пэрыод напружнай барацьбы, пэрыод боек, калі наогул не ствараюцца новыя культурныя вартасьці.

Раней за ўсё аб думцы, што баявы характар пераходнага пэрыоду не дазволіць ствараць новай культуры. Думка ў корані памылковая. Я абмяжуюся аб ёй паўтарэньнем глыбока справядлівага заўважаньня проф. П. С. Когана.

„Мы ўсе ведаем, што жывем у вакопах, што на паласе рэволюцыі, на якую мы ўступілі, ня можа быць і гутаркі аб культуры ў традыцыйным значэньні гэтага слова. Але калі ў акопах даводзіцца сядзець цэлыя гады, калі вайне канца ня відаць, дык ці-ж не ствараецца асаблівая „акопная“ культура, часта надзвычайна прыгожая і навучальная, не нараджаецца тут асабістая літаратура, не расьцьвітае поэзія, якая бясконца шмат гаворыць вяком? Няўжо-ж уся эпоха так званага вялікага перасяленьня народаў ня была эпохай свайго роду „акопнай“ культуры і няўжо-ж не яе адбіткам былі вялізьнейшыя помнікі творчасьці, ад якіх да нас дашлі толькі нязначныя рэшткі? Можа, пара ўжо пазбавіцца аднаго з самых карэнных забабонаў, нібы ў пэрыод войнаў і рэволюцыі не

нараджаюцца вялікія мастацкія творы, што буры павінны супакоіцца для таго, каб знайсьці сваё мастацкае аформленьне...

Нячуваная ў гісторыі барацьба расійскага пролетарыяту—ня стыхійны выбух: гэта барацьба шматбаковая, якая ахапляе ўсе бакі жыцьця—і думку, і творчасьць, і вытворчыя мэтоды, і навучальнасьць,—барацьба плянавая, глыбока і ўсебакова разьлічаная, барцьба, якая плянава зьнішчае адзін за адным усе падпоры старога сьвету. А гэткая барацьба ёсьць культура, і культура пролетарская, таму што пролетарыят кіруе ёю, і посьпех яе расьце па меры таго, як усюды ў жыцьці замацоўваецца і думка і пачуцьцё іменна пролетарыяту...

Ну, а ці сапраўды пэрыод панаваньня пролетарыяту мае быць такім кароткачасовым, што ён не дазволіць сформавацца культуры пролетарскай да таго, як культура стане агульначалавецкай, бясклясавай?

Я думаю, што адны толькі агульныя меркаваньні наконт даўжыні эпохі, пераходнай ад капіталізму да соцыялізму, ужо прымушаюць даць адмоўны адказ на пастаўленае пытаньне. Нават самы безнадзейны утопісты не адважыцца ў наш час думаць, што соцыялістычная рэволюцыя—гэта выбух, які адразу перакіне чалавецтва з царства неабходнасьці ў царства вольнасьці, з капіталізму ў соцыялізм... Наадварот, у сьвятле нашай рэволюцыі робіцца зусім навочным, што пэрыод, які аддзяляе момант заваёвы ўлады рабочай клясай ад часу нараджэньня бясклясавага комуністычнага грамадзянства, зьяўляецца вельмі працяжным. Зусім бясспрэчна, што ўся гэта паласа, якая кладзецца паміж зьнішчэньнем буржуазнай улады і царствам соцыялізму, што гэта паласа паводле часу характарызуецца доўгімі гадамі, нават дзесяцігодзьдзямі самай напружнай барацьбы за пераход да новага соцыяльнага парадку, барацьбы, якая набывае самыя рознастайныя формы ад вайсковых боек і аж да экономічнага змаганьня.

Было-б, зразумела, недапушчальным дзяцінствам лічбамі і датамі вызначаць хоць-бы прыблізны час наступленьня эры разгорнутага соцыялізму-комунізму. Але бясспрэчна адно—эра гэтая аддзелена ад нас досыць доўгім прамежкам чясу... Мы бачым толькі першыя досьвіткавыя праменьні ўсходзячага сонца соцыялізму. Пяць шостых нашай плянэты яшчэ ў абцугох капіталістычных і нават дакапіталістычных адносін, адна шостая ў пераходным пэрыодзе... Можна згадзіцца з тав. Майскім, які зазначаў (у ленінградзкай „Звезде“), што поўнае панаваньне соцыялізму ўбачыць толькі XXI сталецьце, і лічыць, што, такім чынам, нашаму сталецьцю належыць зьявіцца тым самым пераходным пэрыодам, на ўсім працягу якога пролетарыят будзе пануючай клясай, гегемонам і організатарам грамадзянства.

Калі так, дык трэба лічыцца з досыць доўгім пэрыодам часу, які пролетарыят будзе мець мажлівасьць скарыстаць для стварэньня культуры, маючай на сабе яго клясавую пячаць, адбіваючай яго інтарэсы,

яго волю, аго настрої, яго надзеі... Якія ў нас падставы, каб зацьвярджаць, што гэты пэрыод будзе занадта кароткі для таго, каб пролетарыят пасьпеў разгарнуць сваю культуру. Няхай гутарка йдзе, скажам, аб 50—70—90 гадох, няўжо-ж гэтага мала для таго, каб рабочая кляса пасьпела ў цягу такога часу разгарнуць сваю, новую па прыгожасьці і вялікай каштоўнасьці, культуру? Бо пасыланкі на тое, што буржуазія будавала сваю культуру шмат сталецьцяў, нічога не даводзяць. Узрост тэхнікі даў магчымасьць буржуазіі Японіі, напрыклад, Турцыі або нават Расіі разгарнуць сваю культуру значна хутчэй, чым, скажам, гэта рабілі ў свой час буржуазія Францыі і Англіі... Культура японскай буржуазіі ўзрасла, напрыклад, на працягу якіх-небудзь 50 год. Пры тым надзвычайна шпаркім поступе тэхнічнага прогрэсу, які адбываецца на нашых вачох, пролетарыяту патрэбны будуць для стварэньня сваёй культуры зусім не сталецьці... Прыкладам таго, што можа зрабіць у гэтай галіне валявая кляса, якая падымаецца, няхай будзе наша краіна. У СССР за якія-небудзь пяць год яе мірнага існаваньня закладзены не адзін камень у фундамант пролетарскай культуры, выкавана не адно яе зьвяно.

Праўда, шмат што ў сфэры таго культурнага нарастаньня, якое адбываецца цяпер у нашай краіне, адносіцца не да *стварэньня* пролетарскай культуры, а зьяўляецца *далучэньнем* масы да *старой*, буржуазнай культуры, якая да тэй пары была ёй недаступная...

Тут, мабыць, адбываецца ня творчасьць новай клясавай культуры, а набываньне элемэнтаў самай першастковай культурнасьці, ужываючы ня зусім добрае слова „культурніцтва“, тут магчыма ня столькі *пролетарская культура*, сколькі *ліквідацыя няпісьменнасьці*. Але ўсё-ж за *ліквідацыяй няпісьменнасьці* ня трэба абмінаць *пролеткультуры*. Часамі ліквідацыя самай простай няпісьменнасьці можа адбывацца такім спосабам, што ў процэсе гэтай ліквідацыі ствараецца новая рабочая культура. Рабфак—гэта апорны пункт ліквідацыі няпісьменнасьці, але рабфак, пры ўсёй сваёй на выгляд падобнасьці да звычайнай школы для дарослых, мае спэцыфічны клясавы аблік, які дазваляе назваць яго кузьняй пролетарскай культуры: культура, якая прышчапляецца рабфакаўцам, ёсьць культура працоўнае клясы; яна ўвасабляе ня толькі фактычныя веды па матэматыцы і географіі, але і навучальнасьць, сьветапагляд і волю працоўнае клясы... Піонэрскі рух на выгляд падобен да руху бой-скаўта, але ў істоце гэты рух—яго полюс: там зьвяно буржуазнай культуры, тут зьвяно пролетарскай... А гэткае зьявішча, як рабкорства, зьяўляецца вялікім і каштоўным кавалкам у тэй самай пролетарскай культуры, якая формуецца ў пераходны ад капіталізму да соцыялізму пэрыод. Вось гэтыя меркаваньні, якія прымушаюць нас сказаць, што пролетарская культура ня толькі магчыма, але і няўхільна, як натуральны этап ад панаваньня буржуазнай культуры да царства культуры агульна-чалавецкай. Гэты этап таксама натуральны,

законны і патрэбны, як, напрыклад, пролетарская дзяржава на шляху ад капіталістычнай дзяржавы да па-заклясавага грамадзянства.

Падыходзячы да такога вываду, мы павінны ставіць перад сабою пытаньне аб шляхох пролетарскай культуры. Як мы ўяўляем сабе процэс пабудовы гэтай культуры і адносіны яе да культур папярэдніх эпох і кляс?

Раней за ўсё скажам, што пытаньне вырашаецца не мэтафізычна, г. зн. не процістаўленьнем пролетарскай культуры да культуры мінулага бяз увагі на спадчынную сувязь, што існуе паміж імі.

Пролетарскі поэта Ул. Кірылаў вельмі яскрава выявіў такое мэтафізычнае процістаўленьне ў вядомым вершы „Мы“:

Мы во власти мятежного, страстного хмеля,  
Пусть кричат нам „вы палачи красоты“.  
Во имя нашего завтра—сожжем Рафаэля,  
Растопчем искусства цветы...

Калі ў імя свайго *заўтра* пролетарыят павінен спаліць Рафаэля,—а імя Рафаэля ўжыта мастаком, як сымболь усёй культуры мінулага,—дык гэта значыць, што яго пролетарскае *сягоньня* ні троха ня зьвязана з гістарычным *учора*... Той самы пункт погляду з большымі, праўда, адменасьцямі палягае ў аснове вядомых выступленьняў А. А. Багданава, які выступаў у 1909 г., у пэрыод існаваньня т. зв. Капрыйскай школы, з заклікам пабудовы на аснове організацыйнай навукі пролетарскай культуры, і шматлікіх выступленьняў „Пролеткульту“, меўшых месца ў працягу рэволюцыі і, нарэшце, нашумеўшых дэклярацый часопісі „На посту“.

Я зраблю некалькі характэрных у гэтым стасунку пасылак.

27 верасьня 1922 г. ў „Правде“ быў надрукаваны дэклярацыйны артыкул Старшыні Ўсерасійскага Пролеткульту тав. Плятнёва. У гэтым маніфэсьце Пролеткульту, мы, паміж іншым, прачыталі наступнае:

„Творчасьць новай пролетарскай клясавай культуры—асноўная мэта Пролеткульту... Творчасьць новай пролетарскай культуры ня ёсьць культуртрэгерская задача,—гэта процэс барацьбы заядла варожых ідэолёгій буржуазіі і пролетарыяту... Дыалектыка разьвіцьця ў стасунку да барацьбы ідэолёгічнай застаецца ў поўнай сіле. Тэзіс—буржуазная клясавая культура; яе антытэзіс—клясавая культура пролетарыяту; і толькі *за парогам* клясавага грамадзянства, у соцыялізьме, іх сынтэз—культура агульначалавецкая... Якія-ж конкрэтныя формы гэтай барацьбы ў галіне культуры? Задача будаўніцтва пролетарскай культуры можа быць разьвязана толькі сіламі самога пролетарыяту... І толькі тады, калі пролетарыят будзе мець сваіх вучоных ва ўсіх галінах веды, сваіх мастакоў ва ўсіх выглядах мастацтва, толькі тады пастаўленая намі задача будзе разьвязана... Задача будаўніцтва пролетарскай культуры можа быць разьвязана толькі сіламі самога пролетарыяту,—вучонымі, мастакамі, інжынэрамі і т. п., вышаўшымі з яго асяродзішча...“

Няўжо сапраўды пролетарыят павінен узяцца за творчасьць сваёй культуры, толькі „скінуўшы з плячэй сваіх прыгнятаючую покладзь“ культуры папярэдніх кляс, як сказаў адзін з ідэолёгаў напостаўства? Ці сапраўды найпатрэбнейшай умовай зьяўленьня пролетарскай культуры зьяўляецца адмова ад культурнай спадчыны мінулага? Ці сапраўды працоўная кляса павінна будаваць сваю культуру на пустым месцы? Ці магчыма пролетарскую культуру штучна ўзрасьціць у васобных, для гэтай мэты створаных сядзібах, накшталт „Пролеткульту“? Ці магчыма, нарэшце, заваяваць культуру, як, напрыклад, уладу? Ці можа пролетарыят проста заўладаць культурай, дэкляраваць сваю культурную гегемонію, карыстаючы з таго, што мае ў сваіх руках палітычную?

Калі Пролеткульт у васобе т. Плятнова даў на гэта пытаньне з тымі ці іншымі агаворкамі пацьвярджальны адказ, дык У. І. Ленін гэты адказ кваліфікаваў адным кароткім, але вельмі выразным словам—„вздор“... Для таго, каб толькі ўразумець, якое пачуцьцё протэсту і абурэньня выклікала ў кіраўніка пролетарскай рэволюцыі плятнёўская дэклярацыя аб пролетарскай культуры, даволі паглядзець на нядаўна апублікаваны ГИЗ фотографічны адбітак гэтага артыкулу з масай адзнак Ул. Ільліча. Чаму-ж Ленін трактаваў заклік пролеткультаўцаў да адмовы ад спадчыны культуры мінулага і аб стварэньні новай клясавай культуры сіламі аднаго толькі пролетарыяту—як архіфікцыю? Таму, што ў яго было марксыцкае, а не багданаўскае ўяўленьне аб процэсе нараджэньня новай клясавай культуры і аб яе адносінах да культур мінулых сталецьцяў і кляс...

Мы вышэй гаварылі аб тым, што тэорыя марксызму зьяўляецца адным з самых каштоўных элемэнтаў пролетарскай культуры, якая нараджаецца, але ці-ж гэта сыстэма не зьяўляецца геніяльным сынтэзам усіх дасягненьняў філёзофскай, соцыолёгічнай і природа-навуковай думкі папярэдніх сталецьцяў? Ці-ж пролетарскі матэрыялістычны сьветапагляд не ўцягнуў у сябе і не прасякнуўся наскрозь прынцыпамі ангельскага і францускага матэрыялізму? Няўжо-ж Маркс і Энгельс ня лічылі сваімі духоўнымі айцамі выдатнейшых ідэолёгаў заходня-эўропэйскай буржуазіі—Фіхтэ, Канта і іншых?..

Так і толькі так ставіў пытаньне Ленін, калі ён гаварыў у кастрычніку 1920 г. на 3-ім Зьезьдзе Комсамолу: „Вы зрабілі-б вялізную памылку, калі-б папрабавалі зрабіць той вывад, што можна стаць комуністым, ня прысвоіўшы таго, што набыта чалавецкімі ведамі... Гэта трэба мець на ўвазе, калі мы, напрыклад, вядзем гутаркі аб пролетарскай культуры. Бяз яснага разуменьня таго, што толькі дакладнай ведай культуры, створанай усім разьвіцьцём чалавецтва, толькі перапрацоўкай яе можна будаваць пролетарскую культуру—бяз гэткага разуменьня нам гэтай задачы не разьвязаць. Пролетарская культура не зьяўляецца выскачыўшай нямаведама адкуль, не зьяўляецца выдумкай людзей, якія называюць сябе спэцыялістымі па пролетарскай культуры. Гэта цалком усё не-

рэчнасьць. **Пролетарская культура павінна зьявіцца законамерным разьвіцьцём тых запасаў вед, якія чалавецтва выпрацавала пад уціскам капіталістычнага грамадзянства, чыноўніцкага грамадзянства**".

Гэткая конкрэтная, дыалектычная, рэволюцыйна-марксыцкая, а не адцягненая, утопічная пастаноўка пытаньня. Яна скіроўваецца на тое, што пролетарыят стварае сваю культуру не як „Иван, непомнящий родства", а як кляса, якая ведае сябе, як уласьніка лепшых дасягненьняў чалавецкай думкі і набытай сталецьцямі практыкі. І гэтая кляса, пазбаўленая самазвадзтва, цьвяроза ўсьведамляе сабе, што для таго, каб стаць уласьнікам **новай** культуры, трэба ўзяць ад старой усё, што можна ўзяць, што ёсьць у ёй мэтазгоднага і каштоўнага. Недарэчна думаць, што пролетарыят, ствараючы сваю культуру, павінен выкінуць за борт культуры кляс, пярэдніх яму. Калі яшчэ раз успомніць аб фэльетоне т. Сасноўскага, дык трэба сказаць, што нараджэньне пролетарскай культуры зусім і не патрабуе свабоды „от плевательницы", зусім ня церціць „безштаннай" філёзофіі шчэдрынскага хлопчыка... Наадварот, нараджэньне пролетарскай культуры патрабуе самай вялікай увагі да тысяч культурна-бытавых дасягненьняў папярэдніх кляс і іх выкарыстаньня ў інтарэсах новае клясы. Пролетарыят ня грае фарсу адкіданьня старой культуры, адмовы ад буржуазнай спадчыны. Наадварот, ён прымае старую культуру, ён выступае адзіным упоўнаважным гісторыяй прэтэндэнтам на буржуазную спадчыну... Само па сабе разумеецца, што тут гутарка йдзе аб прыняцьці самым крытычным. Тут гутарка йдзе аб спадчыне, якую прыдзецца як найлепей перабраць, якую трэба пералітаваць у кузьні сьветаразуменьня новае клясы. Толькі так, памарксыцку, паленінску, падыалектычнаму трэба разумець гордыя словы аб тым, што мы „солнце старое потушим, мы солнце новое зажгем".

Такім чынам, не хванабэрнае грэбаваньне старой культурай, а крытычная пераапрацоўка яе зьяўляецца асноўным і кіраўнічым прынцыпам пабудовы пролетарскай культуры. Ад гэтага прынцыпу і йшоў Ленін, калі ў сваёй вядомай прамове аб посьпехах і труднасьцях Савецкай улады гаварыў: „Трэба ўзяць усю культуру, якую капіталізм пакінуў, і з яе пабудаваць соцыялізм. Трэба ўзяць усю навуку, усе веды, мастацтва. Бяз гэтага мы жыцьцё комуністычнага грамадзянства пабудаваць ня можам. А гэта навука, тэхніка, мастацтва—у руках спэцыялістых, у іх галовах. Так пастаўлена задача ва ўсіх галінах, задача супярэчная, як супярэчны ўвесь капіталізм, задача самая цяжкая, але якую можна выканаць" (1919).

Гэта, зразумела, гучыць зусім іначай, чым заклікі ў імя пролетарскага заўтра паліць Рафаэля...

І здаровы інстынкт падказаў пролетарскаму поэту Герасімаву адказаць на заклік свайго таварыша паліць Рафаэля і растаптаць кветкі мастацтва наступнымі выдатнымі словамі:

Мы все возьмем, мы все познаем
Пронижем глубину до дна...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Нет меры гордому терзанию:
Мы—Вагнер, Винчи, Тициан;
Мы новому музею—зданию
Воздвигнем купол, как Монблан.

Пролетарская культура ня можа быць ні дэкляравана, ні дэкрэтавана; яна павінна зьявіцца і зьявіцца, як вынік органічнага процэсу, які мае глыбокія соцыяльныя карані.

Гэты процэс, як мы імкнуліся паказаць вышэй, даводзіць да таго, што ўжо ў нетрах капіталістычнага грамадзянства формуюцца некаторыя элемэнты надыходзячай пролетарскай культуры. З пераходам у рукі рабочае клясы палітычнае ўлады і зьменай буржуазнае дзяржавы дзяржавай пераходнага часу разьвіцьцё пролетарскай культуры пачынае ажыцьцяўляцца досыць хутка. Тут рабочай клясе прыходзіцца вырашаць вельмі цяжкую і супярэчную задачу. У значнай часьці сваёй пролетарыяту даводзіцца наганяць культуру мінулага, элемэнтарна адукавацца, далучацца да скарбніцы вед, здабытых людзьмі на працягу доўгіх вякоў упорнай працы... А разам з тым, той самы пролетарыят у сваёй перадавой часьці, у сваім авангардзе творыць новую клясавую культуру... Адбываецца ўсмоктваньне ў сябе старога, яго клясавая фільтроўка, яго крытычная пераапрацоўка. Куецца зьвяно за зьвяном ланцуг пролетарскай культуры. Апанаваньне двума канцавымі зьвянамі зьяўляецца тут асабліва важным, але, у той самы час, асабліва цяжкім. Гэта— зьвяны навукі ды мастацтва. Ні навука, ні мастацтва не знаходзяцца ў **простай** залежнасьці ад экономікі грамадзянства. Тут мы спатыкаемся з залежнасьцю ўкоснай, пасрэднай, якая перадаецца праз трансмісію грамадзянскай псыхолёгіі.

Гадоўля пролетарскае навукі і пролетарскага мастацтва ў оранжэрэях і парнікох даводзіць толькі да таго, што Ленін называў архіфікцыяй, да мізэрных і прэтэнцыйных патуг тварыць культуру навае клясы. Спроба „ўвесьці“ пролетарскую навуку і пролетарскае мастацтва мерамі рэволюцыйнага гвалту чакае мізэрная няўдача. А. В. Луначарскі ў аднэй сваёй прамове па пытаньні аб культуры вельмі злосна пакпіў з тых энтузыястых, якія думалі, што аднае прыгожае гадзіны нейкага прыгожага месяца адбудзецца, роўналежна забраньню зімняга дварца, забраньне прыступам Акадэміі навук і Вялікага тэатру... Ні Акадэміі навук, ні Вялікага тэатру прыступам узяць нельга. Ці значыць гэта, што рабочая кляса, апанаваўшы палітычнай уладай, стаўшы на чале пераходнага часу, што рабочая кляса павінна крыжам скласьці на грудзях рукі і з добрадушным спакоем аглядаць, як у нетрах грамадзянства будуць пасьпяваць пролетарская навука і пролетарскае мастацтва? Бязумоўна, не; такі добра-

душны фаталізм з боку рабочае клясы быў-бы злым учынкам у стасунку да тых вялікіх задач, якія гісторыя паставіла перад ёю. Кляса, якая зьяўляецца гегемонам грамадзянства і ставіць перад сабой задачу прывясьці грамадзянства да бясклясавага стану,—**такая кляса павінна выдзеліць максымум увагі таму, каб скарыстаць навуку і мастацтва,** гэтыя выключныя магутнасьці соцыяльныя фактары **ў сваіх інтарэсах.**

Гэта адна з найбольш важных і цяжкіх задач, што стаяць перад клясай, якая апанавала політычнай уладай, бо гэтая задача, што вымагае падліку вялікай колькасьці фактараў, маючых уплыў на крышталізацыю так званых ідэолёгій вышэйшага парадку, г. зн. канцовых зьвеньняў культурнага ладу. Вельмі істотную ролю грае тут прыцягненьне на бок рабочае клясы таго грамадзянскага прамежнага пласта, які зьяўляецца непасрэдным творцай культурных вартасьцяй ідэолёгічнага парадку—навукі і мастацтва.

Гэты прамежны пласт капіталізм часта ставіў у стан ляндскнэхту. Аднак, навука і мастацтва дрэнна пагадняюцца з сэрвілізмам рэжыму эксплёатацыі і заняволеньня працы. Людзі навукі і мастацтва павінны раней ці пазьней адчуць, у якое ганебнае становішча ставіць іх капіталізм. У часы рэволюцыйных навальніц хістаньні інтэлігэнцыі паміж капіталам і працай робяцца ракавымі... Па меры таго, як пролетарыят робіцца пераможнікам у тэй барацьбе, якую ён вядзе з аджываючымі век клясамі, ён прыцягвае на свой бок інтэлігэнцыю, якая пачынае дастаўляць новай клясе культурныя вартасьці, на якія ён пачынае выяўляць вялікі попыт... Аднак, ня гэтая акалічнасьць вырашае, нарэшце ўсяго, лёс пролетарскае культуры.

Пролетарская культура ствараецца ў самым процэсе жыцьця, узросту ды разьвіцьця дзяржавы на чале з рабочай клясай. Пролетарская культура зараджаецца яшчэ пад уціскам варожае пролетарыяту клясы, яна распускаецца і разьвіваецца ў атмосфэры дзяржавы пераходнае ад капіталізму да соцыялізму, разам з гэтай дзяржавай яна і загіне... Загіне, каб уступіць сваё месца новай прыгожай, па-заклясавай, агульналюдзкай культуры вызваленага ад пут капіталізму грамадзянства. Але да гэтае чароўнае культуры будучыны мы прыдзем толькі праз культуру клясы, якая, вызваляючы сябе, вызваляе чалавецтва... Будзьма-ж мы ўсе, па меры сіл, разуменьня і вед, працаўнікамі, будаўнікамі і мулярамі гэтае клясавае, што вядзе да бясклясавай, культуры...

# СЯЛЯНСКІ РУХ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ Ў 1905 г.

**М. Мялешка**

*Працяг* [1])

Не зважаючы на самыя рашучыя меры ўраду да спыненьня сялянскага нездаваленьня і адкрытага паўстаньня, рэволюцыйны ўздым сялянства не супыняўся на працягу ўсяго году. Па ўмовах сялянскага жыцьця рэволюцыйныя выступленьні адбываліся, галоўным чынам, у зімовы час, калі селянін быў некалькі волен ад сваёй працы ў полі і калі моладзь вярталася дамоў з гарадоў і рачных прыстаняй, куды адлучалася на летнія заработкі. З самага пачатку году сялянскія паўстаньні на Віцебшчыне пачаліся з таго, што сяляне сталі цэлымі вёскамі сячы панскі лес на дровы і часткай для будовы. Мясцамі-ж былі разбураны і самі маёнткі.

Асабліва моцнае паўстаньне выбухнула на Дзьвіншчыне. Дзьвінскі маршалак у лютым месяцы пісаў губарнатару, што сяляне Ужвалдзкай воласьці самаволь зрабілі высечку лесу ў дварох: Амбельмуйжа, Людвіамполь і Камбуль, што сяляне гэтай воласьці меліся 15 лютага высечы лес двору Сіваргоф і разбурыць двор Краслаўку графа Броэль-Плятора. 15 лютага паліцыя пры дапамозе войска рабіла вобыск у сялян Ужвалдзкай і Малінаўскай валасьцей, але „мясцамі сяляне, не зважаючы на прысутнасьць войска, аказвалі супраціўленьне паліцыі і не дапусьцілі да вобыску“. „Ужвалдзкая воласьць зьяўляецца ачагом, адкуль падобная дзейнасьць можа распаўсюдзіцца на ўвесь павет. Неабходна, каб паліцыя энэргічна, пры дапамозе войска, па ўсіх вёсках рабіла вобыскі і заарыштоўвала награблены лес, не зважаючы на супраціўленьні, якія будуць чыніцца. Неабходна, гэтак сама, раскватараваньне па гэтай-жа воласьці вайсковых атрадаў, каб была магчымасьць ураз-жа адпаведнымі мерамі, па паказаньні паліцыі, спыняць далейшыя спробы высечкі лесу“,—такія рады даваў маршалак губарнатару. У лютым месяцы ў Дзьвінскім павеце былі разбураны двары: Дубнягі, Біржы, Магнусава, Аляксандрава, Асташава, Марыамполь і Сіваргоф. У вапошнім сяляне забралі ўсю ма-

---

[1]) Глядзі „Полымя“ № 7 за 1925 г. У папярэднім артыкуле, на ст. 111 у зносцы надрукована „25 сьнежня 1923 г., замест „25 сьнежня 1903 г.“ Дзьвінск абвешчаны на ваенным палажэньні 11 студзеня 1906 г. а не 1905 г.

емасьць. У канцы лютага да губарнатара зьвярнулася дзесяць абшарнікаў Дзьвінскага павету з просьбай затрымаць на павеце войска на доўгі час, „бо сяляне гавораць, што калі выйдзе войска, то яны даб'юцца свайго". „Такая няўхільная рашучасьць да рабаваньня," даводзяць абшарнікі, „тлумачыцца тым, што сярод сялян распаўсюджаны чуткі, па якіх рабаваньні зьяўляюцца неабходным пачаткам, каб адабраць зямлю і лес ад паноў і перадаць сялянам". У гэты-ж час другая група абшарнікаў, якая больш уважліва адносілася да падзей гэтага часу, даводзіла губарнатару, што сялянскія нездаваленьні выбухаюць на грунце цяжкага матэрыяльнага становішча сялян, дзякуючы неўрадлівым гадом і вайне, якая спыніла пабочныя заработкі. Дзеля гэтага ў сялян няма чаго есьці, а з прыходам вясны ня будзе збожжа на сяўбу і пры такім стане вядома селянін адважваецца на ўсё. Каб спыніць беспарадкі, гэтыя абшарнікі раілі ўраду ўнікнуць у сялянскую бядоту і даць дапамогу сялянам.

Рэволюцыйная агітацыя на Дзьвіншчыне прасякнула ў самую сялянскую гушчу. Высунутыя рэволюцыйнымі партыямі пытаньні і тлумачэньні па іх уразумела сялянства і даводзіць ураду незаконнасьць рэволюцыйных учынкаў было немагчыма. У сваім данясеньні міністру ўнутраных спраў 26 лютага Віцебскі губарнатар пісаў: „Я, аб'яжджаючы воласьці Малінаўскую, Ужвалдзкую, Капінскую, Ізабелінскую і Вышкаўскую, тлумачыў сялянам на валасных і сельскіх сходах незаконнасьць іх учынку і папярэджваў аб тэй цяжкай кары, якую панясуць усе вінаватыя ў беспарадках, высечках лесу і рабаваньнях... У гутарках з сялянамі, земскімі, абшарнікамі і духоўнікамі я прыходжу да пераканаць, што прычынай да самаўпраўства зьяўляюцца, з аднаго боку, адсутнасьць у насельнікаў дроў і немажлівасьць іх дастаць, а з другога—пропаганду рэволюцыйных організацый і шырокае распаўсюджаньне сярод сялян нелегальных брошур і проклямацый, якія ўзбуджаюць народ проці капіталістых і абшарнікаў"... „Наколькі ўразумелі сяляне розныя проклямацыі, сьведчыць той факт, што шмат хто з сялян, асабліва з моладзі, літаральна паўтарае выразы з адозваў і проклямацый. Давесьці сялянам недарэчнасьць падобных тлумачэньняў немажліва ні ўякім разе дзеля таго, што ў тэй-жа літаратуры сяляне знаходзяць і тлумачэньні—чаму ўлада абараняе паноў".

Рух сялян Дзьвіншчыны стаў перакідвацца на суседні Дрысенскі павет. У лютым месяцы сяляне розных месц Дрысеншчыны прад'явілі паном розныя запатрабаваньні і занялі варожую позыцыю да паноў. 20 лютага граф Плятар у лісьце сваім прасіў губарнатара не дапусьціць да рабаваньня яго двору Пустынь, „бо становішча, пісаў ён, вельмі дрэннае, а канец можа быць яшчэ горшы, бо ўсюды толькі і чутны гутаркі аб замерах да рабаваньня двароў, якое маецца адбыцца 20 лютага. Суседнія двары разрабаваны, а мы, якія жывем далёка ад гораду, дзе стаіць войска, рызыкуем страціць маемасьць, а мо' й жыцьцё". У канцы лютага сяляне вёскі Чурылава запатрабавалі выдачы дроў з лесу двору

Баліны. Тры супольныя з дваром Новікі вёскі гэтак сама запатрабавалі выдаць з двору апал і іншую дапамогу. Сяляне вёскі Жыгулі Юстынаўскае воласьці 28 лютага прышлі ў двор Юстынава да пана Грабніцкага і падалі яму заяву, у якой даводзілі, што „ад стаўшых недародаў яны дашлі да крайняй беднасьці... Некаторыя з нас прасілі вас прадаць нам хлеба, але вы нам хлеба не прадалі, а прадалі жыдом (гандляром). На працы ў двары трымаеце людзей з чужых губэрань, а нам, быўшым вашымі падданымі і цяпер да вас належачых, у працы адмаўляеце“. Заяваканчалася просьбай выдаць ім хлеба і дроў. Відаць, гэты самы Грабніцкі 6 сакавіка тэлеграфаваў губарнатару: „Узбунтаваныя чуткамі аб рабаваньнях у Дзьвінскім павеце мясцовыя сяляне зьбіраюцца цэлымі грамадамі рабаваць двары. Проці майго фальварку Кубельшчызна адбыліся сялянскія сходкі, але напад быў папярэджан мясцовай уладай... Правадыры іх і надалей падбухторваюць, даводзячы, што за рабаваньні пры галадоўцы кары ня будзе“. У гэты-ж самы час сяляне вёсак, прылеглых да двору Гэоргіянава, сталі настойліва дамагацца, каб адпусьцілі ім лесу на дровы, пагражаючы ў праціўным выпадку пачаць самавольна сячы лес. Усякія ўгаворы і пагрозы ня мелі ўплыву на сялян і патрабавалася выклікаць войска, каб папярэдзіць беспарадкі. Сяляне вёсак Лісьненскага вобчаства Юхавіцкай воласьці пачалі сячы лес двору Лісна, даводзячы, што лес гэты належыць да іх.

У самым горадзе Дрысе было поўнае беспрацоўе, якое ставіла рабочы люд у цяжкае матэрыяльнае палажэньне. На просьбу ў гарадзкую ўправу дапамагчы беспрацоўным са скарбнічнага збору да вясны, пакуль знойдуцца заработкі, управа адмовіла, параіўшы за гэтым зьвярнуцца да прыватнай добрадзейнасьці. Праўда, невялічкі горад Дрыса, больш падобны да мястэчка, без фабрычна-заводзкай прамысловасьці, меў нязначны лік рабочых і іх уплыў на сялянства быў невялікі. Але ў Дрысу, як асяродак павету, ужо ў сакавіку была накіравана рота салдат „ня толькі для падаўленьня аграрных беспарадкаў, якія могуць здарацца, але і дзеля спыненьня сялянскіх сходак, якія адбываюцца кожын дзень у розных вёсках“.

Сялянскія падзеі на Полаччыне гэтак сама з пачатку году выявіліся ў лясных высечках. У студзені сяляне в. Васілёва Струнскай вол. высеклі лес двору Борава. Калі ўпраўляючы дваром Лапін з соцкімі і дзесяцкімі пашоў, каб заарыштаваць лес, то сяляне разагналі іх, а Лапіна збілі. Да самай вясны адбывалася масавая высечка лесу ў дварох Доўгая Ніва і Расалаі. У лютым месяцы Полацкі архіепіскап скардзіўся губарнатару, што сяляне, якія знаходзяцца пад уплывам мяцежнага настрою рабочых, сякуць самачынна лес Барысаглебскага манастыра. Сяляне супольных з дваром Казіміравам вёсак узяліся за высечку дворнага лесу, прычым усякая спроба мясцовай улады спыніць высечку, спатыкала часам нават узброены адпор з боку сялян. Толькі накіраваны атрад салдат ня даў

сялянам сячы лес. У сакавіку пачалася самавольная высечка лесу ў лясных дачах двору Варонечы. Спроба ўрадніка з ляснікамі і дворнымі людзьмі затрымаць парубшчыкаў у Варонечы сустрэла з боку сялян узброены адпор. Толькі выкліканае войска змагло спыніць часова высечку і заарыштаваць вінаватых. У двары „Красны Рог“ сяляне з м. Гомель пачалі захапляць дворную зямлю і сячы лес.

На Лепельшчыне, у гэтым глухім кутку Віцебшчыны, сяляне рашуча пачалі сячы панскі лес. У лютым месяцы на Лепельшчыну, у дапамогу паліцыі, былі накіраваны дзьве роты салдат. Адпраўку войска выклікаў „да крайнасьці ўзбураны настрой сялян Віцебшчыны, у зьвязку з якім вынікаюць беспарадкі, пры якіх здараецца самавольны захоп зямлі і разбураньне двароў“. У студзені ляснікі чаркесы графіні Забелы паранілі некалькі сялян, заставўшы іх у лесе двору Багуслава. На крык параненых зышліся сяляне вёскі Старасельля і сталі лавіць чаркесаў. Зьявіўшыся ў хату лясьніка, які перад імі зачыніў хату, сяляне разламалі дзьверы і ўлезьлі ў хату. Абшарнік Спасаўскі паведаміў земскага, што ў яго двары Забалоцьце сяляне вёскі Забалоцьце самавольна сякуць лес. Па гэтай справе земскі Гнядоўскі засудзіў 27 сялян па месяцу турмы з узваротам страт Спасаўскаму.

З палавіны сакавіка сяляне вёскі Барылы Бабынаўскай воласьці, распачалі высечку лесу двара Арэхаўна. Вытрабаванай з Ветрына ротай салдат высечка лесу спынена, а вінаватыя адданы пад суд. 7 мая забаставалі парабкі ў двары Багэйкава, выказаўшы гэтым протэст супроць біцьця ўпраўляючым пастуха. У гэтую ноч у двары згарэў скотны двор і пуня. 30 мая ў Вульлі забаставала 80 чалавек, якія працавалі на сплавах па р. Уляцы і запатрабавалі падвысіць плату. Купец набавіў ім 10 р. на чанок, і работнікі пачалі ізноў працаваць. Масавая высечка панскага лесу прымусіла паноў Лепельшчыны колектыўна падаць губарнатару просьбу не дапускаць у гарадох продажы лесу без адпавядаючага пасьведчаньня — у каго на пні куплен лес, але гэтым спыніць высечку было нельга. Разам з рэволюцыйным настроем, правымі элемэнтамі вялася пагромная агітацыя сярод сялян. 6 сакавіка ў мястэчках Бешанковічах, Вульле і Чашніках кожны год зьбіраюцца кірмашы. У зьвязку з гэтым сталі хадзіць чуткі, што ў час кірмашу адбудуцца пагромы. Губарнатар загадаў на гэты дзень у памянёныя мястэчкі выслаць салдат, чым і быў папярэджаны пагром.

Па Гарадоцкім павеце ў справах ня маецца вестак аб сялянскім руху спачатку году. Відаць толькі, што 21 лютага ў часе кірмашу ў вёсцы Дуброўка Руднянскай вол. адбыўся яўрэйскі пагром, у якім зьбілі і мястовага ўрадніка.

Па Віцебскім павеце спачатку году асабліва былі непакойныя воласьці Янаўская і Веляшкоўская. Аб настроі сялянства ў Янавічах спраўнік даносіў губарнатару: „У ваколіцах мястэчка Янавічы сталі пры-

кмячацца гурткі яўрэйскай моладзі з рабочага люду, якія сходзіліся дзеля нарады проціваджяржаўнага характару. Усе ўдзельнікі падобных зборышчаў належаць да „соцыял-дэмократычнай рабочай партыі“. Сабраўшыся, яны пяюць песьні, зьмест якіх цяжка разабраць, але канчаюць заўсёды крыкам: „далоў самадзяржаўе, няхай жыве Японія“. Дапускаюць зьдзек у вадносінах да „сьвяшчэннай асобы яго імпэратарскага вялічаства“... „чытаюць брошуры і проклямацыі. Часта яўрэі зьбіраюцца ў Казіміраўскай лясной дачы, адкуль чутны выстралы са стрэльбаў і рэвольвэраў, бязумоўна чынімыя яўрэямі“. „Наогул яўрэйскі майстровы люд і рабочыя трымаюць сябе крайне выклікаюча ў адносінах да хрысьціянскіх насельнікаў“. Паліцэйскі, як відаць, усю віну ўзвальваў на яўрэяў. Гэта данясеньне спраўніка яскрава пацьверджвае пагромніцкі настрой паліцыі.

Сяляне вёскі Кавалі Бабініцкай вол. сталі сячы самавольна лес двара Андронавічы. Высечка лесу ў далейшым была спынена адміністрацыйнымі мерамі. Былі зроблены лясныя высечкі ў двары Кабыльнікі, дзе высечана каля тысячы пнеў. У Шчэрбінскай вол. сяляне вёскі Сарокі распачалі сячы лес у двару Любашкова, але паліцыі ўдалося высечку спыніць. Сяляне вёсак, супольных з дваром Падбярэзьзе, заявілі пану Косаву, што калі ён ня дасьць ім дроў з палавіны, не паменшыць платы за пашу скаціны з 1 р. на 50 к., не паменшыць платы за фермы і не павялічыць удвойчы плату парабком і падзённым, то яны здымуць з працы ўсіх работнікаў і не дапусьцяць гнаць скаціну ў поле. У двары Ласосіна Сялюцкай воласьці сяляне рашуча ўзяліся сячы лес і ўжо было высечана каля тысячы пнеў. На просьбу лясьніка і ўпраўляючага спыніць высечку лесу, сяляне пагражалі забойствам, кажучы: „Цяпер наша воля“. Для ўсьцішэньня сялян прасілі выслаць казакоў, якія стаялі ў двары Емельлянаве Веляшкоўскай воласьці, але адгэтуль баяліся выводзіць войска, бо сяляне тут толькі і чакалі пакуль выведуць казакоў, каб пачаць бурыць двор, да чаго ўжо ня раз парываліся.

У Себескім павеце ў вясну сяляне секлі самавольна лес у дварох: Астроўна, Сьцяпеніцы, Карасёлькі, Забельле і Байдакі.

Па Рэжыцкім павеце ў лютым месяцы сталі выбухаць сур'ёзныя сялянскія паўстаньні. Абшарнікі сталі прасіць губарнатара выслаць у павет войска, якое пасьля было разьмешчана ў дварох Розентова, Пуша і Андэна. Сяляне самавольна секлі лес у дварох: Пудалі, Янопаль, Малта, Варкляны, Балінава, Саколка, Субінайты, Вяртукліна і Берасьцё. Па заяве спраўніка Рэжыцкага павету, сяляне былі ўсе ўзброены стрэльбамі і рэвольвэрамі. І тут пагромшчыкі не засталіся бяз удзелу. 8 лютага, на рабочых мястэчка Вяліёны, пры выхадзе іх з кажэўнага заводу, напалі маскалі (стараверы) з суседніх вёсак і пачалі іх біць і страляць у іх. 26 мая ў вёсцы Сталайдзяны Борхаўскай воласьці, была наладжана маніфэстацыя з чырвонымі сьцягамі і рэволюцыйнымі песьнямі. Па другіх паветах сяляне гэтак сама мясцамі секлі панскі лес.

Як мы ўжо бачылі раней, на барацьбу з рэволюцыяй выкарыстоўваліся ўсе магчымыя сродкі ўлады. Да паўстаўшага сялянства губарнатар ужываў масавыя рэпрэсіі. Па адным толькі Дзьвінскім павеце, да палавіны мая месяца было заарыштована 515 сялян. Пры такой масе заарыштованых нельга было ў устаноўлены законам тэрмін разабраць іх вінаватасьць, то губарнатар стаў ужываць „Обязательное постановление“ аб мерах да аховы дзяржаўнага парадку і грамадзянскага супакою, выданага яшчэ 7 кастрычніка 1903 г., па якім губарнатар меў права накладаць арышт на тры месяцы на асоб, якія заўважаны ў парушэньні памянёнай пастановы. Такія масавыя арышты пакідалі шмат сем'яў без рабочых рук вясной, што дрэнна адбівалася на іх гаспадарцы.

Але аднымі толькі рэпрэсіямі нельга зразу было ўсьцішыць расхваляванае сялянства. Экономічныя патрэбы сялянства няўхільна штурхалі яго шукаць сабе здавальненьня, бо бяз іх нельга было жыць. Сялянскія падзеі, якія адбыліся на Віцебшчыне зімой, пагражалі ўладзе сур'ёзнай небясьпекай. Губарнатар добра гэта ўлічваў, добра разумеў, што неабходна пайсьці насустрач экономічным дамаганьням сялянства, каб адцягнуць іх ад рэволюцыйных выступаў і не дапусьціць да захопу панскай маемасьці. Трэба было знайсьці самыя неадкладныя патрэбы ў сялянскім быце, каб, здаволіўшы іх у мажлівай меры, супакоіць вёску. З данясеньняў сваіх агентаў губарнатар бачыў, што сялянству, перш за ўсё, патрэбны дровы. Пільна быў дан загад на паветы адпускаць сялянам лес за плату з казённых дач, і ў сакавіку месяцы сяляне ўжо маглі купіць дровы. Другой неабходнай патрэбай у вясну была недастача ў сялянства збожжа. Гэта пагражала недасевам палёў і выклікала з боку сялян да ўлады яшчэ большую варожасьць. І з гэтай мэтай была наладжана вясной у губэрні раздача семянной пазыкі сялянству. Хаця губарнатар і чакаў у восень большых рэволюцыйных падзей сярод сялянства, але, „здаволіўшы“ такім спосабам дзьве галоўнейшыя патрэбы сялянства, губэрская ўлада думала гэтым усьцішыць некалькі сялянскую масу Віцебшчыны.

Але падзеі, якія то сям, то там сталі выбухаць улетку, сьведчылі, што сялянства стала ўжо некалькі разьбірацца ў політычным і соцыяльным палажэньні дзяржавы, выразна ўсьвядоміла сабе ўсю несправядлівасьць зямляўладаньня і вядома, не магло здаволіцца толькі купляй дроў у казённым лесе і атрыманьнем семянной пазыкі. Настрой жыхарства застаўся варожым і пры кожнай, самай нязначнай прычыне народ выказваў свае протэсты. Так, 7 чэрвеня жыхары м. Глазманкі Дзьвінскага павету заявілі протэст проці малітвы ў лютаранскай царкве за цара. Выкінуўшы чырвоны сьцяг з надпісам: „Няхай жыве рэволюцыя!“ грамада каля 600 чалавек стала слухаць проклямацыю, якую чытаў незнаёмы паліцыі чалавек і, калі прыстаў намерыўся спыніць чытача, то грамада паваліла прыстава і неміласэрна яго зьбіла. 9 ліпня грамада каля 200 чал.

жыхароў м. Бешанковіч, вышаўшы ў поле на мітынг, агалашала лёзунгі: „Далоў самадзяржаўе, далоў урад, няхай жыве свабода, ура!“. У Віцебскім павеце сяляне з вёскі Шумаўшчыны Бабынаўскай валасьці захапілі ў двары Бялынавічы сена і пажатае жыта і прывезьлі ў вёску. Пры вобыску ў сялян знойдзены 4 набітых стрэльбы, порах і шрот. У м. Колышках Веляшкоўскай вол. 9 ліпня, сабраўшыся на рынку, моладзь учыніла маніфэстацыю з рэволюцыйнымі песьнямі і лёзунгамі: „Ура! Далоў самадзяржаўе, далоў духавенства, далоў вайну. Няхай жыве Сахалін і саха на пакой“ [1]). У Рэжыцкім павеце 19 чэрвеня грамада сялян каля 70 чалавек з чырвонымі сьцягамі з надпісамі: „Далоў памешчыкаў!“ зьявілася ў двор Аташына Сьцярнянскай валасьца, абкружыла панскі дом і запрапанавала грапу Борху плаціць парабком за працу ад усходу і да захаду сонца 100 р. у год; аслабаніць ад працы на двор парабковых жанок і зьменшыць плату за арэнду 3 рублі з дзесяціны. 29 ліпня грамада каля 1.000 чалавек, сабраўшыся ў Борхаве гэтага-ж, Рэжыцкага, павету, выкінула чырвоныя сьцягі і накіравалася ў двор Борхава грапа Плятар-Зібэрга, дзе прад'явіла двору запатрабаваньні: падвысіць плату парабком, панізіць арэнду на зямлю, збавіць цану на лес і сенажаці і, дабіўшыся гэтага, разышліся. Абшарнікі, не жадаючы здавальняць запатрабаваньняў мясцовага сялянства, якое варожа адносілася да паноў, часам выпісвалі парабкоў з другіх губэрань. Абшарнік Рэўт выпісаў пятнаццаць сямей з Варшаўскай губэрні ў свой двор „Камянец“ Дзьвінскага павету. Некаторыя памешчыкі на Дрысеншчыне гэтак сама наймалі парабкоў у двор з другіх губэрань. Гэты спосаб практыкаваўся панамі другіх мясцовасьцяй.

Разам з запатрабаваньнямі ад абшарнікаў палепшаньня матэрыяльнага стану парабкоў і другіх палёгкаў для сялянства, улетку насельніцтва вёсак адмаўляласяісьці правіць дарогі, якія праходзілі па панскай зямлі. Так, напрыклад, сяляне Юхаўскай валасьці Дрысенскага павету адмовіліся ісьці правіць Полацка-Себескую дарогу. Сяляне Балюнскай валасьці Полацкага павету валасным сходам адмовіліся ісьці правіць дарогі, якія праходзяць праз панскае поле. У Кульняўскай вол. Рэжыцкага павету паліцыя стала ўжываць рэпрэсіі да тых сялян, якія адмовіліся ісьці правіць дарогі. Гэта ўзбурыла сялян, і 6 жніўня, сабраўшыся ў валасьці, яны напалі на ўрадніка і пагражалі з ім за гэта расправіцца. Такім чынам, летам сялянства дамагалася паляпшэньня быту дворных парабкоў і адмаўлялася выконваць натуральныя павіннасьці.

Надышла восень, якую з трывогай чакала губэрская ўлада. Скончылася праца ў полі, спынілася на адходнай прамысловасьці, і сяляне сталі вальней. Надыходзіла зіма, а бядачае жыцьцё селяніна ніколькі ня мянялася. Адусюль ішлі чуткі аб забастоўках па гарадох рабочага люду.

[1]) Так у данясеньні спраўніка.

Хадзілі розныя весткі аб палёгцы сялян, але рэальна селянін нічога ня бачыў. Нелегальныя выданьні і выступленьні агітатараў, хаця былі і рэдкімі, але расчынялі перад селянінам усе супярэчнасьці соцыяльнага стану былой Расіі, усьведамлялі яму яго клясавую належнасьць і намячалі пуцявіны праўдзівага вызваленьня з няволі—праз рэволюцыю да соцыяльнага парадку. Пачаліся сялянскія сходы, гутаркі, сяляне прыходзілі да пракананьня аб неабходнасьці сілай захапляць панскую маемасьць і зямлю, каб такім чынам выжыць паноў. Пасьля маніфэсту 17 кастрычніка, вестка аб якім ураз абляцела гарады і вёскі, як перамога рэволюцыі, сялянскія выступленьні сталі сьмялейшымі і захоплівалі большую масу народу. У лістападзе месяцы сялянскае паўстаньне на Віцебшчыне ахапіла ўсю краіну.

Для характарыстыкі настрояў у гэты час даем тут цалкам рапарт дзьвінскага іспраўніка да віцебскага губарнатара.

„20 ноября 1905 г. № 3583. Доношу вашему превосходительству, что особенно тревожным в последние дни является 4 стан вверенного мне уезда. Под влиянием громадного наплыва агитаторов, в этом стане повсюду происходят тревожные события. В м. Глазманке, по требованию толпы, закрыто трактирное заведение Барона Корфа, пивная лавка Графа Плятэр-Зиберга и пивной склад акционерного общества. К винной казенной лавке не пропускают транспорт вина, угрожая разграбить, а потому и за неимением напитков лавка тоже закрыта. В селе Унирмуйже и дер. Круманах народ требует закрыть казенные лавки, угрожая разграбить и убить сидельцев, а также драгун (по 3 человека при каждой лавке, но торговля пока производится; пивной-же склад закрыт. Дела волостного Правления и денежный сундук охраняются пятью драгунами; крестьяне требуют удалить солдат, а властей своих приговорили уволить. В м. Крейцбурге в ночь на 18 ноября тремя пулями ранили старшего городового гор. Якобштадта. Сидельцам казенных винных лавок толпы приказали закрыть торговлю. Каждую ночь начали стрелять около замка Крейцбург и были два случаи выстрелов по вечерам в одиночных солдат. К приставу явились владельцы отобранного оружия с требованием возвратиць все оружие и револьверы, угрожая в противном случае забраць силою. В м. Ливенгов толпа потребовала закрыть трактир, казенную лавку, училище и отказаться всем сельским властям от должности. В волостном Правлении порвали портрэт Барона Корфа и приговорили урядника Рудоля к увольнению; дали срок уехать ему из Левингофа до 4 ч. дня 19 ноября, а в противном случае угрожали бросить в него бомбу. Занятия в школах прекратились. В Царьградской казенной лесной даче лесничему пред'явили теже требования, как и в частных имениях, и приказали рабочым получать в день плату не менее 1 рубля. В лесной даче им. Ницгаль начали рубить лес, но драгуны приостановили. На станции Ницгаль толпы крестьян напали на управ-

ляющего Павловского, о чем донесено вашему превосходительству 15 ноября за № 3521. Во всех имениях 4-го стана пред'явлены крестьянами совершенно одинаковые требования насчет леса. Во всех народных училищах толпы самовольно об'явили всех учителей и учительниц уволенными. В волостных правлениях толпы самовольно увольняют волостных писарей и некоторих сельских властей. Во всех казенных винных лавках сидельцам приказали закрыть торговлю. Это-же требование пред'явлено во всех трактирных заведениях. В многочисленных местах на всем протяжении стана ежедневно происходят громадные митинги крестьян, на которых решено: а) подати и повинности не платить; б) закрыть все казенные винные лавки и трактиры; в) закрыть все училища и поставить своих учителей—латышей; во всех волостных правлениях назначить своих писарей, старшин и старост и никакого начальства более не допускать; д) все это привесть немедленно в исполнение, а затем, способами, которые начали применять теперь, заставить помещиков и их управляющих разбежаться и тогда поделить между собою как движимое имущество, так равно землю и лес; е) наличный состав полиции, а также войска, если они начнут препятствовать, уничтожить с оружием в руках. Правил никаких для митингов, а также сходок не признают и подчиняться таковым не обнаруживают намерения.

19 числа толпы народа осаждали гор. Якобштад с целью разгромить тюрьму и все учреждения и освободить арестованного агитатора, при чем положение было настолько тревожно, что начальник Якобштадских драгун обращался с просьбой к командиру Данилову оказать содействие в критический момент.

В остальных станах уезда настроение также тревожное: во многих пунктах ожидаются аграрные беспорядки и носятся слухи о возможности еврейских погромов. Только военною силою приходится сдерживать открытое проявление грубой силы народной массы, но за недостаточностью войск пришлось раздробить эскадрон драгун на мелкие отряды, что даже небезопасно для самих солдат.

Уездный исправник Гнедовский“.

28 лістапада сяляне, сабраўшыся на валасны сход у м. Прэлі Дзьвінскага павету, вынесьлі пастанову: зьмясьціць усю паліцыю, патрабаваць дровы з дворных лясоў па таннай цане, зачыніць царкоўна-прыходзкую школу і т. п. Сяляне на сходзе былі так узбураны, што земскі пакінуў сход і выехаў невядома куды, а валасны пісар вымушаны быў схавацца ад сялян.

25 лістапада дрысенскі маршалак даводзіў губарнатару: „За апошнія часы ў жыцьці павету здарыліся вялікія перамены ў горшы бок.

Шмат якія зямляўласьнікі зварачваюцца да мяне за радай, як ім паступіць у вадносінах да сялянскіх запатрабаваньняў. Гэтыя запатрабаваньні такія: выдаваць апалу па кубічным сажні на сядзібу, лесу на пабудову па аднэй бэльцы на хату за крайне малую цану, а іменна: дровы па

два рублі за сажань і па 50 кап. 5-вяршковая бэлька. Далей ідуць запатрабаваньні: не прадаваць лес на старану, даваць дарма пашу для вясковай скаціны, звольніць парабкаў (другіх мясцовасьцяй) і абавязкова наймаць мясцовых сялян па 90 к. або рублю ў дзень і т. п. Адным словам, поўнае пазбаўленьне ўласьнікаў права вольна загадваць сваімі дварамі. Запатрабаваньні гэтыя робяцца некаторыя пісьменна, а некаторыя ўласьціва грамадамі ў 200—300 чалавек з пагрозай і лаянкай. Праканаць сялян і вярнуць іх да спакою ўгаворам няма магчымасьці. Земскія начальнікі 1 і 2 вучасткаў зьбіралі сходы і нічога дабіцца не змаглі. Ва ўсіх валасьцёх ёсьць людзі, якія агітуюць і ўздымаюць сялян. Валасная ўлада бяз моцы. 25 лістапада сяляне зьявіліся ў двор Княжыца Зябкаўскай воласьці, спынілі працу паравога млына, разагналі парабкаў і запрапанавалі пану Бабяшынскаму адпусьціць ім па таннай цане дровы і збожжа.

29 лістапада сяляне Юстынаўскай вол. на валасной сходцы пастанавілі: збожжа набываць ад пана Грабніцкага: жыта і пшаніцу па 50 кап. за пуд, ячмень па 40 к., авёс па 30 к. і сена па 15 к. Парабкі павінны атрымліваць у месяц: узімку—мужчына 10 руб., а жанчына 5 руб.; улетку—мужчына 15 руб., а жанчына 10 руб. Хваёвы і яловы лес за пень у 4 вярш. ў верхнім адрэзе па 50 кап., дровы бярозавыя па 3 руб., альховыя—2 руб. і асінавыя па 1 рублю. Збожжа і пошар пан прадаваць пастарому ня мае права, а павінен адпускаць толькі ім, сялянам.

30 лістапада гэтыя сяляне грамадой да 1.000 чалавек зьявіліся ў двор Юстынава і прад'явілі Грабніцкаму гэтыя запатрабаваньні, прычым запрапанавалі прадаць усю скаціну з двору і звольніць парабкаў, якія наняты з другіх мясцовасьцяй. На выкананьне гэтага вызначылі месячны тэрмін. Пану забаранілі даць ведама гарадзкой уладзе аб прыходзе сялян.

Гэтага-ж, 29 лістапада, сяляне Таболкаўскай вол. зьявіліся ў двор Таболкі зямляўласьніка Шчыта і прад'явілі яму запатрабаваньне аб выдачы дроў, лесу, пашы і сенажацяй. Спынілі ўсю працу і забаранілі парабкам што-небудзь рабіць. Па тэлеграме пана Шчыта спраўнік, разам з земскім і войскам, езьдзілі ў Таболкі, але, прыехаўшы, нікога з сялян у дварэ не засталі. Парабкі-ж ад страху спынілі працу.

Такія-ж учынкі, як зьняцьце з працы парабкаў і спыненьне працы сяляне зрабілі ў дварох: Свольне—барона Будбэрга 29 лістапада і ў Кахановічах—Храпавіцкага 28 лістапада і, як даносіць прыстаў 3 стану, „прадпаложана ў недалёкай будучыне адначасова гэту меру ўжыць па ўсіх дварох павету.“

Пустынскі валасны старшыня даносіў земскаму начальніку, што 19 і 26 лістапада на валасным сходзе сяляне запатрабавалі безадкладнага звальненьня валаснога пісара, далучэньня іх да ўсерасійскага сялянскага саюзу. „Настрой сялян моцна ўсхвалёваны,—яны зусім прадаліся

соцыялізму, адмаўляюцца плаціць мірскі збор, што прымушае зачыніць валасное праўленьне месңае народнае вучылішча“.

24 лістапада сяляне Прыдруйскай вол. на валасным сходзе прынялі прыгавар, які рассылаўся „Ўсерасійскім сялянскім саюзам“, дзе быў выстаўлены цэлы шэраг палітычных запатрабаваньняў аб перабудове дзяржавы на дэмократычных падставах. Некаторыя сяляне гаварылі, што неабходна зьняць з працы ў двары парабкаў і пакаёвых служачых. Не даваць паном вывазіць хлеб на старану. Што з новага году сялянам будзе добра жыць. Разам з тым, сяляне казалі, што калі іх дэлегатаў паліцыя арыштуе, то іх неабходна выручыць „хаця-б у крывавай бойцы.“

18 лістапада на пляцы м. Росіцы невядомыя паліцыі агітатары сталі казаць прамовы і заклікаць народ да паўстаньня супроць пастаўленай урадам улады і супроць монархічнага дзяржаўнага ладу. Грамадзе тлумачылася, што сялянскія надзелы даўно ўжо выкуплены і што маніфэст 3 лістапада 1905 г. нельга лічыць „благодзеяніем“. Сялянам прапанавалася не хадзіць на працу ў двор і разганяць дворных парабкаў, не плаціць падаткаў, дзяліць панскую зямлю і інш. На другі дзень у Росіцы, па нагаворы ўрадніка, начальніка пошты і папа, сабралася монархічная грамада, каб пабіць тых, якія ўчора зьбіраліся на пляцы і некаторым асобам былі нанесены пабоі.

Праз два дні ў Росіцы народ ізноў грамадой зьбіраўся на пляцы, казаліся прамовы супроць бюрократаў і паноў. 22 лістапада ў валасным праўленьні сабраўся сход сялян Сушкаўскай вол., куды прышло некалькі агітатараў. На сходзе было пастаноўлена не даваць паном і іх арандатарам араць зямлю, зьбіраць па 1 руб. з вучастку на падтрыманьне забаставаўшых рабочых і не вазіць гарэлкі ў манапольки. Земскі начальнік 4 уч. Дрысенскага пав. даносіў губарнатару, што ў 4 вучастку поўная анархія. Сяляне грамадамі ходзяць па панскіх сядзібах, патрабуюць адпускаць ім лес, у праціўным выпадку пагражаюць сячы лес самавольна. 10 сьнежня зьявілася 36 сялян у двор Ігналіна з сякерамі і піламі, дзе разламалі плаціну ў вадзяным млыне, якая затапляла сялянскія лугі. Для ўсьцішэньня і арышту некаторых сялян у Ігналіна было выклікана войска.

На Полаччыне, па справах канцэлярыі віцебскага губарнатара, ня відаць выпадкаў захопу дворнай маемасьці і экономічных запатрабаваньняў. Але затое з наступленьнем восені тут ізноў распачата масавая высечка дворнага лесу. Па данясеньні паліцыі, калі стане зіма, самавольныя парубкі лесу нельга будзе затрымаць без ваеннай сілы. Пагэтаму зьявілася неабходнасьць у высылцы на Полаччыну трэцяй роты салдат[1]).

1) У Полаччыне старанна вялі працу па спыненьні рэволюцыйных выбухаў чорнасоценныя організацыі. У г. Полацку 23 і 24 кастрычніка адбыўся вялікі яўрэйскі пагром. Было разбурана шмат крам, многа яўрэяў забіта і паранена. Весткі аб гэтым разыходзіліся па павеце і, магчыма, затрымлівалі некалькі ўвагу селяніна.

Парубкі лесу па Полаччыне ў восень і ўзімку рабілі сяляне в. Карташы Лоўжынскай вол. ў двары Красналукі, сяляне в. Камачына, Андрэеўскай вол. ў двары Тэкленвіль. Тут паліцыю да вобыску сяляне не дапусьцілі. Спраўнік данасіў губарнатару: „Самавольныя вырубкі лесу сялянамі распачаты ў многіх дварох і што рабіць у іх вобыскі паліцыі бяз войска немажліва, дзеля таго што настрой сялян усяго павету вельмі ўзбуджаны і варожы! Сяляне в. в. Булыніна, Матулёва, Лобава і Драгунова Вазьнясенскай вол. секлі лес у двары Парэчча. Сяляне вёс. Грачухі Мікалаеўскай вол. секлі ў двары Трыполь. Сяляне з вёскі Абалоньне, Ізгародзішча, Мішковічы і Барсукі Андрэеўскай вол. запрапанавалі пану двара Міхалова адпусьціць ім дроў і жэрдак за плату 3 р. ў год і забараніць выбарачную сечку лесу на прадажу і сплаў. У працiўным выпадку яны паграджалі сячы лес самавольна, а высечку праданага купцу лесу не дапусьціць. На лес яны глядзелі, як на сваё дабро. Сабраўшыся цэлым вобчаствам, яны вынесьлі пастановы: прасіць лесахраніцельны камітэт забараніць прадаваць лес з двара Міхалова „невядомым нам купцом, у якім лесе яны самі маюць патрэбу.

Сяляне многіх вёсак Петрапаўлаўскай вол. секлі лес на дачах двору Будаболь і сечаны лес хавалі ў суседнім лесе па кустох. Сваё самавольства сяляне тлумачылі немагчымасьцю нідзе больш дастаць дроў. Сяляне в. в. Гараны і Гаравыя Петрапаўлаўскай валасьці секлі самавольна лес у дачах двара Новыя Гароны. Вёска Карташы Лоўжынскай валасьці ацяплялася лесам з двору Прудзец.

Самай рэвалюцыйнай валасьцю на Полаччыне, як відаць, была Аляксандраўская. Сяляне на сходзе гэтай валасьці 21 лістапада вынесьлі прыгавар, па якім адмаўляліся плаціць выкупныя і пазямельныя зборы, выбіраць соцкіх і дзесяцкіх, трымаць пры валасьці стойку і адбываць другія павіннасьці. Разам з адмаўленьнем выконваць устаноўленыя дагэтуль па валасьці абавязкі, сход высунуў запатрабаваньні прырэзаць зямлі, дармовае карыстаньне вазёрамі і т. п.

Па Лепельшчыне сяляне ў многіх мясцох, разам з ляснымі парубкамі, умешваліся ў дворную гаспадарку са сваімі дамаганьнямі. 6 лістапада сялянамі Гутаўскай валасьці быў спалены млын у м. Ўшачы графа Плятара, які затапляў вясковыя сенажаці. Сяляне вёскі Замошша Гародчаўскай валасьці сходам зрабілі прыгавар: не дазволіць пану Дамброўскаму сячы лес у сваім двары. Валасному старшыні заявілі, што ніякага суду яны не прызнаюць, слухаць нікога ня будуць, а лес гэты яны лічаць сваім. Асабліва сялянскі рух на Лепельшчыне выявіўся ў Бешанковіцкай валасьці. Ва ўсіх сельскіх вобчаствах сяляне адмовіліся выбіраць соцкіх і дзесяцкіх на 1906 г. Эканоміі двору Бешанковіч было заяўлена, што за дровы сяляне ня будуць плаціць даражэй 3 руб. за сажань бярозавых, 2 руб. альховых і 1 руб. асінавых, Сяляне вёсак: Бабіна, Папоўшчына і Гаўрыліна спынілі высечку запраданага купцу лесу,

запрапанавалі рабочым пакінуць працу. Апраўдвалі гэты ўчынак сяляне тым, што па іх думцы з новага году зямля будзе перадана ім і яны хочуць атрымаць яе з лесам. Другія вёскі прад'явілі паном аналёгічныя запатрабаваньні. Там, дзе паны адкідалі ўсякія дамаганьні, сяляне палілі двары. У такім выпадку быў спалены двор Іванова з усім інвэнтаром. Настойлівыя дамаганьні сялян прымусілі экономію Бешанковіч адпусьціць сялянам лесу па таннай цане. Гэты выпадак скарысталі сяляне другіх валасьцей і сталі дамагацца ад сваіх паноў такой-жа палёгкі, і абшарнікі вымушаны былі здавальняць гэтыя запатрабаваньні. Сяляне вёскі Стаі Франопальскай воласьці, успрацівіліся ў выдачы вінаватых у лясных парубках. Было выклікана сюды войска. Сяляне мелі замер забіць афіцэра і разаружыць салдат, але апошнія адкрылі ў сялян страляніну, у выніку чаго трое сялян было забіта і пяць ранена. На валасных сходках Варонечаскай і Стрытаўскай валасьцей былі вынесены прыгавары не выбіраць соцкіх і дзесяцкіх на 1906 г., даводзячы, што гэту павіннасьць павінны адбываць паны і мяшчане. Земскі лічыў, што неабходна выслаць казакаў у Бешанковічы, каб не дапусьціць агульнага выступленьня сялян. У той час, калі сялянскі рух захопліваў масу, монархічныя элемэнты ў сваёй барацьбе з рэволюцыяй ужывалі самыя нізкія спосабы. Так, напрыклад, 27 кастрычніка яўрэі мястэчка Вуллы скардзіліся губарнатару, што патрыоты м. Вуллы і аколіц тлумачаць несьвядомаму сялянству маніфэст 17 кастрычніка, дзе дазваляецца „свобода совести", што гэта значыць, што калі совесьць дазваляе, то можна біць яўрэяў. Пагромшчыкам удалося ўчыніць некалькі пагромаў у Гарадоцкім павеце. 23 кастрычніка былі разбураны дзьве яўрэйскія крамы ў м. Стайках. Маемасьць расьцягнута. У гэты час зьявіўся нейкі Гаткевіч, які стаў казаць разьюшанай грамадзе, што ў Невелі яўрэі стралялі ў хрыста, разьбілі сабор і на папу парвалі рызы. Гэта больш узьюшыла пагромшчыкаў супроць яўрэяў, і пагром перакінуўся на вёскі. Былі разбураны яўрэйскія хаты ў в. в. Шляпы і Казяўкіна, апошняя Невельскага пав. Пагром у Рудні стрымліваўся войскамі.

Але адцягнуць сялянства пагромнымі ўчынкамі ад іх экономічнай і палітычнай барацьбы было нельга. „Брожение умов" сярод сялян Гарадоцкага павету было крайне ўзбуджана. У некаторых мясцох у лістападзе прыступілі да самавольнай высечкі лесу. У Уладзімерскай, Казьянскай і Вайханскай валасьцёх сяляне рыхтаваліся да захопу панскіх двароў і падзелу зямлі. „Гэтыя чуткі ўсё больш і больш узмацняюцца і могуць у недалёкай будучыне ажыцьцёвіцца", данасіў спраўнік. Сяляне Уладзімерскай воласьці на валасным сходзе не далі земскаму чытаць маніфэсты 17 кастрычніка і 3 лістапада, кажучы: „Мы ведаем, што цяпер наша права", і заявілі, што ім ня трэба ні земскага, ні цяперашняга пісара. Сярод сялянскіх пропагандыстых былі з рэзка рэволюцыйнымі настроямі. Заарыштаваны ў Гарадку селянін в. Зарэчча Антон Саўчынка па палі-

цэйскіх вестках даводзіў сялянам, што трэба разьбіваць воласьці, выганяць пісароў і старшынь затое, што яны апісваюць маемасьць за нядоімкі, якія дараваны і наогул самавольнічаюць з сялянамі. Што трэба пабіць усіх начальнікаў у гарадох, усіх паноў на аколіцах і адабраць у іх зямлю дзеля свайго карыстаньня. Што цяперашняе начальства—грабежнікі і разбойнікі і што сяляне самі павінны сабе выбіраць начальства.

У Віцебскім павеце з восені рух сялян узмацніўся. Уласьнік Андрэй Бялынецкі-Біруля пісаў губарнатару: „Палажэньне на вёсцы становіцца што далей, тым горай. Сяляне, пад уплывам мясцовых і чужых агітатараў, зьбіраюцца разбурыць Каралёўскае валасное праўленьне і абшарнікаў...“ Сяляне Веляшкоўскай, Каралёўскай, Сялюцкай, Янаўскай і Курынскай валасьцей валаснымі сходамі адмовіліся выбіраць соцкіх і дзесяцкіх на 1906 год, патрабуючы соцкіх і дзесяцкіх мець платных і сродкі на іх утрыманьне разлажыць падзесяцінна, не выключаючы і панскай зямлі. Пачалася ізноў самавольная высечка лесу ў дварох: Шніці Храпавіцкай воласьці, Язьвіна Жарабыскай воласьці, дзе ўсьцішаць сялян прышлося пры дапамозе казакаў, у Летцах Старасельскай воласьці, у Астраўлянах і Стайках. У Мішкаўскай воласьці сяляне не далі купцом сечы закуплены лес у двары Хацінічах і выгналі з лесу рабочых. Ноччу на 9 лістапада быў зроблен напад на Веляшкоўскае валасное праўленьне.

У далёкіх глухіх лясных кутках Вяліскага павету сяляне не засталіся бяз удзелу ў рэволюцыі 1905 г. Сяляне адзінаццаці вёсак Ускоўскай воласьці 4 лістапада зьявіліся ў двор Рындзіна пана Кавецкага і запатрабавалі: усе абрэзы зямлі ад двара Рындзіна павінны дастацца сялянам дарма, бо яны арэндай яе ўжо выкупілі; паша для сялянскай скаціны павінна быць у дварах вольная; вольны водпуск лесу па недарагой цане і экономія не павінна лес прадаваць на старану; ня трымаць лясьнікоў; арандатары экономічных фольваркаў павінны быць разьлічаны і зямлю фольваркаў аддаць пад лес; экономія пакідае за сабой дворную ворную зямлю, але аддаваць гэту зямлю ў арэнду ня мае права. Як відаць, сяляне зусім пазбавілі праў на зямлю Кавецкага. Купцу, які тут закупіў лес, было забаронена сячы лес. Праз два тыдні сяляне рыхтаваліся пачаць сячы лес для сябе, не зважаючы на прысутнасьць тут поўроты салдат. Сяляне Казакоўскай, Будніцкай і Ўсьвяцкай валасьцей мелі замер 6 лістапада з аружжам зьявіцца ў Пудаць. Ці было гэта зьдзейсьнена і з якімі дамаганьнямі зьбіраліся йсьці сяляне—невядома. Рабілі спробу адцягнуць сялян ад іх экономічных дамаганьняў організацыямі патрыотычных маніфэстацый. Пасьля маніфэсту 17 кастрычніка сьвяшчэньнік Шыркевіч сабраў каля 1.000 сялян Маклакаўскай воласьці і накіраваўся ў г. Вяліж дзеля ўдзячнай цару маніфэстацыі за дараваньне свабоды. Праўда, маніфэстацыі і богамаленьню пашкодзіў узрыў дзьвюх гармат у доме купца Залмана Зэліксона па Слабадзкой (Гарэлай) вуліцы. Выбух настолькі быў моцны, што ў сабраным натоўпе падняўся перапа-

лох, і маніфэстацыя скончылася пры дрэнным уражаньні. „Сярод сялян розных валасьцей,—данасіў вяліскі спраўнік,—выказваецца абурэньне; шмат якія сяляне адмаўляюцца плаціць казённыя і мірскія зборы, а галоўнае, сяляне прад'яўляюць да двароў розныя, у большасьці невыпаўнімыя дамаганьні і пагражаюць уласьнікам.“ Сяляне валасьцей Ільлінскай, Чэпельскай, Краскоўскай, Усмынскай перасталі плаціць падаткі і прад'явілі бліжэйшым да іх паном свае дамаганьні. У двор Каспляны было выслана поўроты салдат, каб папярэдзіць сялянскія беспарадкі. Тут сяляне дамагаліся ад двара: падвысіць плату парабком і звольніць наймітаў збоку; адпусьціць сялянам дровы ў дзесяць раз таней, чым летась; прадаць сялянам дворную зямлю па 23 рублі за дзесяціну; адпускаць лес па таннай цане; дарма паляваць, зьбіраць грыбы і ягады ў дворным лесе; абмен зямлі дзеля зьнішчэньня праспалосіцы; адводу зямлі для пашы—дзесяціну на 2 каровы з платай па 15 кап. за карову.

Пасьля маніфэсту 17 кастрычніка пачаўся сялянскі рух і ў Люцынскім павеце. Спраўнік скардзіўся, што сяляне зразумелі маніфэст, як поўную волю дзейства і пагэтаму па ўсім павеце з боку сялян заўважаецца ігнараваньне закону і аўторытэту ўлады. Сяляне амаль што па ўсім павеце адмовіліся плаціць казённыя і грамадзянскія плацяжы і адбываць натуральныя павіннасьці. Пад уплывам агітатараў у сялян стала праяўляцца злосьць на паноў за няроўнае з імі карыстаньне зямлёю і рыхтаваліся разбурыць панскія двары, да чаго мясцамі і было прыступлена. Памешчыкі, напалоханыя чуткамі аб разбураньні суседніх двароў, пакідалі свае маёнткі і павыяжджалі ў гарады з сем'ямі. Самымі непакойлівымі сялянамі тут былі жыхары Эверсмуйскай і Пылдзенскай валасьцей, мабыць дзеля таго, што да лістапада тут ня было разьмешчана войска. У некаторых мясцох сяляне прыступілі да самавольнай сечкі панскага лесу. У канцы лістапада адбыліся мітынгі ў Ліпені, Кудзені і Марыенгаўзене, хаця гэтыя мітынгі прашлі бяз выразных дамаганьняў. Сяляне сталі дамагацца ад двору Марыенгаўзен розных для сябе экономічных палёгак, грап Забела іх не здавальняў і гэта больш уздымала сялян. У дварэ Катлешах сяляне секлі лес без дазволу. Двор Ляндскароны быў падпален. Улада, распраўляючыся з рэволюцыяй, рабіла спробу народны гнеў накіраваць на яўрэяў. У Люцынскім павеце з мэтай грабежніцтва былі разбураны яўрэйскія сядзібы і крамы ў Ляўдарах і Палішчыне.

У Рэжыцкім павеце, які больш прылягаў да Латвіі, сялянскае паўстаньне выявілася больш рашуча. У лістападзе месяцы ўвесь павет быў ахоплен паўстаньнем. „У многіх дварох сяляне прыступілі да самавольнай высечкі лесу, якая часткай была спынена. Маецца на ўвазе неўзабаве разгром двароў і мястэчак“. Даводзячы аб гэтым губарнатару, спраўнік прасіў выслаць, на дапамогу драгунам пяць рот пяхоты, каб заняць воласьці Борхаўскую і Старнянскую, „дзе пачынаецца поўная анархія“. Пасьля абвяшчэньня Ліфляндзкай губэрні на ваенным палажэньні, Борхаў-

ская воласьць, якая ўкліньваецца ў Ліфляндыю, стала месцам прытулку рэволюцыянэраў і, вядома, гэта адбівалася на настроі борхаўскіх сялян. 10 лістапада грамада да 600 чалавек, сабраўшыся ў м. Борхаве, вынесла прыгавар: забараніць валасной адміністрацыі зносіцца з вышэйшай уладай; не плаціць падаткаў; выкарыстаць казённыя грошы на закупку зброі дзеля аховы сябе ад зладзеяў. 24 лістапада, сабраўшыся ізноў на сход, борхаўскія сяляне зьмянілі ўсю сваю валасную адміністрацыю і заместа яе выбралі „Распараджальны камітэт“, які павінен кіраваць усімі справамі воласьці. Камітэт адмяніў стойку, забараніў зносіцца з уладай Віцебскай губэрні і перавозіць урадавых чыноўнікаў. 18 лістапада грамада да 1.000 чалавек зьявілася ў Галянскую воласьць, дзе спыніла валасны суд і, накіраваўшыся ў двор Галяны, дамагалася выдачы ім дроў па таннай цане. Сяляне Андрэньненскай воласьці адмовіліся выбіраць соцкіх і дзесяцкіх і заявілі, што ім ня трэба паліцыі і валаснога суду. 26 лістапада адміністрацыйнае прысутства Рэжыцкага павятовага зьезду вымушана было прызнаць, што паўстаньне сялян захоплівае павет і дзеля гэтага „ва ўсіх валасьцёх павіннасьці амаль што ня ўносяцца“ і што мясцовымі сродкамі „нельга прывясьці да спакойнага настрою і накіраваць сялянскае жыцьцё на шлях законнага карыстаньня нярухомай маемасьцю“... У самым канцы лістапада сяляне Сьцярнянскай воласьці забаранілі валасным судзьдзям судзіць, адабралі ў старшыні ключы, забаранілі паном прадаваць лес на старану, адмянілі стойкі і д. т. п. У сьнежні месяцы былі спалены двары: Борхава, графа Зібэр-Плятара, Адзень і Аташына— графа Борха. У сяле Быкаве прызыўнымі была разьбіта манаполька. Рэволюцыя разгаралася мацней і прымала ўжо організованы парадак. 8 сьнежня ў двор Варкляны прышло каля 400 чалавек[1] узброеных рэволюцыянэраў, якія разбурылі манапольку і ўзялі 70 руб. грошай; пасьля на пошце папсавалі тэлеграф і абарвалі дрот. Гэтая-ж самая грамада 9 сьнежня абкружыла дом валаснога праўленьня, сарвала са старшыні мэдаль, кажучы, што „нам ня трэба ні старшыні, ні пісара, у нас свае будуць правы, што бога няма, непатрэбна і цара“. Са сьцяны садралі царскі портрэт, таптала нагамі і выразалі шыю і вочы. Зьнялі з аптэкі і валаснога праўленьня гэрбы і прыбілі іх угару нагамі. Вайсковы атрад, які павінен быў дзейнічаць супроць гэтых рэволюцыянэраў, адступіў. Вылучаны атрад паўстанцаў па дарозе ў Рэжыцу зьявіўся ў двор Галяны генэрала Энгельгардта і забраў усе каштоўнасьці, зброю і павёў чатырох коняй. 10 сьнежня ўзброеныя паўстанцы прышлі ў дзень у двор Сьцярняны і патрабавалі ад пана даць ім усю зброю, 100 руб. і падпіску аб паляпшэньні быту сваіх парабкаў. У сьнежні месяцы ў суседніх з Латвіяй мясцох Віцебшчыны зьявіліся моцныя атрады паўстанцаў, з якімі ўжо было цяжка змагацца малым вайсковым атрадам. У Рэжыцкім павеце ў Бор-

[1]) Па другіх вестках грамада гэта складалася з 3.000 чалавек.

хаўскай валасьці зьявілася да 1.000 чалавек пяхотных і 500 конных рэволюцыянэраў, якія ў большасьці былі ўзброены стрэльбамі „Маўзэра“. Паўстанцы сталі замацоўвацца каля вёсак: Борхава, Сталайдзаны, каля двара Борхава і другіх месцаў, дзе сталі капаць акопы і нацягваць драцяныя загарадкі. Асобныя групы ў 25—30 чалавек, разьяжджаючы па сёлах і дварох, зьбіралі зброю і прапанавалі сялянам станавіцца ў іх шэрагі. Паўстанцамі былі намечаны да спаленьня двары: Варкляны, Сьцярняны, Галяны, Вяліоны і інш.

У Себескім павеце становішча было ня лепшае. Сяляне амаль што ўсіх валасьцей адмовіліся наймаць і выбіраць дзесяцкіх і ўтрымліваць стойкі. Сталі самавольна назначаць валасныя сходы і выказваць поўнае непаслухмянства адміністрацыі. Спраўнік прасіў выслаць яшчэ роту салдат на павет, але ў губарнатара войска ўжо ня было.

Рэволюцыя з надзвычайнай моцай разьвінулася ў сьнежні, і тыя вайсковыя часткі пяхоты, казакаў і драгунаў, якія былі раскіданы па паветах, былі ўжо нястрашнымі для паўстанцаў. Паўстанцы, узброіўшыся, захоплівалі з боем мястэчкі і гарады. Аб гэтым так яскрава і, трэба думаць, праўдзіва сьведчыць адзін рапорт дзьвінскага спраўніка, які тут і падаем у аўтэнтыку:

„4 декабря 1905 г. № 4788. В ночь на 30 минувшего ноября в м. Глазманке забрана бандой мятежников полурота пехоты и прапорщик запаса Гинцбург, причем ранены три нижних чина—два тяжело, а один легко. Управление всеми делами в м. Глазманке находится в руках революционеров. Местный урядник Мухамендрыков разоружен и ходит без формы с воспрещением, под угрозой лишить жизни, продолжать полицейскую службу. Все переправы в эту местность со стороны Витебской губ. сняты и по всем дорогам стоят караулы и обыскивают всех проходящих. Мещанского старосту заставили насильно выдать на получение из Двинского отделения государственного банка 1.600 рублей коробочных денег, ассигнованных на санитарные надобности. (В отделение банка из полицейского управления сообщено о невыдаче этих денег). Десятских, следовавших с пакетами от пристава к уряднику, задерживали, вскрывали пакеты и читали бумаги. Уряднику на отлучку дают пропускные билеты, без которых расставленные по всей окрестности караулы никого не пропускают. Все трактиры и казенная винная лавка в м. Глазманке закрыты“.

„В дер. Круманах Унгермуйжской волости ограблена казенная винная лавка, взято более 400 р. В им. Рушендорф той-же волости сожжена мельница. Вообще в Унгермуйжской, Крэйцбургской и Ливинговской волостях полное восстание и выполнение полицейских обязанностей, при поголовном волнении населения, является невозможным за недостатком войск. В этих трех волостях, по примеру Курляндской и Лифляндской губернии, началось освободительное движение и везде от слов переходят к

делу, назначая прежде всего своих сельских властей, народных учителей и других должностных лиц с закрытием всех казенных винных лавок и трактиров. В м. Ливенгоф все дела мещанского старосты переданы другому лицу; чиновник полиции Клепиков ранен, а урядник Дуболь приговорен к отрешению от должности. Никакие положительно повинности—ни натуральные, ни денежные—населением не отбываются".

„В Ликсненской и Колупской волостях также поголовное восстание и главным образом в сторону аграрных беспорядков, так как население этих волостей преимущественно латыши-католики".

„По разным частным сведениям и слухам в соседних Лифляндской и Курляндской губерниях организованы повстанцами сильные по составу и вооружению отряды, которые уже прошли победоносно по обе стороны реки Двины до м. Глазманки с нашей стороны и ниже Якобштадта по другой стороне, рассеяв и оттеснив к гор. Якобштадту бывшие на пути части войск. Со дня на день ожидается нападение на гор. Якобштадт и м. Крейцбург. От гор. Фридрихштадта войска отступили и сдали его повстанцам. Все усадьбы частных владельцев на пройденном повстанцами пространстве сожжены, а те из владельцев, которые не успели скрыться, арестованы и заключены в погреба до народного над ними суда. Говорят, что повстанцы вооружены хорошими „маузеровскими" ружьями, имеют много забранных из имений лошадей и свои дозоры, отряды их многочислены. Ведут их какие то военные по всем правилам военного искусства. Около станции Ремерзгоф квартира помощника начальника сожжена, сам он убит, убит там на пути и другой помощник начальника уезда. Жандармы на станции Штокмансгоф разоружены. Между этой станцией и ст. Кокенгузен вызвано крушение воинского поезда, шедшего из гор. Двинска, после чего команда имела перестрелку, есть много раненых, предлагали сдаться, но поезд с командой отступил к Двинску. После этого вблизи м. Глазманки и Крейцбурга развинчивали несколько раз рельсы. Носятся слухи, что в каком-то имении рассеяно до 200 казаков, многие ранены и убиты и около 20 человек взято в плен. Драгунский офицер и два солдата, возвращавшиеся со взводом в г. Якобштадт, ранены при перестрелке из засады. Первое нападение на Крейцбург ожидалось в ночь на 3 сего декабря, но, по слухам, в эту ночь повстанцы были заняты взятием им. Мадон, в Лифляндской губернии, в 20 верстах от Крейцбурга".

„Драгунский поручик Данилов, пристав и земский начальник приговорены к смерти в момент наступления повстанцев, если к этому времени не удалятся. Ни земских лошадей, ни частных извозчиков достать нельзя, все боятся и отказываются везти, так как за всеми должностными лицами и уезжающими баронами учреждено наблюдение. Громадные толпы собираются и наблюдают за движением на станции Зилан. По всем дорогам ночью замечаются вооруженные шайки, наблюдающие

за проезжими. По разным явлениям замечается, что на всей площади от Глазманки до м. Ливенгов усиленно наблюдают, чтобы ни должностные лица, ни бароны не могли не только вывезти имущества, но и уехать сами. Настроение в высшей степени тревожное и опасное. Полное неподчинение всем властям и вообще законному порядку.

Командир эскадрона заперся в замке барона Корфа и искусственно укрепляет его, но чувствует себя в опастности и намерен, в случае необходимости, отступить и оставить замок на разграбление. Отряд, о котором я вчера телеграфировал, имеет специальное назначение для Курляндской губернии, направление этого отряда держится в большом секрете. В Прельской волости готовится еврейский погром и разгром имений, во всех остальных волостях уже среди крестьян идет брожение на почве аграрных вопросов. Об изложенном доношу вашему превосходительству.

Уездный исправник Гнедовский".

Ні царскі ўказ 3 лістапада аб скасаваньні выкупных плацяжоў для сялянства, ні мерапрыемствы мясцовай улады не маглі стрымаць рэволюцыйную навалу. Полымя рэволюцыі ў самым канцы году ахапіла ўсю губэрню. Ніякія мясцовыя сродкі не маглі пашкодзіць сялянству ў яго рэволюцыйнай барацьбе. Заставаўся „последний оплот русского самодержавия"—войска, але і войска было ўжо мала. З усіх паветаў несьліся пільныя запатрабаваньні да губарнатара аб высылцы войска, і губарнатар мусіў даваць толькі рады супярэчыць паўстаньню народу тымі сродкамі, якія маюцца на павеце. Становішча для ўлады складалася вельмі дрэнна. Паўстанцы захапілі цэлыя воласьці і гарады ў свае кіраваньне. Мясцовая ўлада на мясцох, калі ня была прагнана, то дзейнасьць яе была паралізавана. Улада ня ўтрымала лейцы кіраваньня народам, і селянін загаспадарыў самастойна. Але такі стан ня мог не спалохаць уладу. Пакуль царызм мог яшчэ кіраваць арміяй, была сіла, якую можна было выставіць супроць рэволюцыі. Неабходна было ўжыць рашучыя меры, каб задушыць рэволюцыю, і з гэтай мэтай зьявіліся карныя экспэдыцыі, якія „железом и кровью" прыняліся наводзіць парадак. У такой буры змаганьня Віцебшчына ўступае ў 1906 г. [1]).

[1]) Месяцы і числы ўва ўсім артыкуле пастаўлены па стараму каляндарнаму стылю.

# РАБОЧЫ РУХ У БЕЛАРУСІ Ў 1905 г. І ЯГО РАЗЬВІЦЬЦЕ З 1890 г.

З. Жылуновіч

Падзеі 9 студзеня 1905 году далі новы, нячуваны да таго, штырхач рабочаму руху ў Расіі. Вестка аб іх разьняслася маланкаю па ўсёй дзяржаве і скаланула сабою самыя глухія куткі, закінутыя мясьцінкі. Ужо адразу-ж пасьля крывавае нядзелі загарэліся ў розных мясцох протэсты рабочых супроць дзікага драпежніцтва самадзяржаўя. Протэсты-дэмонстрацыі прынялі вельмі востры характар, галоўным чынам, захапіўшы нацыянальныя аколіцы Расіі, як Прыбальтыцкі край, Польшчу, Каўказ, Беларусь. „У Прыбальтыцкім краі—піша А. Ельніцкі [1])—пачалася забастоўка 12 студзеня ў Рэвелі, дзе спынілі працу 15.000 рабочых мясцовых фабрык, заводаў, конкі, друкарань і грузчыкі. 13 студзеня на чыгуначным мосьце спаткнуліся дэмонстранты з войскам, пасьля чаго 30 чалавек стала ахвяраю спаткненьня. На пахаваньні аднаго з забітых адбылася другая вялікая дэмонстрацыя рабочых“. Таго-ж, 13 студзеня, рабочы рух у Рызе таксама падняўся да найвышэйшай ступені, закончыўшыся, у сваю чаргу, крывавым расстрэлам дэмонстрантаў, якія выставілі на сваіх сьцягах патрабаваньні ўстаноўчага збору і ўстанаўленьня ў Расіі рэспублікі. Рух у Рызе захапіў да 60 тыс. рабочых, якія адказалі на расстрэл больш першай, дружнай забастоўкаю. За Рыгаю йшлі Лібава, Пярноў, Мітава, Віндава.

У Польшчы цэнтрам руху была Варшава. 14 студзеня ўсё прамысловае жыцьцё ў горадзе замерла, горад напрудзіўся рабочымі; войску быў аддадзены прыказ няшчадна расстрэльваць усякі натаўп. За тры дні, за 14, 15 і 16 студзеня, было забіта 64 чалавекі і 69 чалавек ранена. Забастоўка цягнулася з 14 да 20 студзеня. У Лодзі баставала 100.000 чал. Забастоўка пачалася яшчэ 13 студзеня; 18 і 19 адбыліся дэмонстрацыі рабочых і спаткненьні іх з войскам, у якіх забіта 15 чалавек рабочых. „Забастоўкі абышлі ўсю Польшчу, захапіўшы, паміж іншым, і чыгункі. Баставалі рабочыя Дамброўскае акругі, Каліскае, Петракоўскае, Люблінскае, Радамскае і Варшаўскае губэрань, а крыху пазьней забастоўкі пачаліся ў губэрнях Сувалскай, Плоцкай і Седлецкай, і амаль не ва ўсіх мясцох Польшчы зямля палілася крывёю рабочых“[2]).

[1]) А. Ельницкий. История рабочего движения в России в XX в.

[2]) А. Ельницкий. Рабочее движение в России в XX веке.

На Каўказе забастоўкі пачаліся 13 студзеня, калі ў Тыфлісе спынілі працу майстэрні Закаўкаскіх чыгунак, мэханічныя заводы і прыватныя друкарні. Паступова забастоўка вырасла і 23 студзеня перашла ў значную дэмонстрацыю, у час якой войскам было забіта і ранена да 60 чал. Шырокаю хваляй стачкі разьліліся ў Батуме, Кутаісе, Грозным, Поці і іншых мясцох. У Баку забастоўка стала агульнаю і цягнулася 22 дні. У асяродкавай Расіі водгук на здарэньні 9 студзеня быў цішэйшы, але ў протэстах таксама прынялі ўдзел дзесяткі тысяч рабочых. Ужо 10 студзеня, назаўтра-ж пасьля расстрэлу ў Пецярбурзе, у Маскве пачаліся спагадлівыя забастоўкі, а к 12 студзеня лік забастоўшчыкаў дашоў да 40.000 чал. Буйныя забастоўкі былі ў Арэхаве-Зуеве і Яраслаўлі, меншыя—у Іванаве-Вазьнясенску, Казлове... На поўдні, на Украіне, першым адгукнуўся Кацярынаслаў, далей Харкаў. Адбыліся забастоўкі ў Самары, Саратаве, Царыцыне і Казані.

Люты месяц адзначыўся цэлым шэрагам чыгуначных забастовак, якія цягнуліся падоўгу, перакідаючыся з аднае чыгункі на другую...

Паміма рабочых, бурлівымі протэстамі, супроць нячуванага зьверства самадзяржаўя адгукнулася расійская інтэлігэнцыя, дробная буржуазія і нават сялянства. Гэтак, на Каўказе ў розных мясцох яно прыняло чынны ўдзел у рэволюцыйным руху.

---

Як-жа была спаткана „крывавая нядзеля“ беларускімі рабочымі? Як адгукнулася працоўная Беларусь на гэтыя падзеі і як яны ўплылі на агульнае рьзьвіцьцё рабочага руху ў Беларусі ў 1905 годзе? Якім, наогул, быў рабочы рух у Беларусі ў гэтым годзе. Перад тым, як перайсьці да адказу на гэтыя пытаньні, мы ў кароткіх рысах прагледзімо тыя ўмовы экономічнага характару, якія ўплывалі на прамысловае жыцьцё Беларусі і на лікавы рост захопленых ім рабочых; таксама краном першых спроб афармленьня руху беларускіх рабочых і яго стану, пачынаючы з 1890 г.г.

Беларусь у вадносінах да разьвіцьця прамысловасьці прадстаўляла заўсёды край адсталы, амаль ня выключна земляробскі. У яе гарадох і вялікім ліку мястэчках гуртавалася рамесьлена-кустарная прамысловасьць розных выглядаў; гэта прамысловасьць займала зусім нязначны лік рабочых, якія і па сваёй псыхолёгіі і па ўмовах раздробленасьці не маглі прадстаўляць таго матэрыялу да організацыі, які звычайна даюць сабою рабочыя буйнай прамысловасьці.

Апошняе-ж мелася ў Беларусі зусім нямнога, гэта: гарбарская ў гарадох Вільні, Менску, Смаргоні, Саколцы, Крынках, Беластоку і інш., дрэваапрацовачная, галоўным чынам, у Меншчыне і часткаю ў іншых губэрнях, больш за ўсё багатых лясамі (запалкавыя і фанэрныя фабрыкі ў Рэчыцы, Барысаве, Мазыры, Злынцы, Дзьвінску). Далей яшчэ мелася ў Беларусі некалькі тутунных фабрык (Горадня, Менск), некалькі мэталёвых заводаў, папяровыя фабрыкі (Гомель, Дуброўна, Копысь) і тэкстыль-

ныя (Беласток і блізшыя мястэчкі). На ўсіх пералічаных фабрыках і заводах, да рэчы, яшчэ мала індустрыялізаваных, працавала некалькі дзесяткаў тысяч рабочых.

Аднак, ня гледзячы на дробны выгляд беларускай прамысловасьці, на яе слабасьць і поўфабрычны характар, занятыя ў ёй рабочыя ня былі адсталымі ў сэнсе палітычным і профэсыянальна-клясавым. Болей таго, беларускія рабочыя, асабліва яўрэйская іх часьць, вельмі чула адносіліся да палітычных пытаньняў і мелі выразнае клясавае самапачуцьцё. За гэтым удзел у профэсыянальным руху з боку беларускіх рабочых адзначаецца з 80 гадоў мінулага стагодзьдзя. Гэтак, ужо ў 1887 годзе ў Вільні вынікае першая масавая каса шкарпэтніц, а ў 90 гадох перад жыдоўскімі рабочымі паўстае пытаньне аб пераходзе да масавае працы. Аб першым пэрыодзе гэтае працы захаваўся вельмі каштоўны дакумант,—гэта рэчы рабочых на майскім сьвяце 1892 году ў г. Вільні. Бязумоўна, што ў першыя часы аб'яднаньне беларускіх рабочых мела выключна экономічна-профэсыянальную падставу.

Цяжкія ўмовы працы, 16—18-гадзінны працоўны дзень, суровае абыходжаньне адміністрацыі прадпрыемстваў і гаспадароў майстэрань з рабочымі, зусім малы заработак вымушалі апошніх зварочваць увагу на паляпшэньне свайго стану.

Паведамленьне Бунду міжнароднаму соцыялістычнаму конгрэсу ў Лёндоне кажа, што „фонам карціны яўрэйскага рабочага руху (галоўным чынам гэта адносілася да Беларусі) зьяўляецца рамяство, якое хутка капіталізавалася і ў некаторых мясцох разьвівалася ў буйную прамысловасьць“. Уплыў гэтае прамысловасьці і гандлю адчуваўся і на рамястве. Заказная праца выціскалася тандэтнай (крамнай); зрабіцца самастойным майстрам было цяжка, і гаспадар гэтым ёмка карыстаўся. Большасьць рамесьнікаў пападала ў самы безнадзейны стан; розьніца між гаспадаром і рамесьнікам павялічвалася. З 90 г.г. у Беларусі, у г.г. Вільня, Смаргонь, Беласток, строіцца гарбарская прамысловасьць, у Беластоку — тэкстыльная, у Барысаве, Мазыры, Рэчыцы—дрэваапрацовачная. Колькасьць рабочых расьце, папаўняецца беларускімі рабочымі, якія ўсё болей пакідаюць вёску і йдуць у горад. Аднак, у гэтых гадох яшчэ тыповым рабочым у Беларусі зьяўляўся рамесьнік, які лічбова пераважна быў яўрэйскім.

Ня дзіва, што вакола экономічна-профэсыянальных пытаньняў і вярцеліся прадмовы рабочых на сьвяце першага мая ў 1892 г. ў Вільні. Як палепшыць свой стан—было асноўным заданьнем на першых часох сьвядомага рабочага руху ў Беларусі. Адгэтуль — патрабаваньні чыста экономічнага характару ў тых забастоўках, якія вынікаюць з спрэчак між рабочымі і гаспадарамі. Палітычны элемэнт уносіцца ўжо тады, калі ў Беларусі пашыраецца праца соцыялістычных партый і асабліва яўрэйскай партыі Бунд, якая ў 1897 г. зложылася ў масавую партыю. Бунд

захапіў пад свой уплыў шырокія гушчы яўрэйскіх рабочых і аб'яднаў многа гарадоў ды мястэчак Беларусі. З гэтага часу ўплыў яго на рабочых хутка расьце і характар рабочага руху паступова зьмяняецца.

За два гады перад тым, як узьнік Бунд, у Вільні адбылася адна з вядомых забастовак на цыгарнай фабрыцы Эдэльштэйна. Баставала 220 рабочых і работніц. Забастоўка была абароннай: яна паднялася з таго, што фабрыкант хацеў замяніць мужчын кабетамі, для чаго выпісаў 12 кабет з Беластоку. Гэтыя работніцы не маглі выпаўніць усяе работы і прышлося зьвярнуцца да ўлады, якая, ўрэшце, пачала арыштоўваць рабочых-забастоўшчыкаў, прымушаючы іх стаць да работы. Гэтая забастоўка нарабіла шмат гоману і надала рэволюцыйнага пачуцьця рабочым другіх фабрык у Вільні і ў іншых гарадох Беларусі.

Меншага памеру забастоўкі ў гэты тэрмін адбыліся ў многіх мясцох: у вадным Менску на працягу часу з 1894 па 1896 год налічваецца да 45 розных забастовак (а ў Вільні нават 56 забастовак). Асабліва імі адмеціўся 1895 год, калі адбыліся забастоўкі ў Вільні, Менску, Беластоку, Рослаўлі, Смаргоні і інш.[1]). Скуткам іх было памяншэньне работы на 2-3 гадзіны ў дзень, маленькае павялічэньне заработку і інш. Некаторыя з забастовак насілі бурлівы характар: рабочыя выбівалі вокны ў майстэрнях, а штрайкбрэхеры нападалі на забастоўшчыкаў.

У 1897 годзе адмеціўся новы ўздым забастовак. Шчотачнікі, тутуньнікі, краўцы, шаўцы выставілі патрабаваньне дзесяцігадзіннае працы ў дзень (замест 14—16 гадзін) і павялічэньне заработку. Забастоўка ў гэтым годзе ахапіла: Віцебск, Слонім, Берасьце, Беласток і Менск. Зьвярнула на сябе ўвагу ня толькі Беларусі, а і ўсёй Расіі агромная забастоўка беластоцкіх ткачоў, у якой прымала ўдзел 26.000 ч. Гэта забастоўка вынікла стыхійна і была накіравана супроць уводу фабрычных кніжак, на вошта рабочыя глядзелі, як на новае ярмо з боку абіраццеляў. Забастоўка скончылася няўдачна для рабочых, але паказала ім вочавідкі неабходнасьць організавацца, каб пасьпешна весьці змаганьне. З другога боку, яна падгатавала добрую глебу для распаўсюджаньня соцыялістычных ідэй, якое павялі яшчэ з пачатку году віленскія соцыял-дэмократы.

З канца 1897 і пачатку 1898 г. ў Беларусі адзначыўся новы вялікі ўзрост політычных ідэй. Бунд вочавідкі захопліваў пад свой уплыў усё большыя колы яўрэйскіх рабочых і дробнай інтэлігэнцыі ня толькі буйнейшых гарадоў, а і самых глухіх мястэчак. Прыдаўшы сваёй програме выразныя моманты ў нацыянальнай галіне, ён пасьпешна конкураваў

[1]) У 1895 г. ў Вільні налічвалася з'організованых вакол кас 850 рабочых, а ў Менску—870. У гэты час у Беларусі хваля руху разьліваецца ўсё шырэй і захоплівае ўсё новыя гарады ды раёны. Прачынаецца шчацінны раён (Краслаўка, Выстынец), пачынаецца рух у Бярэсьці, у Беластоку. Касы змаганьня растуць, як грыбы. Узмацняецца і рух забастовак, якіх налічваецца дзесяткамі. (Мат. к истории евр. раб. движ Вып. I, ст. 50).

з чыста нацыянальна-буржуазнымі яўрэйскімі партыямі, як сыоністычныя розных напрамкаў. Дзякуючы беларускім асаблівасьцям, з-за якіх большасьць рабочых і рамесьнікаў заўсёды падала на яўрэйскую нацыю, як выключна жыўшую ў гарадох і мястэчках, бедную, вылучаўшую з сябе вольную рабочую сілу, Бунд на першым часе стаў амаль не монополістым рабочага руху ў Беларусі. Нават у яго шэрагі далучаліся ў многіх выпадках і беларускія рабочыя[1]). Але ў канцы дзевяцьдзесятых гадоў гэтыя дадатныя для Бунду ўмовы пачалі патрошку парушацца. Асабліва першы зьезд РСДРП, які адбыўся ў 1898 годзе ў Менску (март месяц), даў вялікі штырхач для ўзросту соцыял-дэмократычных гурткоў і організацый і іх працы сярод рабочых. Ужо ў гэтым-жа годзе з с.-д. групы залажыліся камітэты РСДРП у Гомелі, Смаргоні і інш. Рабочыя многіх гарадоў і мястэчак Беларусі, галоўным чынам, беларуская іх часьць, дагэтуль стаяўшыя ў баку ад політыкі і ў моц тых ці іншых прычын не ўваходзіўшыя ў Бунд, пасьля першага зьезду РСДРП у вялікай колькасьці пакіравалі ў с.-д. організацыі. „Помню—піша Я. Пескавы,—які вялікі ўплыў зрабіў першы зьезд РСДРП на смаргонскіх рабочых“[2]). Наогул, з часу зьезду, з 1898 году, адзначаецца вялікі ўздым політычнага змаганьня. Помеж з экономічнымі патрабаваньнямі ў забастоўках і дэманстрацыях рабочыя ў значнай меры пачынаюць высоўваць і патрабаваньні політычнага характару. У самую актыўную чыннасьць рабочых уплятаецца ўсё часьцей політычны момант, які пачынае ахварбоўваць цалком іх забастоўкі і дэмонстрацыі. Гэтак, першага мая 1898 г. ў Смаргоні адбылася політычная забастоўка і дэмонстрацыя, наладжаныя гуртком рабочых; дэмонстрацыя была разагнана поліцыяй[3]). Тое самае можна адмеціць і ў Гомелі, дзе ў гэтым годзе сьвяткавалася першае мая з вялікай урачыстасьцю[4]); а таксама і ў іншых гарадох.

Політычны ўплыў на рабочы рух прыдаваў большую стройнасьць і сілу і экономічнаму змаганьню рабочых. У 1898 годзе гэта змаганьне ў Беларусі асабліва ўзмацнілася. Забастоўкі і стачкі разьліліся па ўсіх гарадох і мястэчках краю, асабліва вызначыўшыся ў Смаргоні і Гомелі. На працягу году Смаргонь перажыла цэлы шэраг экономічных забасто-

---

[1]) Соцыял-дэмократычныя адзінкі і маленькія гурткі с.-д. інтэлігэнцыі існавалі ў Вільні ды Менску ўжо ў 1891—3 гадох, але яны ў гэты час толькі што пачыналі працу сярод рабочых, галоўным чынам, аддаючы ўвагу студэнцтву і вучнёўству (М. Лядов. Как начала складываться РКП большевиков). М. Лядаў даводзіць у гэтай сваёй працы, што ў Менску і Вільні існавалі гурткі распропагандаванага Благоевым і яго прыхільнікамі студэнцтва яшчэ ў 1880 г.г.

[2]) *И. Песковой.* Воспоминания. Красная Летопись № 8 за 1923 г. Ленінград.

[3]) *И. Песковой.* Воспоминания. Красная Летопись № 8. Ленінград.

[4]) Першы раз гомельскія рабочыя сьвяткавалі першае мая ў 1895 г.—Успаміны Ш. Левіна (Известия Гом. Губ. Ком. РКП № 66, 15 апреля 1924 г.). У Вільні першы раз сьвяткавалі рабочыя першае мая ў 1892 г.; сьвяткавала 100 ч. (М. Лядов. Как начала складываться РКП); с.-д. гурткі рабочых у Беларусі сталі засноўвацца ў 1887 г.

вак. Удачлівей іншых была праведзена забастоўка на гарбарскім заводзе Ашмянскага і ў гарбарскіх майстэрнях Прылуцкага і Садоўскага. Рабочыя выйгралі 10 % набаўку, хоць скора гаспадары, арганізаваўшыся ў саюз, адабралі ўсе заваёвы. Апроч гарбароў, баставалі загатоўшчыкі, патрабуючы 10-гадзіннага дню работы. Забастоўка цягнулася паўтары тыдні і была выйграна. Шчотачнікі і краўцы-тандэтнікі патрабавалі 12-гадзіннага дню і толькі выйгралі (!) 14-гадзінны... У гэтым-жа годзе ў Смаргоні пачала складацца работніцкая арганізацыя „хэўра“. „Хэўра“ карысталася посьпехам, і работніцкая моладзь імкнулася ў яе. Гэтая арганізацыя дапамінала сабою нешта ў выглядзе работніцкага вобчаства ўзаемадапамогі і вяла працу на экономічным грунце... Аднак, Я. Пескавы сьведчыць у сваіх успамінах [1]), што „хаўрусьнікі“ часта зьбіраліся вечарамі і вялі гутаркі, чыталі кнігі і газэты. Часта пападаліся і проклямацыі. Гэтыя „хэўры“ адміралі побач з узростам політычна-соцыялістычнага ўплыву на рабочы рух[2]).

---

У 1899 годзе рост політычнай сьвядомасьці сьведчыцца ў многа большым супроць мінулага году ўдзеле беларускіх рабочых у політычных актах, як забастоўкі і дэмонстрацыі. У гэтым годзе адмячаюцца 2 дэмонстрацыі з удзелам 1.800 чал. і сьвяткаваньне першага мая ў Беластоку (400 ч.), у Віцебску (120 ч.) [3]) і інш.

Таксама ў 1899 годзе, ня гледзячы на агульны заняпад у прамысловасьці, экономічныя конфлікты сталі на многа гастрэйшымі і магутнейшымі па сваім размаху. Гэтак, напрыклад, у маі месяцы ў Гомелі вынікла вялізная забастоўка чыгуначнікаў; яны патрабавалі агульнае прыбаўкі ў 20% да заработку і павялічэньня расцэнак. Адміністрацыя пабяцала паклапаціцца, але рабочыя зразумелі, што яна хоча адцягнуць час. Тады яны далі запатрабаваньні і пашлі, не патураючы на ўгаворы. 4-V рабочыя гутарылі з начальнікам дарогі, дадаўшы да сваіх ранейшых патрабаваньняў яшчэ гэткія: 1) вымеркаваньне расцэнкі па згодзе з рабочымі, а не аднымі масьцярамі і 2) каб захварэўшым рабочым даваць поўны дзенны заработак. У вадказ на гэта горад абвясьцілі на ваенным становішчы. З Бабруйску выпатрабавалі салдат. Пачаліся рэпрэсіі. Гэткія застрашваньні рабочых начальствам ды ў дадатак провокацыя сярод рабочых зрабілі тое, што забастоўка была праіграна. Выйгралі скарачэньне часу працы краўцы 5 майстэрань, якіх баставала ў Гомелі 40 ч. Гэтак сама дрэнна для забаставаўшых кончылася забастоўка віленскіх рукавічніц. Забастоўка, пачаўшыся 5 верасьня, пагражала захапіць рабочых іншых прадпрыемстваў, але ўмяшалася поліцыя і павяла супроць

---

[1]) Красная Летопись № 8. 1923 г. Ленинград.

[2]) „Хэўры“ былі распаўсюджаны па ўсёй Беларусі; зьяўленьне іх заходзіць далёка ў XIX стагодзьдзе. У 1900-1901 г.г. іх добра вывучылі ў Магілеве, прычым давялі, што пры сваім заснаваньні яны мелі рэлігійны адбітак.

[3]) Материалы к истории еврейского рабочего движения. Вып. 1. СПТ. 1906 г.

забастоўшчыкаў рэпрэсіі. 40 чалавек кінулі ў астрог, 70 саслалі ў далёкую Сібір. У час адпраўкі перад варотамі астрогу адбылася буйная маніфэстацыя рабочых. Спусьціўшы два тыдні пасьля віленскай забастоўкі, 20 верасьня выбухнулі буйныя хваляваньні рабочых у Смаргоні. З-за таго, што ў памяшканьні стаяўшых казакоў была знойдзена ў няпрытомнасьці згвалтаваная 16-гадовая дзяўчына, вынікла палітычная забастоўка. Па горадзе пашлі чуткі, што гвалт учынілі казакі, і гэта ўсхвалявала рабочых. У абед ужо многія рабочыя не пашлі на работу, а на другі дзень усе фабрыкі спынілі працу. На пляцы сабраліся рабочыя, намерваючыся кінуцца да казакоў з каменьнямі. Казацкія казармы акружылі паліцыяй. На трэці-ж дзень з Вільні прышоў батальён салдат, якія занялі ўвесь горад. Былі забаронены сходы ня толькі на вуліцы, а і ў хаце. Чацьвертым днём рабочыя сталі на работу[1]).

Аднак, абурэньне не пакінула рабочых. Выяўленая еднасьць і арганізаванасьць у верасьнеўскай забастоўцы прыдала рабочым бадзёрасьці і надзеі на посьпех. Якраз праз месяц у Смаргоні пачалася агульная забастоўка экономічнага характару. І вось цікава, што кліч да яе падала „хэўра“. 15 кастрычніка ў 4 вярстах за горадам быў назначаны сход, на якім было абгаворана пытаньне пра забастоўку. Увесь вялікі сход рашыў баставаць. Пасьля прамоў апрацавалі такі плян забастоўкі: 1) 20 кастрычніка ўсе ф-кі і заводы павінны спыніць работу; 2) патрабаваць скарачэньня працоўнага дню да 10 гадзін (ад 6 да 6 з двума гадзінамі на абед); 3) далікатнае абыходжаньне. 20 кастрычніка забастоўка пачалася. Рабочыя вышлі на пляц і крычалі: „Нам трэба працаваць з 6 да 6!“ А 3 гадзіне пашлі чуткі, што з Вільні прыехаў фабрычны інспэктар. Рабочыя кінуліся да яго, але інспэктар патрабаваў дэлегацыі. Калі-ж грамада на гэтае не пашла, казакі кінуліся з коньмі на рабочых і пачалі хвастаць іх нагайкамі. Было вельмі шмат пацярпеўшых. У дадатак назаўтра цэлы дзень ішлі арышты, ажно недзе было зьмясьціць арыштаваных[2]).

У гэтым-жа годзе ў Горадні адбыліся ў лесе два сходы папяросьніц ф-кі Шарашэўскага, на якіх было вырашана забаставаць; на адным сходзе было 350 удзельнікаў, на другім—600. Гэткім чынам 1899 год даў беларускім рабочым досыць значны паказ таго, як блізка і цесна перапле цены інтарэсы гаспадароў-прадпрыемцаў з інтарэсамі царскае ўлады. Праз няўдачу сваіх забастовак, яны таксама навучыліся большай арганізацыі, большаму яднаньню; яны зразумелі, у дадатак, неадхільную патрэбу змагацца ня толькі за патрабаваньні экономічныя, а і за палітычную свабоду. К гэтаму часу навука соцыялістых прыняла ў ваччу рабочых вялікае значэньне, і яны ахвотна паддаваліся ўплыву соцыялістычных ідэй, папаўняючы шэрагі партый. Словы маніфэсту першага зьезду РСДРП

[1]) И. Песковой. Воспоминания. Красная Летопись № 8, 1923 г.

[2]) Там сама.

якія казалі—„політычная свабода патрэбна расійскаму пролетарыяту, як чыстае паветра патрэбна для здаровага дыху. Яна—асноўная ўмова дзеля яго вольнага разьвіцьця і пасьпешнага змаганьня за частковае паляпшэньне і поўнае вызваленьне“—успрымаліся рабочымі вельмі блізка да сэрца.

У новае дзесяцілецьце, адмечанае шырокім уздымам руху сярод студэнцтва, беларускія рабочыя ўходзілі з гэткімі заваёвамі: павялічэньнем платы на 30—40% і скарачэньнем працоўнага дню, дзе з 18 г. да 15, дзе з 17 16 г. да 14—15 (у Гомелі). Гэта быў скутак каля дзесяцігадовага экономічнага змаганьня; апіраючыся на гэта, у далейшім рабочыя абагачалі яго больш узмоцненай барацьбою.

---

Ня гледзячы на прамысловы заняпад у 1900 г., адмячаецца агромністы ўздым політычнага руху; ён шырокімі хвалямі разьліваецца па ўсёй Беларусі,. захопліваючы ў свае ўлоньні, паміма рабочых, студэнцтва, інтэлігэнцыю і дробнае мяшчанства. Так што, наогул, гэты год прыносіць з сабою паварот у гісторыі рабочага руху ў бок поўнае переваґі ў ім політычнага моманту над экономічным.

У гэтым годзе зьявілася заграніцаю соцыял-дэмократычная газэта „Іскра“. З вясны 1900 г. ў Гомелі нанава організуюцца заняпаўшыя касы змаганьня ў сталяроў, краўцоў, мадыстак, пастэрачніц, сьлесароў, бляхароў, шаўцоў, загатоўшчыкаў і інш. У Менску закладаюцца новыя профэсыянальныя організацыі; у Смаргоні адна за другою не перастаюць выбухаць забастоўкі экономічнага і політычнага характару. Асабліва значна ўзбагачаецца хроніка політычных выступленьняў рабочых. Гэтак у сьнежні гэтага году на вуліцах Менску адбываецца работніцкая маніфэстацыя з удзелам 200 чал. 23 мая ў Вільні натоўп рабочых у 500 ч. адбівае ад поліцэйскіх трох арыштаваных рабочых, прымушаючы ўцякаць гарадавога і прыстава. А майскае сьвята 1900 г. ўшаноўваецца цэлым шэрагам дэмонстрацый і мітынгаў. Дэмонстрацыі адбыліся ў Дзьвінску (150 ч.), у Горадні (130 ч.), у Менску і інш. гарадох. Смаргонскія забастоўкі выліліся ў агульную політычную забастоўку, якая прынясла рабочым дзесяцігадзінны рабочы дзень. Тых-жа дасягненьняў дабіліся і беластоцкія ткачы...

На працягу ўсяго 1900 году барацьба рабочых нясупынна ўзрастала, абвострывалася, прымала новыя організацыйныя формы.

Гэты рост політычных момантаў у рабочым руху не на жарты палохаў правіцельства, якое пусьцілася на розныя провокацыі, каб так ці йначай прыпыніць рабочы рух і ўтрымаць яго ў экономічных рамках. Аднэю з такіх провокацый была так званая зубатаўшчына, якая з 1901 году перакінулася з Масквы ў Беларусь і зьвіла сабе гняздо сярод яўрэйскіх рабочых. Дзякуючы пракіднасьці начальніка жандарскага ўпраўленьня ў Маскве, Зубатава, яму ўдалося і ў Беларусі знайсьці адпаведных для сваіх мэт агентаў, якія і ўзяліся за організацыю „незалежнай яўрэй-

скай рабочай партыі“ ў Беларусі. У Менску на чале гэтай партыі стала Маня Вільбушэвіч, якая, выпаўняючы волю провокатара Зубатава, доўгі час шкодзіла разьвіцьцю політычнага змаганьня рабачых... Але нясупынны рост соцыялістычных ідэй, пашырэньне політычнай і клясавай сьвядомасьці рабочых у хуткім часе спапярушвалі хітра задуманыя пляны правіцельства: зубатаўшчына была ня ў моцы адцягнуць увагу беларускіх рабочых ад політычнага змаганьня. Наадварот, экономічныя конфлікты, якія штучна падніmаліся зубатаўцамі, пераходзілі намечаны імі руб і давалі зусім ня тыя рэзультаты, на якія разьлічвалі провокатары. Гэтак было, да прыкладу, у Адэсе, дзе забастоўка зубатаўцаў настроіла супроць зубатаўшчыны ўсіх фабрыкантаў. Гэта было не ў карысьць правіцельству, і яно стала зьневярацца ў зубатаўшчыну, якая ня здольна была папярашкодзіць разьвіцьцю рабочага руху.

---

Ужо восеньню 1901 году, улічаючы пашырэньне рабочага руху ва ўсёй Расіі і ў Беларусі, губарнатары прынялі новы спосаб змаганьня з ім, выдаўшы „абавязковыя пастановы“, якімі забараняліся ўсякія сходы і давалася права адміністрацыйных рэпрэсій мясцовай уладзе. Бяз суду, па свайму ўгляду, губарнатар (спраўнік, поліцмайстар) меў права накладаць штраф на 300 руб. і саджаць у вастрог на тры месяцы кожнага, каго западазраваў у політычнай „нядобранадзейнасьці“.

Гэтыя мерапрыемствы яшчэ болей распалілі паветра, падняўшы пачуцьцё помсты ў рабочых гушчах Беларусі. На нязьлічаныя гвалты поліцыі то тут, то там рабочыя адказвалі таксама гвалтамі. Змаганьне стала прымаць рэзкія формы, ажно заставіла Бунд на сваім чацьвертым зьезьдзе аддаць увагу гэтаму пытаньню. Бунд стаў перад фактам і прынцыпова прызнаў права за рабочым „на гвалт адказваць гвалтам“, хоць адпаведнае рэзолюцыі і ня прыняў. З гэтага часу хроніка рабочага руху ў Беларусі ўзбагачаецца выпадкамі тэрорыстычнага характару.

Ужо вясною 1902 году (18 мая) віленскі рабочы Гірш Лекерт страляе ў губарнатара фон-Валя, які распарадзіўся пакараць розгамі арыштаваных дэмонстрантаў-рабочых; у іншых гарадох рабочыя нападаюць на гарадавых (Вільня і інш.); на дэмонстрацыях усё часьцей ужываюцца актыўныя рады змаганьня з казакамі і поліцыяй. Тэрорыстычныя акцыі соцыялістых-рэволюцыянэраў сустракаюць з боку рабочых поўную спагаду. Рабочыя нават самі пачынаюць думаць аб організаванай аружнай сіле і закладаюць баявыя дружыны. Гэтак, 8 мая 1903 году вялікая дэмонстрацыя гомельскіх рабочых, у якой прымала ўдзел да 700 ч., прашла па горадзе пад аховаю баявога атраду. Патрэбнасьць самаабароны яшчэ болей абвастрылася тады, калі правіцельства задумала выспрабаваць новы спосаб барацьбы з рабочым рухам у Беларусі—пагромы. Карыстаючыся тым, што ў Беларусі вялікі лік рабочых падаў на яўрэяў і што сярод яўрэйскіх рабочых, як болей сьвядомых, рэволюцыйнасьць

стаяла параўнаўча вышэй, ніж у рабочых беларускай нацыі, правіцельства захацела на гэтым нажыць капітал. Яно ўсімі магчымымі спосабамі павяло агітацыю супроць яўрэяў, як падбухторшчыкаў да непарадкаў, як на заядлых крамольнікаў, якія адны разводзяць „усю рэволюцыю“. Скуткамі гэтай агітацыі і быў вядомы гомельскі пагром, адыграўшыся першага верасьня 1903 году.

Правіцельства сьвядома выбрала гэты горад; гомельскія рабочыя з самага пачатку нараджэньня рабочага руху былі перадавымі яго агалосьнікамі. І Бунд і РСДРП у ім, як адным з першых гарадоў, залажылі свае крэпкія організацыі. Пад іх кіраўніцтвам рабочыя гушчы шпарка організаваліся і ўпарта ды нясьціхана вялі змаганьне. Пачынаючы з першае паловы 90 г.г., Гомель быў сьведкаю нясьціханых забастовак. І ў 1903 г. з самае вясны ў ім, больш як дзе, бушаваў рабочы рух. 3 сакавіка гэтага году ў Гомелі сьвяткавалі 22-годзьдзе забойства цара Аляксандра II. У сходах прыняло ўдзел да 1.000 ч. рабочых. 24 сакавіка адбылася грандыёзная забастоўка; забастоўкаю-ж адзначылася і першае мая; восьмага мая была памянёная вышэй дэмонстрацыя. Гэта вось і накіравала на Гомель пагромную думку адміністрацыі ў помсту за пастаянную трывогу з боку рабочых; яно расправілася з яўрэйскім жыхарствам дзікім азіяцкім спосабам.

Самы пагром адкрыта падгатаўляўся тайнай і яўнай паліцыяй і адбыўся пры поўнай яе дапамозе. Паліцыі ўдалося абманным чынам уцягнуць у яго каля сотні чыгуначнікаў рабочых. З папушчэньня начальства салдаты стралялі ў натоўп яўрэйскага жыхарства, якое абаранялася ад пагромшчыкаў... Было многа забітых і параненых; многа разграблена дамоў і крам.

Ёсьць вядома, што і гэтая рада не памагла правіцельству супыніць пашырэньне рабочага руху ў Беларусі. Настрой сярод рабочых не слабеў нізваньня. Па гародах закладаліся соцыял-дэмократычныя організацыі (Менск і інш.), якія ўцягалі вялікі лік рабочых у каляіну палітычнага жыцьця ды палітычнага змаганьня. Агульная забастоўка на поўдні Расіі (Украіна) і на Каўказе яшчэ больш настраівала беларускіх рабочых да выступленьняў.

Гэтыя выступленьні ў некаторых мясцох ледзьва-ледзьва ўдаецца паліцыі перапыніць.

Але, папераджаючы тыя ці іншыя выступленьні рабочых, мясцовая ўлада ня мела магчымасьці перашкодзіць разьвіцьцю палітычнай організацыі сярод рабочых і паглыбленьню сярод іх рэволюцыйнай сьвядомасьці і рэволюцыйнай чыннасьці. Апошняя нясупынна захапляла сабою ўсё шырэйшыя ды шырэйшыя колы рабочых, перакідаючыся на больш адсталых у гэтым сэнсе рабочых-беларусаў. На сцэну выходзіць друкаванае слова на мове рабочых—яўрэйскай і беларускай; гэта надзвычайна спрыяе посьпеху ў рабоце соцыялістычных партый. 1903 год мала дае нам конфлік-

таў экономічнага характару, уступаючы месца політычнай падгатоўцы да выступленьняў недалёкага наступнага, якое прынясе 1905 год. Усё-ж падгатоўка не абыходзіцца без адкрытых актаў, адным з якіх быў напад на беластоцкага поліцмайстра Метленку.

Наогул пярэдадзень падзей 1905 году адзначаўся ў рабочым руху Беларусі ўзмоцненай організацыйнай працаю. Узьнікшая неўспадзеўкі расійска-японская вайна на нейкі час перапыніла яго пашырэньне ў Беларусі. То сям, то там патрыотычныя дэмонстрацыі выліліся ў разбоі і дробныя пагромы яўрэйскіх крам[1]). Помеж з гэтым ваеннае становішча ўзмацніла кары за політычныя праступкі.

У гэты час беларускія рабочыя перанясьлі сваю чыннасьць на біржы. Па ўсіх гарадох і мястэчках Беларусі ў 1904 г. адкрыліся на галоўных вуліцах рабочыя біржы. Кожны дзень пасьля працы на біржу выходзілі рабочыя з мэтаю абгаварыць сваё становішча, аплянаваць далейшую барацьбу за паляпшэньне ўмоў працы. Тут-жа, на біржах, разьвіналі сваю работу і соцыялістычныя партыі, вядучы сярод рабочых агітацыю і дыскусуючы адна з другою. Поруч з біржамі, рабочыя ладзілі зачыненыя сходы. У Дзьвінску поліцыя адкрыла гэткія сходы 29 студзеня і 17 лютага[2])—у самы разгар чорнасоценскага патрыотызму і рэпрэсій правіцельства. К канцу году рабочы рух раптам ізноў выбухае на поверх з нячуванаю сілаю. У верасьні месяцы ў Беластоку поліцыя адкрыла тайны сход яўрэйскіх рабочых у лесе, акружыла лес і, пачакаўшы, пакуль сход кончыцца, пры разыходзе рабочых накінулася на іх і пачала біць нагайкамі, шаблямі і страляць з вінтовак ды рэвольвэраў. У скутку стральбы—дзесяткі ахвяр. Поліцыя сама пазьбірала раненых. Многа арыштавала. Гэты выпадак быў пачаткам цэлага шэрагу пазьнейшых падзей. Першага кастрычніка адбылася маніфэстацыя ў віцебскім тэатры, другога—вулічныя дэмонстрацыі ў Бабруйску і Магілеве, а пятага выбухнула агульная забастоўка і шэраг протэстаў-мітынгаў у Менску[3]). У гэтым-жа годзе адбылася забастоўка шкарпэтніц у Чэрыкаве. Баставалі да 500 чалавек. Забастоўка цягнулася 2 тыдні і скончылася перамогаю рабочых. К гэтаму часу прыпадае паласа банкетаў, так званая „вясна“, праз якую самадзяржаўе пацешыла буржуазную опозыцыю марамі грамадзянскага замірэньня. У Беларусі „вясна“ адбілася ў эфэктным пролёгу рабочых выступленьняў; гэтыя выступленьні перакладалі мост да новых падзей, якім і даў штурхач дзевяты студзень—расстрэл у Пецярбурзе царскім войскам рабочае маніфэстацыі на чале з Гапонам.

Да новых падзей, як мы бачым, рабочая кляса Беларусі была падгатавана досі грунтоўна і стала, загартаваўшыся ў доўгай і ўпартай барацьбе цэлага шэрагу (з 1895 па 1904 г.).

---

[1]) Гэткія пагромы былі ў Магілеве, у Мсьціслаўлі ды інш.

[2]) „Право“—еженедельная юридическая газета № 12, 1904 г. Петербург.

[3]) М. Рафес—Очерки по истории Бунда, изд. Московский Рабочий, 1913 г.

Весткі аб пецярбурскіх здарэньнях 9 студзеня выклікалі нячуванае абурэньне беларускіх рабочых. Буйныя забастоўкі шырокаю хваляю пранесьліся па ўсіх кутках Беларусі, захапіўшы дзесяткі тысяч рабочых і рамесьнікаў. У палітычны рух на гэты раз увашлі гушчы рабочых-беларусаў, якія да 1905 году далёка адставалі ад рабочых яўрэяў...

Масавы ўдзел рабочых беларусаў у студнёўскіх (і далейшых) забастоўках тлумачыцца тым, што к гэтаму часу праца РСДРП ды нацыянальна-соцыялістычных партый паміма Бунду, як: СДП Літвы і Польшчы, ППС, Бел. Соц. Грамады, пусьціла глыбокія карэньні і пранікла ў рабочыя гушчы. Зусім нельга пагадзіцца з т. Бухбіндэрам, які наконт студнёўскіх падзей у Беларусі піша, што „на чале гэтага выступленьня стаяў Бунд. Ён быў яго організатарам і кіраўніком“. Трэба адзначыць, што ня толькі ў буйнейшых гарадох, як Магілеў, Смаргонь, а і ў глухіх мястэчках (да прыкладу: м.м. Капыль, Клецк, Ляховічы—Менскай губ.) організацыі РСДРП па ліку сваіх сяброў мала ўступалі Бунду, а па сваім уплыве зусім ня ўступалі. Значыць, у справе організацыі і кіраўніцтва падзеямі ў студзені 1905 году ў Беларусі вельмі вялікую ролю адыграла РСДРП у твары яе Паўночна-заходняга камітэту.

Бунд і РСДРП з дапамогаю нацыянальна-соцыялістычных партый разам сталі на чале таго агромністага ўздыму протэсту, які маланкаю асьвяціў бедныя абшары прыгнечанай Беларусі.

Протэсты-забастоўкі пачаліся ўжо 11 студзеня, на другі дзень пасьля пецярбурскага расстрэлу. Пачатак зрабіла Вільня. У гэты дзень забаставалі віленскія шаўцы, загатоўшчыкі, шкарпэтніцы, цьвяточніцы, літографы, краўцы, гарбары—лікам да 2.000 чал. Назаўтра забастоўка стала агульнаю. Да забастоўшчыкаў далучыліся тутуньнікі, лесапільшчыкі, розныя дробныя майстэрні, магазыны і канторы. Лік забастоўшчыкаў даходзіў да 4.000 чал. 13 студзеня ў Вільні стаялі ўсе фабрыкі й заводы. У дні забастоўкі адбываліся сутычкі рабочых з паліцыяй, якія канчаліся расстрэламі і пабойствамі рабочых. Адно з гэтакіх пабойстваў адбылося пасьля пахаваньня аднаго рабочага, калі публіка варочалася з могілак. Пры выйсьці з могілак паліцыя заперла вароты і стала выпускаць рабочых па адным; толькі гэта не памагло. І ў цэнтры гораду, на Нямецкай вуліцы, сабраўся натоўп рабочых, якіх паліцыя стала разганяць. Да паліцыі на падмогу падышлі дворнікі. Пачалася бойка. Пацярпеўшыя былі з абодвух бакоў. Урэшце да дзесяці чалавек рабочых было арыштавана...[1])

12 студзеня, калі ў Вільні забастоўка стала агульнай, выбухнула забастоўка ў Менску. За гэты дзень і назаўтрае забаставалі: рабочыя тутуннай фабрыкі Цукермана, абойнай фабрыкі Эпштэйна, чыгунна-ліцейнага заводу „Тэхнолёг“, дзевяці прыватных друкарань, у тым ліку дзьвёх газэтных; рамесьленых майстэрань, прыказчыкі. 14 студзеня забаставалі

[1]) „Права“ № 2, 1905 г. С.-Петербург. У сваіх данясеньнях (1905 г. З Беларусі) міністру ўнутраных спраў віленскі губарн. аб сім не ўпамінае.

на крухмальна-сыропным заводзе „Сокал“, на вінакурным заводзе Любанскага, на мэханічным заводзе Вільбушэвіча і Залкінда ды інш. Спыніліся заняткі ўва ўсіх майстэрнях, ня выключаючы прачачных і пякарань. Забастоўка вылілася ў агульную і перапужала буржуазію і мяшчанства, ажно сталі ўсе запасвацца ежаю. Паднялася дарагоўля[1]). 16 студзеня забаставала конка. Забастоўка мела выключна палітычны характар і цягнулася некалькі дзён. Менск заставаўся без сьвятла, без газэт, як замёршы. На ногі паднялася ўся паліцыя, якая старалася перапыніць спробы ўчыняць дэманстрацыі...

Ня меншы размах і значна бурлівей адыгрываўся таксама протэстзабастоўка гомельскіх рабочых. Уступам да іх была масаўка 8 студзеня, на якой сабралася да 250 беларускіх і яўрэйскіх рабочых. Але, напэўна, яна мела іншыя прычыны. Водгук на пецярбурскія здарэньні пачаўся 13 студзеня сходкаю чыгуначнікаў (сышлося да 300 ч.). 15 студзеня адбыўся больш вялікі сход на Амэрыцы; сабралася ўжо 2.000 ч. Паміма гэтай сходкі, па горадзе адбылося шмат меншых масавак. Многія з іх канчаліся сутычкамі з паліцыяй[2]). Назаўтра-ж, 16 студзеня, была абвешчана агульная забастоўка, да якое ў першы дзень далучыліся ўсе яўрэйскія рабочыя. Баставалі кухаркі, фармацэўты, настаўнікі, служачыя кантор і банкаў. У горадзе пачаліся сутычкі з паліцыяй ды казакамі. Забастоўка цягнулася сем дзён, у ёй прымала ўдзел звыш 2.000 чалавек. У час забастоўкі, 18 студзеня, калі Бунд наладзіў сход у сынагозе, салдаты і гарадавыя стралялі ў рабочых, з якіх работніцу Дворкіну 17 г. забілі і траіх цяжка ранілі.

Гэтак, як і ў Гомелі, у Магілеве здарэньні пачаліся незалежна ад пецярбурскіх падзей. 12 студзеня была абвешчана аднадзённая забастоўка, і ўжо ў час забастоўкі праведалі аб расстрэле гапонаўскае дэманстрацыі. Гэтыя весткі ўзбурылі магілеўскіх рабочых, якія, ня спыніўшы забастоўкі, сталі абгаворваць атрыманыя з Пецярбургу навіны. На сходцы, уладжанай на могілках 13 студзеня, паліцыя арыштавала некалькі чалавек. На гэта рабочыя паставілі паліцыі ультыматум—або браць усіх, альбо нікога. Паліцыя забрала ўсіх. Тады па згодзе с.-д. камітэту з камітэтам Бунду была абвешчана агульная забастоўка. Пытаньне забастоўкі абгаворвала да 1.000 чалавек рабочых. Дзень забастоўкі назначылі на 20 студзеня, калі і забаставала да 1.000 чал.: гарбары, перапёкі, шаўцы і інш. Паліцыя зрабіла шмат арыштаў; арыштаваных білі, калечылі. Адказам на гвалты была дэманстрацыя, уладжаная 23 студзеня на Ветранай вуліцы. На дэманстрацыю сышліся вучні і вялікая колькасьць рабочых беларусаў, да гэтага мала распрапагандаваных. На дэманстрацыю паліцыя зрабіла напад і ўчыніла страшэннае пабоішча, пасьля якога шэсьць чалавек было паранена. 28 студзеня ў помсту за гэта рабочы Лазар Гітэляў страляў

[1]) „Право“ № 4, 1905 г.

[2]) Изв. Гом. Губ. Ком. РКП № 3 за 15-II-25 г.—Воспоминания Я. Драбкина.

у паліцмайстра Радзёнава. Выстрал крыху спыніў зьверствы паліцыі[1]. У Віцебску 6 дзён баставала 1.200 чал., у Дзьвінску баставала 3.000 ч.

З губэрскіх гарадоў забастоўка хутка, праз адзін-два дні, перакідалася на павятовыя гарады і мястэчкі. І па прыкладу губэрскіх—павятовыя і местачковыя студнёўскія забастоўкі мелі бурлівы характар, з сутычкамі з паліцыяй, арыштамі і пабоішчам рабочых.

Гэтак у Смаргоні ўжо 13 студзеня камітэты РСДРП і Бунду абвясьцілі забастоўку, у якой прыняло ўдзел 3.000 чалавек. Забастоўка скончылася арыштамі. Апроч Смаргоні, на Віленшчыне баставалі: у Нова-Вілейцы, Ашмянах і інш. У Горках Магілеўскай губ. 16 студзеня адбылася дэманстрацыя з удзелам 60 вучняў і 40 рабочых, у якую паліцыя страляла з баявых патронаў і забіла двух чалавек. А сьледам протэсты-забастоўкі разьліліся па ўсёй губэрні; яны адбыліся: 17 студзеня ў Шклове—прымала ўдзел да 200 чал.; паліцыя ўцякла ад сполаху; у Копысі—баставалі рабочыя кафельных заводаў; у Дуброўне—баставалі ўсе жыдоўскія рабочыя; у Чэрэі—баставала 30 чал.; у Ветцы, у Талочыне, у Рагачове. З павятовых гарадоў і мястэчак Меншчыны трэба адзначыць гэткія, дзе была забастоўка ці дэманстрацыя ў студзені: Барысаў—баставала 1.200 чал. два дні, Рэчыца—баставала 250 чал., Пінск—баставала 1.500 чал. рабочых, Мазыр, Капыль—адбылася дэманстрацыя і інш. На Віцебшчыне адбылася забастоўка, паміма Дзьвінску, у Полацку—2 дні баставала 800 чал., у Невелі—400 раб., у Гарадку, Рэжыцы і г. д. Ня меншы размах мелі падзеі і ў Горадзеншчыне. У Горадні з 17 студзеня баставалі чыгуначнікі, чыгунна-ліцейны завод, тутунная фабрыка Шарашэўскага, рамесьляныя майстэрні, коркавыя фабрыкі, машына-будаўнічыя, аптэчныя служачыя, перапёкі, друкары. У м. Крынках, Горадзенскае губ. 2.000 забаставаўшых гарбароў рабочых пасьля мітынгу парвалі тэлеграфны дрот, разьбілі паліцэйскі вучастак і іншыя ўрадавыя інстытуцыі, пасьля чаго суткі валадалі мястэчкам; апроч гэтага, адбыліся забастоўкі ў Слоніме, у Бярэсьці, Беластоку, Ваўкавыску, у м. Гарадку Беластоцкага павету, дзе 18 студзеня баставалі рабочыя шасьці суконных фабрык і некалькі ткацкіх завядзеньняў.

Апроч адмечаных пунктаў, у дзесятках мястэчак Беларусі адбыліся менш значныя па ліку ўдзельнікаў і па сутычках з паліцыяй забастоўкі і дэманстрацыі.

У вогуле, як мы бачым, беларускія рабочыя асабліва энэргічна адгукнуліся на страшэнную провокацыю самадзяржаўя, паказаўшы сваю з'арганізаванасьць і падгатоўленасьць, а таксама і таварыскую солідарнасьць. І гэты іх водгук яскрава сьведчыць аб тым размаху рэволюцыйнага рабочага руху, які за папярэднія пятнаццаць гадоў прашоў добрую школу і выгартаваўся ў магутны рэволюцыйны фактар прамыслова адсталай Беларусі.

---

[1]) Изв. Гом. Губ. Ком. РКП № 7 (90) за 15/IV 25 г.—Воспом. Я. Драбкина.

Адмечаны студнёўскі ўздым беларускіх рабочых, ахапіўшы масу працаўнікоў лікам звыш дваццаці тысяч, меў выключна політычны адбітак.

У тых мясцох, дзе забастоўкі выніклі на нейкі час раней, як у Гомелі ці Магілеве, таксама яны мелі падставу політычную. Гэткім чынам беларускі рабочы стаў у першыя шэрагі рэволюцыйнай арміі, прыняўшы блізка да сэрца справу політычнага вызваленьня, ад чаго ў вялікай долі залежала і вызваленьне экономічнае.

Ахрысьціўшы свае выступленьні ў студзені месяцы вялікім лікам ахвяр, беларускія рабочыя ня спыніліся на гэтым, а павялі далей змаганьне, ня толькі не адстаючы ад разьвіцьця рэволюцыйных падзей у Расіі, а йдучы нараўне, а часамі і ўперадзе іх. Студнёўскія здарэньні, блісноўшы яскраваю маланкаю, былі папярэднікамі цэлага шэрагу наступных падзей у змаганьні за політычнае, экономічнае і нацыянальнае вызваленьне. Гэтыя падзеі чым далей, тым болей прымалі выразна клясавы характар. Рабочыя гушчы Беларусі, натуральна, не маглі абмежавацца адным протэстам супроціў самадзяржаўя. З боку прадпрыемцаў ніяк ня меншаў націск на рабочых, ня зьніжалася эксплёатацыя. Ядыны фронт капіталістых і самадзяржаўя ўсё больш вызнаваўся рабочымі. І вось хутка пасьля студнёўскіх здарэньняў мы адмячаем новае ўзмацненьне экономічных сутычак рабочых з гаспадарамі фабрык ды заводаў. Гэтыя сутычкі пачалі праводзіцца на гэты раз ужо ў выглядзе здыманьня з работы забастоўшчыкамі тых рабочых, якія не далучаліся да забастоўкі, у нападах на штрэйкбрэхэраў і нават на адміністрацыю і гаспадароў, і г. д. І амаль ня кожны інцыдэнт на экономічным грунце цягнуў за сабою політычныя выступленьні.

Ужо ў чарговым уздыме забастовачнай хвалі ў Беларусі, якая выпала на другую палову лютага, відаць цеснае перапляценьне політыкі з экономікай. У гэтых адносінах досыць характэрны падзеі ў Дзьвінску. 13 лютага ў гэтым горадзе пачалася забастоўка вучняў рэальнага вучылішча. Забаставалі 5, 6 і 7 клясы. Забастоўшчыкі перамаглі. Але на гэтым ня скончылася: па згавору камітэтаў РСДРП і Бунду 17 лютага была абвешчана агульная забастоўка-протэст. 18 сыпыніліся ўсе заводы. З 11 гадзін пачаліся маніфэстацыі. А першай гадзіне адбыўся мітынг чыгуначнікаў, на якім прысутнічала да 3.000 ч.[1])

А шостай з паловаю гадзіне была дэмонстрацыя з удзелам да 6.000 чал. Дэмонстрацыю сустрэла войска і разагнала яе; але быў ранены пристаў Курлянскі. Забастоўка цягнулася пяць дзён. Горад выглядаў замёршым, усё ўсюды было зачынята. Пачатак забастоўкі палажылі гарбары заводу Грыліхеса, якія грамадамі абыходзілі фабрыкі і перапынялі на іх працу. Гэткага характару забастоўкі адбыліся ў Бабруйску і

1) Гэта яшчэ раз сьведчыць за тое, што к пятаму году ўдзел рабочых беларусаў у рэволюцыйным руху прыняў вельмі шырокі разьмер.

Вільні[1]). 2 лютага ў Вільні выбухнула агульная забастоўка, якая, ня гледзячы на ўступкі з боку гаспадароў, цягнулася некалькі дзён. У забастоўцы прымалі ўдзел і гандлёвыя ўстановы. 1 лютага ў Менску забаставалі рабочыя Маскоўска-Брэскіх чыгуначных майстэрань; 8—паднялася забастоўка ў чыгуначных майстэрнях Лібава-Роменскай дарогі. 18 лютага ў Пінску на лекцыі аб Чэхаве была ўладжана маніфэстацыя з нападам на гарадавога. 20 ў Мазыры забаставалі запалачныя фабрыкі, а 27 і 28 лютага ў Пінску—перапёкі, запалачнікі, прыказчыкі і нават лёкаі. 13 лютага ў Нова-Вілейску забаставалі рабочыя папернай ф-кі Зандберга; 14—рабочыя фабрыкі мэханічных вышывак. 22 лютага паўтарылася забастоўка буйных фабрык і заводаў у Вільні. 27 і 28 лютага баставалі ў Дзьвінску прыказчыкі, булачнікі, лёкаі, а таксама рабочыя запалачнай фабрыкі Гальпінера.

Лютаўскія забастоўкі завяршыліся буйнымі падзеямі ў Беластоку і ў павеце. Яны пачаліся ў канцы лютага і працягнуліся да двух тыдняў. Увесь час г. Беласток выглядаў няжыцьцёвым: стаялі ўсе фабрыкі, заводы, майстэрні, друкарні, магазыны, трамвай; не працавалі вазьніцы. Агульны лік забастоўшчыкаў налічваўся да 10 тыс. Хто не далучаўся да забастоўкі, таго сілаю здымалі з работы. Гэтак былі зьняты з работы прыказчыкі і рэстаранная прыслуга. Па горадзе йшлі сходкі рабочых, сутычкі з паліцыяй і войскам. У сутычцы 22 лютага было ранена 197 чал. і 8 чал. забіта.

Усе забастоўкі адмячалі сабою ўзьняты настрой іх удзельнікаў. Гэты настрой абураў рабочых з часу на час мацней і глыбей.

Ні расстрэлы маніфэстацый і дэманстрацый, ні арышты, ні разьлічэньні з заводаў ды фабрык забастоўшчыкаў—ня спынялі разьвіцьця рабочага руху. Наадварот, кожны акт рэпрэсіі з боку правіцельства надаваў беларускім рабочым упартасьці і загартаванасьці для адпору.

Асабліва ў гэты час выразна адмячаецца сярод рабочых Беларусі выяўленьне пачуцьця салідарнасьці. Ужо студнёўскія здарэньні выказалі багацьце яе ў чыннасьці рабочых гушчаў. Характэрна, што гэтая выразная рыса ў беларускім рабочым руху адзначаецца і ў данясеньнях мясцовай улады вышэйшаму начальству. Гэтак, апісваючы прычыны студнёўскай забастоўкі ў Вільні, начальнік Віленскага ахраннага аддзяленьня ротмістр Клімовіч піша дырэктару дэпартаманту паліцыі: „Гэткі (вялікі) посьпех забастоўкі можна вытлумачыць моцна разьвітаю салідарнасьцю і рэвалюцыйным настроем яўрэйскай рабочай масы“. Але ў далейшым яна прасякае кожнага рабочага. Мы бачым, што цэлы шэраг летніх забастовак 1905 г. маюць сваёю прычынаю якраз пачуцьцё салідарнасьці, пачуцьцё спагады да рабочых суседніх краёў, губэрань, гарадоў. Дзякуючы гэтаму, размах і сіла руху беларускіх рабочых у 1905 годзе, па-

[1]) Усе лічбы месяцаў у даным артыкуле - па старым стылі.

раўнаўча з другімі месцамі Расіі, трымаліся доўгі час на многа вышэйшай ступені. Гэтак пасьля студнёўскіх забастовак ажно да самага верасьня ва многіх раёнах Расіі, як Маскоўскі, Тульскі, Уральскі і інш., цягнулася заціша, а ў той час Беларусь кіпела забастовачным рухам, які прымаў вельмі бурлівы зварот. У дадатак гэты рух праводзіўся ўзмоцненай тэрорыстычнай чыннасьцю. Ва многіх гарадох Беларусі адзін за другім ішлі напады на прадстаўнікоў поліцыі. 28 лютага ў Менску стралялі ў поліцмайстра, 1 красавіка ў Дзьвінску ранілі памоцніка прыстава Ярэміна, 5 красавіка ў Беластоку зроблен напад на сокальскага памоцніка ісправўніка Палкоўскага, 9 красавіка днём у Дзьвінску ў цэнтры гораду стралялі і ранілі ў голаў прыстава Дзехцярова, 17 красавіка ў тымжа Дзьвінску сур'ёзна ранены выстралам памоцнік поліцмайстра Булыгін, 21 красавіка а 10 гадзіне вечара ў Магілеве стралялі ў памоцніка поліцмайстра Мізгайлу. У Менску патруль натыкаецца на рабочых, якія займаюцца абучэньнем страляць і г. д. Сакавік месяц асабліва багаты гэтаю хронікаю, якая з свайго боку падкрашваецца забастоўкамі ваяўнічага характару, якія пазьменна ўздымаюцца то ў адным, то ў другім месцы. Так, 1 сакавіка, у вадзнаку гадавіны забойства цара Аляксандра II, у м. Капылі была наладжана вялікая дэмонстрацыя з удзелам сялянскае моладзі, якая прашла па мястэчку з крыкамі „Далоў самадзяржаўе“ і з песьнямі. Гэткая дэмонстрацыя таго-ж дню адбылася і ў Нясьвіжы. 19 сакавіка ў Дзьвінску дэмонстравалі дзеці рабочых у ліку да 200 чал. Дзеці пялі і крычалі „ня сьмейцеся над намі—мы дзеці пролетараў!“ Дзяцей поліцыя разагнала[1]). 8 красавіка ў Барысаве грамада рабочых у тысячу чалавек з выстраламі, песьнямі і гукамі „ура!“ прадэмонстравала па горадзе, раскідаючы адозвы. Дэмонстрацыя навяла жах на поліцыю. Пасьля дэмонстрацыі забаставалі краўцы, загатоўшчыкі і кавалі, якія дамагліся скарачэньня рабочага дню да 10 г., павялічэньня заработку і лепшага абыходжаньня. Таксама была забастоўка на тутуннай фабрыцы Ю. Ліўшыца. У Пінску баставалі чыгуначнікі, запалохаўшы абыватэльшчыну і поліцыю. У часы забастоўкі, 27 і 28 сакавіка, мелі места аружныя дэмонстрацыі. Апроч адмечаных буйнейшых забастовак і дэмонстрацый, штодня ў меншым памеры яны перакідаліся з фабрыкі на фабрыку, з гораду ў горад, з мястэчка ў мястэчка. Увесь сакавік запоўнены імі...

Тое самае рабілася і ў красавіку месяцы. 9 баставалі рабочыя копыскіх кафэльных заводаў, выставіўшы экономічныя патрабаваньні. У Менску 11 і 23 красавіка выбухалі аружныя дэмонстрацыі; у вапошняй прымала ўдзел да тысячы чалавек; 7 была аружная дэмонстрацыя ў Пінску.

З 21 да 26 красавіка ў Горадні баставалі рабочыя пераплётнай Харына. 28—баставалі сьлёсары майстэрні Пецярбурска-Варш. чыгункі

[1]) „Право“ № 13, 1905 г.

ў Вільні, рабочыя паравіка Шарашэўскага і рабочыя тутуннай ф-кі Шарашэўскага—180 чал. Цэлы шэраг гарадоў і мястэчак прашлі дзіцячыя дэмонстрацыі і забастоўкі рамесьнікаў, рабочых і работніц.

Наконт 18 красавіка (па новым стылі 1 мая) маюцца весткі аб агульнай забастоўцы ў Бярэсьці. К першаму мая выпала так, што рух заціх; на гэты дзень сьвята мінула слаба адзначаным. Праўда, да рэволюцыі сьвята першага мая сьвяткавалася розна—і па новым стылі (18 красавіка) і па старым. У 1905 г. ў абодва дні не адмецілася больш-менш выдатнага масавага сьвяткаваньня. У рэдкіх мястэчках, як м-ка Бярэзіна Бабруйскага павету, і гарадкох, як г. Чэрвень (быўшы Ігумен) прашлі маніфэстацыі. У Менску-ж рабочыя чыгуначных майстэрань, хоць і забаставалі першага мая, але прычынаю свае забастоўкі ўзялі ня сьвята, а экономічныя падставы.

Толькі назаўтра, 2 мая, ізноў хваля забастовак паднімаецца вышэй. З гэтага дня ў Берасьці забаставалі друкары, у Пінску кідаюць працу рабочыя фанэрных і шпілечных фабрык у ліку да 600 чал.

У Ашмянах рабочыя 4 скурных заводаў адсьвяткавалі забастоўкаю майскае сьвята, у Барысаве спыняюцца заводы: лесапільны—Гутмана й кафэльны—Эпштэйна, у Горадні—ліхтаршчыкі й абозьнікі. Чарговымі днямі забастоўка прымае яшчэ шырэйшы размах, захапляючы: Вільню, Менск, Бабруйск, Слуцак, Беласток, Слонім, Старыя Дарогі, Мазыр і г. д. Узьнікаюць частыя дэмонстрацыі з пабоішчамі. Аднэй з выдатнейшых забастовак у маі месяцы трэба прызнаць Гомельскую агульную забастоўку 12 мая. Яна вынікла з тае прычыны, што на дэмонстрацыі казак забіў мірна стаяўшага хлопца. У час забастоўкі адбылося пахаваньне казацкай ахвяры; пахаваньне вылілася ў грандыёзную дэмонстрацыю, на якой прысутнічала 8.000 чал. [1]).

Усё гэта хвалявала рабочыя гушчы, падтрымлівала ў іх настрой і гатовіла да новага выбуху, які выпаў на чэрвень і ліпень месяцы, захапіўшы сабою найбольшы да гэтага лік беларускіх рабочых і прыняўшы досыць востры зварот. Гэты выбух рэволюцыйнага абурэньня выразна сьведчыў аб значным паглыбленьні палітычнай і клясавай сьвядомасьці сярод беларускіх работніцкіх гушчаў, аб іх з'арганізаванасьці, аб росьце ў іх пачуцьця яднаньня і клясавай солідарнасьці. На шальві рэволюцыі 1905 г. ён лёг важкаю адзінкаю, абагаціўшы старонку яе разьвіцьця вялікімі дасягненьнямі моральнага характару. Таксама ў сэнсе рэволюцыянізаваньня беларускага сялянства чэрвень-ліпнёўскія падзеі зрабілі вельмі многа. У сваіх гэтае пары данясеньнях міністру ўнутраных спраў губарнатары і начальнікі жандарскіх упраўленьняў часта-густа жаляцца на надзвычайны ўздым аграрнага руху сярод сялян. Аднэю з важных прычын выступленьняў беларускіх рабочых у чэрвені і ліпні былі крывавыя падзеі ў

[1]) З матэрыялаў з архіву губарнатара.

Лодзі і Адэсе. У вабодвух гэтых гарадох рабочыя, абураныя провокацыяй паліцыі, пашлі на сапраўднае паўстаньне. У Лодзі справа пачалася з-за сутычак дэмонстрантаў з войскам 5 чэрвеня, пасьля якое засталося некалькі забітых і раненых. 7 і 8 чэрвеня было назначана пахаваньне гэтых ахвяр, навошта сабралося да 50.000 чал. Рабочых пахавала паліцыя тайком. Тады сабраныя рабочыя ў ліку 20.000 пашлі ў горад. Іх сустрэлі казакі, якія сталі няшчадна біць дэмонстрантаў, даўшы некалькі залпаў. У скутку 13 чал. было забіта, а 20 цяжка ранена. Гэта страшэнна абурыла рабочых. 9 была абвешчана агульная забастоўка і спынены ўсякі рух. Злосьць рабочых выказалася ў актах помсты, накіраванай на паліцэйскіх, жандараў, казакаў; іх цэлы дзень расстрэльвалі па адзінцы, а вечарам фальшываю трывогаю завабілі цэлы звод казакаў і расстралялі іх з дахаў дамоў. Ноччу ў аколіцах гораду паўсталі барыкады і драцяныя загарадзі, супроць якіх было накіравана войска. З раніцы да 2 гадзін рабочыя абараняліся, а ўступіўшы пераважнай сіле, перашлі ў дамы і з гары ды дахаў абстрэльвалі насядаўшае на іх войска. У розных частках гораду былі організаваны партызанскія атрады, якія руйнавалі манапалькі. Казакі і салдаты былі таксама разьзлаваны няўмеру і расстрэльвалі рабочых без разбору. Агульны лік ахвяр дасягаў да 400 чал. [1]).

Адэскія здарэньні закончыліся крыху іншым фіналам. Яны пачаліся з-за забастоўкі, выкліканае спробамі паліцыі заарыштаваць сходку „ўпоўнаважаных" ад рабочых, якіх выбралі мясцовыя фабрыкі і заводы для кіраўніцтва забастоўкамі. Узбураны гэтым натаўп рабочых абкружыў паліцэйскі вучастак, дзе былі арыштаваныя, і прымусіў зьнянацку захопленую паліцыю іх вызваліць. Але 12 чэрвеня „ўпоўнаважаныя" былі йзноў заарыштаваны. Гэта дарэшты раззлавала рабочых, і 13 ды 14 чэрв. вуліцы Адэсы былі перапоўнены грамадамі бурліва настроеных рабочых. Яны хадзілі ад завода да завода і спынялі работу. Забастоўка хутка вырасла ў агульную. Усё часьцей адбываліся сутычкі з паліцыяй ды войскам, якое пачало страляць у натаўп. Але весткі пра забітых і раненых яшчэ больш абуралі рабочыя гушчы. А 14 чэрвеня горад выглядаў надзвычайна трывожна: зачыніліся магазыны, банкі і інш. ўстановы. То там, то сям рабочыя будавалі барыкады, галасна гутарылі аб аружжы. На чарговы дзень усе чакалі рашучых і, як заўсёды, крывавых здарэньняў. Але зусім нечакана на падмогу рабочым прышоў паўстаўшы броненосец „Потемкин-Таврический" [2]).

І лодзінскія, і адэскія, і івана-вазьнясенскія падзеі з цэлым шэрагам забастовак на Украіне (Кацерынаслаў, Харкаў) і на Каўказе (Тыфліс, Горы, Кутаіс, Батум і інш.)—былі адказам на паражэньне рускай флёты

[1]) А. Ельницкий. История рабочего движения в России. Часть II (XX век). Издание „Начатки Знаний", 1919 г.

[2]) „Общественное движение в Россіі" т. II, ст. 66

пры Цусіме. Да іх далучыліся выступленьні рабочых у Беларусі, як працяг першых і разам, як іх сьледзтва. Выступленьні рабочых у Беларусі ў чэрвені-ліпні мелі палітычны характар, выяўляючыся часткаю, як протэст супроць лодзінскіх і адэскіх падзей, часткаю дзякуючы іншым прычынам; меншы лік выступленьняў прыўрочваўся да забастовак экономічнага характару. Увогуле падзеі разгарнуліся ў грандыёзны эпізод мобілізацыі рабочых сіл Беларусі і іх падгатаванасьці да далейшых выступленьняў. У гэтым была вялічэзная заслуга РСДРП і Бунду, якія к гэтаму часу сталі прызнанымі кіраўнікамі беларускіх рабочых гушчаў і без якіх не абыходзілася ні адна забастоўка, ні адна дэмонстрацыя [1]). У большасьці гарадоў, дзе меліся выступленьні ў чэрвені і ліпні месяцах, РСДРП і Бунд трымалі аднакавыя вагу і ролю ў гэтых выступленьнях.

Гэтыя выступленьні пачаліся з 20-х лічбаў чэрвеня. Яны ахапілі сабою ўсю Беларусь, разьліўшыся па гарадох і мястэчках. Рабочыя Гарадзеншчыны амаль ня выключна ў сваіх выступленьнях гэтага тэрміну протэставалі проціў лодзінскіх падзей, у іншых-жа губэрнях да выступленьняў былі большаю часткаю прычыны другога палітычнага або экономічнага характару. 22-23 чэрвеня ў адзнаку жалобы па забітых у Лодзі дэмонстрантах забаставалі рабочыя ўсіх суконных фабрык г. Васількова Сакольскага павету. Гэтымі-ж днямі баставалі рабочыя ўсіх горадзенскіх фабрык. Апроч гэтага, у Горадні „чакалася буйная дэмонстрацыя, але сваячасова прынятыя адміністрацыяй рады“ не дапусьцілі гэтага [2]). 28 чэрвеня з гэтай-жа прычыны не працавалі рабочыя ў г. Ваўкавыску.

У гэтых гарадох забастоўкі, як бачым, прашлі больш-менш спакойна. У Беластоку протэст супроць лодзінскіх здарэньняў 27 чэрвеня даў крывавыя вынікі. Салдаты стралялі ў дэмонстрантаў залпамі.

Як даносіць аб гэтым горадзенскі губарнатар Азнобішын таварышу міністра ўнутраных спраў па заведваньні паліцыяй, то „забітых і раненых з публікі ня выяўляна, бо... са слоў камандзіра атраду, салдат, падаўшых, выносілі“—сапраўды-ж было некалькі забітых і раненых.

Пачатак чэрвеньскім забастоўкам у Віленшчыне далі падручныя рабочыя, лікам да 160 ч. шклярнага заводу „Неман,“ у Лідзкім павеце, якія забаставалі першага чэрвеня, патрабаваўшы скарачэньня працы на адну гадзіну ў дзень і прыбаўкі заработку тым, хто атрымліваў 50 к.—на залатоўку, а хто менш поўрубля—на 5 капеек. Забастоўкі не ўдалося выйграць. 12 чэрвеня ў Смаргоні забаставалі гарбары-пасадчыкі, патрабуючы павялічэньня заработку. Вечарам забастоўшчыкі ўчынілі дэмонстрацыю сумесна з прыказчыкамі, на якой стралялі. Праз

[1]) Наперакор сьцьверджаньням т. Бухбіндэра і ссылкі на яго т. Рафеса трэба адзначыць, што прыпісваць заслугі ў кіраўніцтве ў гэтую пару рабочай клясай Беларусі выключна Бунду—неправілова па меншай меры.

[2]) Донесение Нач. Гродн. Губ. Жанд. Управ. Департаменту полиции за № 4361 от 30 июня 1905 г.

дзевяць дзён, 21 чэрвеня, смаргонскія рабочыя пад кіраўніцтвам мясцовых комітэтаў РСДРП і Бунду зрабілі агульную забастоўку-протэст супроць лодзінскіх і адэскіх падзей. На гэты раз забастоўшчыкі, як піша нач. Віл. губ. жандар. ўпраўленьня камандуючаму асобным корпусам жандараў, „хадзілі натаўпамі да тых заводаў, дзе некаторыя з рабочых заставаліся працаваць, і прымушалі іх пакінуць працу“. Калі спынілася работа, тады рабочыя прымусілі гаспадароў зачыніць крамы. Забастоўка была агульнаю і працягнулася два дні. Тымі-ж днямі протэставалі супроць лодзінскіх падзей і ашмянскія рабочыя, якія ўчынілі ўзброеную дэмонстрацыю.

У сваю чаргу ў Вільні дэмонстравалі рабочыя па Вялікай вуліцы 21 чэрвеня, а 22 дэмонстрацыя адбылася каля „Жалезнай хаткі“ з страляньнем; а назаўтра каля чыгункі дэмонстрацыя паўтарылася ў куды большым памеры. К канцу чэрвеня адзначыўся кароткі перабой у забастоўках і дэмонстрацыях рабочых Віленшчыны.

Але з ліпня яны вынiклі з новаю сілаю. Ужо 3 ліпня віленскія рабочыя протэставалі забастоўкаю супроць суду над дзьвінскім рабочым Пэрсіным, які страляў у Дзьвінску ў прыстава Курлянскага. Суд на нейкі час быў адложаны. 5 ліпня спынілася праца ў млыне А. Гордана ў Вільні—рабочыя высунулі рад экономічных патрабаваньняў, як павялічэньне заработку на 25 проц., далікатнае абыходжаньне, ня ўжываць рэпрэсій за забастоўку і ў часе яе плаціць за прагулы. 9 ліпня ў мястэчку Іўе мела месца політычная дэмонстрацыя з удзелам 300 чалавек. На першыя дні ліпня супадае і тое гострае змаганьне віленскае ўлады з рабочаю біржаю, якое скончылася страляньнем казакаў у гуляючых на біржы. Трэба адмеціць, што самі па сабе біржы былі вельмі зручным месцам, дзе можна было гуляць, вясьці ўсякія гутаркі, парады і агітацыю і наладжваць маніфэстацыі. Да тых, хто спацыраваў па вуліцы—біржы, нельга было прывязацца, тым болей, што гулялі ня толькі соцыялістыя. Пры гэтым раней, у 1904 годзе, біржы былі менш шумлівымі. Але хутка на рабочых біржах стала зьбірацца да тысячы чалавек. Кожны раз маніфэстацыі і дэмонстрацыі пачыналіся з біржы. Вось поліцыя накіравала на іх сваю ўвагу. 1 ліпня поліцыя затрымала каля сотні чалавек, якіх запрымеціла частымі гасьцямі на біржы. Затрыманых адвялі ў пусты тэатр. Затрыманыя пялі рэволюцыйныя песьні і лаяліся з поліцыяй. 5 ліпня казакі разганялі рабочую біржу нагайкамі[1]). У гэты раз былі раненыя, з якіх сем чалавек адправілі ў больніцу[2]),—сьведчыць корэспондэнт „Пролетара“. Начальнік жандарскага ўпраўленьня аб гэтым нічога не даводзіць начальству, абмяжоўваючыся паведамленьнем аб 8 чалавеках арыштаваных, якія „адпраўлены ў астрогі павятовых гарадоў“.

[1]) Данясеньне Нач. Вілен. Губ. жанд. Ўпраўл. ў Дэпартам. поліцыі.

[2]) „Пролетары“ № 16.

11 ліпня раніцаю ў г. Вільні пачалася забастоўка гарбароў у гарбарнях Гецава, Суравіча, Рыўкіна і Менке ў ліку 660 челавек, падаўшы 11 розных патрабаваньняў, сярод якіх—8-гадзінны рабочы дзень, плата за час забастоўкі, далікатнае абыходжаньне, звальненьне не далучаных да забастоўкі і інш. Таго-ж дню далучыліся да забастоўкі гарбары заводаў Голдштэйна і Маята ў павеце, а 13 забаставалі рабочыя фабрыкі Голадца, на якой выраблялі баваўняную вату. Забастоўка гарбароў цягнулася тры тыдні і скончылася частковаю перамогаю рабочых.

У канцы месяца дробныя забастоўкі адбываліся ў Смаргоні і дэманстрацыі ў м. Крэва Ашмянскага павету і ў Нова-Вілейску. Апошняя дэмонстрацыя цікава тым, што яе ўчынілі віленскія рабочыя, прыехаўшыя ў ліку 300 чалавек з Вільні на літаратурна-вокальную вечарынку ў будынку акружнае псыхіатрычнае лячэбніцы.

Рабочы рух Меншчыны ў чэрвені—ліпні месяцах меў асабліва гострыя характар, захапіўшы дзесяткі гарадоў і мястэчак і даўшы многа крывавых выпадкаў. Выступленьні рабочых амаль ня выключна былі палітычнага характару і ў большасьці насілі форму аружных дэмонстрацый. Нам не ўдалося выявіць, ці служылі мотывамі для іх, як то было ў Горадзеншчыне і часткаю ў Віленшчыне, і Магілеўшчыне, Лодзь і Адэса. У данясеньнях губэрскай улады ў міністэрства ўнутраных спраў гэтага не адзначаецца. Усё-ж трэба думаць, што часьць забастовак і дэмонстрацый і ў Меншчыне былі адгукам на Лодзінскую трагэдыю. У кожным разе рабочыя бралі сабе за навуку гэтыя падзеі і на ўсякі выпадак ішлі на вуліцу ўзброенымі. Гэтак, 6 чэрвеня ў Менску дэмонстрацыя закончылася перастрэлкаю паміж поліцыяй і дэмонстрантамі, у час якое ранілі гарадавога. 16 чэрвеня дэмонстрацыя паўтарылася на тым-жа месцы (школьны двор) і на гэты раз у гарадавых рабочы Глікман кінуў бомбу. 28 і 29 чэрвеня бурлівыя дэмонстрацыі кончыліся сутычкаю з казакамі, у якой быў забіты яўрэй Рубінштэйн. На гэты-ж раз дэмонстрантамі кінута бомба ў дом губарнатара і на сьмерць паранена казакам двое дэмонстрантаў; 170 чалавек было арыштавана. Узброеная дэмонстрацыя 18 чэрвеня была ў м. Ляхавічах 26—у Клецку і ў іншых мястэчках. У ліпні хваля дэмонстрацый захапіла амаль ня ўсе павятовыя гарады Меншчыны, асабліва ўзварухнуўшы Бабруйск, які стаў цэнтрам рабочага руху ў гэты месяц. 7 ліпня ад імя РСДРП і Бунду была абвешчана агульная забастоўка, на якую дружна адазваліся ўсе рабочыя Бабруйску. Адразу забаставалі ўсе фабрыкі, грузчыкі і шмат устаноў, як бібліотэка, банк, чыгуначнікі. Крамары зачынілі крамы. Посьпех забастоўкі ня ў меру злаваў мясцовую ўладу, якая з дапамогаю казакаў лавіла крамароў і, западозрываючы іх у спагадзе да забастоўшчыкаў штрафавала іх і дазваляла казакам біць нагайкамі. У сваім азьвярэньні казакі дашлі да таго, што 11 ліпня, напаткаўшы сварку паміж яўрэем і рускім-канакрадам, зьбілі яўрэя, які назаўтра ў больніцы памёр. Гэты выпадак

абурыў усіх рабочых, якія праз цэлы дзень маніфэставалі і мітынгавалі на гарадзкіх вуліцах, а ў часы пахаваньня казацкай ахвяры зрабілі агромністую дэманстрацыю...

Буйныя ўзброеныя дэманстрацыі ў Пінску 23 і 24 ліпня скончыліся таксама забойствам аднаго рабочага. У цэлым радзе іншых гарадоў, як Рэчыца (15 ліпня), Мазыр (18 ліпня), Ляхавічы (18 ліпня) і Баранавічы (21 ліпня) рабочыя варужныя дэманстрацыі абышліся бяз крывавых падзей. Затое ў Барысаве, дзе ўвесь час не перапыняліся забастоўкі і вулічныя выступленьні рабочых, з пастаяннымі сутычкамі з поліцыяй, як 9 ліпня, 28 ліпня сходка ў урочышчы Сазонаўка, захопленая драгунамі, скончылася стралянінаю ў поліцыю і войска і раненьнем дваіх рабочых нагайкаю.

---

Крыху ў інакшым напрамку ішло разьвіцьцё рабочага руху гэтымі месяцамі ў другіх дзьвюх беларускіх губэрнях, Віцебскай і Магілеўскай. У першай з іх за адмечаны пэрыод нам вядома ўсяго некалькі забастовак і дэманстрацый. Дзьве з гэтых дэманстрацый закончыліся буйнымі стычкамі з поліцыяй і казакамі, меўшы ў рэзультаце болей дзесятка ахвяр з боку рабочых, а адна была скуткам страшэннага пабоішча рабочых казакамі. Апошняе мела месца 9 чэрвеня ў Віцебску, дзе ў пачатку месяца быў скліканы рабочы мітынг, на якім абгаварвалася пытаньне аб месцы дэманстрацыі. Бундаўцы на гэтым мітынгу прапанавалі адно, соцыялдэмократы—другое. Згаварыцца не ўдалося. Тады былі зроблены паасобна два мітынгі. І вось на бундаўскі мітынг напалі казакі і пабілі нагайкамі амаль ня ўсіх удзельнікаў мітынгу; 80 чалавек арыштавалі. Гэта абурыла ўсіх рабочых, якія, ня гледзячы на тое, што ў горадзе было поўна салдат і горад выглядаў вайсковым лягэрам, на Сенным пляцы сабралі вялікі мітынг, з якога дэмонстрацыйна з рэволюцыйнымі песьнямі „Смело, друзья, не теряйте“, прашлі па вуліцах гораду[1]). Першыя дзьве дэмонстрацыі адна за другою мелі месца ў Дзьвінску.

Дзьвінск быў да вайны адным з буйных рабочых цэнтраў і значным вузлом чыгунак. Гарбарні і чыгуначныя майстэрні выяўлялі сабою капіталізаваныя фабрычна-прамысловыя ўстановы, што пасабляла занятым у іх рабочым хутка пролетарызавацца і выхоўваць у сабе клясавае пачуцьцё. З гэтае прычыны соцыялістычныя ідэі ў дзьвінскіх рабочых сустрэлі спагаду і далі багатыя плёны. Рэволюцыянізаваньне іх ішло шпаркім тэмпам і ў 1905 годзе вылілася ў хронічныя выступленьні. Ня мінала тыдню, каб у Дзьвінску ня было аднэй ці некалькіх забастовак і дэманстрацый.

Перад ліпнёўскімі здарэньнямі настрой сярод дзьвінскіх рабочых быў падняты. На біржы амаль ня кожны дзень зьбіраліся мітынгі. Улада старанна іх разганяла.

---

[1]) „Пролетарий“ № 12, 16-VIII—корреспонденция из Витебска.

Вось часта пры гэткіх разгонах атрымоўваліся крывавыя сутычкі з паліцыяй. Гэтак, 25 чэрвеня „каля 6 гадзіны ўвечары,—як даносіць віцебскі губарнатар міністру ўнутраных спраў, заведываючаму паліцыяй,— „на Горадзенскай вуліцы 3 часьці г. Дзьвінску сабралася значная грамада, чалавек да 600 яўрэяў, як відаць, меўшая зрабіць дэманстрацыю. Прыстаў трэцяе часьці, Лейка, падасьпеў з казакамі да біржы і запрапанаваў разысьціся, але ніхто не паслухаў". Як сьведчыць далей губарнатар, у казакоў пусьцілі некалькімі каменьнямі, тады казакі пачалі разганяць біржу. У гэты час з натаўпу тры разы выстралілі ў паліцыю. Паліцыя адстрэльвалася; у скутку—раненыя і арыштаваныя.

Праз тры тыдні, а менавіта 14 ліпня, з-за разгону рабочае біржы адыграліся яшчэ большыя, на гэты раз ужо крывавыя падзеі. Справа была такая. Калі на біржы сабраўся рабочы мітынг да 800 чал., каб абгаварыць бягучы палітычны момант, раптам зьявіліся салдаты з гарадавымі і прыставам і бяз усякага папярэджаньня далі залп у натаўп; пяць чалавек асталося забітымі, а пятнаццаць раненымі. Назаўтра забітых яўрэяў хавалі; на пахаваньне сабралася да 12.000 чалавек, якія ўчынілі дэманстрацыю. Гэта дэманстрацыя прашла пад узмоцненай аховаю атрадаў казакаў і пяхоты і кончылася без інцыдэнтаў. Каб абмінуць яе на другі раз, паліцыя забітых 14 ліпня хрысьціян рабочых пахавала потайкам [1]).

У Магілеўскай губэрні за чэрвень месяц ня было буйных здарэньняў у справе рабочага руху. Больш-менш значная забастоўка-дэманстрацыя ў гэтым месяцы, 23, мела месца ў мяс. Талачын Аршанскага павету. Гэтым днём спынілі працу майстэрні, пякарні і былі зачынены крамы. Нават прымушалі рабочыя сядзельца, каб той зачыніў манапольку, але той таргаваў да вечара пад аховаю урадніка. Вечарам была наладжана ўзброеная дэманстрацыя, якая цягнулася гадзіну часу. Дэманстранты, лікам звыш 200 ч., мелі пры сабе кісьцені, нагайкі, рэвальвэры, з якіх стралялі ў паветра...

Затое шырокі размах прынялі выступленьні рабочых Магілеўшчыны ў ліпні месяцы. Яны пачаліся з першых-жа яго лікаў і амаль ня ўсе мелі палітычны адбітак. Гэтак, у Воршы першага ліпня ў гарадзкім садзе адбылася дэманстрацыя рабочай моладзі. Дэманстранты стралялі і был разагнаны паліцыяй. У ліпні была забастоўка ў Горках; стралялі ў паліцэйскага дзесятніка.

Характэрна, як адзываўся аб Горках горацкі маршалак Адрыянаў. Ён пісаў губарнатару ў Магілеў: „Шайка дэманстрантаў трымае Горкі на асадным становішчы. Варта толькі вышэйшым чыноўнікам зьявіцца на вуліцы, як зьбіраецца натаўп і праводзіць іх крыкамі: „Далоў самадзяржаўе, цара, царскіх сабак!" Гэткія дэманстрацыі робяцца амаль ня кожны дзень.

---

[1]) „Пролетарий" № 12.

А 5 ліпня аршанскія рабочыя агульнаю забастоўкаю протэставалі супроць крывавых здарэньняў у Лодзі і Адэсе. Забастоўка скончылася ціха. Іначай было ў Копысі Гарэцкага павету. 9 ліпня мясцовыя рабочыя рашылі адсьвяткаваць поўгода з часу пецярбурскіх студэньскіх здарэньняў; яны наладзілі забастоўку і дэмонстрацыю, на якой прысутнічала да 1.500 чал. А вечарам было ўстроена людзкае ўрачыстае гуляньне[1]). Паліцыя ня мела магчымасьці перашкодзіць. Але праз два дні прыбылі ў Копысь драгуны і пачаліся арышты „зачинщиков“. Таго-ж дзевятага ліпня былі значныя дэмонстрацыі ў м. Шклове, у г. Быхаве і ў Гомлі; у Гомлі дэмонстранты забілі прыстава Славашэвіча.

Палітычныя выступленьні ў Магілеўшчыне гэтага пэрыоду закончыліся громкім здарэньнем—расстрэлам і пабоішчам пахавальнай процэсіі ў самым Магілеве. Гэта адбывалася ў наступным парадку. 27 ліпня ў больніцы памёр соцыял-дэмократ Этынгоф, хварэўшы на сухоты. Па горадзе пашлі чуткі, што прычынаю сьмерці былі ня сухоты, а пабоі, што ўчыніў над Этынгофам патруль. Каб праверыць гэта і супакоіць абурэньне рабочых, губэрская ўлада распарадзілася зрабіць дасьледваньне праз ускрыцьце цела Этынгофа. Дзеля гэтага цела трэба было перавезьці ў іншую больніцу. К часу пераносу сабралася агромністая грамада рабочых, якім дазволена было на насілках перанесьці цела па горадзе. А каб папярэдзіць мажлівую вынікнуць дэмонстрацыю, у розных частках гораду ўладаю былі расстаўлены дзьве роты салдат і ўзмоцнены нарад паліцыі. Перанос цела пачаўся а 3 гадзіне, процэсія пашла па галоўных вуліцах гораду. Да процэсіі дарогаю далучалася рабочая моладзь. На Шклоўскім проспэкце, каля готэлю „Эрмітаж“, процэсію сустрэў памоцнік паліцмайстра Мізгайла з поўротаю салдат і паліцыяй і загадаў процэсіі спыніцца. „У гэты час“, піша нач. Магіл. губ. жанд. ўпраўленьня палк. Палякоў каманд. асоб. корпусу жандараў, „пачуліся крыкі: „Бі паліцыю!“ і страляніна. Тады салдаты кінуліся на процэсію і пачалі біць яе ўдзельнікаў прыкладамі, а паліцыя страляла ў натаўп. Падняўся пярэпалах. „У першыя моманты,—даносіць далей начальнік жандарскага ўпраўленьня—„на вуліцы вынікла некалькі куч людзей, што падалі адны на другіх, уцякаючы; быў жахлівы крык і візг кабет і дзяцей“. У скутку гэтага гвалту асталося некалькі забітых і многа раненых. Гэта здарэньне моцна абурыла ня толькі рабочых, а і большасьць магілеўскага гарадзкога жыхарства з прогрэсыйнай буржуазіі, якая на чале з доктарам Лур‘е падала скаргу на памоц. паліцмайстра Мізгайлу губарнатару Клінгенбэргу і ў гарадзкую ўправу. Як і трэба было чакаць, скаргі засталіся бяз усякіх кар для Мізгайлы. Наадварот, перасылаючы іх таварышу міністра ўнутраных спраў, губарнатар карыстаўся выпадкам лішні раз зьвярнуць увагу начальства на неблаганадзейнасьць д-ра Лур‘е, які аба-

---

[1]) „Пролетарий“ № 14.

раняе „так называных дэмакратаў, а ў сутнасьці вулічных хуліганаў, якія часамі да таго наглыя, што нельга з-за іх хрысьціяніну вуліцаю прайсьці“.

Апроч адмечаных забастовак палітычнага характару, трэба адмеціць некалькі забастовак, якія прашлі ў ліпні месяцы ў Аршаншчыне з-за экономічных мотываў. Адну з гэтых забастовак правялі рабочыя млыну Макружыцкага, другую, 11 ліпня,—рабочыя Бараньскага заводу, трэцюю—рабочыя льнапрадзільнае фабрыкі Этрыха ў с. Высочанах 26 ліпня. Часткаю гэтыя забастоўкі рабочыя выгралі.

Беластоцкія здарэньні ў канцы ліпня зьявіліся як-бы заключным актам адыгранай рабочымі Беларусі за апісаныя два месяцы гэроічнай поэмы змаганьня. Але гэты акт быў для іх актам наскрозь драматычным. Вось як ён адыгрываўся згодна паведамленьня ў часопісі „Разсвет“: „У горадзе адбылося якоесьці непаразуменьне натаўпу з салдацкаю вартаю, якая разганяла публіку. А другой гадзіне 30 ліпня адзін малады чалавек стаў супярэчыць; салдат у яго стрэліў і раніў у грудзі. Дзякуючы абурэньню натаўпу, к гэтаму месцу, на Сураскую вуліцу, падышлі два ўзводы салдат пад камандаю падпаручыка Вугліцкага палка Ясынцэвіча. Ён расставіў салдат і зьбіраўся пайсьці, як з двара Яфэ была кінута бомба, выбухам якое было паранены чатыры салдаты і адна кабета. Афіцэра не чапіла. Як толькі дым разышоўся, салдаты пачалі страляць; болей сарака чалавек забітых і раненых. Гарадзкі галава Маліноўскі паехаў у Горадню далажыць аба ўсім губарнатару. Жыцьцё ў горадзе канчаткова спынена, усе крамы зачынены“[1]). Другі корэспондэнт[2]) налічвае лік забітых да сотні чалавек. „А палічыць раненых,—піша ён,—няма ніякае мажлівасьці; больніцы імі перапоўнены“.

Ці былі прычыны гэтага зьверства царскае ўлады выпадковымі, як сьведчыць дапісчык „Разсвета“, ці іх спровоцыравала сама мясцовая ўлада, нам невядома. Але бязумоўным стае тое, што дзікасьці гэтай разьні многа дапамагла тая агітацыя супроць яўрэяў, якая ўвесь час падтрымлівалася сярод войска паліцыяй і вайсковым начальствам. Ды блізкай усяго, што паліцыя падгатаўляла ўсё гэта. Спусьціўшы некаторы час пасьля гэтага здарэньня, газэта „Северо-Западное Слово“ пісала: „У нас маюцца падрабязговыя весткі аб жахлівых днёх 30 і 31 ліпня ў Беластоку з некалькіх крыніц. Ад *незалежных абставін*[3]) мы іх пакуль што перадаць нашым чытачом ня можам“. Незалежныя абставіны хаваліся ў баязьлівасьці паліцыі, якую гэтыя весткі не абмінулі-б... Яшчэ пазьней, калі беластоцкая гарадзкая дума паставіла пытаньне аб тым, каб прыцягнуць віноўнікаў расстрэлу да адпаведнасьці, то губарнатар тэлеграмаю распарадзіўся зьняць гэтае пытаньне з чаргі. Тады справа стала яснаю ўсім і кожнаму.

---

[1]) „Право“ № 30, ад 2/VIII 1905 г.

[2]) Там сама.

[3]) Курсіў газэты.

Вось гэткі шлях быў пройдзены беларускімі рабочымі ў два памятных летніх месяцы 1905 г. Прашоўшы яго адважна, вытрымана, як належыць ваякам-рэвалюцыянэрам, яны атрымалі для сябе вялікую прыкладную навуку. Гэта навука была іх рэпэтыцыяй для наступных здарэньняў, якія ўжо к таму часу адзначаліся на небасхіле.

---

Чароднымі пасьля ліпня месяцамі, жніўнем і серпенем, рабочы рух у Беларусі пашоў на зьніжэньне. Напружанасьць, якую ён меў у чэрвені і ліпні, крыху прытаміла рабочых, і яны ўлучылі час, каб аглядзецца на пройдзены шлях, вывучыць заданыя жыцьцём лекцыі і на вывучэньні іх пабудаваць пляны на далейшае змаганьне. Страты, якія дала няроўная барацьба з досыць яшчэ пераважным па сіле ворагам, казалі беларускім рабочым аб патрэбе яшчэ большай іх організацыі, аб зьбіраньні новых сіл і аб іх аружэньні. І мы бачым, што ў жніўні і серпені, асабліва ў жніўні месяцы, ні ў адным буйным цэнтры Беларусі не адбылося больш-менш значнай палітычнай забастоўкі і дэмонстрацыі. Апошнія, як-бы па прыказу, перакінуліся ў дробныя гарадкі і мястэчкі. У гарадох-жа палітычныя акты заключаліся ў тэрорыстычных выступленьнях супроць паліцыі і вышэйшай мясцовай улады, пачынаючы ад гарадавога і канчаючы губарнатарам. Выпадкаў гэтых выступленьняў, трэба сказаць, стала вельмі многа ў гэту пору. Ды ня дзіва. Натуральным быў узрост сярод рабочых пачуцьця помсты за пралітую кроў, за дадзеныя ахвяры. Пакінуць іх неадплачанымі было-б роўназначна пагоджаньню з праватою сваіх катаў. Аб гэтым трэ' было забыць. Пара пакоры і непрацiўленьня адышла ў цемру нябыцьця. І за ўсе зьдзекі мінулых часоў надыходзіў „паrрозны час расплаты“. Тэрорыстычныя акты былі першымі іскрамі будучага полымя. Гэтыя іскры ўвесь час не пакідалі міргаць на беларускім небасхіле. За два месяцы, жнівень і верасень, яны значна павялічыліся; за гэты тэрмін, паміж іншымі, былі гэткія напады на прадстаўнікоў улады: 7 жніўня дэмонстранты пабілі ў мяст. Ляды ўрадніка; 16 жніўня пад каляску магілеўскага губарнатара кінута бомба; 27 жніўня там-жа стралялі ў гарадавога. У сяле Добруш Гомельскага павету ў кватэру ўрадніка кінута бомба; у Дзьвінску 7 верасьня на сьмерць ранілі шасьцю стрэламі памоцніка прыстава Аўсянку; у Пінску на сьмерць ранілі гарадавога Паляшчука; у Гомлі 28 верасьня стралялі ў спраўніка Еленскага і г. д., таксама была кінута бомба ў кватэру заводчыка Пячэрака ў Беластоку затое, што ён у вадказ на забастоўку зачыніў завод, а ў Нова-Вілейску вывезьлі з заводу на тачцы дырэктара Вахнера. На сходзе ў ліпні месяцы два разы замахваліся на жыцьцё гомельскага паліцмайстра, кідаючы бомбы; гэта да таго напалохала маленькага сатрапа, што ён у няпрытомнасьці выдаў загад, у якім пісаў: „Тыя, што кінулі ў мяне бомбы—негадзяі-яўрэі. Папераджаю, што ўсякага яўрэя, які належыць да адкідаў яўрэйскага грамадзянства і які называе сябе дэмократам, на дарозе, кудэю

я ехацьму, будуць *расстрэльваць* на абгоне 50 шагоў уперадзе перад маёю каляскаю праводзячыя мяне казакі, аб чым і дадзена распараджэньне"... [1]) З гэткімі прыказамі ваяваць супроць надыходзячай рэволюцыі ўмелі толькі расійскія поліцыянты!..

На гэтыя-ж зацішныя месяцы выпала выданьне 6 жніўня маніфэсту аб скліканьні дзяржаўнае думы. На працягу шасьці месяцаў царскія саноўнікі на чале з Булыгіным вымучылі, нарэшце, проэкт гэтае ўстановы. Падносячы яго „ўсім вернападданым", акрываўлены цар думаў падкупіць ім нездаваленьне людзкіх грамад і супакоіць краіну. „Сохраняя неприкосновенным основной закон Российской Империи о существе самодержавнойв ласти, признали мы *за благо* (курсіў наш. З. Ж.) учредить государственную думу" [2]). Гэта было дабром для працоўных—плата за тысячы расстрэленых рабочых і сялян!

Выданьне маніфэсту аб дзяржаўнай думе выклікала да сябе розныя адносіны з боку больш моцных соцыялістычных партый, якія працавалі ў Беларусі. У пачатку верасьня на скліканай нарадзе цэнтральных устаноў соцыял-дэмократычных партый—РСДРП бальшавікоў, соцыял-дэмократыі Літвы і Польшы і Бунду выказаліся за бойкот думы, і толькі меншавікі—за ўдзел у выбарах. Гэткім чынам, ідэя дзяржаўнай думы не прашла ў шырокія гушчы беларускіх рабочых, не зацікавіла іх і адносіны да яе былі нядбайнымі. Рабочыя адчувалі ўсю мізэрнасьць і тандэтнасьць царскіх уступак і прадуглядалі іх нятрываласьць. У далейшым жыцьцё апраўдала іх рашчоты поўнасьцю. Кастрычнікавая забастоўка сарвала булыгінскую думу і перапутала ўсе пляны самадзяржаўя.

Цікава, з якім настроем сустрэлі васеньнія рэволюцыйныя падзеі адміністратары беларускіх губэрань. Перажыўшы ўздым рабочага руху ў чэрвені і ліпні, яны спакойлівей уздыхнулі ў жніўні, спадзяючыся на замілаваньне народу царскімі абяцанкамі і яшчэ больш—на сваю перамогу рабочых. Менскі губарнатар П. Курлоў самаўверана даносіў 3 верасьня міністру ўнутраных спраў: „Имею честь уведомить, что с вступлением моим в должность минского губернатора беспорядки, как аграрные, так равно и еврейские демонстрации в городах, утратили в настоящее время свой острый характер". Падобных думак трымаліся і іншыя губарнатары беларускіх губэрань. Ды зразумела, што тыя дэмонстрацыі, якія гэтым часам выбухалі большаю часткаю ў мястэчках, не маглі моцна спалохаць губэрскае ўлады. Яны былі больш страшнымі для мясцовай улады, ня меўшай у большасьці выпадкаў пад рукамі вайсковае сілы. Але ўсё-ж іх разьліў у Меншчыне клапаціў вышэйшую адміністрацыю таксама: як-ні-як, а дэмонстранты часта стралялі ў вураднiка і гарадавых (м. Лоеў), у земскага начальніка (10 жніўня ў м. Бярэзіна), выбівалі

[1]) „Право" № 30, 1905 г.

[2]) З маніфэсту аб заснаваньні дзяржаўнае думы.

вокны ў дамох адміністрацыйных асоб (м. Узда); крычалі ўсюды і заўсёды: „Далоў самадзяржаўе!“ „Далоў царскіх сабак-чыноўнікаў!“ „Далоў дзяржаўную думу!“ „Няхай жыве соцыял-дэмократычная рэспубліка!“ (м. Вішнева Ашмянскага павету) і інш.

Больш неспакойлівай была політычная забастоўка 8 жніўня ў Беластоку; у часы гэтае забастоўкі, якая была пасьвечана памяці забітых 30 ліпня, спробы ўчыніць дэмонстрацыю былі спынены, і забастоўка назаўтрае спынілася. У Менску, таксама ў жніўні месяцы, адбылася масавая паніхіда рабочых па забітых таварышах. Экономічных забастовак за гэты час налічваецца троха больш, але мала з іх было буйных. Баставалі часткаю гарбары Віленшчыны і часткаю іншыя рабочыя. Да гэтых іншых трэба аднясьці: шкарпэтніц фабрыкі „Імперыял“ у Вільні, якія патрабавалі павялічэньня заработку на 25 проц.; прыказчыкаў і прыказчыц г. Ліды, баставаўшых 7 жніўня і выграўшых частку патрабаваньняў; друкароў яўрэйскай друкарні Ром у Вільні (10 жніўня), фабрыкі пераплётных вырабаў у Гародні 12 жніўня, шкарпэтніц Бруна (30 жніўня) і рабочых ф-кі калільных ліхтароў 19 вер. ў Вільні і інш. Гарбары-ж баставалі 6 і 7 ў Смаргоні лікам да 500 ч., даўшы буйнейшую з экономічных забастовак і дамогшыся ёю збаўкі на гадзіну працоўнага дня, прыбаўкі заработку на 15 проц., пабудаваньня прыёмнага пакою пры кожным заводзе і скарачэньня ліку скур, якія даюцца штотыдня для апрацоўкі, і ў Ашмянах два разы, 30 жніўня і 19 верасьня; пры гэтым апошняя забастоўка была водгукам на смаргоньскую.

У ходзе свайго разьвіцьця і політычныя і экономічныя конфлікты з апісаных у большым ліку падаюць на сыходныя дні верасьня, а гэта гаварыла за тое, што к гэтаму часу насьпеў ужо той рашучы і заключны акт, які абярнуўся ў рэволюцыю і моцна-моцна скалануў падставы самадзяржаўнага ладу. Гэты акт пачынаўся адыгрывацца ў агульна-расійскім памеры ў канцы верасьня. У гэты час помеж з рабочымі на рашучую схватку гатаваліся студэнты і радыкальная інтэлігэнцыя. Студэнты выкарысталі аўтономію навуковых установ і адчынілі іх дзьверы для рабочых сходаў. У Пецярбурзе ды Маскве рабочыя выкарысталі гэта і агромнымі гушчамі пашлі ў аудыторыі унівэрсытэтаў і інстытутаў, дзе прагна ўбіралі рэчы прамоўцаў рэволюцыйных партый, карыстаючы гэту свабоду для закладкі сваіх цьвёрдых організацый“[1]).

Посьпехі ў гэтым яскрава адзначыліся пры забастоўцы маскоўскіх друкароў 25 верасьня, у якой прыняло ўдзел да дзесяці тысяч чалавек. Забаставаўшы, рабочыя выбралі дэпутатаў, якія кіравалі забастоўкаю[2]).

Гэта забастоўка, а сьледам, 27 верасьня, забастоўка рабочых майстэрань Брэскае чыгункі і былі першым выяўленьнем надышоўшае ў кастрычніку агульна-расійскае рэволюцыі.

---

[1]) А. Ельницкий. Очерки рабочего движения в России.

[2]) Спроба выбараў забастовачных камітэтаў мела месца ў Адэсе крыху раней.

Рабочы рух у Беларусі сходных трох месяцаў 1905 году падобны па сваім размаху, па сваёй рэволюцыйнасьці і па сваім значэньні ў жыцьці краю на рабочы рух іншых частак царскае Расіі. Ён захапіў сабою ўсю Беларусь, дасягнуў найвышэйшага ўзросту, вядучы за сабою рух вучнёўскі і ўзмоцнены рух сялянскі. У многіх гарадох Беларусі выступленьні рабочых мелі характар паўстаньня (Пінск, Вільня, Люцын і інш.), наводзілі жах на адміністрацыю і выбівалі яе з толку; у іншых мясцох улада знаходзіла ў сабе прысутнасьць духу і, хапаючыся за астатнія сродкі, провоцыравала рабочых і распраўлялася з імі самым драпежным чынам (Менск, Вільня). Увогуле Беларусь выяўляла сабою збройнае поле, у многіх мясцох (асабліва мястэчках) ня чула доўгім часам ніякае ўлады. карыстаючыся поўнаю свабодаю. Найбольшага размаху падзеі дасяглі ў палове кастрычніка, калі быў выданы памятны царскі маніфэст аб „свабодах“. На гэты-ж момант супадае і большы лік крывавых сутычак з паліцыяй і войскам.

На кастрычнік месяц падае некалькі выпадкаў пагромаў, за якія яшчэ раз паспрабавала хапіцца царская ўлада ў мэтах самааховы. Лістапад месяц узроўні з кастрычнікам быў прыметна цішэйшым у сэнсе масавых выступленьняў рабочых; сьнежань ізноў даў яго ўздым. Але сялянскі рух не супыняўся да студзеня месяца 1906 г., калі былі ўведзены паліцэйскія стражнікі. Трэба адзначыць, што ў сялянскім руху гэтага часу ў Беларусі асабліва значную ролю адыграла беларуская партыя „Белар. Соц. Грамада“. К канцу 1905 году яна досыць узмоцнілася і павяла шырокую работу сярод беларускага сялянства. Агітацыя на роднай мове, чым карысталася Бел. Соц. Грамада, мела агромнае значэньне для кіданьня соцыялістычных ды рэволюцыйных ідэй у сялянскія гушчы, даючы лёгкае іх усваеньне нават няграматнаму селяніну.

Таксама тэрорыстычныя напады на працягу ўсіх трох месяцаў не зьмяншаліся ў сваім ліку, падышоўшы шчыльна да новага году і перашоўшы ў яго. На гэты раз яны організаваліся Бундам у мэтах разбурэньня дзяржаўнага апарату [1]).

Калі разглядаць інтэнсыўнасьць руху і пэнт яго разьвіцьця па асобных губэрнях, то мы ўбачым, што на гэты раз гастрэйшае яго праяўленьне пераносіцца на Меншчыну. За Меншчынай ідзе Віленшчына, а сьледам другія губэрні Беларусі. Непасрэдным штырхачом яго, бязумоўна, паслужылі маскоўскія забастоўкі.

Гэта сьведчыць і начальнік Мен. губ. жандарскага ўпраўленьня, які ў данясеньні дэпартаманту паліцыі зазначае: „На сходке 5 октября в Минске предпологалось выработать детальное устройство демонстрации для выражения сочувствия рабочим города Москвы“. Гэтаму паперашкодзіла паліцыя. І вось, у ваддзяку з боку рабочых яна атрымала ў падарунак раненьне надзірацеля Чаховіча. Стрэл у паліцыянта ня быў выпадковым; ён сьведчыў аб тым абвостраньні настрою рабочых, якое к кастрычніку

1) М. Рафес. Очерки по истории Бунда.

паднялося да адказу і пацягнула цэлы шэраг сутычак, якія, у сваю чаргу, завяршыліся расстрэлам дэмонстрацыі 18 ліку гэтага месяца.

Развой рэволюцыйных падзей беларускіх рабочых у Менску пачаўся з 2 кастрычніка, калі забаставала конка. Забастоўка вынікла на экономічных падставах. „Тем не менее,—пісаў начальнік менскага губэрскага жандарскага ўпраўленьня дэпартаманту паліцыі за № 6809 [1]),—она по имеющимся агентурным сведениям служит как-бы предвестником всеобщей забастовки, которую предполагают устроить с целью выразить сочувствие забастовавшим московским рабочим“. На другі дзень пасьля коначнай забастоўкі, менавіта 5 кастрычніка, меў месца разгон бундаўскага мітынгу ў сынагозе, пры якім „казаки вынуждены были действовать нагайками“ і „последствием чего было несколько раненых“ [2]).

Пасьля гэтага ў Менску на некалькі дзён робіцца перапынак у разгартаньні здарэньняў; яны перакідаюцца ў паветы: Ігуменскі, дзе былі дэмонстрацыі 9 і 17 кастрычніка ў г. Ігумені, м. Узьдзе, м. Бярэзіне, 16 кастрычніка ў м. Пухавічах, 17 кастрычніка ў м. Сьмілавічах; тут ішла забастоўка тры дні, у час якой было два паходы на маёнтак пана Ваньковіча; у Слуцку, дзе з 13 да 16 кастрычніка адбывалася забастоўка і дэмонстрацыі ў Слуцку, 17—у Капылі і інш.; Мазырскі з шумліваю дэмонстрацыяй у Мазыры і расстрэлам яе каля вастрогу, куды яна ішла вызваліць заключных [3]).

Аднэй з цікавейшых забастовак у паветах Меншчыны пачатку кастрычніка была забастоўка чыгуначнікаў станцыі Баранавічы Маскоўскай і Палескіх чыгунак. 12 кастрычніка забаставалі рабочыя і служачыя ў ліку 300 ч., і рух цягнікоў спыніўся. Забастоўшчыкі прабавалі спыніць работу на мясцовым складзе гарэлкі, але адміністрацыя з паліцыяй папярашкодзілі гэтаму. У дзень забастоўкі і назаўтра адбываліся мітынгі, прычым 13 лістапада начальнік разьезду ўпікаў рабочых затое, што забастоўка не солідарна і ня мае характару агульнае забастоўкі, для чаго патрэбна схіліць усіх служачых наогул. Пасьля сходу а 9 гадзіне ўвечары служачыя пашлі на станцыю і, патушыўшы сьвятло, спынілі працу. 15 кастрычніка чыгуначнікі на сходзе ў будынку станцыі пастанавілі папярашкодзіць узросту кошту на ежу. Забастоўка цягнулася каля тыдню.

Павятовы рух, пачаўшыся з 10-х дзён кастрычніка, у многіх мясцох Капыль, Нясьвіж, Слуцак, Лоеў, Рэчыца, Мазыр, Пінск і шмат іншых гарадкоў і мястэчак), захопліваецца маніфэстам, прымае ў першыя дні яго абвяшчэньня найшырэйшы размах і сутыкаецца з яўрэйскімі пагромамі ў Рэчыцы, Лоеве і Воршы 23 і 24 кастрычніка. Рэчыцкі пагром меў сваім скуткам 24 раненых і 6 забітых. Ён прыметны яшчэ тым, што

[1]) 1905 год у Беларусі. Менск. Выданьне каміс. па сьвят. 20-год. рэволюцыі.

[2]) 1905 год у Беларусі.

[3]) У скутку страляніны было восем чалавек раненых.

ў змаганьні з пагромшчыкамі бралі ўдзел рабочыя дружыны. Падобнае было і ў час больш шырокага і крывавага аршанскага пагрому, аб якім крыху ніжэй. У сярэдзіну гэтых здарэньняў уваходзіць сіберны расстрэл Курловым дэмонстрацыі 18 кастрычніка. Гэта зладзейства перасягнула па сваёй дзікасьці і зьверству ўсе тыя асобныя злачынствы царскага правіцельства ў адносінах да беларускіх рабочых, якія яно ўчыніла на працягу доўгіх гадоў змаганьня супроціў рабочага руху ў Беларусі.

Менская драма адыгралася гэткім парадкам: ужо з 13 кастрычніка адбываліся сходкі на Віленскім вокзале; на гэтых сходках, апроч рабочых і служачых чыгункі, знаходзілася многа пастароньняе публікі. Казаліся прамовы палітычнага зьместу. 18 кастрычніка з самае раніцы ў Менску наглядалася надзвычайнае ажыўленьне з прычыны распаўсюджаных чутак аб выданьні маніфэсту. А дзевятай гадзіне раніцы к віленскаму вокзалу пачалі зьбірацца рабочыя ды служачыя чыгункі і пастароньняя публіка, якая хацела прайсьці ў будынак вокзалу, але дзьверы былі запёрты; пры гэтым усім было абвешчана, што сходка пакуль губарнатарам не дазволена [1]). Пасьля дзесятае гадзіны комэндант станцыі, прыехаўшы з Брэскага вокзалу, заявіў у першай клясе агентам аховы дарогі агенцкую тэлеграму аб маніфэсьце, і тут-жа, вышаўшы з вокзалу, абвясьціў гэта рабочым, крыкнуўшы „ура!“ Хутка к вокзалу прыехаў бухгальтар Жаба, які да гэтага кіраваў сходамі, і расказаў таксама аб констытуцыі. Ён зьвярнуўся да падпалкоўніка Марчэнкі, каб той адчыніў вокзал, але той адгаварыўся няйменьнем дазволу ад губарнатара. Гэта надзвычайна абурыла публіку, якая ўглядала ў сукрыцьці маніфэсту нейкую провокацыйную палітыку адміністрацыі і кожны крок прадстаўніка яе лічыла падозраным. Але а 12 гадзіне дня пасланец ад губарнатара дазволіў адчыніць будынак вокзалу, і мітынг пачаўся. Хутка публікі нашло столькі, што стала вельмі цесна, і кіраўнікі сходу рашылі перанясьці яго на пляц. А другой гадзіне да 15-тысячнай грамады зьявіўся начальнік лібава-роменскага вокзалу і прачытаў маніфэст. Натоўп прагна яго праслухаў. Мяняліся дзесяткі прамоўцаў. Нарэшце сход парашыў паслаць дэпутацыю да губарнатара з патрабаваньнем вызваліць палітычных, арыштаваных у часы дэмонстрацый і забастовак. Для гутаркі з губарнатарам выклікалі намесьніка гарадзкога галавы Валовіча. У дзьвярох губарнатара вартавалі каравул Окскага палка і патрулі казакоў-атаманцаў, якія дэпутацыі не прапусьцілі. Праз доўгі час Курлоў вышаў на балькон і сярдзіта запытаў дэпутацыю, чаго яна прышла; даведаўшыся, у чым справа, ён згадзіўся з ёю пагутарыць. У гэты-ж самы час частка сходу пашла да астрогу, а вялікая колькасьць асталася на пляцы, дзе цягнуўся мітынг. А 4½ гадзіны дэпутацыя вярнулася ад губарнатара і прывяла 10 чалавек вызваленых на волю і абяцанку губарнатара да 8 гадзіны выпусьціць астатніх. Гэта падба-

[1]) Дазвол зрабіць сходку 18 кастрычніка быў выданы губарнатарам напярэдадні.

дзёрыла сход, які бурліў і хваляваўся, як мора... А праз увесь час дзьве поўроты салдат знаходзіліся пры вокзале. Прамовы і настрой публікі захапіў на‘т афіцэраў, з якіх адзін выняў шаблю і, закрычаўшы „я ваш“, быў узьнесены на трыбуну; за ім пашоў другі. Старшыня сходу папярэдзіў прысутных, што дэпутацыя абяцала скончыць сход спакойліва, і хутка запрапанаваў разыходзіцца. Ужо частка рушыла ісьці, як раптам з-пад вісячага чыгуначнага мосту бяз усякага папярэджаньня ў самую гушчу натоўпу быў дадзены залп баявымі патронамі; страляла поўрота Окскага палка, зьнянацку зьявіўшыся на мосьціку. Гушчы людзей скалануліся і кінуліся ў жаху, душачы адзін другога, бегчы. Тады быў пушчаны другі залп ужо з другога боку вокзалу; у той-жа час выстраеная на дэбаркадэры другая поўрота дала залп праз вокны залі буфэту першаеклясы. Праз дзьверы багажнага аддзяленьня чалавек 20 салдат стралялі пачкамі па людзях, якія ў пярэпалаху крычалі і стагналі; а з левага боку вокзалу другая поўрота страляла адзіночным агнём. Кімсьці[1]) ёмка падгатаваная і нечаканая крыжавая атака зрабіла сваю справу. Праз дзесяць хвілін увесь пляц быў засеены забітымі, параненымі і пакалечанымі людзьмі. Тых, што беглі Міхайлаўскаю вуліцаю, расстрэльвалі з рэвольвэраў выбегшыя з чацьвертага паліцэйскага вучастку гарадавыя. Тут быў забіты адвакат Ентыс, Прудна і многія іншыя. Сотні рамізьнікаў адвозілі забітых і раненых у прыватныя дамы, у тарговыя будынкі, а на пляцы стаяла лужамі людзкая кроў. У скутку больш сотні забітых і каля 400 цяжка параненых. У ліку забітых былі абодва афіцэры, што перадаліся сходу. „Па чыйму-ж распараджэньню зроблена была гэтая нялюдзкая, дзікая расправа, дагэтуль ня выяўлена,—заключаў корэспондэнт прыведзенай корэспондэнцыі: „Губарнатар Курлоў абмывае рукі, ківаючы на жандарскіх афіцэраў Вільдэмана-Клопмана і Марчэнку. Прокурор у той-жа дзень старанна ўзяўся за расьсьледваньне. Губарнатар распарадзіўся забітых яўрэяў хаваць ня ў трунах, а проста кідаць у ямы. Увесь горад у жалобе. Магазыны зачынены. Жыцьцё замерла. Над будынкам гарадзкое думы калышацца жалобны сьцяг“.

Па чыйму распараджэньню было гэта зроблена, дагэтуль асталося няясным. У дакумантах і запісах ня знойдзена пакуль гэткіх указаньняў. Ды гэта ня цікава: аддаваў прыказ страляць той ці другі жандар, той ці іншы прадстаўнік улады. Бязумоўны факт адзін: што ў гэтым расстрэле павінна ўся менская ўлада на чале з губарнатарам Курловым. Апошні, як галава гэтае ўлады, зьяўляецца непасрэдным віноўнікам расстрэлу. Яшчэ 12 кастрычніка, сазваўшы да сябе на кватэру ўсіх прадстаўнікоў вайсковых частак, ён абвясьціў ім „настойчивую потребность

[1]) Апісваецца па корэспондэнцыі ў газэце „Право“ № 48-49 за 1905 г., перадрукаванай з „Новой Жизни“.

действовать при подавлении беспорядков оружием" [1]). Хоць гэтыя словы яскрава гавораць за ўсё, але не бясьцікава даць тут апісаньне таго, як пачаўся расстрэл, тым-жа начальн. Менскага жандарскага ўправуленьня. Ён так апісвае самае трагічнае месца: „Калі з дэпутацыяй, якая вярнулася ад губарнатара, прышлі вызваленыя з астрогу, іх віталі гукамі „ура"; яны кланяліся і дзякавалі за вызваленьне.—Дваіх праходзіўшых афіцэраў разброілі, на іх шаблі надзелі чырвоныя сьцягі і імі махалі, а афіцэраў панясьлі да стала і паставілі на яго [2]). Натаўп больш як у дзесяць тысяч напіраў пляцам да вокзалу. Начальнік жандарскага паліцэйскага ўправуленьня чыгунак палкоўнік фон Вільдэман-Клопман некалькі разоў выклікаў губарнатара да тэлефону, але дазвацца яго ня мог [3]) і, замест яго, з ім гутарыў у тэлефон нейкі чыноўнік. Тады-ж пра афіцэраў і яшчэ пра кагосьці з прысутных пранеслася чутка, што іх арыштавалі. Натаўп рушыў да пад'езду вокзалу; было разьбіта некалькі шыбаў. Тады палкоўнік фон-Вільдэман-Клопман зьвярнуўся да старэйшага вайсковага начальніка, што ён сваімі сродкамі стрымаць натаўп ня можа.

Войска было расстаўлена—рота каля кухань і поўрота на пляцформе супроціў багажнага аддзяленьня і залі 3 клясы, а вартавыя каля пад'езду вокзалу... Тыя, што кінуліся вызваліць афіцэраў, наткнуліся на вартавога, хацелі яго разброіць, але той узяў на руку і быў адапхнуты афіцэрам у бок; тут-жа стаяла некалькі разброеных салдат з пляцформы. Яны, убачыўшы, што натаўп кінуўся на іх і, думаючы, што гэта напад, пабеглі праз багажнае аддзяленьне, пераскочылі багажную стойку і выбеглі на пляцформу, дзе хутка сталі разьбіраць ружжа. Натаўп пакіраваў сьледам за імі. Можна думаць, што салдаты стрэлілі некалькі разоў з ружжаў у багажнае аддзяленьне ў вокны. Гэтыя асобныя стрэлы ў суматосе ротны камандзір, які стаяў з ротаю каля кухні, прыняў за страляньне дэманстрантаў, а таму, бачачы перад сабою напіраўшую людзкую гушчу, вышаў наперад і прасіў усіх чыгуначнікаў і „благоразумных" людзей пайсьці адгэтуль, бо ён зараз будзе страляць. Частка тых, што стаяла перад ім, адхлынула, іншыя-ж, пераважна яўрэі, сталі крычаць, што ён ня сьмее страляць, а таму сталі пагражаць салдатам і крычаць, што яны памруць за свабоду, і сьмяяцца над тымі, што разыходзіліся. Сьледам за тым было дадзена два ці тры залпы. Паміж тым, салдаты, што былі на пляцформе, выбеглі на пэрон і стралялі частым агнём... Далей разабрацца трудна. Памоцнік прысяжнага паверанага Ентыс разам з натаўпам бег паміж чацьвертае паліцэйскае часьці. Тут ён сустрэўся з гарадавым

[1]) 1905 год у Беларусі. Данясеньне начальніка Менскага жандарскага ўправуленьня ў міністэрства ўнутраных спраў 25 кастрычніка 1905 г. № 7384.

[2]) Добраахвотны пераход афіцэраў на бок рабочых жандар перакручвае ў гвалт.

[3]) А ў сваіх успамінах „Конец русского царизма" Курлоў адмячае, што ён не адхіляўся ўвесь час ад тэлефону Вось ты і разьбярыся!

Якубовічам, які, выхапіўшы рэвольвэр, стрэліў яго і забіў напавал... Забітых выявілася каля пяцідзесяці чалавек, лік-жа параненых уведаць трудна, бо многія лечацца дома і аб сваіх ранах не заяўлялі, але, трэба думаць, ня менш 150 чалавек. Пасьля гэтага да губарнатара адправілася дэпутацыя, прычым у горадзе ходзяць чуткі, нібы ён адказаў ім, што стралялі па яго прыказаньні і што ён вяліць страляць кожны раз, калі будуць рабіць дэмонстрацыі.

Ці стралялі дэмонстранты—зацьвярджаць не магу, але многія з іх, едучы і бягучы з пляцу, мелі ў руках рэвольвэры.

Даносячы аб вылажаным, дадаю, што пра ўсе падрабязгі, якія могуць дапоўніць сапраўдную карціну здарэньняў, мною будзе дадаткова данесена".

Як бачым, прадстаўнік паліцыі, напэўна сам у многім замешаны, ёмка стараецца выкруціць адміністрацыю з віны. Ён тужыцца высьветліць здарэньні так, як быццам-бы ня толькі ўсё вышла бяз віны ўлады, а наадварот, дэмонстранты самі былі вінаватымі. Але данясеньне так пабудавана, што ніяк нельга згадзіцца з перапуджаным ад свае справы жандарам: вельмі ўжо белымі ніткамі абшыта. Ды нават сам ён сумляваецца ў праўдзівасьці сваіх слоў, бо, як бачым, нарэшце абяцае „дапоўніць сапраўдную карціну здарэньняў". А вось як у сваіх успамінах [1]) самы віноўнік расстрэлу гэн. П. Курлоў апісвае момант расстрэлу: „Будынак вокзалу з некаторага часу ахоўваўся войскам. Загэтым мне ня прыходзілася назначаць новае варты. Апроч таго, частка варты знаходзілася на чыгуначным мосьце і на насьпе. Начальнікам яе быў батальённы камандзір, які выказаў сябе трусам ці нязнаўцам сваіх афіцэрскіх абавязкаў. Не папярэдзіўшы натаўпу, каб ён не падыходзіў к войску, ён дапусьціў яго на вельмі блізкі адгон. Натаўп на некалькі крокаў ад салдат паставіў стол, узлазячы на які, прамоўцы пачалі казаць супроціў правіцельства і абразьлівыя для цара прамовы. Нехта адабраў у начальніка варты шаблю і да яе прычапіў чырвоны сьцяг [2]). Затым натаўп пачаў адбіраць вінтоўкі ад спакойліва стаячай варты. Гэтага салдаты не сьцярпелі і раптам, бяз чыйго-б там ні было прыказу, пачалі страляць бяз усякага парадку ў натаўп. Да іх прылучыліся тыя салдаты, што сталі на мосьце і на насьпе, і таксама пачалі страляць у народ, у скутку чаго асталося на месцы многа раненых і забітых".

Такім чынам, і сам вінавайца расстрэлу далікатна здымае з сябе віну, ускладаючы яе на салдат і на батальённага камандзіра... Між іншым, у сваёй тэлеграме, паданай дэпартаманту паліцыі ўжо назаўтра пасьля расстрэлу, Курлоў спакойна пісаў: „Дакладаю, могуць аднавіцца

[1]) Ген. П Г. Курлов. „Конец русского царизма". Государственное издательство Москва-Ленинград.

[2]) Іўноў байка аб добраахвотным пераходзе на бок рабочых двух афіцэраў.

непарадкі, якія я буду вымушаны задушыць сілаю“ [1]). Ды хто мог сумлявацца ў тым, што зладзейскі расстрэл учыніў хто іншы, як ня Курлоў з яго падручнымі.

Весткі аб крывавых здарэньнях 18 кастрычніка ў Менску хутка разьнясьліся па ўсёй Меншчыне, Беларусі, Расіі. Ужо назаўтра ў адказ на іх пачаліся ў розных гарадох і мястэчках забастоўкі і дэмонстрацыі рабочых. У самым Менску на аб'яднаным пасяджэньні прадстаўнікоў арганізацый Бунду, РСДРП, Партыі Соцыялістых-Рэволюцыянэраў і чыгуначнага саюзу было рэшана абвясьціць агульную палітычную забастоўку і патрабаваць ад правіцельства наступнага: 1) неадкладна зьняць з пасады губарнатара, паліцмайстра, начальніка віленскага паліцэйскага ўпраўленьня Вільдэмана-Клопмана і падпалкоўніка Марчэнку і неадкладна падняць судовае сьледзтва аб усіх асобах адміністрацыі і вайсковае ўлады, якая вінавата за крывавую бойню 18 кастрычніка; 2) распусьціць навочны склад паліцыі і перадаць справу аховы парадку і грамадзкай бясьпекі ў рукі гораду; 3) за ўдзел у мітынгу ніхто не павінен пацярпець; 4) неадкладна вывесьці з гораду казакаў; 5) забясьпечыць сем'і забітых і раненых коштам дзяржавы; 6) гарантаваць свабоду сходаў адсутнасьцю на іх і неўмяшаньнем адміністрацыі і аружнай сілы.

Забастоўка пачалася назаўтра-ж. Даносячы аб гэтым 19 кастрычніка міністру шляхаў, начальнік Лібава-Роменскай чыгункі Машкоў пісаў: „Паведамляю, што забаставаўшыя рабочыя і служачыя заявілі, што спыняць забастоўку пры ўмовах, калі здымуць губарнатара Курлова, начальніка жандарскага ўпраўленьня Вільдэмана-Клопмана, начальніка менскага паліцэйскага аддзяленьня Марчэнку, менскага паліцмайстра і прыставоў, якія ўчынілі крывавы пабой народу 18 кастрычніка, а таксама назначаць сэнатара для сьледзтва і адданьня віноўных пад суд. Забастоўшчыкі патрабуюць таксама, каб паліцыю перадаць пад загад гарадзкога самаўпраўленьня“ [2]). Паміма агульнае забастоўкі менскіх рабочых, проціў расстрэлу протэставалі адвакаты, гарадзкая дума, агульнае аддзяленьне суду, нават прокурор Бібікаў. Былі пасланы тэлеграмы: грапу Вітэ, як старшыні рады міністраў, ад адвакатаў, ад менскае гарадзкое думы, ад агульнага сходу, які быў перад расстрэлам. Тэлеграмамі таксама прасілі прыслаць сэнатара для сьледзтва і зьняцьця губарнатара. Зразумела, што Вітэ нічога не зрабіў для таго, каб пакараць віноўнікаў расстрэлу; ён толькі запытаў таго-ж губарнатара аб праўдзівасьці фактаў у тэлеграмах і, атрымаўшы адказ, што тэлеграмы „составляют намеренное искажение фактов и явную их подтасовку“, выклікаў Курлова ў Пецярбург, а праз нейкі час спакойліва адпусьціў назад.

[1]) 1905 г. в Белоруссии. Издание комиссии по празднованию революции 1905 г. Минск, 1925 г.

[2]) 1905 г. в Белоруссии.

Ды іншага нельга было чакаць у той час, калі ўсякія сродкі ў змаганьні з рэволюцыйным выбухам для правіцельства былі ў той час патрэбны і карысны. Бач, змаганьне йшло за яго жыцьцё, за яго далейшую ўладу. Вось ужо некалькі дзён пасьля тэлеграм графу Вітэ, Трэпаў пісаў менскаму губарнатару: „Атрыманы ўказаньні, што рэволюцыянэры намераны выклікаць у Менску беспарадкі. Прапаную вам прыняць залежныя папераджаючыя меры, у выпадку-ж выніку непарадкаў спыніць іх самым рашучым чынам“ [1]). А ў сьнежні месяцы дырэктар паліцыі Вуіч дазволіў менскаму губарнатару ўзброіць паліцыю вінтоўкамі са складу воінскага начальніка.

Беларускім рабочым аставалася адно выйсьце: у цесным ядначаньні з рабочымі ўсяе Расіі за гвалт плаціць гвалтам і, замест просьбы начальства, каб яно зьнімала крывавых губарнатараў і адміністрацыю, рыхтавацца да зьняцьця іх самым.

Праўда, для гэтага патрабавалася адна ўмова—гэта разбурыць дысцыпліну ў арміі. Пакуль войска верыла начальству і паслухмяна выпаўняла яго прыказы, цяжка было думаць аб ажыцьцяўленьні гэткіх мараў. Да гэтага, нясупынныя забастоўкі і дэмонстрацыі на працягу году патрабавалі вялікай натужнасьці з боку рабочых, шмат энэргіі і ахвяр, сталіўшы іх, падтачыўшы іх сілу і мажлівасьць змагацца.

А ў гэты час з Расіі прыходзілі весткі аб няўдачы агульнае забастоўкі і аб узросьце чорнасотніцка-пагромнага руху. Апошні хутка выбухнуў і ў Беларусі. Нацкоўваньне гарадзкога і местачковага мяшчанства, сялянства і рознага чыноўніцтва на яўрэяў было любым сродкам у руках паліцыі на працягу ўсяго часу існаваньня самадзяржаўя. Тым болей трэба было ў цяжкі для сябе час выкарыстаць як найпаўней нацыянальную варажасьць. Прыклад Каўказу, дзе армянска-татарская разьня многа перашкодзіла абвастрэньню рэволюцыйнага ўздыму сярод армянскіх і татарскіх рабочых, захопліваў беларускую паліцыю. І яна дзеля таго, каб застрашыць яўрэйскае жыхарства, сьвядома дапусьціла некалькі пагромаў у розных гарадох і мястэчках Беларусі, як Вільня, Рэчыца, Ворша, Новая Мыш і інш.); гэта мела свае скуткі: у лістападзе месяцы, пасьля бурлівых падзей агульнае забастоўкі, рух у Беларусі апаў. Улічыўшы гэта, 27 кастрычніка менскі губарнатар Чэрэнцаў (часова замяняўшы Курлова, які паехаў у Пецярбург па вызаву Вітэ) дакладаў міністру ўнутраных спраў: „Як кажуць весткі з месц, то няма падставы чакаць рэволюцыйнага руху. Яўрэі прыдаўлены паўсюдным пагромам“.

Аднак, яшчэ было далёка да поўнага ўспакаеньня! У сваім данясеньні [2]) ў міністэрства ўнутраных спраў ад першага сьнежня Курлоў адмячае цэлую нізку забастовак у гарадох, аграрных выступленьняў і сал-

---

[1]) 1905 г. в Белоруссии.

[2]) 1905 г. в Белоруссии.

дацкіх бунтаў. Гэтак, 15 лістапада ў Барысаўскім павеце баставалі служачыя паштова-тэлеграфных устаноў, спыніўшы рух пошты і зносіны з Барысавам. „Агульнае становішча павету вельмі трывожнае“. У Рэчыцкім павеце йшоў рух сялян. У г. Ігумені і ў павеце адмячаўся моцны рух як сярод яўрэйскага, так і сярод сялянскага насельніцтва. Сялянскі рух ішоў у Случчыне, Мазыршчыне, Піншчыне, Наваградчыне. 23 лістапада забаставалі рабочыя койданаўскае фабрыкі запалак, зрабіўшы дэманстрацыю, а ў Бабруйску ўзбунтаваўся мясцовы дысцыплінарны батальён. Але асабліва непакоіў губарнатара і жандармэрыю Пінск, дзе йшла падгатоўка аружнага паўстаньня. Памоцнік губарнатара даносіў губарнатару 5 лістапада, што 28 кастрычніка ў Пінску раздадзена моладзі 600 рэвальвэраў. „Рабочыя ды яўрэі ўзбройваюцца і па сыгналу з Пецярбургу гатовы адкрыта йсьці проціў улады, не супыняючыся нават перад сапраўдным паўстаньнем“, даносіць паліцыя. 20 лістапада ўжо быў напад на патруль; з абодвух бакоў стралялі; 23 лістапада стралялі ў інспэктара рэальнага вучылішча. 29 лістапада пінскі паліцмайстар скардзіўся, што ў Пінску мала салдат, хаця гарнізон складаўся з 3-х рот пяхоты і поўсотні казакаў. „Я з свайго боку, згодна вестак, якія атрыманы мною з Піншчыны, лічу становішча вельмі апасьлівым“. У дадатак па ўсёй Меншчыне ў лістападзе адбылася агульная паштова-тэлеграфная забастоўка.

Усё гэта настолькі было пагражаючым, што заставіла Курлова абвясьціць 29 лістапада Менскую губэрню на становішчы надзвычайнай ахраны.

---

Гэткім чынам прашоў першы ўздым рэволюцыйных выступленьняў рабочых Меншчыны. Гэтыя выступленьні іх, зразумела, ня былі асобавымі ні па настроі, ні па характары; яны былі цесна зьвязаны з агульна-беларускімі рэволюцыйнымі падзеямі, а разам, у беларускім абшары, з агульна-расійскай рэволюцыяй.

Калі мы пяройдзем да другіх частак Беларусі, то ўбачым, што кастрычнік-лістапад ня меней шумліва прагудзелі і над Віленшчынай. Там, як і ў Меншчыне, за гэты тэрмін налічваецца шмат сутычак рабочых з паліцыяй і войскам, меўшых дзесяткі крывавых скуткаў; толькі асяродкам падзей, замест расстрэлу ў менскім памеры, Вільня ўбачыла ў сябе пагром 21 кастрычніка.

Пагром у Вільні—гэткае-ж зладзейства віленскай губэрскай улады, як расстрэл у Менску—менскай. І віленскі пагром, як і менскі расстрэл—аднакая расплата царскіх палачоў паўстаўшым рабочым Беларусі.

Віленскі пагром быў ужыты ў скутку масавых бурлівых выступленьняў рабочых Віленшчыны на працягу кастрычніка.

Гэтыя выступленьні пачалі разьвівацца ўзмоцненым тэмпам з першых дзён кастрычніка. 3 кастрычніка забаставалі рабочыя бровару „И. Е. Липский“, і саладовага заводу Эпштэйна; забастоўка мела эканомічны характар; рабочыя патрабавалі павялічэньня заработку на 25 проц.

і зьмяншэньня рабочага дню. Праз два дні забастоўку выйгралі і 6 кастрычніка сталі на працу. Трэцяга-ж кастрычніка адбылася дэманстрацыя ў м. Даўгінаве, падобная ўсім местачковым дэманстрацыям, са стрэламі з рэвольвэраў і выгукамі „Далоў самадзяржаўе!“ і інш.

Далей, да 14 кастрычніка не адмячаецца значных выступленьняў ні ў Вільні, ні ў губэрні. Але ў гэтым зацішшы ішла падгатоўка да рашучых выступленьняў. Гэтыя выступленьні выбухнулі якраз 14 кастрычніка, калі пачалася агульная забастоўка, у якую спынілася ўсё: рух конкі, электрычная станцыя, заводы і, як пісаў ротмістр Шэбэка ў дэпартамант паліцыі, „поговаривают о забастовке городовых“. Назаўтра, 15 кастрычніка, адбываліся дэманстрацыі ў розных частках гораду; да дэманстрантаў далучыліся вучні, які‹ выбілі шкло ў акне папячыцеля вокругу; пры разгоне дэманстрантаў казакамі было ранена двое дэманстрантаў і адзін казак. А 16 кастрычніка новая дэманстрацыя кончылася сутычкаю з войскам, пасьля якое было забіта і ранена каля 15 чалавек. У гэтай дэманстрацыі ранілі губарнатара Палена, прыстава, акалодачнага надзіраценя і двух салдат. За гэту бойню віленскі губарнатар, як і губарнатар менскі за бойню менскую, ня лічыць сябе віноўным. Куды там! Сам ранены. Ён сваім целам адгараджваў дэманстрантаў ад салдат. Вось як ён піша начальству[1]): „Каля „Георгиевской“ гасьцініцы, бяз дай прычыны, з натаўпу стрэлілі ў мяне, контузіўшы ў сьпіну. Аднак, я далей супакойваў натаўп, ціха рухаючы наперад і бачачы, як поўрота салдат, якая стаяла переда мною, гатовіцца да залпу; я хацеў адгарадзіць дэлегатаў, якія праводзілі мяне, і пакіраваў да салдат, каб папярэдзіць залп, але ў гэты час з натаўпу пачуліся тры ці чатыры стрэлы; адным быў ранены прыстаў Кузьняцоў. Адначасна з гэтым поўрота адкрыла агонь, якім было забіта і ранена каля 15 чалавек“.

І тут ружжа салдат самі стралялі—дэманстранты вымусілі! Якая шчасьлівая ўлада!

Гэты крывавы ўчынак улады падагрэў настрой да абурэньня. Пахаваньне забітых ахвяр 18 кастрычніка, дазволенае паліцыяй, абярнулася ў многатысячную грандыёзную дэманстрацыю. За трунамі нясьлі да 20 вянкоў з надпісамі: „Ваякам з царскім дэспотызмам!“, „Сьмерць тыранам!“ Мясцовыя камітэты соцыялістычных партый налажылі на тры дні жалобу. Рэдкія цягнікі прышлося пускаць пад аховаю войска. 17 кастрычніка ні на поштах, ні на вокзале нельга было здаць тэлеграмы... Аб гэтым скардзіўся дэпартаманту паліцыі начальнік ахраннага аддзяленьня[2]).

А ўтайку, у паліцэйскіх трушчобах ужо ішла падгатоўка пагрому: організаваліся цёмныя элемэнты, паўсюджаліся плёткі, што з-за яўрэяў даражэюць продукты, ды наогул, яўрэі адказваюцца прадаваць іх хрысь-

---

[1]) 1905 г. в Белоруссии.

[2]) 1905 г. в Белоруссии.

ціянам. Той-жа начальнік ахраннага аддзяленьня падгатоўваў думку дэпартаманту паліцыі адносна мажлівасьці пагрому, пішучы: „Кожную хвілінку можна чакаць яўрэйскага пагрому. Становішча сур‘ёзнае“. Вось сур‘ёзнасьць гэтага становішча—ня з боку пагромнага настрою, а з боку ахапіўшага віленскіх працоўнікаў ваяўнічага настрою, не дазвалялі пакуль ажыцьцявіцца провокацыйным намерам адміністрацыі. 20 кастрычніка забастоўка ў Вільні захапіла ўсе галіны працы. Начальства не на жарты запалохалася. Гэнэрал Клыкаў напуджана даносіў камандуючаму корпусам жандараў: „Настрой апасьлівы. Агітатары завуць да разьні. Будуць зьняты паліцэйскія пасты. Горадам валадаюць рэволюцыянэры“.

Гэткі, узьняты да найвышэйшага пункту рэволюцыйны экстаз, само сабою, затапіў сабою царскі маніфэст. Выданьне яго ў г. Вільні сустрэлі з недавер‘ем. Замест супакою—камітэты соцыялістычных партый звалі да далейшых забастовак і протэстаў. Тады гэнэрал-губарнатар Фрэзэ перадаў ахову гораду войску. Праўдзівей, было ўведзена ваеннае становішча. І вось, рэзультатамі яго зьявіўся шэраг крывавых падзей. Першая з гэтых падзей адыгралася з прычыны нападу на акалодачнага. Страляўшы кінуўся ўцякаць; яго патруль затрымаў; вызваляючы затрыманага з рук салдат, маніфэстанты выстралілі і ранілі двох; тады патруль адкрыў агонь і з натоўпу забіў і раніў восем чалавек. На гэты выпадак сабралася грамада людзей, у якую падасьпеўшыя салдаты і казакі далі тры залпы, забіўшы і раніўшы да сарака чалавек. Спыненая забастоўка 21 кастрычніка аднавілася. Пачаліся дэмонстрацыі. Адна дэмонстрацыя, якая йшла Завальнаю вуліцаю, стрэлася з войскам, якое „на стрэлы дэмонстрантаў“ адказала залпам і забіла сем чалавек. Гэтым-жа днём у Вільні пачаўся пагром. Цэлы дзень бушавалі грамілы, ня маючы перашкоды сваім дзікім чыннасьцям таму, што, аказваецца вунь дзеля чаго, гэнэрал-губарнатарам былі зьняты патрулі. Супроць граміл то сям, то там выступалі баявыя організацыі самаабароны, якім і ўдалося спыніць пагромшчыкаў. Цікава, што самаабарону віленская ўлада абвіняла ў гвалтах над жыхарствам, уганяючы яе адміністрацыйна, а напярэдадні пагрому губарнатар натуральна гутарыў з організатарам граміл, нейкім стараверам, і на яго словы: „Яўрэі нас застаўляюць закрываць гандаль, мы пройдзем горадам і тымі-ж мерамі заставім адкрыць“—толькі ўзяў абяцанку „ўжыць весь свой уплыў, каб пагрому не дапусьціць“.

Гэтак прашлі дні кастрычніка ў г. Вільні. Водгукам на іх была новая хваля сур‘ёзных забастовак і дэмонстрацый у павятовых гарадох і мястэчках Віленшчыны. 17 кастрычніка была агульная забастоўка ў г. Смаргоні. А чацьвертай гадзіне пачалася дэмонстрацыя, якая кончылася сутычкаю з паліцыяй ды казакамі. Дэмонстранты-рабочыя стралялі ў паветра і кідалі каменьнямі ў паліцэйскіх і казакаў. Двум паліцэйскім стражнікам разьбілі галаў. Між Смаргоньню і Вільняю парвалі тэлеграф. 18 кастрыч-

ніка дэманстрацыя паўтарылася; пры гэтым яна мела асабліва цікавы характар. А палове дзесятае гадзіны ў вечары дэманстранты ўзялі ў пажарнай факелы і сыгнальныя трубкі, учынілі трывогу; пасьля з чырвонымі сьцягамі кінуліся да кватэры станавога і хацелі вызваліць арыштованых на дэманстрацыі. Паліцыя і казакі папярашкодзілі гэтаму.

Агульная забастоўка з дэманстрацыямі адбылася 16 кастрычніка ў Лідзе, 19-20—у Ашмянах, 20—у Нова-Вілейску, 22—у м. Шчучыне і Васілішках.

Забастоўкі і іншага выгляду выступленьні рабочых цягнуліся да 25 кастрычніка, а на сходзе яго зацiхлі. Гэты зацішак працягнуўся, як і ў Меншчыне, да першых дзён сьнежня, зрэдка парушаючыся нязначнымі здарэньнямі.

---

Магілеўшчына, Віцебшчына і Горадзеншчына мелі ў сябе таксама значныя падзеі ў адмечаны час. У Віцебшчыне і Горадзеншчыне яны прашлі прыметна спакойлівей, ніж у Меншчыне і Віленшчыне. Але Магілеўшчына засьведчыла іх пагромам у Воршы.

Агульная забастоўка адначасова захапіла ўсю Беларусь. Як заўсёды і ўсюды, першым чынам яна кранула буйнейшых гарадоў. У Віцебшчыне гэткімі гарадамі былі Віцебск і Дзьвінск, у Магілеўшчыне—на гэты раз—Ворша, Шклоў, Копысь і часткаю Гомель, у Горадзеншчыне—Горадня, Беласток, Бярэсьце, Бельск. Ува ўсіх гэтых гарадох,—дзе шырэй ды шумлівей, дзе цішэй—прашла агульная забастоўка. Параўнаўча гэтаму ў кожным горадзе атрымаліся іншыя скуткі. Але ні ў водным з іх не абышлося без кровапліцьця. Гэтак, у Віцебску пры чытаньні рэдактарам мясцовай газэты маніфэсту, казакі сталі разганяць мітынг і пусьцілі ў хаду ня толькі нагайкі, а і ружжа; у скутку—6 забітых і 20 раненых. А спачатку забастоўкі, калі забастоўшчыкі адбівалі арыштованых і забілі гарадавога, салдаты стралялі і двох паранілі. 19 кастрычніка ў Дзьвінску на таварнай станцыі Пецярбурска-Варшаўскае дарогі грамада рабочых Рыга-Арлоўскай чыгункі са сьцягамі, пяяньнем і выгукамі прышла ў вагонныя майстэрні, каб спыніць працу. Вартаваўшае войска стала разганяць рабочых прыкладамі; паднялася страляніна з абодвух бакоў. З дэманстрантаў выявілася двое раненых, а двое прышыбленых.

Старанна працавала паліцыя пры разгоне маніфэстацый і ў Магілеве. Дэманстрацыя, якую наладзілі рабочыя з прычыны маніфэсту, адбылася ля вастрогу. Сутычак з войскам дэманстранты не жадалі; аднак, бяз іх не абышлося; адзін з гімназістых спаткнуўся з гарадавым і быў апошнім паранены. Але адчынены мітынг на пляцы быў дазволены губарнатарам і прашоў ціха; таксама ціха закончыўся сход у тэатры. Пасьля гэтага губарнатар прыдумаў радыкальныя сродкі: забараніў усякія выступленьні і сходы. На гэта „прадстаўнікі магілеўскага грамадзянства“ паслалі протэст Вітэ, які, зразумела, нічога ня даў. Наадварот, губар-

натар у далейшых сваіх чыннасьцях ліхамысна надсьмяяўся з даверных „грамадзян“. Вось чаму рабочыя не зьвярталі жаднай увагі на розныя хадайніцтвы з боку гэтых „грамадзян“ і вялі змаганьне тымі сродкамі, якія мелі пры сабе.

Пры разгоне дэмонстрацыі 15 кастрычніка ў Гомелі была кінута бомба ў прыстава, але не разарвалася. А а шостай гадзіне ўвечары другая бомба была кінута ў поліцмайстра, які быў паранены пяцьцю асколкамі, а конь, на якім ён ехаў, забіты; апроч поліцмайстра, было паранена гэтаю-ж бомбаю два казакі і сем чалавек з дэмонстрантаў...

Падзеі ў Аршанскім павеце былі шмат гастрэйшымі, ніж дзе ў гэты час у Магілеўшчыне, Віцебшчыне ды Горадзеншчыне. Яны пачаліся 11 кастрычніка на станцыі Ворша, дзе а дзесятай гадзіне ўсе рабочыя дэпо і тэлеграфістыя спынілі працу і ў цягнікох, якія прыбылі на станцыю, выпусьцілі пару. А 4 гадзіне адбыўся мітынг; у час гэтага мітынгу жандары з пяцьцю салдатамі кінуліся ў натаўп і хацелі заарыштаваць прамоўцу-жанчыну, але рабочыя не далі. Нарэшце, яна была заарыштавана. Калі яе вялі ў астрог, рабочыя з гораду ўчынілі дэмонстрацыю і прабавалі адабраць ад поліцыі. Прышлося выклікаць конвойную каманду, якая пад сваёю аховаю павяла арыштаваную ў астрог. Вечарам таго-ж дня рабочыя наладзілі на станцыі мітынг, на якім прысутнічаў аршанскі спраўнік і начальнік вучастку. Абое ўгаварвалі рабочых кінуць забастоўку, але тыя згадзіліся зрабіць гэта толькі тады, калі выканаюць іх умовы і патрабаваньні, паданыя ў сакавіку месяцы і, наогул, калі скончыцца забастоўка на ўсёй Маскоўска-Брэскай чыгунцы... Назаўтра да забастоўкі чыгуначнікаў далучыліся ў ліку 200 чалавек рабочыя Бараньскага гвазьдзільнага заводу, а напасьлязаўтра забастоўка ахапіла ўсе шклоўскія прамысловыя прадпрыемствы.

18 кастрычніка, калі атрымаліся весткі пра маніфэст, з 8 да 12 гадзіны вечара ў горадзе Воршы хадзілі дэмонстрацыі. 19 дэмонстрацыі цягнуліся далей: а дванаццатай гадзіне дэмонстранты патрабавалі вызваленьня політычных заключаных, якія й былі вызвалены. Дэмонстрацыя пашла з гораду на станцыю і закончылася, дзякуючы перапалоху поліцыі, бяз крывавых вынікаў. Гэтага-ж 19 кастрычніка мелі месца дэмонстрацыі ў Горках і Копысі.

Аднак, мірны канец першых дэмонстрацый не даваў спакойліва спаць аршанскай поліцыі; яна не магла пагадзіцца з тым, што яе заставілі сілаю вызваліць арыштованых; і вось, вымаліўшы з Магілеву салдат, поліцыя пасьмялела і рашыла падцягнуцца перад начальствам, каб загладзіць свае „упущения“. З гэтай мэтаю 21 кастрычніка, калі рабочы рух пашоў на сыход, поліцыя ўстроіла патрыотычную маніфэстацыю з портрэтамі цара ды іконамі. Маніфэстацыя накіравала да вокзалу, а па дарозе была падгатавана тэю-ж поліцыяй шаблённая штука—провокацыйныя выстралы „ў маніфэстацыю з яўрэйскага двара“. Гэта было прычынаю,

каб напасьці на яўрэяў, што чорнасотнікі і зрабілі; напаўшы, яны разгрямілі дом і забілі восем чалавек яўрэяў. 23 кастрычніка прыехаў у Воршу віцэ-губарнатар. З гэтае прычыны йзноў чорнасотнікі з паліцыяй адслужылі абедню і зрабілі патрыотычную маніфэстацыю, якая кончылася „стрэлам у яе з боку яўрэяў“ і, зразумела, новым пагромам з раненымі.

У канцы кастрычніка адбылася бурная забастоўка ў Лядах.

Характэрны адбітак меў рабочы рух ў гэтыя часы ў Горадзеншчыне. Тут ён, з аднаго боку, прашоў па вёсцы, уцягнуўшы ў сябе рабочых батракоў, з другога—выклікаў рабочыя саветы Беларусі. Батрацкі рух захапіў Бельскі і Берасьцейскі паветы; у першым 24 кастрычніка з'організавалася 100 чалавек батракоў, якія, ходзячы з маёнтка ў маёнтак, патрабавалі павялічэньня пэнсіі, скарачэньня рабочых гадзін і атрыманьня яды не гатоўкаю, а сырымі прыпасамі. У Берасьцейшчыне батракі пабілі аднаго ўпраўляючага маёнтку, на якога ад таварышаў была скарга. Берасьцейскі праўнік мусіў паслаць карацельны атрад салдат, якія пасьля ўгонаў за імі заарыштавалі батракоў. Беластоцкі савет, дзякуючы няяснасьці заданьняў, адыграў нязначную ролю.

---

Кастрычнікаўскія дні былі перадапошняй спробаю ў 1905 годзе даць бойку паганаму самадзяржаўю з боку рабочых. Але спроба не апраўдала пакладзеных на яе надзей. Рабочым прышлося падацца, тым болей, што к канцу кастрычніка самадзяржаўе пашло на астатнія меры ў змаганьні з рабочымі. Пры гэтым агульная забастоўка, бунты ў войску і шырокая хваля сялянскіх выступленьняў напалохалі і буржуазію: яна скеміла да чаго вядуць справы і чым пахнуць яны для яе: да гэтага царскі маніфэст ва многім яе задавальняў. Гэтыя прычыны аслабілі напор буржуазіі на самадзяржаўе і прыдалі яму больш сьмеласьці. Пасьля кастрычніка пэрспэктывы для рабочых больш-менш вызначаліся ў адмоўным стане.

Аднак, пайсьці ім на капітуляцыю было пакуль загадзя. У Пецярбурзе разьвіцьцё падзей ня спынялася; працаваў савет рабочых дэпутатаў, адбываліся забастоўкі. На Каўказе і ў Прыбальтыцы йшло паўстаньне сялян, у Сыбіры—салдат. Хвалявалася Фінляндыя. Усё гэта штурхнула рабочую Расію на тое, каб яшчэ раз выспрабаваць свае сілы. 3 сьнежня быў заарыштаваны пецярбурскі савет рабочых дэпутатаў. Выбраны на яго месца новы савет 8 сьнежня прызваў жыхарства Пецярбургу да агульнае забастоўкі. Але гэтая забастоўка была нават менш удачлівай за лістападаўскую. Горш усяго было, што да забастоўкі не далучылася Мікалаеўская чыгунка, на якую глядзелі рабочыя другіх чыгунак; таксама гэтыя абставіны дазволілі правіцельству сьпешна перакінуць з Пецярбургу ў Маскву гвардзейскія палкі для зьнішчэньня выбухнуўшага там 10 сьнежня паўстаньня.

Беларускія рабочыя ў сьнежні месяцы таксама далучыліся да агульнарасійскай забастоўкі. Але пацярпеўшы многа ў кастрычніку-лістападзе,

яны не маглі ўдзяліць тых сіл і энэргіі, з якімі выступалі ў папярэднія месяцы. Вось чаму ў сьнежнеўскіх выступленьнях беларускіх рабочых адмячаецца, з аднаго боку, пасыўнасьць, з другога—рэзкая абвостранасьць. У вогуле-ж па размаху сьнежнеўскія выступленьні абмежаваліся куды меншым ад кастрычнікаўскіх памерам.

Больш выдатныя здарэньні і на гэты раз выпалі на Меншчыну. 8 сьнежня ў Менску была абвешчана агульная забастоўка, 9—усе крамы зачыніліся і работа стала; спынілася Берасьцейская чыгунка. Адначасна спынілася і Палеская чыгунка. 12 ў Бабруйску пачалася агульная забастоўка, якая цягнулася два дні, а назаўтра, 13, пінскія рабочыя на чыгунцы, злучыўшыся з гарадзкімі рабочымі і вучнямі, узброіліся, сфармавалі перавязачныя пункты і захапілі ўладу ў горадзе ў свае рукі. Гэта да апошняга напалохала ня толькі мясцовае начальства, якое забіла трывогу, просячы падмогі з Вільні і з Менску, а і дэпартамант паліцыі Дырэктар яе, Вуіч, тэлеграмаю настайваў арыштаваць „главных руководителей мятежа в Пинске“. На гэту тэлеграму начальнік менскага жандарскага ўпраўленьня адказваў: „Ротмістр Нартаў тэлеграфуе, што Пінск у руках узброеных рэволюцыянэраў; войска мала, арышты выклікаюць крываліцьце. Пытае, ці нельга адлажыць арышты да лепшых часоў [1]).

Да пінскіх рабочых далучыліся рабочыя Лунінцу, абвясьціўшы забастоўку, ня гледзячы на роту салдат, і рабочыя тэляханскага дыплянцкага заводаў.

Чыгуначная забастоўка, наогул, распаўсюджылася па ўсіх чыгунках Беларусі, стаўшы галоўным асяродкам выступленьняў рабочых. Паміма пінскага паўстаньня, у Баранавічах на станцыі таксама адыграліся буйныя падзеі. Пачалося з арышту прыехаўшага з Масквы дэпутата ад рабочых, які праводзіў мітынгі на чыгунках. Арыштаванага адправілі ў наваградзкі астрог; рабочыя ўчынілі пагоню, але не маглі вызваліць з рук паліцыі. Гэта абурыла забаставаўшых рабочых, якія сабралі ў салі I клясы сход, на які нават прышлі тры салдаты чыгуначнага батальёну. Сход закончыўся ціха. 11 сьнежня, ня гледзячы на тое, што было вывешана абвяшчэньне губэрні на становішчы надзвычайнай ахраны, на лягэрным пляцы рабочыя ды салдаты сабралі новы сход. І вось, калі на сход зьявіўся брыгадны гэнэрал з двума ад'ютантамі і некалькімі афіцерамі і запрапанаваў пакінуць раён брыгады, яго акружылі і пачалі піхаць; пасьля адабралі шаблю, абарвалі палеты і паваліліна зямлю. Афіцэры, што былі з гэнэралам, пачалі страляць у рабочых і салдат; тыя адказвалі стрэламі; далей частка салдат з крыкамі „да зброі!“ кінулася ў казармы, але насустрэчу ім выбеглі другія салдаты з дзяжурным афіцэрам—і разагналі дэмонстрантаў; двое з іх было ранена. 12 сьнежня Баранавічы былі абвешчаны на ваенным становішчы.

[1]) 1905 г. в Белоруссии.

У Дзьвінску і Вільні агульная забастоўка ў сьнежні таксама прыняла шырокі размах, захапіўшы ўсіх рабочых і цягнуўшыся некалькі дзён з дэмонстрацыямі і сходамі. Цікава, што на мэтодах змаганьня з рабочымі атрымаўся нялад паміж віленскай уладаю, паліцыяй і жандармэрыяй. У сваім данясеньні ад 12 сьнежня дэпартаманту паліцыі [1]) начальнік віленскага ахраннага аддзяленьня, ужо нам вядомы ротмістр Шэбэка, скардзіўся на „попустительство“ з боку губарнатара ў адносінах да забастоўшчыкаў. Ён даносіў аб сходах забастовачнага камітэту, даваў сьпіскі галоўных забастоўшчыкаў, а паліцыя нічога не рабіла! Помеж з гэтым у міністэрства дашлі весткі, нібы салдаты пры сутычках страляюць у паветра, што зусім не здаволіла міністра Дурнаво; ён зараз-жа стукнуў тэлеграму віленскаму гэнэрал-губарнатару гэткага зьместу: „Як павядамляюць агэнцкія дэпэшы, войска страляе ў паветра. Будзьце ласкавы паведаміць, па якім распараджэньні прыняты гэткі парадак?“ Гэнэрал-губарнатар тым-жа днём адказаў, што весткі гэткія—няпраўдзівыя, што войска „честно исполняет свой долг“. На гэты раз у Вільні абышлося бяз ужыцьця войскамі гэтага „доўгу“. Затое ў Сьвянцянах, дзе сяляне напалі на паліцэйскае праўленьне, і ў м. Даўгінаве, дзе адбылася дэмонстрацыя, вайсковы „доўг“ даў дзьвюх ахвяр з ліку сялян.

---

Гэткім чынам сьнежнеўскі выбух, як заключны акт нясупынных, амаль што пэрманэнтных выступленьняў беларускіх рабочых у 1905 г., яскрава бліснуўшы, к сходу месяцу пашоў на вубыль. Правіцельства вакола і ўсюды перамагала рэволюцыю, скончыўшы 18 сьнежня з маскоўскім паўстаньнем і зьверскі распраўляючыся карнымі атрадамі з сялянствам Грузіі ды Латвіі. Расстрэлы, вешальніцы, ссылка—была помстаю рабочым з боку пераможцаў. На гэты раз самадзяржаўе знашло сілы справіцца з рэволюцыйным выбухам і закрапіць свае позыцыі на грудах целаў рабочых. Гэтыя позыцыі яно трымала яшчэ цэлых дванаццаць год, спраўляючы нясупынныя оргіі распраў з няўстрашным, новым уздымам рабочых гушчаў, які прашоў люты і кончыўся кастрычнікам 1917 г.

---

[1]) 1905 г. в Белоруссии.

# ЭВОЛЮЦЫЯ АЛЬГЕБРАІЧНАЙ МЫСЬЛІ І ЗНАЧЭНЬНЕ АЛЬГЕБРАІЧНАГА СЫМБОЛІЗМУ

**А. Круталевіч**

Нашу сучасную эпоху звычайна называюць векам навукі і тэхнікі, бо ніколі не наглядалася такога імкненьня з боку чалавека падпанаваць сабе матэрыяльную дзейснасьць, як зараз. Гэтае імкненьне ідзе па двух кірунках. Адзін кірунак мае на мэце разьвіцьцё матэрыяльнай культуры, г. зн. тэхнічныя вынаходкі, другі—мае на мэце прасякнуць у сьвет зьявішчаў, утварыць агульную сыстэму сьветабудовы.

Абодва гэтыя кірункі, бязумоўна, роўнацэнны. Першы—гэта здавальненьне нашых фізыолёгічных патрэб, і дзіўна было-б не прызнаваць наводчнай яго паважнасьці. Другі—гэта здавальненьне нашых інтэлектуальных патрэб, і мы павінны тутака ясна зразумець справядлівасьць палажэньня, што інтэлектуальныя патрэбы вельмі моцныя і зьяўляюцца такім самым фактам, як голад і смага, часта яны бываюць нават мацней за фізычныя патрэбы. Ньютон, напрыклад, калі быў заняты сваймі адкрыцьцямі, часта забываў есьці. Ды, апрача таго, мы ведаем, што практычныя рэзультаты вялікай каштоўнасьці вельмі часта зьяўляюцца жаданьнем здаволіць інтэлектуальныя патрэбы. Так было, напрыклад, з Максвэлем і Герцам, якія імкнуліся здаволіць свае інтэлектуальныя патрэбы, і гэта ў канцы канцоў прывяло да бяздротавай тэлеграфіі.

Памянёныя два кірункі ў імкненьні чалавека заўладаць матэрыяльнай дзейснасьцю зьяўляюцца мэтай усіх дакладных прыродазнаўчых навук, але ёсьць нешта адно, як піша А. Фосс у сваёй „Сутнасьці матэматыкі“, што аднакова абхапляе ўсе імкненьні, накіраваныя на больш глыбокае зразуменьне дзейснасьці. Гэта ёсьць матэматыка.

Сапраўды, прасякнуць увесь сьвет зьявішчаў, утварыць агульную схэму сьветабудовы, натур-філёзоф можа толькі шляхам пабудовы ўнутранага сьвету ідэй і вобразаў, роўналежна, так кажучы, знадворнаму сьвету. Гаворачы словамі проф. Д. Гравэ, кожнаму факту знадворнага сьвету павінен адпавядаць факт нашага ўнутранага сьвету, і наадварот. Гэты сьвет ідэй павінен быць характару матэматычнага, бо мысьленьне іншага характару ня мае тэй дакладнасьці і рознастайнасьці, якія маглі-б прэтэндаваць на параўнаньне з бяскрайнай рознастайнасьцю пачуцьцёвых успрыяцьцяў з знадворнага жыцьця. Адзін з выдатных матэматыкаў выказаў думку, што кожная навука мае сваёй мэтай зрабіцца матэматыкай.

Гэтую думку мы выкажам інакш: для кожнай з натуральных навук патрэбна пабудова матэматычнай схэмы.

З другога боку, так званыя „законы прыроды“ выражаюць залежнасьць між двома або больш зьменнымі. Гэтая ідэя залежнасьці зьменных ёсьць асноўная ідэя ўсяго навуковага мысьленьня і дасягае закончанага разгляду толькі ў матэматыцы пад назвай „функцыйнай залежнасьці“.

Я паўтараю агульнавядомыя ісьціны, але, быць можа, іх трэба падкрэсьліць, бо ніколі не наглядалася такога ігнараваньня значэньня матэматыкі, і прытым так званай „вышэйшай“ матэматыкі, як зараз. Гэта здаецца парадоксальным, але гэта так. Праўда, формальна матэматыка ставіцца на чале ўсіх навук, ёй аддаюць пашаны, але, здаецца, ніколі раней ня было такіх фактаў, аб якіх піша ў сваёй брошуры ангельскі матэматык Ф. Журдэн („Прырода матэматыкі“): „Я ўспамінаю, што чытаў прамову аднаго выдатнага хірурга, у якой ён пропагандаваў, што разумеецца пахвальна, распаўсюджаньне элемэнтарнай хірургічнай асьветы.—„Вышэйшая матэматыка, кажа ён з вялікім самаздаволеньнем, не паможа нам забінтаваць зламаную нагу“. Ясна, што не паможа, дадае Журдэн, але таксама ясна, што хірургія не паможа нам зьвесьці рахунак або не паможа лёгічна думаць.

Ітак, адзначыўшы значэньне матэматыкі ў справе пабудовы матэматычных схэм для натуральных навук, я дазволю сабе яшчэ спыніцца на тым мэтодзе, ці правільней, на тым спосабе, дзякуючы якому яна сапраўды мае вышэйпамянёнае значэньне і аб якім казаў яшчэ Рожэр Бэкон у 1214 годзе: „Матэматыка—першая з усіх навук, якая папераджае іншыя і падрыхтоўвае нас да досьледных навук“.

Гэты спосаб грунтуецца на ўводзе сымболяў, імкнучыся, такім чынам, да экономіі нашай духоўнай і фізычнай дзейнасьці, а гэтая экономія неабходна, бо ў навуцы ёсьць яшчэ многа недасьледваных пытаньняў, якія чакаюць апрацоўкі мысьліцеля, і гэтую працу мы можам зьдзейсьніць толькі ў тым выпадку, калі належным спосабам організуем наша мысьленьне, г. зн., калі патрапім экономіць нашу энэргію.

Гэты спосаб зьяўляецца сродкам зручнага кіраваньня доўгім і складаным ланцугом разважаньняў шляхам уводу сымболяў, прыдуманых свядома або несьвядома для экономіі духоўнай працы.

Гэты спосаб мы называем альгебраічным. Тэрмін „альгебра“ я тутака разумею ня ў сэнсе дысцыпліны, якая мае свае вузкія мэты, а ў сэнсе сымболічнага мысьленьня.

Толькі гэты спосаб можа даць нам матэматычную схэму натуральных навук, толькі ён можа дапамагчы нам пабудаваць паралельна знадворнаму ўнутраны сьвет ідэй, які павінен даць агульны вобраз сьветабудовы.

Альгебраічная схэма сымболяў ёсьць самая абстрактная, але затое самая блізкая да ўнутранога сьвету чалавека, а дзеля гэтага і самая рэ-

альная. Гэтую схэму даў нам гэні новага часу, які прыдаў мэтоду старой матэматыкі пэўную пачуцьцёвую форму шляхам утварэньня альгебраічнага сымболізму.

Трэба дасканала выясьніць сабе тое, што сутнасьць альгебры заключаецца ў яе агульнасьці. У самым агульным выпадку кожны сымболь і кожнае цьвярджэньне альгебраічнага сказу можа быць інтэрпрэтавана ў тэрмінах вядомых опэрацый над абстрактнымі рэчамі, як, напрыклад, лікі, клясы, або сказы. Гэтыя опэрацыі выражаюць толькі стасункі між гэтымі рэчамі.—Альгебра, кажа вышэйпамянёны Журдэн, дае нам дзіўны спосаб для кароткага, яснага і зразумелага выражэньня вельмі складаных стасункаў між абстрактнымі рэчамі. Пабуднай прычынай для вывучэньня такіх стасункаў спачатку была, і ўсё яшчэ бывае ў многіх выпадках, цесная сувязь між стасункамі пэўных абстрактных рэчаў і стасункамі між пэўнымі рэчамі, якія мы бачым, чуем і адчуваем у жыцьці навокал нас.

І праўда, калі палядзець на бяскрайнае багацьце матэматычных навук, калі ўспомніць тыя складаныя і шматлікія спосабы, якімі карыстаецца сучаснае прыродазнаўства, то гэтая маса пунктаў дотыку між рэальным жыцьцём і нашымі сымболічнымі схэмамі, сапраўды, прадстаўляецца проста дзіўнай. Праўда, гэтыя сымболічныя схэмы больш вузкія, чымся сапраўднае жыцьцё: у іх дадзен толькі „колькасны“ бок жыцьця і ігноруецца „якасны“ бок, але ўсё-ж такі мы бачым, што між законамі мысьлі і законамі знадворнага сьвету існуе нейкая гармонія; такая-ж гармонія існуе і між разьвіцьцём матэматычных сымболяў і разьвіцьцём рэальных стасункаў прадметаў і зьявішчаў.

Мала таго. Гісторыя алгебраічнага сымболізму дае нам проста парадоксальныя прыклады таго, што разьвіцьцё сымболізму часам цягне за сабой нават узрост навукі, адкрыцьцё новых законаў. Вядомы ленінградзкі профэсар Богамолаў у сваім апошнім артыкуле аб „эстэтычных элемэнтах у матэматыцы“, („Вопросы преподавания математики“. Под ред. Сигова и Симонова, Ленинград, 1925) гаворыць, што, калі-б 20 год таму назад італьлянскія матэматыкі Рыччы і Леві-Чывіта не распрацавалі сымболікі тэнзорнага аналізу (так званага „абсолютнага дыфэрэнцыяльнага вылічэньня“), —то Эйнштэйн пэўна ня змог-бы вывесьці свайго закону цяжэньня з агульных палажэньняў тэорыі адноснасьці.

У гэтым месцы дазвольце мне спыніцца і расьсеяць тое непаразуменьне, якое я мог выклікаць сваім парадоксальным (на першы погляд) прыкладам і ўжываньнем выразу „гармонія між законамі мысьлі і законамі знадворнага жыцьця“.

Ні ў якой меры я не зьяўляюся прыхільнікам матэматычнага ідэалізму, які гаворыць, што чыстая матэматыка ёсьць сыстэма лёгічных вынікаў, якія выводзяцца пры помачы сымболяў з свабодна ўстаноўленых прадпасылак (вышэй цытаваны артыкул проф. Богамолава).

Не, і тысячу разоў не. Можна згадзіцца, што матэматыка ёсьць сыстэма лёгічных вынікаў, але апошнія выводзяцца з не свабодна ўстаноўленых

прадпасылак. І сьмешна было-б спрачацца проці таго, што, як кажа гэніальнейшы матэматык нашага веку Анры Пуанкарэ,—„няма лёгікі без псыхолёгіі“. А раз так, то і ня можа быць ніякай „наперад устаноўленай гармоніі“ між нашымі „знанием и бытием“. І калі мы і заўважаем законамерную сувязь між навуковымі ісьцінамі ў форме сымболяў і між рэальнымі стасункамі зьявішчаў, то гэты ўзрост навуковай ісьціны зьяўляецца, кажучы словамі Юшкевіча, толькі адваротнай стараной пераможнай барацьбы чалавека за існаваньне. Між формай ступні і формай яе сьледу на зямлі—вялізная падобнасьць, але для вытлумачэньня гэтай падобнасьці няма патрэбы зьвяртацца да вучэньня аб наперад устаноўленай гармоніі. Тое самае можна сказаць і аб матэматычным сымболізьме. Ён зьяўляецца сьледам, адбіткам пераможнага поступу чалавека на матэрыі яго мазгоў. І як з сьледу нагі мы выводзім датуль невядомыя для нас вынікі аб форме самай нагі, так і з сьледу ўнядрэньня чалавека ў прыроду, з сьледу, які мы выражаем у матэматычных сымболях, мы выводзім новыя стасункі, якія, разумеецца, існуюць і ў натуры. Вось чаму Пуанкарэ меў права сказаць, што чалавек валадае здольнасьцю інтуіцыйна (але не свабодна) утвараць сымболі, якія адбіваюць стасункі рэальных рэчаў, рэальных зьявішчаў.

Цяпер, спадзяюся, будзе ясным і той прыклад з вывадам Эйнштэйна закона цяжэньня, дзякуючы ўдалай сымболіцы тэнзорнага аналізу, і маё цьвярджэньне, што прогрэс матэматыкі, як навукі, зьяўляецца функцыяй разьвіцьця матэматычнага сымболізму, або—лепш сказаць—калі прогрэс матэматыкі зьяўляецца функцыяй некалькіх зьменных, то аднэй з гэтых зьменных ёсьць разьвіцьцё матэматычна-альгебраічнага сымболізму.

Мне могуць зараз сказаць,—усё гэта філёзофія, 'дайце факты. Да гэтага я й хачу перайсьці.

Калі мы прасочым гістарычнае разьвіцьцё сымболічнага мысьленьня, то пераканаемся, што яно цалком супадае з разьвіцьцём альгебраічнага аналізу, як асобнай матэматычнай дысцыпліны. Поступы таго і другога ідуць паралельна,—і як часта пры гэтым разьвіцьцё сымболізму выклікае да жыцьця новыя ідэі ў суседніх дысцыплінах, а часам і проста ўтварае іх!

Сапраўды. Вось першы пэрыод гісторыі альгебры, яе зараджэньне. Тутака мала прозьвішчаў IV век дае нам славутнага александрыйца Діофанта, VI век—індуса Арыябхату, VII—Брамагупту, IX—араба Магомэта Ібн-Музу, XI—Омара аль-Гайямі, XII—індуса Баскару. Сымболізм толькі пачынае ўзьнікаць: зьяўляюцца сымболі лікаў у дзесятковай нумарацыі, першыя спробы ўводу літар, як агульных лікаў.

Ня дзіва, што і альгебра, як навука, дае яшчэ малыя вынікі: уменьне разьвязаць у вагульнай форме квадратовае раўнаньне, прымітыўныя опэрацыі над ірацыянальнымі лікамі, геомэтрычная пабудова разьвязкаў квадратовага і кубічнага раўнаньня, разьвязаньне неазначаных раўнаньняў, прогрэсіі.

Але вось зблiжаецца XVI век, які пачаў сабою другі пэрыод у эволюцыі альгебры, і мы прысутнічаем пры вялізным прогрэсе ў альгебраічным сымболізьме: Ян Відман у 1489 годзе дае знакі + і —, Кардано ўводзіць адмоўныя лікі, Штіфэль дае ў 1544 г. знак корня і ўводзіць адмоўныя паказальнікі, Робэрт Рэкорд у 1557 г. дае знак роўнасьці, Франсуа Віэт у сваім „Уводзе ў мастацтва аналізу“ (1591) шырока карыстаецца літарамі, як сымболямі агульных лікаў, дзякуючы чаму ўваходзіць у гісторыю матэматыкі ў якасьці творцы новай эры разьвіцьця альгебры. Томас Гарыот дае ў 1631 г. знакі няроўнасьцяй, Валіс—знак бяскрайнасьці, Джон Нэпір уводзіць лёгарытмы, Альбэрт Жырар у 1629 г. дае дужкі і ўводзіць уяўныя лікі, хай яшчэ няпрызнаныя, але пройдзе дзесятак год і Рэнэ Дэкарт (1596—1650) узаконіць іх. Ісаак Ньютон (1642—1727) і Лейбніц уводзяць дыфэрэнцыялы і інтэгралы, Эйлер (1707—1783) уводзіць сымболі для ўяўных лікаў, Жан Арганд (1768—1822) іх інтэрпрэтуе і ўводзіць назву і сымболь модуля.

Такі самы поступ у гэтую эпоху XVI-XVIII вякоў мы наглядаем і ў разьвіцьці альгебры, як навукі: Сцыпіо дэль-Фэрро разьвязвае ў 1505 г. кубічнае раўнаньне формы $x^3+px+q=a$, Тартальля (1500—1557) разьвязвае другі від няпоўнага кубічнага раўнаньня $x^3+px^2+q=a$, Кардано (1501—1576), гэты талентны компілятар, даведваецца аб абодвух разьвязках і дае спосаб для разьвязаньня поўнага кубічнага раўнаньня, Фэррары ў сярэдзіне XVI веку разьвязвае раўнаньні 4-ай ступені, Бомбельлі дабывае ў 1572 годзе корні з уяўных лікаў, Франсуа Віэт ведае залежнасьць між разьвязкамі і коэфіцыэнтамі квадратовага і кубічнага раўнаньняў, Томас Гарыот ведае, што раўнаньні вышэйшых ступеняў атрымліваюцца перамножаньнем лінейных множнікаў, Дэкарт дае палажэньне аб дзяленьні левай часткі раўнаньня на двучлен віду $(x-a)$, дзе $a$— адзін з разьвязкаў раўнаньня, ён-жа дае сваё славутнае правіла знакаў; галяндзец Гудд (1624—1704) дае правіла азначэньня кратных разьвязкаў і спосаб для разьвязаньня кубічных раўнаньняў, Ньютон дае спосаб прыблізнага вылічэньня разьвязкаў раўнаньня, а таксама правіла для знаходжаньня граніц разьвязкаў, ён-жа кладзе пачатак тэорыі сымэтрычных функцый, Чырнгауз (1651—1708) дае сваё вядомае ператварэньне, якое захавала сваё значэньне і для сучаснай альгебры, бо дае сродкі прывадзіць раўнаньні больш высокіх ступеняў да некаторых нормальных формаў. Так, напрыклад, раўнаньні 5-ай ступені прыводзіць да так званай Брынг-Жэрардавай формы $x^5+x+a=o$.—Далей, Роль (1652—1719) разьвязвае двучленныя раўнаньні, Абрагам дэ-Моавр (1667—1751) разглядае зваротныя раўнаньні, Маклёрэн (1698—1746) умее паніжаць ступень раўнаньня і азначаць лік уяўных разьвязкаў, Эдварт Уорынг (1734—1798) умее знаходзіць граніцы сапраўдных разьвязкаў раўнаньня, Габрыэль Крамэр, (1704—1752), Эт'ен Бэзу (1730—1783), Вандэрмонд (1735-1796), Лягранж (1736—1813), Ляпляс (1749-1828), Бінэ (1786—1856) і ўрэшце Якобі (1804—1851) клясычна распрацоўваюць тэорыю дэтэрмінантаў.

Ня меншы ўплыў зрабіў узрост альгебраічнай мысьлі XVI-XVIII вякоў і на суседнія дысцыпліны.—Аналітычная геомэтрыя, якая моцна зьвязала альгебру з геомэтрыяй, не магла-б зьявіцца на сьвет без альгебраічнага сымболізму.—Альгебра-ж, як дысцыпліна, прынесла аналітычнай геомэтрыі таксама вялікую карысьць, іменна ў пытаньнях аб пучку конічных сячэньняў, якія разьвязваюцца заменай раўнаньня 4-ай ступені двома квадратовымі раўнаньнямі з двома невядомымі.—Вывучэньне альгебраічных сымболяў, г. зн. лікаў, прывяло да грандыёзных абагульненьняў у тэорыі лікаў, якія былі дасягнуты Фэрма (1601—1665). Мэтод дэтэрмінантаў знашоў зусім нечаканыя прыстасаваньні: Ляпляс імі карыстаецца ў нябеснай мэханіцы, Лягранж—у тэорыі кругаабаротнага руху Монж—у геомэтрычных дасьледваньнях. Дэтэрмінанты робяцца няўхільнай прыладай дасьледваньня ў галіне бяскрайна-малых і тэорый функцый, і ў сучасны момант няма больш ніводнай галіны матэматыкі, у якой дэтэрмінанты не знашлі б сабе прыстасаваньня, у якой можна было-б бяз іх абыйсьціся.—Далей.—Знаходжаньне разьвязкаў раўнаньня $x^3+px+q=o$ прывяло да разьвязаньня старой загадкі аб трысэкцыі кута.—Тэорыя праўдападобнасьцяй, якая нарадзілася ў гэтую эпоху, цалком была пабудована на альгебры. — Спосабы раскладу альгебраічнай функцыі ў рады прывялі Ньютона да разьвязаньня аднэй задачы аб найбольшых і найменшых велічынях, да так званага паралелограма Ньютона.—Урэшце, аналіз бяскрайна малых, ці ня вырас ён на грунце альгебраічнага аналізу? Праўда, вырасшы, ён у сваю чаргу прынёс і альгебры вялізную дапамогу ў справе знаходжаньня гранічнага значэньня дробаў, у справе знаходжаньня кратных разьвязкаў, у справе адшуканьня граніц разьвязкаў, у вылічэньні разьвязкаў раўнаньня і г. д.

У пачатку XIX веку. г. зн. у пачатку III пэрыоду гісторыі альгебры, круг сымболяў, здавалася, быў закончан, альгебра, як навука, умела разьвязваць у радыкалах раўнаньні 3-яй і 4-ай ступені з літарнымі коэфіцыэнтамі і раўнаньні ўсялякіх ступеняў з лікавымі коэфіцыэнтамі. Праўда, у вапошняй галіне не хапала агульных прынцыпаў, адсутнічалі агульныя мэтоды, якія-б дазвалялі знаходзіць прыбліжаныя значэньні разьвязкаў з пажаданай ступеньню дакладнасьці.—Гэта чыста практычная старана справы была прадметам дасьледваньняў многіх выдатных матэматыкаў XIX веку. Тутака мы бачым такія імёны, як Лягранж (1736—1813), які заснаваў свой спосаб прыбліжанага вылічэньня разьвязкаў на тэорыі неперарыўных дробаў, Фур'е (1768—1830), які ўгрунтаваў спосаб Ньютона, Бюдан, які даў у 1811 годзе ў сваім дакладзе Парыскай Акадэміі Навук спосаб азначэньня ліку ўяўных разьвязкаў, Кароль-Фрыдрых Гаусс (1777—1855), які даў закончаную тэорыю разьвязаньня двучленных раўнаньняў і давёў у 1828 годзе асноўную тэорэму вышэйшай альгебры, Вільям Горнэр (1786—1837), які даў спосаб прыбліжанага вылічэньня разьвязкаў, удасканалены ў 1872 г. дэ-Морганам,—жэнэвец Якуб Штурм

(1803—1855), які адкрыў у 1829 годзе сваю славутную тэорэму, дзякуючы якой мы можам дакладна азначыць лік сапраўдных разьвязкаў функцыі ў даным інтэрвале, урэшце Грэффэ, які даў у 1837 годзе асаблівы мэтод прыбліжанага вылічэньня разьвязкаў раўнаньня без папярэдняга аддзяленьня разьвязкаў. Мэтод гэты быў удасканалены ў 1841 годзе вядомым астрономам Энке для выпадку кратных і ўяўных разьвязкаў.

Такім чынам, задача знаходжаньня прыбліжаных разьвязкаў раўнаньня ўсялякай ступені з лікавымі коэфіцыэнтамі была разьвязана, і з гэтага часу яна стала прадметам так званай „вышэйшай альгебры" (у вузкім сэнсе).—Ня тое было з раўнаньнямі літарнымі.

На працягу 17-го і 18-га вякоў альгебраістыя рабілі безьліч спроб адкрыць альгебраічнае разьвязаньне ў радыкалах раўнаньняў вышэй 4-ай ступені. Мабыць, без вялікай хібы можна сказаць, што кожны чэсталюбны матэматык раней ці пазьней прабаваў свае сілы ў гэтым кірунку. Урэшце, паўстала падазрэньне, што задача гэтая, падобна старым загадкам аб квадратуры круга, падваеньні куба і трысэкцыі кута, не дапускала разьвязаньня таго роду, які прабавалі знайсьці. Трэба было давесьці, што альгебраічнае разьвязаньне ў радыкалах раўнаньняў вышэй 4-ай ступені з літарнымі коэфіцыэнтамі наогул немагчыма.

Першы, хто праявіў у гэтым стасунку навуковую сьмеласьць, быў італьлянскі доктар і матэматык Паоло Руффіні, які ў сваёй кнізе „Агульная тэорыя раўнаньняў" (1799) кажа, што ў агульнай форме альгебраічнае раўнаньне вышэй 4-ай ступені не разьвязваецца ў радыкалах, але Руффіні ня змог строга давесьці гэтую тэорэму, бо ён грунтаваўся на адным палажэньні,ісьцiннасьць якога была ня зусім яснай.

Строгі довад гэтага палажэньня даў у 1826 годзе славутны Абэль (1802—1829), імя якога занесена залатымі літарамі на скрыжалі гісторыі навукі і дасьледваньнямі якога ўласна й пачынаецца III пэрыод гісторыі альгебры.

Калі першы пэрыод разьвіцьця альгебрычнай мысьлі, які цягнуўся да 16-га веку, можна назваць зараджэньнем альгебры, а другі, які цягнуўся 3 вякі: 16—18,—кондэнсацыяй альгебраічнай мысьлі, то апошні пэрыод мы павінны лічыць залатым векам альгебры, векам разьвіцьця новых сымболяў, новых тэорый. Гэтыя новыя тэорыі дзівяць нас безгранічнасьцю сваіх ідэй і могуць прыводзіць нас часам проста да роспачы, дзякуючы сваёй неклясыфікаванасьці, перакрыжаваньню сваіх падзелаў, дзякуючы ўрываньню аднэй тэорыі ў галіну другой, а часам і дзякуючы сваёй нястрогай угрунтованасьці.

Яшчэ Абэль, давёўшы немагчымасьць разьвязаньня ў радыкалах агульнага раўнаньня вышэй 4-ай ступені, гэтым самым паказаў, што радыкал зьяўляецца занадта бедным сымболем і альгорытмам, якога досыць толькі для выражэньня разьвязкаў 2-ой, 3-яй і 4-ай ступені. Трэба, значыцца, або чужыя для альгебры сродкі для выражэньня разьвязкаў у функцыі коэфіцыэнтаў, або новыя сымболі.

І, што асабліва цікава, сам Абэль увёў у навуку эліптычныя функцыі, якія зьявіліся потым якраз прыгодным альгорытмам для выражэньня разьвязкаў раўнаньня 5-ай ступені. Славутны францускі матэматык Эрміт (памёр у 1901 годзе), які даў упрошчаны довад тэорэмы Абэля, у 1858 годзе паказаў, што агульнае раўнаньне 5-ай ступені разьвязваецца пры помачы так званых „эліптычных модуль-функцый“. Гэтае разьвязаньне зьяўляецца аналёгам разьвязаньня кубічных раўнаньняў пры помачы трыгономэтрычных функцый.

„У 1879 годзе зьявілася праца аўстрыяцкага вучонага Пухта „Октаэдр і раўнаньні 4-ай ступені“, а ў 1884 годзе вышла ў сьвет клясычная кніга буйнейшага матэматыка апошняга часу Фэлікса Клейна († 1925) „Лекцыі аб ікосаэдры і аб разьвязаньні раўнаньняў 5-ай ступені“.—Аказалася, што можна пабудаваць пры помачы тэорыі функцый комплекснага зьменнага раўнаньне октаэдра, да якога зводзіцца агульнае разьвязаньне раўнаньня 4-ай ступені, а да раўнаньня ікосаэдра можна зьвясьці агульнае раўнаньне 5 ай ступені; прычым выявілася, што раўнаньне окатаэдра разьвязваецца ў радыкалах, а для раўнаньня ікосаэдра гэта аказалася немагчымым.—Клейн прапануе для разьвязаньня раўнаньня 5-ай ступені новы альгорытм—раўнаньне ікосаэдра, якое разьвязваецца пры помачы эліптычных модуль-функцый.—У мэмуары „Аб разьвязаньні агульных раўнаньняў 5-ай і 6-ай ступеняй“, які вышаў у 1905 годзе, Клейн ідзе яшчэ далей і паказвае, што раўнаньні вышэйшых ступеняў разьвязваюцца аналёгічным шляхам пры вывучэньні ўласьцівасьцяй правільных зьверхграньнікаў, г. зн. цел прасторы $n$ вымераў.

Іншым шляхам ідуць: Гаргрыв, які запрапанаваў у сваім „Досьледзе разьвязаньня альгебраічных раўнаньняў“ (1880) новы альгорытм, які мае ў сваёй аснове вядомаеператварэньне Чырнгауза-Жэрара (1834), а таксама Брыоскі, які даў разьвязаньне раўнаньня 6-ай ступені пры помачы некаторых трансцэндэнтных лікаў.

Калі тэорыя раўнаньняў абавязана сваімі вялікімі посьпехамі Лягранжу, Гаусу і Абэлю, то ўсё ж ніхто з іх ня мог над..ць навочнасьць асноўнаму пачатку, ад якога залежаць усе ўласьцівасьці раўнаньняў. Слава гэтага адкрыцьця выпала на долю геніяльнага француза Эварыста Галюа (1811-1832), тварца так званай „тэорыі груп“, аднэй з найцяжэйшых і адцягненых галін матэматыкі, якая атрымала ў апошнія часы назву „новай альгебры“. Найважнейшы вынік, да якога прышоў Галюа, грунтуючыся на тэорыі груп, зводзіцца да таго, што раўнаньне ўсялякай першапачатковай ступені разьвязваецца ў радыкалах толькі пры ўмове, што кожны разьвязак раўнаньня выражаецца рацыянальна праз два адвольна выбраныя разьвязкі. Іншымі словамі, для разьвязаньня ў радыкалах неабходна і досыць ведаць два разьвязкі, іншыя будуць іх рацыянальнымі функцыямі. Такім чынам, Галюа даў гэтай цікавай тэорэмай дакладны крытэрыум разьвязаньня ў радыкалах раўнаньняў 5-ай, 7-ай, 11-ай і г. д. ступеняй.

Цікава, што Галюа сваім прыстасаваньнем да альгебраічных раўнаньняў неперарыўных групператварэньняў зьменных падказаў Софусу Лі ў канцы XIX-га веку з посьпехам прыстасаваць той самы мэтод да дыфэрэнцыяльных раўнаньняў.

Пасьлядоўнікамі ідэй Галюа былі: Жозэф Бэртран (1829—1900), Жордан (трактат 1870 г.), Сільвэстэр і Нэтто (трактат 1882 г.).

Другая палова XIX-га веку адзначылася вялікімі дасьледваньмі асноў альгебры з боку такіх матэматыкаў, як Вільям Гамільтон, Герман Грасман і Бэнджамэн Пірс. Яны прыдумалі зусім новыя сымболі і новыя альгебры, якія кіруюцца законамі, іншымі, чымся законы звычайнай альгебры, так званыя „складаныя альгебры“.

Так, Гамільтон у 1853 годзе запрапанаваў пад назвай кватэрніёнаў разглядаць комплексныя лікі з большай колькасьцю, чымся дзьве, састаўныя часткі. Гэтыя кватэрніёны настолькі замацаваліся ўжо ў заходняэўропэйскай навуцы, што Чэзаро ў сваім падручніку, выкладаючы вынік з асноўнай тэорэмы вышэйшай альгебры, робіць увагу, што, калі ў галіну лікаў уключыць кватэрніёны, то, напрыклад, агульнае раўнаньне 2-й ступені будзе мець 16 разьвязкаў.

Цікава, што ў тэорытычным прыстасаваньні кватэрніёнаў да геомэтрычнай оптыкі Гамільтон прышоў да пераканаўньня ў існаваньні ў крышталях пэўнага кірунку, у якім прамень сьвятла праламляецца ў цэлы конічны пучок праменьняў, так што, калі глядзець праз крышталь у гэтым кірунку на сьвецячы пункт, то гэты пункт расплываецца ў кругавое сьвецячае колца, унутры якога знаходзіцца цёмны кружок. Нагляданьне пацьвердзіла мысль Гамільтона.

Вільям Кліффорд (1845—1879), які даў паміж іншым першы чыста альгебраічны довад таго, што кожнае раўнаньне з сапраўднымі ці комплекснымі коэфіцыэнтамі мае, прынамсі, адзін разьвязак,—у сваёй працы „Здаровы сэнс дакладных навук“ уводзіць бікватэрніёны, якія зьяўляюцца разьвіцьцём Гамільтонавых кватэрніёнаў.—Цікава, што гэтая тэорыя прынесла карысьць мэханіцы ў тэорыі вінтоў, разьвязваючы некаторыя пытаньні сыстэмы матэрыяльных пунктаў (гл. Болла—„Тэорыя вінтоў“).

Увод гэтых гіпэр-комплексных лікаў з іхнімі дзіўнымі законамі опэрацый прымушае нас, ідучы ўсьлед за Грассманам, разглядаць звычайную альгебру, як частны выпадак усеагульнай альгебры або вучэньня аб формах.

Частным выпадкам гэтага вучэньня аб формах зьяўляецца і новая альгебра лёгікі або, так званая, сымболічная лёгіка, утвораная Джорджам Булем (гл. яго „Законы мысьлі“, 1854 г.), якая знашла сабе асабліва многа прыхільнікаў сярод матэматыкаў апошняга часу, да ліку якіх належыць памянёны ўжо Ф. Журдэн.

Цікава, што пры помачы тэорыі формаў Артур Кэйлі даў новы мэтод разьвязаньня раўнаньня 4-ай ступені ў агульнай форме.

У вапошнія часы былі таксама спробы разглядаць лікі з бяскрайнай колькасьцю адзінак, прычым такім лікам была дана назва не-архімэдавых лікаў.

З другога боку, разьвіцьцё тэорыі альгебраічных лікаў прывяло Куммэра, пры імкненьні давесьці немагчымасьць задачы Фэрма, да адкрыцьця вялізнай вагі новых лікаў, названых ідэальнымі. Гэтыя няіснуючыя лікі, групуючыся ў здабыткі, могуць даваць лікі існуючыя. Тэорыя ідэальных лікаў, разьвітая Дэдэкіндам, Кронэкерам і Ганзэлем і якая прадстаўляе сабою кульмінацыйны пункт сучаснай тэорыі лікаў, была перанесена ў тэорыю альгебраічных функцый. Ад гэтага збліжэньня тэорыі альгебраічных функцый і лікаў выйграла таксама тэорыя лікаў, бо расклад функцый у рады навёў Ганзэля на адкрыцьцё так званых $p$-адных лікаў, сымболяў, з якімі не сумяшчаецца ніякага паняцьця аб велічыні і для якіх паняцьці „больш“ і „менш“ адпадаюць.

Урэшце, вучэньне аб безьлічах або ансаблях Георга Кантора (памёр у 1918 годзе) прынясло нам новыя лікі, так званыя трансфінітныя, якія былі спачатку прыняты недружалюбна, а зараз знаходзяць усё больш і больш сабе прыхільнікаў.

Як бачым, XIX-ы век сапраўды можа быць названы пэрыодам росквіту альгебраічнага сымболізму, а разам з тым і пэрыодам росквіту альгебры, як навукі.

Альгебра разьвілася і падзялілася на галіны, яна ўвабрала ў сябе такія дысцыпліны, як комбінаторыку, тэорыю дэтэрмінантаў, вышэйшую альгебру, тэорыю груп, тэорыю інварыянтаў, абэлевых, альгебраічных функцый, новую альгебру і складаную альгебру.

Паралельна эволюцыі альгебраічнай мысьлі ў XIX веку ўзрастаў і ўплыў яе на суседнія дысцыпліны.

Так, пытаньні інтэрполяцыі і табуліраваньня функцый, якія зьяўляюцца чыстай альгебрай, выраслі ў цэлую дысцыпліну, так званую „тэорыю канечных розьніц“. Праўда, вырасшы ў асобную галіну, лічэньне „канечных розьніц“, у сваю чаргу дало альгебры спосабы вылічэньня разьвязкаў раўнаньня.

Тэорыя інварыянтаў дала вельмі многа нават у мінэралёгіі. Вядомы мінэралёг Фёдараў вычэрпваючы вывучыў сымэтрыю прасторавых фігур, а адсюль і задачу знаходжаньня крышталёграфічных груп толькі дзякуючы прыстасаваньню тэорыі інварыянтаў. З другога боку, вывучэньне сымэтрыі многамерных прастор прывяло да разьвязаньня важных задач тэорыі лікаў.

Далей. Тэорыя функцый комплекснага зьменнага, так разьвітая спачатку Кошы (1789—1857), а потым Каролем Вайерштрасам (1815—1897), цалком выплывае з вывучэньня функцый альгебраічных.

Довады немагчымасьці некаторых пабудоў пры помачы цыркуля і лінейкі цалком выходзяць з альгебры.—Цікава гісторыя шматлікіх і да-

рэмных спроб разьвязаньня квадратуры круга; пытаньне было канчаткова выясьнена толькі пасьля таго, як Ліндэману ўдалося, ідучы сьледам за Эрмітам у яго дасьледваньнях аб паказальнікавай функцыі, давесьці, што π ня можа быць разьвязкам альгебраічнага раўнаньня з рацыянальнымі коэфіцыэнтамі.

Тэорыя падзелу круга на часткі таксама цалком грунтуецца на альгебры, іменна на тэорыі разьвязаньня двучленнага раўнаньня віду $x^n-a=o$, бо радыкал $n$-ай ступені мае $n$ значэньняў, прычым усе гэтыя значэньні адпавядаюць пунктам, якія разьмешчаны на акружыне круга і дзеляць гэты круг на роўныя часткі.

Тэорыя палей—гэтая галіна тэорыі лікаў, утвораная Эрмітам, мае свае асновы ў альгебры.

Далей. Тэорэма Штурма давяла сапраўднасьць разьвязкаў аднаго раўнаньня, ад якога залежыць знаходжаньне восяў другога парадку. Гэтая-ж тэорэма знаходзіцца ў сувязі з некаторымі дасьледваньмі ў галіне матэматычнай фізыкі, напрыклад, з пытаньнем аб тым, колькі вузлоў можа мець нацягнутая вагальная струна.

Тэорыя Коші аб аддзяленьні ўяўных разьвязкаў, якая зьявілася распаўсюджаньнем тэормы Штурма, дала магчымасьць знаходжаньня фокусаў эліпса Штэйнэра, упісанага ў трыкутнік, утвораны, як вяршынямі, разьвязкамі заданага раўнаньня.

Гэтая самая тэорыя Коші аказалася часным выпадкам больш агульнай тэорыі, утворанай Кронэкерам і названай ім тэорыяй характарыстык. Прыстасаваньне гэтай тэорыі характарыстык (у дасьледваньнях Гурвіца) аказалася патрэбным нават у галіне практычнай тэхнікі па пытаньні аб турбінах.

Разьвязаньне параўнаньняў у тэорыі лікаў пазычыла свае спосабы з разьвязаньня альгебраічнага раўнаньня, і для параўнаньняў разьвіваецца цяпер тэорыя, зусім аналёгічная тэорыі альгэбрычных раўнаняў.

Далей. Як вядома, Чэбышовым былі сконструяваны розныя прылады, як, напрыклад, швыралка для сортаваньня насеньня, ступаючая тачка, рухомы пюпітр і інш., якія маюць мала практычнага значэньня, але дзякуючы тэорыі якіх Чэбышоў разьвязаў новыя пытаньні на maxima і minima. Характарнай уласьцівасьцю гэтых пытаньняў зьяўляецца іхняя сувязь з тэорыяй альгебраічных непарыўных дробаў.

Далей. Спосаб найменшых квадратаў грунтуецца на альгебры.

Тэорыя неазначаных раўнаньняў пасунула разьвіцьцё тэорыі лікаў у справе так званых „ступянёвых лішак“. Праўда, і наадварот, тэорыю лікаў мы цяпер прыстасоўваем для знаходжаньня першапачатковых разьвязкаў наезначанага раўнаньня, а таксама ў справе раскладу лікаў на множнікі.

Урэшце, Гільбэрту і яго вучням удалося абагульніць альгебраічныя тэорыі на так званыя інтэгральныя раўнаньні, адкрытыя ў 1900 годзе

швэдзкім матэматыкам Фрэдгольмам. На гэтых раўнаньнях мы паглыбляемся яшчэ раз у таемную сувязь і ўзаемны стасунак альгебраічнага і трансцэндэнтнага аналізу.

Даючы пералічаныя прыклады ўплыву альгебры на суседнія навукі, я зусім не адмаўляю і адваротнага ўплыву.

Мы ведаем, як часта дапамагаюць геомэтрычныя меркаваньні пры разьвязаньні альгебраічных задач, мы ведаем аб новай дысцыпліне, так званай номографіі, якая, грунтуючыся на аналітычнай геомэтрыі, дае нам спосабы прыбліжанага вылічэньня разьвязкаў раўнаньняў, мы ведаем аб помачы альгебры з боку дыфэрэнцыяльнага вылічэньня, з боку тэорыі лікаў, тэорыі канечных розьніц і г. д.; мы ведаем аб тым, што Клейн у ваднэй працы, якая адносіцца да Рыманавай тэорыі альгебраічных функцый, прыстасоўвае нават тэорыю электрычнасьці, дзякуючы чаму атрымлівае большую навочнасьць у гэтай абстрактнай тэорыі.

Сваімі прыкладамі я толькі хацеў паказаць, як шырока разьлілася альгебраічная мысьль і які вялікі дыяпазон яе ўплыву ў матэматычных навуках, а адсюль і ў тэхніцы.

„... Усё гэта так. Альгебраічны сымболізм, выпрацаваны яшчэ ў пачатку 19-га веку і з такой карысьцю прыстасаваны ў памянёных выпадках, мае, зразумела, вялікае значэньне.—Але ўсе яго апошнія пабудовы, усе гэтыя новыя і складаныя альгебры, ці не занадта яны штучны, ці не зьяўляюцца яны толькі бясплоднымі фокусамі чалавечай мысьлі, якія выклікаюцца інтэлектуальнымі запатрабаваньнямі, некаторых творчых натур?—Бо ад іх мы ня бачым рэзультатаў, накіраваных да здаваленьня нашых фізычных патрэб“.

Вось—пытаньне, якое можна часта пачуць ад нематэматыкаў.

Так, гэтыя новыя тэорыі, за малымі выключэньнямі, мажа быць і ня маюць тэхнічных прыстасаваньняў, але ці можна сказаць, што яны назаўсёды застануцца бясплоднымі ў гэтым стасунку? Ці не дае нам гісторыя матэматыкі шматлікіх прыкладаў тэорый, якіх спачатку ня прымалі, а потым з посьпехам прыстасоўвалі на практыцы? Ці не дае нам гэтая гісторыя таксама прыкладаў таго, што паняцьці пачыналі ўжывацца задоўга да іх формальнага ўводу, дый пасьля таго імі доўга карысталіся, ня маючы на гэта лёгічнага апраўданьня і не прадстаўляючы сабе яшчэ ясна іхняй прыроды?

Дае, і многа дае. Мы ведаем, напрыклад, што матэматыкі цэлыя стагодзьдзі карысталіся „адмоўнымі“ і „дадатнымі“ лікамі, ужываючы першыя бяз знаку і не сумняваючыся ў законнасьці гэтага.

Тое самае можна сказаць і аб усіх новых ідэях. Пройдуць гады, і, як мы бачылі ўжо на прыкладах кватэрніёнаў, біватэрніёнаў і ўсеагуль-

най альгебры,—усе гэтыя новыя ідэі знойдуць сабе прыстасаваньне ў тэхніцы, а хто ведае, ці ня зробяць яны яшчэ большай службы, і, як гэта ні фантастычна,—быць можа, дзякуючы іменна гэтым новым сымболям, зьдзейсьніцца ідэя пазіграфіі Пэано, і мы зможам выразіць усе паняцьці, якімі опэруе даная навука,—адэкватна і дакладна найменшым лікам катэгорый, устанавіць для гэтых катэгорый і опэрацый знакі і сымболі, і, такім чынам, зрабіць магчымым той calculus ratiocinator, пры помачы якога ўсялякае разважаньне будзе заменена вылічэньнем, аб чым марыў яшчэ вялікі Лейбніц.

# ПЫТАНЬНІ КУЛЬТУРЫ КІНО

## Досьледы рэволюцыйных кірункаў у СССР

*Дуалізм і монізм*

**Х. Хэрсонскі**

Культура буржуазна-фэўдальнага ладу прасякнута дуалізмам. Сьвядомасьць расшчапляецца паміж „небам“ і „зямлёю“, паміж „душою“ і „целам“, паміж „вышэйшым“ і „ніжэйшым“, паміж крозамі мараў і цяжкімі буднямі.

Ня цяжка прасачыць, што гэткая філёзофія зусім сваячасова абслугоўвала лад эксплёатацыі „вышэйшымі“ клясамі ніжэйшых кляс, таксама лад вышэйшых і ніжэйшых кастаў, як у Індыі, лад жрацоў і верных, князёў і нявольнікаў. Гэткая філёзофія абслугоўвала і выпраўдвала гэты лад і ахоўвала яго. У гэтым ладзе трэба было накіраваць энэргію вялізнай большасьці насельніцтва прэч ад рэальных зямных інтарэсаў, адцягнуць іх сьвядомасьць ад стварэньня свайго „зямнога“ шчасьця. Бо толькі шляхам рэволюцыі ў буржуазна-фэўдальным і капіталістычным сьвеце можна было пролетарыяту і сялянству ўзяць у свае рукі кіраваньне ўласным „лёсам“. Інтэлігенцыя пануючых кляс натуральна не магла хацець сячы той сук, на якім сама сядзела, яна ўважала за лепшае глядзець на зямлю звысака, а марамі занасіцца ў „вышэйшае“—адцягненае, абстрактнае фантазыяваньне. У адносінах да дапытлівае і зацікаўленае прыгнечанае клясы яна грала ролю вядомага ашуканца ў старым жарце, які, каб адцягнуць увагу садоўніка, крычыць яму: „Глядзі на неба!“, а сам крадзе яго яблыкі. У гэтым кірунку дзейнічала рэлігія, і таму яна правілова празвана дурманам для народу. У гэтым-жа кірунку дзейнічалі і філёзофія, і мастацтвы. Правілова назваць і шмат якія продукты мастацтва, створаныя ідэолёгіяй гэтага ладу, таксама дурманам для народу.

З гэткім мастацтвам мы маем справу й зараз і пакуль што змушаны нават карыстацца ім часова для сваіх, якраз адваротных мэт...

У чым-жа выказалася ідэолёгія гэтага ладу на пабудове матэрыялу кіно?

Перш за ўсё, на падзеле відаў кіно-продукцыі на мастацкую кінэматографію, з аднаго боку, і навуковую фільму і хроніку, якія процістаўляюць першаму віду вышэйшага эстэтычнага мастацтва,—з другога.

„Мастацкі“ „эстетствующий“ кіно-абраз гэтага роду лунае ў нерэальных, няземных, неграмадзкіх інтарэсах. Ён займаецца не соцыяльна-біолёгічным вывучэньнем законамернага жыцьця чалавека, а яго „душою“, якая імкнецца ў „вышэйшую“ этыку, у псыхопатолёгію эротыкі або ў бездапаможныя перажываньні асобы „ў сабе самой“. Гэтая кіно-продукцыя (таксама, як і літаратурная, поэтычная, рэлігійная, філёзофская продукцыя гэтага роду) будуе свой сьвет, свой сьветапогляд на адцягненых і замкненых у сабе концэпцыях псыхолёгізму, догмах моралі і на эстэтыцы. Зусім натуральна, што кіно гэтага роду цалком выкарыстоўвае тэатр, умоўнасьці зданьнёвай тэатральнасьці, бо рэальнае жыцьцё тут было-б небясьпечнай глебай. Аднак, нельга-ж ім абмінуць маўчаньнем драмы і трагэдыі, якія перажывае чалавецтва ў сваім фэўдальна-буржуазным і капіталістычным сьвеце. Аб іх ня толькі нельга маўчаць, але трэба знайсьці ім вылічальную ціхамірнасьць, панацэю, казаньне „дабра“. Мастацкі кіно-абраз гэтага роду вырашае натужна драмы і трагэдыі ўсё ў тым-жа дуалістычным духу і ў прыватных конкрэтных выпадках навучае хрысьціянскай „міласьці к бліжняму“, ласцы, добрасьці, літасьці, мяккасэрдзю і „шчасьцю“ асобы „ў сабе самой“. Паміж іншым, ні ў якім разе не дарма драмы ў кіно канчаюцца абавязкова шлюбам-пабраньнем,—хіба-ж гэта не буржуазная панацэя для драм асобы! Эротычнае здавальненьне грае галоўную ролю для 90 проц. усіх хваляваньняў у буржуазных абразах: заўсёды злачынства бывае пакарана, а добрачыннасьць узнагароджана. Заўсёды справа абміне соцыяльныя „праклятыя“ пытаньні, а калі датыкнецца іх мімаходзь, дык пад ружовым флёрам вузка „добрачыннага“, філянтропічнага або „эстетствующего“ пункту гледжаньня (характэрны прыклад—новы нямецкі абраз „Шлях да сілы і хараства“).

Яскравым прапаведнікам гэтага роду зьяўляецца „бацька“ і клясык амэрыканскай буржуазнай кінэматографіі, рэжысэр Давыд Варк Грыффіт, шырака вядомы ў нас.

Ён—мастак-пастар. Ён падняў у сваім абразе „нязноснасьць“, вельмі вострыя соцыяльныя пытаньні таго ладу, у якім заўсёды законамерна пануючыя рэлігійныя, нацыянальна-дзяржаўныя і клясавыя організацыі прыгняталі, душылі і нішчылі агнём і мячом сваіх слабых супрацоўнікаў. Але чым і як прапанаваў Грыффіт змагацца з гэтым ліхам? Ён наогул супроць гвалту, супроць нянавісьці і нязноснасьці, супроць жорсткага аружжа. Ён угаварвае ўсіх замірыцца, пагадзіцца і любіць адзін аднаго. Наіўнае, сантымэнтальнае казаньне шчасьлівага буржуа. У другім сваім кіно-абразе „Дзьве сіроткі“ Грыффіт з вялікім тэмпэрамантам паказвае Вялікую Францускую рэволюцыю. Ён з вялікім абурэньнем адносіцца да распушчанай кіруючай арыстократыі двара Людовіка. Але рэволюцыя, як ён яе паказвае, гэтак сама брыда: люты, тупы, п‘яны зьвер, які парушае Грыффітаву ідылію каханьня,—„брудная чэрнь“ з шынкоў і анархія люмпэн-пролетарыяту.

Гэтаму пастарству ідэолёгіі адпавядае і свая мастацкая форма: удаваньне, найграваньне,—і ўсё пад густа-сантымэнтальным флёрам.

Ад „мастацкай“ кінэматографіі рэзка адасоблены навуковы кіно-абраз і бягучы рэпортаж—кіно-хроніка. У мастацкія абразы ні ў якім разе ня ўносіцца навуковае вывучэньне жыцьця. Нават гістарычныя фільмы пазбаўлены навукова-гістарычнай распрацоўкі. Навуковай фільме асобная катэдра—школа; там навука падносіцца таксама пад асобным сосам, з буржуазнай моральлю, ідэалізмам і дуалізмам мысьленьня. Адметны ўзор дуалізму ў адносінах да навукі, гэта нядаўны „обезьяний“ процэс прафэсара ў Амэрыцы, які ўва ўсіх зараз на языку. Пастанова судзьдзі: „Не парушай роўнавагі між богам і зямлёю. Бо калі наш бог перакуліцца, дык і наш зямны парадак можа перакуліцца!“ Дуалізм мысьленьня і палітыка капіталістычнага буржуазнага панаваньня цесна зьвязалі сябе адзін з адным.

Для кіно-хронікі адводзіцца парадны пад‘езд афіцыяльных цэрэмоній, моды адзеньня, натурныя пэйзажы, віды на мора, скачкі. портрэты міністраў і прэміраваных сабак. Буржуазная кіно-хроніка—гэта „сьвецкія“ салённыя навіны аб сваёй „сталіцы і сядзібе“,—гэта той-жа род рэпортажу ў іх друку, дзе апісваецца пышнасьць „сьвету“ і ўсе ўборы прысутных. Хроніка гарнітуру, цэрэмоній і надворнага бляску іх жыцьця. У інакшае жыцьцё і ў глыб жыцьця гэтая хроніка, вядома, не „апушчаецца“. Глыб жыцьця, яго дыялектыка, яго органічныя штодзенныя процэсы—гэта тое, ад чаго тая кінэматографія ў вогуле адварочваецца.

Наш матэрыялістычны і моністычны сьветапогляд глядзіць зусім па-інакшаму. Таму ў нас не магло не зьявіцца сваіх кірункаў у конструкцыі кіно-матэрыялу. Кірункі гэтыя паўсталі якраз у „ніжэйшым“ канцы іерархічнай этажэркі буржуазнага мастацтва—у хроніцы. Чаму іменна тут?

Ды таму, што „хроніка“, г. ё. нагляданьне жыцьця гэтакім, якім яно ёсьць,—дыялектыка фактаў і процэсаў сёньнешняга дня,—гэта і ёсьць першая задача і сапраўдны эпос рэволюцыйнага дзеяча. Гэта адзіная зусім конкрэтная рэальнасьць, якою мы жывем і якую мы будуем. Рэальнасьць, якая займае нашу сьвядомасьць, нашу волю і нашы пачуцьці. Рэальнае творчае будаўніцтва дзень за днём нашага жыцьця і жыцьця ўсяго чалавецтва,—вось найвялікшая тэма, якая расчынена зноў рэволюцыяй і далей расчыняецца ўсё глыбей і шырэй у барацьбе за новую культуру, за соцыялізм. Гэта сэнс і эпос—нашай эпохі.

Насустрач гэтай тэме, у кіно вышаў першы атрад „кінокаў“, на чале з Дзігай Вертавым.

Характэрна, што гэтая плынь зьявілася якраз тады, калі новай літаратуры ў Савецкай Расіі яшчэ ня было. Мы жылі разам з газэтаю, а не з бэлетрыстыкай. У радкох газэтнай хронікі кіпела, білася і захапляла нас—шаломячае бурай і націскам жыцьцё. Літаратура спазьнілася, яна

толькі зьбірала ў той час літары друкарскага набору, рассыпаныя на вуліцу з старых кас, утоптаныя Рэволюцыяй у зямлю. Гадзіна за гадзінаю жыла і працавала газэтная хроніка, лістоўка, плякат, брошурка, насьценная Роста,—у іх былі зьмешчаны і эпос, і лірыка, і гэроіка, і быт масы. Ї перад кожным, кожную хвіліну стаяла пытаньне „быць ці ня быць?“, яго трэба было вырашаць без гамлетаўскіх віханьняў, вырашаць і дзейнічаць.

Усё дзеяньне, уся сьвядомасьць перанесена на быт.

Кінокі сталі дэманстраваць быт.

Вось што кажа аб гэтым Аляксей Ган у сваёй брошуры „Няхай жыве дэманстрацыя быту!“, выпушчанай у свой час амаль як пракламацыя кінокаў:

„Трэба быць сьляпым, каб не заўважаць, як кожны дзень дыялектычна разьвінаецца быт, вырастаючы з новых вытворчых і соцыяльных сувязяў. Трэба ўмець сваячасова падмячаць цякучасьць яго формаў і разумець, што яны непасрэдна выплываюць з усяе складанасьці палітычных момантаў,—якія борзда зьмяняюцца,—і зноў вырастаюць з эканомічных уласьцівасьцяй гаспадаркі, якая падае або адраджаецца. Тады стане зразумела, што быт, як прадметная і матэрыяльная форма людзкой грамады, у паласу зацяжнай грамадзкай рэакцыі адстойваецца і консэрвуецца, робіцца бязьдзейным і, наадварот, у бурную эпоху рэволюцыйных перабудаваньняў трансформуецца, кратаецца з наседжанага месца і ўступае на шлях бязупынных зьмен“.

„Вось гэтую жывую і актуальную сілу быту, у эпоху, калі яго рэволюцыйны зьмест разраджаецца ў навочных, надворна дзейных, фармальных і матэрыяльных дзеяньнях актыўна жывучых мас,—толькі кінэматографія можа фіксаваць без адказу і праз монтаж падаваць на экранах масавай аўдыторыі. Гэта пакуль што адзіны і найкаштоўнейшы вымоўны сродак у руках пролетарыяту, які ён павінен скарыстаць у мэтах утвараньня фактычнай і ідэйнай сувязі працы, якая ідзе штурмаваць капіталізм“.

Брошура А. Гана далёка не ўва ўсім проста і навучальна разьбіраецца, але яна, ува ўсякім выпадку, вельмі характэрна. Яна тым больш нам неабходна, што сам Дзіга Вертаў казаў аб сваёй працы яшчэ больш малазразумела,—ня ўсякі, хто ўмее добра працаваць, умее й красамоўна гаварыць. Да брошуры А. Гана трэба вярнуцца яшчэ затым, каб прасачыць, як з пункту погляду самога кірунку разьвіваліся яго працы.

Першымі залікавымі працамі кінокаў былі нумары „Кіно-Праўды“, якія выпускаюцца і дагэтуль. „Кіно-Праўда“ вырастала з старой хронікі. У першых нумарох кінокі карысталіся выпадковым эпізодычным матэрыялам, які здымаўся міма іх волі і бяз пляну. Гэты матэрыял з потугам удавалася толькі зьлёгку пановаму конструяваць у пасьлядоўны нумар кіно-часопісі. Затым здымка эпізодаў пачала праводзіцца плянова, тэхнічна выразьней, эпізоды пачалі склейвацца, монтыравацца тэматычна,—

зьвязваецца ў соцыяльна-абагульняючыя тэмы. Паступова расла ўмеласьць і насьпявала неабходнасьць распачаць здымку і композыцыю паводле гэтага мэтоду вялікіх абразоў. Наступнай ступеньню пасьля першых спроб „Кіно-Праўды“ зьявіліся яе выпускі другога дзесятку нумароў і затым „Кіно-Вока“.

На шляху свайго разьвіцьця Дзіга Вертаў няўхільна проклямаваў і зьдзяйсьняў шэраг прынцыпаў сваёй програмы. У ёй высьвятляецца *новы ў кіно сьветапогляд*, які мае свой соцыяльны замысел і яму ўласьцівыя свае мастацка-тэхнічныя формальныя сродкі.

Асноўнае ў іх:

1. Здымка кавалачкаў жыцьця, засьпетага на месцы зьнячэўку такім, як яно ёсьць, без найграваньня, без рэжысуры, без актораў і дэкорацый.

2. Склейка-композыцыя зьнятага фактычнага матэрыялу або, як кажуць самі кінокі, організацыя фактычнага матэрыялу ў „экстракт зрокавых нагляданьняў“. У гэтым „экстракце“ кінокамі выяўляецца імкненьне паказаць непасрэдны „вытворчы“ процэс, органічнае формаваньне данага зьявішча, факту, эпізоду з жыцьця. Паступова, композыцыя паводле гэтакага-ж мэтоду асобных зьявішчаў у злучаны законамерны ланцуг, у сыстэму зьявішчаў—вырастае ў дэманстрацыю вялікай соцыяльнай „тэмы“, у абраз абагульняючага шырокага ахопу.

3. Формальныя сродкі кінокаў зьмяшчаюцца ва ўласьцівасьцях здымачнага кіно-апарату і ў магчымасьцях монтажу. Нічым больш яны не карыстаюцца, адкідаюць усю рэшту аксэсуараў умоўнай тэатралізаванай кінэматографіі.

Здымачны кіно-апарат служыць ім для ўдасканаленьня нормальнага фізычнага зроку чалавека і дадатку да яго ўсіх оптычных і тэхнічных удасканаленьняў кінэматографічнага „вока“. Кіно-об‘ектыў вядзе і спыняе нашу зрокавую ўвагу на дакладна выбраных дэталях, якія вылаўлены рознастайна з таго, што наглядаецца, зьявішча.

У штодзенным жыцьці мы маем звычку і абмежаваную магчымасьць зрокава наглядаць зьявішча толькі з ня шмат якіх сталых пунктаў зроку і ў яго агульным павярхоўным выглядзе. Кіно пільна ўваходзіць у характэрныя дэталі і фіксуе на іх увагу. У жыцьці перад вамі праходзяць шэрагамі піонэры,—вашы нагляданьні аб іх павярхоўны і выпадковы. У кіно вы бачыце, апрача ўсяе масы ідучых піонэраў, паасобку і вельмі буйна: вочы піонэра, усьмешку піонэркі, ногі, якія ідуць у такт, рух і выраз, разабраныя і паказаныя аналітычна. Калі трэба для вострасьці зроку, дык рух будзе расчленены, раскладзены ў прасторы і ў часе. Калі трэба, прадмет нашага агляданьня будзе павялічаны і спынены перад намі на колькі патрэбна. Прадмет гэты можна паказаць вам, ня трудзячы вас, з якога хочаш пункту погляду, у якім хочаш ракурсе. Процэс руху можна паказаць у вадваротным парадку. Процэс вытварэньня таго ці іншага жыцьцёвага факту або рэчы можна разгарнуць з вычар-

пальнай паўнатою ў некалькі хвілін, прыстасаваўшы да яго мэтод сыстэматычнага вывучэньня. *Да паслуг гледача кіно-вока перамагае час і прастору.* Між іншым, на гэтай уласьцівасьці кіно, асабліва на *перамаганьні часу*, заснована шырокае ўжываньне кіно ў навуцы, для навуковага дасьледваньня шмат якіх зьявішчаў, захованых ад нормальнага зроку.

Усіх уласьцівасьцяй і мажлівасьцяй кіно-апарату кінокам даволі для таго, каб набраць багаты, адборны, фактычны матэрыял з самога жыцьця. Для організацыі гэтага матэрыялу ў „кіно-рэч", у абраз, у фільму,—служыць монтаж, як сродак сэнсавага параўнаньня асобных момантаў і дэталяў.

Монтаж—гэта й ёсьць організацыя матэрыялу.

Яшчэ да здымкі складаецца монтажны плян; звычайна ў рэжысэраў ён дакладна фіксуецца ў сцэнарыі, у кінокаў агульны плян таксама складаецца загадзя, але галоўная дэталізацыя адбываецца, орыентуючыся на месцы здымкі, у залежнасьці ад фактычнага матэрыялу.

Заключны монтаж таксама залежыць ад таго, што й як удалося разглядзець і зьняць у жыцьці. Але няправільнае зацьверджаньне рэжысэра С. Эйзенштэйна, што кінокі паказваюць *пантэістычна статыку жыцьця.* Правільней нагляданьне тав. Асінскага (№ 1 „Правды" за 1925 год, фэльетон „Літаратурны год"), які кажа пра „Кіно-Вока" гэтак: „Бяру сваю соцыяльную волю, зьвязваючы ёю тыя абразы, якія хачу наглядаць... і атрымліваю новы тып абразу, якога ня было да рэволюцыі і ня можа быць за межамі". Асінскі ставіць „Кіно-Вока" ў прыклад і навучаньне пісьменьнікам: „...Выходзіць ён (новы пісьменьнік) павінен ад волі рабочай клясы (гэта зусім ня „воля ня бачыць", як думаў Пільняк,—гэта „воля перамагчы" і „паставіць на сваім", воля перарабіць жыцьцё), ён павінен, можа, у першую чаргу быць публіцыстым".

Кінокі кіруюцца самым рухам нашага грамадзкага жыцьця і прыслухоўваюцца не да індывідуальнага густу, а да масы і яе рупару ў руля Вертаў кажа: „Мы выконваем заданьне не аднае, хоць-бы комуністычнае галавы, а кіруемся пастановамі зьезду РКП, рэзолюцыямі Комінтэрну дэкрэтамі Саўнаркому, лёзунгамі друку, лістамі рабкора... і другіх, лепшых сцэнарыяў нам ня трэба".

Працы Вертава, паводле свайго мэтоду, даюць зачаткі нашага сучаснага эпосу.

У прыватнасьці, у першай сэрыі „Кіно-Вока" закрануты гэткія тэмы: 1) новае і старое, 2) дзеці і дарослыя, 3) коопэрацыя і рынак, 4) горад і вёска, 5) тэма хлеба, 6) тэма мяса, 7) тэма здароўя і бадзёрасьці, якая змагаецца з соцыяльнай нядоляй, што ахапляе: самагон, карты, піва, „цёмную справу", убоства, кокаін, сухоты, вар'яцтва, сьмерць.

Праўда, у гэтай першай сэрыі „Кіно-Вока" яшчэ прыкметна, што стыхія фактычнага матэрыялу ўладае Вертавым, а ня ён ёю. Але Вертаў пасьлядоўна аўладае сваім матэрыялам. У Вертава ёсьць „дзіцячая хвароба". Цікавасьць часамі пераважае над дапытлівасьцю, захапленьне, зна-

дворная занятнасьць пераважае часта над соцыяльным сэнсам таго, што паказваецца, орыгінальнічаньне формы—над прастатою і популярнасьцю. Усе гэтыя захапленьні *навіною* зразумелы і натуральны на першых кроках, асабліва ў захопе свайго дыалектычнга супроцьстаўленьня старой кінэматографіі.

У сутнасьці, у гэтым супроцьстаўленьні мы наглядаем яшчэ цэлы шэраг азнак і формальных сродкаў новага марксыцкага матэрыялістычнага і моністычнага сьветапогляду. Сюды трэба яшчэ аднесьці:

Адносіны да чалавека, як удзельніка соцыяльнага асяродзьдзя, як да захавальніка грамадзянскай энэргіі і культуры. Ізоляваны індывідуум „сам у сабе“, які капаецца з галавою ў чэраве ўласных мэтафізычных перажываньняў, гэты індывідуум, амаль заўсёды псыхопатолёгічны эротоман, гэта тыповы гэрой па-заарэволюцыйнай кінэматографіі; ён зьяўляецца зусім чужым сьветапогляду кінокаў. Кінокі паказваюць пераважна людзей новага грамадзянскага руху, людзей здаровых, соцыяльна-творчых, і самі належаць да іх ліку. Яны організуюць працу ў кіно „наглядальнікаў“ і „лябарантаў“, і вучняў-чаляднікаў выключна ў гурткох комсамольцаў і піонэраў, перадаючы сваё ўменьне, ідэю і спрактыкаванасьць актыву рабоча-сялянскай моладзі. Калі кінокі паказваюць на экране адмоўны тып чалавека, яны ня маюць нахілу адначасна перажываць з ім у тупіку яго *дзічных* настрояў, але паказваюць соцыяльныя прычыны і вынікі. Яны сьвядомыя ворагі патолёгічнага псыхолёгізму дэкадэнцкага кіно.

Глядач эмоцыянальна ўцягваецца ў адначаснае перажываньне з чыннымі асобамі кіно-абразу, яго павадыром зьяўляецца рэжысэр, сьветапогляд рэжысэра. Затым абразы кінокаў зьяўляюцца соцыяльна-карыснымі, здаровымі па сваіх адносінах да выхаваньня ў гледача актыўнага крытычнага соцыяльнага падыходу да асобы чалавека і да колектыву.

Гэтакі самы падыход свайго сьветапогляду кінокі выяўляюць і ў адносінах іх да рэчы. Буржуазна-інтэлігэнцкая філёзофія адносілася да рэчы з тым самым сваім дуалізмам. Моцнае буржуазнае бюргерства, сталае консэрватыўнае мяшчанства і капіталістычныя „дельцы“ былі ва ўладзе рэчаў, пад уціскам іх. Эстэтыка іх стварыла замілаваньне рэчай, пакланеньне перад яе вартасьцю. Інтэлігенты-бунтары скардзіліся на рэчнасьць буржуазнай культуры, у іх вачох выходзіла, што рэчы зьняволілі волю мэтафізычнай душы. У вабодвух выпадках рэчы аднолькава ідэалізуюцца,— гэта фэтышы. Зваблівыя і згубныя яны надзяляюцца пачуцьцёвай і містычнай сілаю. Успомніце адносіны да рэчаў у Оскара Уайльда, Гюісманса, Меражкоўскага, правядзеце роўналежнасьць к здагону за пышнай мэбляй у князёў буржуазіі і князёў капіталу Эўропы й Амэрыкі. Гэта культ рэчы, фэтышызм рэчы. У кінокаў рэч—удзельніца вытворчага процэсу культуры, рэч—сродак і продукт колектыўнай барацьбы з прыродай і колектыўнага будаўніцтва соцыялізму.

У кінокаў сьвет ня ёсьць статычная сума рэчаў і людзей, і не дуалістычная барацьба духу і рэчы, і не рэлігійнае выбаўленьне рэчы і чалавека ў мэтафізычным звыш-натуральным „астральным“ пляне. У іх сьвет—вытворчы працэс, які дыялектычна разьвінаецца.

Ня цяжка ўбачыць, што плынь кінокаў сваімі карэньнямі зьвязана з соцыяльнай рэволюцыяй пролетарыяту і злучана з шэрагам сумежных напрамкаў у мастацтве. У іх маецца прынцыповае агульнае з соцыяльным замыслам і формальнымі сродкамі рэволюцыйнага „Лефу“.

„Кіно-Праўда“ і „Кіно-Вока“—гэта сапраўдная агітацыйная публіцыстычная плынь у кіно, якая ідзе побач з разьвіцьцём новага сьветапогляду і ажыцьцяўляе яго замыслы ў новых формальных сродках кіномастацтва.

**Ад прымітыву да мастацтва тварэньня.**

Аднак, кінокі зусім дарэмна адмяжоўваюць сябе зусім ад мастацтва. Ува ўпартасьці, з якою некаторыя з іх бароняць сваю поўную незалежнасьць, ёсьць некаторая недарэчнасьць. Лёзунг іх „супроць мастацтва“ сьлед апраўдаць, як імкненьне іх весьці барацьбу не з мастацтвам наогул, а з пэўнай плыньню ў мастацтве, якая зьяўляецца „дурманам для народу“, гэта барацьба не за межамі мастацтва, а ў самым асяродзьдзі мастацтва двох соцыяльных і мастацкіх сьветапоглядаў. Кінокі выступаюць супроць містычнага „жрэцтва“ ў мастацтве, супроць нетраў тэатралізаванага „беспрацоўнага“ выдумленьня і „пакланеньня богу мастацкай драмы“, супроць відавочнай фальшы ў найграваньні абстрактных, адцягнутых ад рэальнага жыцьця выдумак, супроць дуалізму і контр-рэволюцыі за рэалістычную па форме і матэрыялістычную па ідэолёгі кіноправуду. Але сама праца кінокаў застаецца пры гэтым у сфэры мастацтва,—зацьвярджаючы прымат сапраўднага над ілюзорным, яны ўсё-ж такі „штучна“, па сваёй мастацкай волі афармляюць і конструююць фактычныя матэрыялы гэтага сапраўднага ў тэматычную агіт-рэч, а ў гэтым і замыкаецца мастацтва. Вертаў пяціцца ад мастацтва, але паколькі, ён рухаецца ўперад, ён прымушаны быць штукаром. І ён вельмі ня дрэнны майстар мастацтва, хоць зьбядняе і абмяжоўвае свае формальныя сродкі выбарам вузкага шляху. Але гэты шлях, дзякуючы сваёй навіне, сучаснасьці і простасьці сьветапогляду, ня мог не запладніць усіх сумежных плыняў кінэматографіі. І калі сам Вертаў ня зьнімае ўсяго ўраджаю свайго пасеву, а ўважае за лепшае і далей узорваць цаліну, як трактар, дык у гэтым і яго дадатная роля і абмежаваныя мажлівасьці. Ураджай-жа ўсё роўна павінен быць зьняты, дыялектыка прогрэсу мастацтваў абумоўлівае ўзаемнае агульна-культурнае ўзбагачэньне адна ад аднае паўстаючых плыняў.

Багаты ўраджай з ральлі Вертава зьняў С. Эйзенштэйн у сваёй нарабіўшай шуму „Стачцы“. Ён пераступіў праз Вертава і скарыстаў яго

мэтоды для вялікай кіно-композыцыі, дзе агіт-ідэолёгія і мастацкае майстэрства штукарства падняты пасьля Вертава на наступную ступень.

Аб „Стачцы" пісалася вельмі шмат. У ёй шмат таленту і шмат тэхнічнага бляску, шмат і... „дзіцячай хваробы", зараза якой занесена з дэкадэнцкага анарха-індывідуалістычнага багажу таго-ж „Лефу". Гэтая „правая рука" „Лефу" блытае тое, што робіць яго левая рука якая далучылася да соцыяльнай рэволюцыі пролетарыяту. „Правая" хворая рука „Лефу" перашла яму ў спадчыну ад яго маткі—буржуазнай інтэлігенцыі эпохі яе рэакцыі напярэдадні Кастрычніка. Гэта адтуль С. Эйзенштэйн захапіўся ў „Стачцы" орыгінальнічаньнем, эксцэнтрычным трюкарствам на шкоду зьместу, г. зн. на шкоду ідэолёгіі сваёй тэмы. Аб гэтай хваробе „Лефу" можна казаць асобна і шмат ужо казалася, мала толькі яна высьветлена крытыкамі „Стачкі". Але нас цяпер больш цікавіць тое дадатнае, што ў „Стачцы" маецца з няменшай, а з большай сілаю, дзеля чаго „Стачка" ў агуле выконвае дадатную ролю. Усё-ж такі бацькам „Лефу" ў агуле зьяўляецца рэволюцыйны пролетарыят эпохі соцыяльнай рэволюцыі. А С. Эйзенштэйн са сваёю „Стачкаю" гэта—тыповы і яскравы „Леф" у кіно.

Як Эйзенштэйн будаваў „Стачку"?

У васноўным:

1. Гістарычнае зьявішча рабочай забастоўкі на заводзе ў эпоху царызму ён выяўляе і паказвае, як *продукцыю грамадзкага дзеяньня* Гісторыка-рэволюцыйны тып рабочай забастоўкі абсьледван, як масавы процэс, з пункту погляду яго „вытворчай" сутнасьці. Дзеля гэтага ў „Стачцы" дзейнічае маса, а не „героі"; гэтым-жа тлумачыцца і асноўнае ў „Стачцы"—гэта мэтод пабудовы композыцыі на падставе організацыі і паказу фактычнага матэрыялу, аб'яднанага нарастаньнем соцыяльнага зьявішча, разгортваньнем грамадзкай тэмы, а не індывідуальнай фабульнай інтрыгі. (Прыклад фабульнай індывідуальнай інтрыгі ў падыходзе да масавага руху,—навочная памылковасьць гэтакага прыёму,—паказаны ў фільме „Сьцяпан Халтурын" выпуску Паўнзахкіно пад рэжысурай Іваноўскага).

Гэты падыход вызначыў у „Стачцы" адносіны рэжысэра да людзей і рэчаў, як да ўдзельнікаў продукцыі грамадзянскага процэсу, што зьяўляецца сапраўды матэрыялістычным рэволюцыйным сьветапоглядам.

(Параўнай з мэтодамі Вертава,—усё тое самае, толькі ў вялікім маштабе).

2. Эйзенштэйн імкнуўся ўцягнуць у здымку масы рабочых не актораў, яму трэба ня вымоўная гульня, а рэальная сапраўднасьць і выразнасьць соцыяльна-біолёгічных тыпаў. Яго некаторыя акторы, якія граюць рабочых, самі з рабочага асяродзьдзя, працаўнікі Пролеткульту; яны, натуральна, зьліваюцца па тыпажу з масай рабочых не актораў. Што-ж датычыцца да іх тэатралізаванай ігры, дык Эйзенштэйн усьведамляе іх тэатральны трэнінг, як *бяду* свайго абразу і заяўляе, што ў будучыне будзе імкнуцца працаваць „без актора".

(Параўнай з Вертавым.)

3. Але Эйзенштэйн усьведамляе, што ўсякая тэматычная арганізацыя матэрыялу ёсьць мастацтва, якое залежыць ад ступені і характару валявога парываньня мастака-аўтара і мае сваёю мэтаю зрабіць уплыў на гледача. Таму Эйзенштэйн загострывае свае фармальныя сродкі ня толькі дзеля таго, каб „бачыць і паказаць („Кіно-Праўда“ і „Кіно-Вока“), але каб пераканаць і давесьці. Ён сваёю воляю дэформуе матэрыял здымкі (непасрэднае жыцьцё „Кіно-Праўды“), каб дэформаваць, ляпіць, накіроўваць сьвядомасьць гледача ў патрэбнае мэтаімкненьне. Вертаў гэтак сама дэформуе свой матэрыял (напрыклад, адваротны і з зьменшанай шыбкасьцю рух фільмы), але пяціцца ад агіт-скарыстаньня гэтага, пяціцца і ад таго, каб актыўна, рашуча рабіць уплыў на гледача. Ён хоча служыць яму, апавядаючы об'ектыўна, не навязваючы гледачу сваёй ідэі і ідэолёгіі. Вертаў баязьлівы. Эйзенштэйн рашучы, ён наступае, ён актывізуе матэрыял і ўладна робіць уплыў на гледача.

Каб дасягнуць большага эфэкту, ён ня грэбуе пурытанскі ўсякім узброеньнем з арсэналу мастацтва, наадварот, ён улічвае, што багацьце і ўдасканаленасьць *умоўных формаў* узмацняе яго магутнасьць, як мастака й трыбуна. Ён сьвядома кажа: „Мая моц у мастацтве“ і чэрпае з прогрэсу сумежных мастацтваў запладненьне сваім фармальным сродкам у кіно. „Стачка“ зроблена па шляху дыялектычнага ўкладаньня ў шэраг матэрыялаў ранейшага мастацкага кіно новых спосабаў апрацоўкі з мастацтваў сумежных і процілеглых. Вертаў унёс мэтод вытворчага абразу ў хроніку; Эйзенштэйн перанёс яго яшчэ далей—у мастацкую фільму. Вертаў разьвіў орыентыроўку зроку кіно-апарату, наглядальнасьць да фактычнага матэрыялу, мастацтва монтажу-зьявішчаў у тэму; Эйзенштэйн удасканаліў усё гэта для агіт-узьдзеяньня. З сваёй „Стачкай“ Эйзенштэйн унёс у кіно шэраг уплываў ад новых плыняў сучаснага малярства і тэатру. Уплывы ад навейшага малярства заўважваюцца, паміж іншым, на тым, як сьвежа й яскрава ён будуе конструкцыйна композыцыю кожнага кадру ў асобку, у чым яму надзвычайна дапамог талентны опэратар Эдуард Цісэ.

Уплыў „левага“, новага тэатру адчуўся проста ў перанясеньні ў кіно Эйзенштэйна з тэатру яго-ж прыёму „монтажу атракцыонаў“.

4. Эйзенштэйн вывучае матэрыял мастака з грамадзка-утылітарнага пункту гледжаньня: узважвае, якое ён зробіць эмоцыянальнае ўзьдзеяньне на гледача. Такім чынам, матэрыял бярэцца і тэматычна, і фармальна пад псыхолёгічны падлік. Атракцыонам Эйзенштэйн называе ўсякі дэмонструемы факт (дзеяньне, прадмет, зьява, сьвядомая комбінацыя і г. д.), правераны, як націск пэўнага эфэкту на эмоцыю гледача. Атракцыон дасягаецца параўнаньнем, спалучэньнем асобных паказваемых момантаў. Монтажам, г. зн. сьвядомай композыцыяй ланцуга атракцыонаў, дасягаецца пасьлядоўнае тэматычнае ўзьдзеяньне на гледача ў пэўным кірунку.

Эйзенштэйн пачаў ужываць „монтаж атракцыонаў“ у тэатры (Пролеткульце); але паколькі асновай атракцыону зьяўляецца *параўнаньне рознастайных элемэнтаў*, дык кіно для гэтага монтажу дае куды болей магчымасьцяй, як па колькасным абхваце рознастайнасьці дэманструемага, гэтак і па якасьці монтажнай апрацоўкі. Для Эйзенштэйна шлях з тэатру ў кіно быў лёгічным пасьлядоўным разьвіцьцём яго фармальных сродкаў і мэтоду.

Пры монтажы атракцыонаў параўноўваюцца, вядома, ня самыя зьявы, а тыя рэфлексы, якія яны выклікаюць у гледача, вядучы за сабою складаныя ланцугі асоцыяцый, зьвязаных з данаю зьяваю ў данага гледача. Дзеля гэтага неабходна ўлічваць склад глядзельніцкай масы і дыфэрынтаваць яе па розных соцыяльных і месных бытавых катэгорыях. Посьпех узьдзеяньня і ідэолёгічны яго вынік будуць рознымі ў розных гледачоў.

Монтажныя схэмы атракцыонаў трэба будаваць сьвядома з найдакладным падлікам фармальна-тэхнічнага іх ажыцьцяўленьня. У кіно ўспрыйманьне гледачамі кожнай зьявы адбываецца інакш, чым у жыцьці: праз шэраг *умоўнасьцяй* у часе, у прасторы і ў падмене фізычнага сьвету—яго фотографіяй, якая выбірае з агульнага толькі асаблівыя для сябе прыватнасьці. Кіно абавязкова дэформуе той сьвет, які яно здымае, а ня проста паказвае яго гледачу, затым матэрыялам кіно-мастацтва зьяўляецца не само жыцьцё, а здымак, які зьмешчаны ў кіно-кадры. Уласьцівасьці гэтага здымку яшчэ ня ўлічаны зусім сьвядома большасьцю кінорэжысэраў. Вертаў і Эйзенштэйн прарабілі ў гэтым кірунку вялікую сьвядомую экспэрымэнтальную працу. Аб тэорыі і практыцы Эйзенштэйна, прыстасоўна да асобных галін кіно-мастацтва (монтаж, праца кіно-натуршчыка, аб атракцыоне), расказвае, хаця бязладна і малазразумела, кніжачка, складзеная А. Беленсонам—„Кіно—сёньня“. У задачу гэтага майго нарысу не ўваходзіць дэтальнае спэцыяльнае дасьледваньне ўсяе тэхнічнае кухні кіно-майстэрства. Гэта спэцыяльная асобная тэма. У заключэньне гэтага кароткага нарысу мне застаецца выказаць яшчэ толькі адно агульнае заўважаньне, якое мае на ўвазе ўсю маладую савецкую кінэматографію ў агуле.

У сучасны момант можна заўважыць перадачу шэрагу позыцый старымі „правымі“ кіно-рэжысэрамі новым працаўнікам, якія прыходзяць у кінэматографію з новым сьветапоглядам, аднэй з асноў якога зьяўляецца неабходнасьць тэорытычнага і вытворча-тэхнічнага вывучэньня майстэрства кіно. Для ажыцьцяўленьня імі свайго соцыяльнага замыслу неабходна дасьледчая экспэрымэнтальная і вучэбная праца. Каб даць ім гэтую магчымасьць, няўхільна трэба пайсьці на гандлёвую рызыку і патрэбен не блізкаярочны „халтурны“ разьлік на будучыну. Разьвіцьцё кінэматографіі залежыць ня толькі ад тэорытычнай і крытычнай працы, але і беспасрэдна ад фабрычнай вытворчасьці, ад *організацыі* індустрыі,—трэба

дамагацца, каб гэта індустрыя ня была аддадзена на „халтурны“ зьдзек у здагоне за лёгкімі барышамі і агіткамі. Нам трэба будаваць сваю кіно-вытворчасьць гэтак, каб усе сур'ёзныя намеры новых сьвядомых сіл і талентаў знашлі-б сабе падтрыманьне і ажыцьцяўленьне. Пакуль што мы яшчэ не стварылі нормальных умоў працы ні Вертаву, ні Эйзенштэйну, ні другім. „Халтура“ і някультурнасьць заядаюць нашую кіно-вытворчасьць, і гэта пагражае абярнуцца ў дрэнную сыстэму.

Значэньне культуры кіно ўсё яшчэ ня досыць у нас улічана, ня сур'ёзна ўзважана, не ўмацована неабходнымі ўмовамі, сродкамі і кіраваньнем працы кіно-вытворчасьці.

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ КРЫЗІСЕ ТЭАТРУ

*(фрагмэнты з кнігі „Тэатр на Каленях“, якая знаходзіцца ў друку).*

**П. Арэшнікаў**

„Труізм—ісьціна бясспрэчная сваёй устарэласьцю“.

**Тлумачнік слоў.**

Ісьціны бясспрэчныя сваёй устарэласьцю—усё, што напісана ніжэй.

*Аўтар.*

Тэатр пэрманэнтна не дамагае на хваробу, якая называецца:

*Крызісам.*

Крызіс тэатру—гэта ўтрата ўзаемнае сувязі паміж гледачом і сцэнай. Надыходзіць крызіс тады, калі ўсё, што адрываецца ад падмосткаў, адскоквае ад публікі („не даходзіць“—акторскае арго“).

Крызіс тэатру пачаўся ў 90 г. г. мінулага сталецьця.

З ім змагаліся—эмоцыянальна рэфінаваныя эстэты, з брошурнай адукацыяй, многа-гутарлівыя прыват-доцэнты, удумлівыя профэсары. Змагаліся: дыспутамі, лекцыямі, выданьнямі „маніфэстаў“.

Тэатр лячылі... *тэорытычнымі руладамі.*

Крызіс, па думцы нашых эскуляпаў, надышоў таму, што „там у сярэдзіне“ тэатру—ня ўсё добра. Тэатр—„катэдра і школа“—зрабіўся вось бяз зьместу, пуставатым. Крызіс тэатру ў цэлым разглядаўся, як вынік, гал. чын., крызісу драматургіі, г. зн. пачатку, які ў пярэстыя мяхі тэатру ўдувае *сэнс.*

Тэатр пачалі лячыць з „галавы“, а ён няўхільна падгніваў „з хваста“.

Прычыну крызісу тэатру шукалі ў мізэрнасьці зьместу, а сапраўды, яна хавалася ў *афармленьні гэтага зьместу, у адсталасьці сцэнічнай формы.*

Было апушчана істотнае *меркаваньне: зьмест організуецца формай* (гэта аднолькава адносіцца к бутэльцы малака і к тэатру).

Было апушчана меркаваньне, што калі тэатр утраціў магутнасьць уплыву на гледача, дык мабыць прычына гэтага хаваецца ў *мэтодзе* ўплыву.

А мэтодам уплыву на гледача заўсёды ў тэатры зьяўляецца *форма.*

Форма на тэатры ёсьць перадатковая станцыя творчай электрычнасьці ад актора к гледачу. Форма—гэта сродак, ад якога залежыць сіла перакананасьці тае або іншае думкі драматурга, увасобленай у

рэальныя вобразы. І правільна заўважае Я. Бруксон: „Тэатральная форма ёсьць фактар для дасягненьня сугучнасьці паміж гледачом і сцэнай“.

Калі форма спэктаклю, рэальнае, матэрыяльнае афармленьне яго перастае праконваць гледача, калі форма ня мае сілы прымусіць гледача паверыць у тое, што робіцца на сцэне, дык нямінуча правальваецца п'еса, нэрвуе і тане актор, г. зн. *ТЭАТР* у цэлым апушчаецца ў багна абыякасьці і абсолютнай незацікаўленасьці глядзельнае залі, тэатр занепадае, у яго пачынаецца крызіс.

Адэпты тэатру, якія прабуюць надаць яму нейкую навучальную місію, зразумела, зжахнуцца ад гэтае думкі. Яны топчуцца на праконаньні, што ў тэатры *літаратура—гэта ўсё*, што восьсю тэатру зьяўляецца *слова*.

Форме на тэатры гэтыя дзівакі аддаюць такую самую ўвагу, як бяздушнай апраўе якой-небудзь кніжкі, што захапляе сваім зьместам. Калі-б на іх баку была праўда, дык можна было-б спакойна форму абставіны на тэатры адкінуць і, так. чын., зьнішчыць самы тэатр, бо кніжка ня траціць свае каштоўнасьці ад таго—у апраўе яна ці не; тэатру-ж зусім не ўласьціва быць сухім дакладчыкам рэляцый драматурга, „настаўнікам жыцьця“.

Тэатр—відавішча, а не лектура. Тэатр формай і толькі формай можа выразіць псыхолёгічны матэрыял тэатральнага дзеяньня.

Актор, які чытае ў фраку, на голай эстрадзе, монолёг Цэзара, выклікае блытаньні ва ўспрыманьнях гледачамі асобы гэтага патрыцыя. Глядач слухае *Шоу пра Цэзара, але не самога Цэзара*. Таму, што Кай Юлі зусім ня фігура, пазбаўленая рамак часу і прасторы. Гэта продукт пэўных клясавых колізій, пэўнай эпохі. А эпоху выявіць на сцэне толькі *форма*.

Такім чынам, *проблема крызісу тэатру зышла ў істоце к проблеме крызісу сцэнічнай формы*.

Гэтае палажэньне яскрава пацьвярджаецца хоць-бы тэй акалічнасьцю, што публіка, якая гэроічнай абыякасьцю адзначала пастаноўкі „Леса“ ў Акадэмічных Тэатрах, да гэтых часоў глядзіць яго ў конструктывах Мэйерхольда.

Уся наянчывая фальш „павільённага“ афармленьня цэлага шэрагу п'ес Ак'амі, рана або позна, прывяла да таго, што глядач перастаў тэатру верыць.

У Гегеля, у „Курсе эстэтыкі або навукі прыгожага“, спатыкаем наступнае:

„Ці павінен артысты забыць пра свой век, прыкаваць свой погляд толькі к мінуламу і паказаць твор правільным яго люстэркам?“

„Ці ня мае ўлады, нават ці не абавязан ён пераважна, мець на ўвазе і звычаі сваёй краіны і свайго часу і даваць сваім творам *форму адпаведную*?“

Занепакоены за лёс тэатру *нават* ідэялісты Гегель добра разумеў, што калі *форма* на тэатры ня будзе зьменьвацца ў сугучнасьці з

„настроем“ мас гледачоў, дык гэта прывядзе к банкроцтву тэатру, як такога, зруйнуе яго цалком. Зразумела, наогул-то ідэалісты Гегель прызначае *форме* на тэатры падлеглае, уadносінах *да зьместу*, месца.

Мы ўжо вызначылі, што ў значнай меры да крызісу тэатру прычыняўся крызіс тэатральнай формы.

Цяпер папрабуем высьветліць, якім чынам паўстаў самы крызіс формы на тэатры.

Пачатак гэтаму крызісу палажыла—неадпаведнасьць паміж тэатральным афармленьнем і зьместам спэктаклю. У натуралістычным тэатры, дзе па сцэне хадзілі людзі ў звычайных вопратках, будзённа інтанавалі, гледача прымушалі верыць у намаляваныя, нерэальныя пэрспэктывы, у палатнянае неба замест рэальнага паветра і інш. Гэта першае. Другое: актор быў зьверам у клетцы з трох сьцен, на якога глядзелі тыя, што жывуць на волі...

Была нейкая дзівосная недарэчнасьць, незразумелая нязьвязаласьць у спэктаклях.

Глядач пераставаў верыць, не хацеў дазволіць марочыць сябе і далей оптычным абманам. Актор не хацеў залежаць у сваёй творчасьці ад трохмернага, нерэальнага, цеснага павільёну.

Гэтыя два вымаганьні—„прэч оптычны абман“ (глядач) і „дайце мне волю для ігры“ (актор), якія паходзяць ад двох складальнікаў, што даюць у суме тэатр (актор+глядач=тэатр), гэтыя два вымаганьні зрасьліся верхавінамі. Яны штырхалі творчую думку дзеячоў сцэны к патрэбе рэволюцыяваньня тэатральнай формы.

Паўстала задача—знайсьці такую форму, якая-б пагадзіла гэтыя дзьве сілы напору—гледача і актора—у паказаных кірунках.

На сцэне зьявіўся—конструктыў.

Конструктыў расьсеяў гледачу ўсю магію і чмут, якім была ў яго ўяўленьні апавіта справа тэатру.

Заслона здана ў архіў „маляўнічыя заднічкі“ і падругі выкінуліся, як непатрэбшчына. Вы—у майстэрні. На сцэне—варстат: конструктыў. Каля яго актор—майстра свайго цэху.

Зрабілася ясна: ніякімісь „боскімі“ натхненьнямі будуецца справа тэатру, а працай. Праца—барацьба, асіліваньне матэрыялу, які супраціўляецца майстру, матэрыялу, якім майстар опэруе. Ніякага натхненьня. Усюды вылічэньне, строга акрэсьленыя прыёмы і звычкі *працы*.

Конструктыў на сцэне сваім узьнікненьнем уцягнуў у творчую працу тэатральнага колектыву нізавога працаўніка. Гэта афарбавала спэктаклі здаровым вытворчым духам, а ня тым таемна-жрэцкім настроем, які панаваў да конструктызу. Пры конструктыве тэатр зрабіўся вытворчасьцю, а не сьвятыняй. І гэты момант знаходзіцца ў сьціслым суладзьдзі з усёй структурай нашай краіны. Калі-б рабоча-сялянская ўлада разглядала

тэатр, як сьвятыню, дык яго давялося-б у сьпешным парадку адлучаць ад дзяржавы (аднак, у нас мноства „дзяржаўных“ тэатраў).

Конструктыў бліскуча адбіў на сцэне дух нашага матэрыялістычнага веку. Інжынэрыя атрымала на сцэне права грамадзянства. Яна прынесла з сабой конкрэтны матэрыял замест умоўных размаляваньняў, яна прынесла праўду. Хто цяпер паверыць у бурлівае мора і лес, намаляваныя на пыльным палатне.

Гэтыя буры выклікаҷы ветрам з галоў тэатральных маляроў мінулага. Інжынэрыя расьсеяўшы спосабы оптычных абманаў старых пастаноўшчыкаў, вызваліла выабражэньне гледача ад тае наіўнае даверчывасьці, якой яно было атручана, дзякуючы гэтым намаляваным пэрспэктывам алеяк, заль і інш.

Конструктыў зрабіў непатрэбным заслону на тэатры. І калі яе, гэтую заслону, што „аддзяляе жыцьцё ад мастацтва“, выкінулі на падмосткі бурліва ўварвалася жыцьцё з яго здаровым агнём рэальнай праўды.

Арыстотэлеўская догма канечнасьці адзінства часу і месца на сцэне адразу-ж была апраўдана конструктывам. Возьмем той самы „Лес“ па Мэйерхольду. Увесь этап ад прасёлку да „Пянькоў“, які праходзяць няўдалыя акторы—на воку. Гэты конструктыў даў магчымасьць гледачу ахапіць цалком пэўны адцінак часу і паказьнік жыцьця таго пэрыоду на пэўным вучастку ва ўсіх дэталях і нюансах. Папрабуйце дабіцца большага эфэкту ў павільённым абсталяваньні!

Далей: конструктыў—дынамічны, і, дзякуючы гэтаму, ён бліжэй да нас і больш зразумелы, чымся статуарнае афармленьне сцэны ўмоўнымі павільёнамі.

Такім чынам: конструктыў бліскуча давёў правільнасьць таго палажэньня, што крызіс тэатру—ёсьць крызіс тэатральнай формы раней за ўсё.

„Лес“ і „Сьмерць Тарэлкіна“, а цяпер „Рэвізор“ і іншыя п'есы глядзяцца і іх будуць глядзець цэлыя вякі таму, што яны гальванізаваны *новым* матэрыяльным афармленьнем, сугучным нашым запатрабаваньням да мастацтва—запатрабаваньням шырыні і паўнаты скарыстаньня ўсяго матэрыялу, які маецца ў распараджэньні гэтага мастацтва.

Мы пачалі гэтыя радкі з палажэньня, што тэатр пэрманэнтна хварэе крызісамі.

Калі конструктыў зжыў крызіс формы на тэатры, то ўважліваму сучасьніку, здавалася-б, павінна было кінуцца ў вочы, што замерлі і самыя гутаркі аб *крызісе тэатру*.

А цяпер паставім пытаньне: ці сапраўды ачуняў тэатр? Ці не перажывае ён зноў чарговага крызісу? Так, ачуняў! Не, не перажывае! Нават прыхільнікі старога тэатру, якія ўвесь час крычалі аб *крызісе* тэатру, змоўклі, або конструктыў даў ім магчымасьць цікава рэпродуктаваць няўміручыя ўзоры клясыкі, а тым болей той рэпэртуар, які зьяўляецца

водгукам сучасных чаканьняў, надзей, запатрабаваньняў і інтарэсаў новых мас з гушчы пролетарыяту.

Здавалася-б, калі зьнішчаны крызісы формы і зьместу, тэатр ачуняў! Кропка?!

Да некаторага стопню—гэта так. Аднак, мы возьмем на сябе сьмеласьць сказаць, што *тэатр стаіць перад новым крызісам*, і ён вось-вось захварэе, на гэты раз хваробаю вельмі цягучаю, сур'ёзнаю.

Справа ў тым, што тэатр мае таксама „трэці фронт", як і ў нашым грамадзка-палітычным жыцьці—фронт самы неорганізаваны, небясьпечны, патрабуючы падвойнае ўвагі, страты энэргі і творчых сіл. Гэты трэці фронт—апрача фронту ідэёвага (зьмест) і фронту знадворнага (форма)—фронт акторскі.

Чарговы крызіс тэатру намячаецца па *лініі акторскага штукарства.*

Паколькі гутарка йшла аб аднаўленьні клясыкі, аб рэпродуктаваньні знаёмых акторскай масе твораў, пастолькі пытаньне стаяла добра. Таксама стаяла пытаньне і з інтэрпрэтаваньнем узораў сучаснай драматургіі.

Але... намячаюцца паросткі паяўленьня соцыяльнай драмы.

Ці гатовы актор да яе апрацоўкі? Ці выстарчыць усяго сіл, каб узваліць на свае плечы ўвесь цяжар гэтай надзвычай прыгожай ношы?

Сумняваемся.

У эпоху пераходнага да соцыялізму пэрыоду, у часы новай экономічнай політыкі, актор яшчэ добра разьбіраецца ў конглёмэраце сіл, якія дзейнічаюць, узаемна выключаючы адна другую, якія змагаюцца адна супроць другое.

У часы канчатковага асталяваньня колектывістычных формаў быцьця,—што будзе рабіць актор наскрозь атручаны індывідуалістычнымі настроямі старога тэатру?

Чытач ужо здагадаўся, што пытаньне зводзіцца да таго, што служыцелям сцэны соцыяльнай драмы прыдзецца раней за ўсё перагледзець пытаньне *аб амплуа.*

У самай рэчы: у пляне будучае соцыяльнай драмы—што будзе рабіць *фат?*

Гэта характар паказальны—толькі ў аспэкце заняпаду пэўнага буржуазнага ладу.

Ды што—фат? Пагутарым аб амплуа *героя.* Да гэтых часоў было: герой—пакутны чалавек. Ці закладаецца цяпер фундамант таго новага актора на амплуа героя,—але ўжо не пакутнага чалавека, а чалавека об'ектывуючага пакуты людзей, колектыву, масы?

Вы—тэатрстудыі, самадзейныя гурткі і тэорэтыкі мастацтва новага тэатру, што маеце на гэта адказаць?

Калі фат выкрэсьліваецца са сьпісу каштоўных амплуа, калі актору на амплуа коміка ў будучай соцыяльнай драме прыдзецца (а гэта бязумоўна) эмоцыянальна афарбоўваць кожны створаны вобраз не добра-

душна „бытавым гуморам“, а рэзка бічуючымі *сатырыстычнымі* штрыхамі, калі гэрою прыдзецца ўсвойваць звычкі і прыёмы інтэрпрэтацыі колектывістычных, а не індывідуалістычных запалаў, як гэта было раней, то дзе, запытаемся, школа гэтага актора—зараз?

Яе няма. Але яна павінна быць створана, як профіляктычная мера супроць чарговай хваробы тэатру, супроць чарговага яго крызісу, *крызісу формаў акторскага штукарства.*

Потым прыдуць вучоныя анатомы і будуць... „констатаваць крызіс“. І гэтак: крызіс за крызісам без канца.

Атрымліваецца:

Тэатр пэрманэнтна недамагае хваробаю, якая называецца—крызісам.

Час палажыць гэтай справе канец! Час аздаровіць тэатр?

...Часта ў доўгія ночы разважаньняў аб лёсе тэатру, ён стаіць прада мною на каленях і выцягвае рукі ў пустату аб дапамозе...

Здароваму будучаму нашае краіны патрэбен здаровы тэатральны організм.

Яго ўзрошчваць і пеставаць трэба зараз, пакуль ня позна.

Калі мы аналізавалі пахаджэньне крызісаў тэатру, мы бачылі, што адзін з самых істотных і хваравітых крызісаў: крызіс знадворнага афармленьня тэатральнага дзеяньня, крызіс формы—быў зьнішчаны зусім не тэорытызуючымі лекцыямі, дыспутамі і маніфэстамі, а *непасрэдным практычным утварэньнем новых формаў на тэатры*, „тэатральным кастрычнікам“, правадыр якога—Ус. Мэйерхольд.

Выстарчыць відочных інвэнцый, тэорытычных выкладаньняў і варажбы на гушчы ад кавы.

Зьнішчыўшы крызісы формы і зьместу на тэатры, мы сталі на парозе крызісу акторскага майстэрства, непаваротлівага ў сваіх навыках, рутыннага ў сваіх інтарэсах, адсталага ў сваёй культуры.

Папярэдзіць гэтую чарговую хваробу тэатру можна ў свой час, калі зараз-жа практычна ўзяцца за выхаваньне акторскага маладняка,—не па догме схолястычнай тэатральнай навукі, а ў прыстасаваньні да запатрабаваньняў таго падрастаючага гледача, які псыхолёгічна карэньнямі ў сучасным, а верхавінай у будучыне, у тэй будучыне, калі ў тэатры ня будзе месца індывідуалістычнаму самакалупаньню, інтэлігэнцкаму ныцьцю, эстэтаваньню адзінак...

...У тэй будучыне, тэатрам якое будзе: тэатр чыстай соцыяльнай драмы...

Апошні сказ прысьвячаецца ўвазе: дзяржаўных, акадэмічных, профсаюзных і прыватнаўласьніцкіх прадпрыемстваў, што падрыхтоўваюць зьмену, выпрацоўваюць новы акторскі кадр. Гэты новы акторскі кадр йдзе на зьмену старому, які ўжо зрабіў сваю справу і... дзеля таго можа зыйсьці са сцэны.

# КНІГАПІС

**Прыгоды аднаго агронома.** Вышаўшы нядаўна перадапошні (сёмы) выпуск „Запісак Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі ў імя Кастрычнікавае Рэволюцыі“ зьяўляецца вельмі цікавым. З аднаго боку, мы бачым тут працы, ахвярованыя выўчэньню спэцыяльнай галіны сельскае гаспадаркі БССР (проф. І. І. Калугін, проф. А. В. Ключароў), з другога—такія працы, якія бясспрэчна маюць агульнае тэорытычнае значэньне, як праца проф. П. А. Маврыдзіадзі — „К вопросу о сущности хронозом и их отношении к явлениям наследственности“. Увесь зборнік мае строга навуковы дасьледчы характар, бо зьяўляецца найлепшым паказальнікам бязупыннага культурнага разьвіцьця БССР, самастойнага выўчэньня як асаблівасьцяй яе сельскай гаспадаркі, так і агульна-тэорытычных пытаньняў.

І якраз таму, што ўвесь зборнік мае такі строга-навуковы характар, зьмешчаныя ў ім працы прыцягваюць да сябе асаблівую ўвагу. Перавага сельскай гаспадаркі над буйнай прамысловасьцю ў БССР зьяўляецца бясспрэчным фактам. Ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту гэты факт знаходзіць сваё выяўленьне ў тэй вялікай увазе, якую зьвяртае дзяржаўная ўлада на організацыю сельскай гаспадаркі. Аб гэтым досыць яскрава гаворыць як зьезды Саветаў, так і зьезды партыі, якія вызначаюць бягучую політыку Савецкай улады ў галіне сельскай гаспадаркі. Ні адзін бок яе не пакідаецца бяз увагі. І, зразумела, ніхто іншы, як Савецкая ўлада і Комуністычная партыя, адзначылі тыя вялізныя грамадзкія задачы, якія пры даных умовах ускладаюцца на агрономаў, задачы, якія скіроўваюцца да грамадзкай агрономіі. З прычыны гэтага зусім натуральнай зьяўляецца спроба ўсякага агронома ўразумець тую тэорытычную базу, на якой грунтуецца грамадзкая агрономія наогул і наша савецкая ў асаблівасьці. Такой спробай і зьяўляецца артыкул І. Я. Неклепаева—„Социалистические основы общественной агрономии“.

Аўтар увесь час напірае на „соцыолёгічны“ бок справы. Адшуканьне найбольш шырокіх „соцыолёгічных“ абагульненьняў зьяўляецца для яго неабходнай умовай пабудовы грамадзкай агрономіі, як навуковай дысцыпліны. Падмогай для яго зьяўляецца аналёгія з агрономіяй наогул: падобна да таго, „як агрономічнае прыродазнаўства вымагае папярэдняга знаёмства з асноўнымі, так званымі, абстрактнымі прыродазнаўчымі навукамі—фізыкай, хіміяй і біолёгіяй, так і агрономічнае грамадазнаўства, аднэй з складаных частак якога зьяўляецца грамадзкая агрономія, патрабуе для свайго грунтоўнага і ўсебаковага выўчэньня такога самага знаёмства з абстрактнай навукай — соцыолёгіяй, (233).

Такім чынам, аўтар выпраўляецца за адшуканьнем „абстрактнай навукі — соцыолёгіі“. Але на гэтым шляху ён напаткаў такую масу цікавых прыгод, што з імі варта азнаёміцца кожнаму працаўніку, удзельніку нашага савецкага будаўніцтва.

Як належыць кожнаму вучонаму, аўтар хоча раней за ўсё даць азна-

чэньне свайму прадмету—грамадзкай агрономіі. Што гэта за грамадзкая агрономія? Ужо з самага пачатку мы спатыкаемся з наступнымі азначэньнямі: грамадзкая агрономія ёсьць с.-гаспадарч. палітыка і... так блізка стаіць да с.-гаспад. практыкі, што „нарэшце нават зьліваецца з ёю“ (231), г. зн., грамадзкая агрономія зьяўляецца таксама і сел.-гаспадарч. практыкай. Адчуваючы, што падобнае „азначэньне“ ўсякі прыме за жарт, аўтар сам адзначае захованую тут „двоістасьць“ і папераджае „на далей строга разьбіраць, калі гутарка ідзе аб грамадзкай агрономіі, як навуковай дысцыпліне, і калі гаворыцца аб ёй, як аб сыстэме тых ці іншых практычных мерапрыемстваў па сельскай гаспадарцы“ (231).

Падобнае абсолютнае супроцьстаўленьне навукі і практыкі, калі яны зьяўляюцца адарванымі адна ад другое і ня маюць магчымасьці ўплываць адна на другую, супярэчыць іх рэчаіснаму ўзаемнаму стасунку і марксыцкаму яго разуменьню. Тэорыя вынікае з практыкі, у сваю чаргу пранікае ў яе і знаходзіць у ёй сабе пацьверджаньне. Разрыў паміж тэорыяй і практыкай, які робіць аўтар, сьведчыць хутчэй аб мэтафізычным характары яго мысьленьня, якое даходзіць да абсолютных крайнасьцяй і ня можа іх пагадзіць. Але тое, што аўтар формулюе, як тэорытычную канечнасьць, ён зараз-жа адкідае сам, калі прабуе ўразумець сапраўдную існасьць грамадзкай агрономіі і пачынае разгляд практычнай рэформы Сталыпіна, практыку розных земстваў і г. д. Гэта сьведчыць аб сумленнасьці аўтара, але ані не аб яго навуковым, дыалектычным мысьленьні.

„Дык чым-жа зьяўляецца грамадзкая агрономія, як навука?—пытаецца аўтар—і адказвае: „У самых агульных рысах, можна сказаць, што грамадзкая агрономія, як асаблівая навуковая дысцыпліна, складае частку асобнае соцыяльнай палітыкі, яе задачай зьяўляецца вывучэньне і выпрацоўка грамадзкіх мерапрыемстваў, патрэбных для падняцьця і разьвіцьця сельскай гаспадаркі“ (232).

Вельмі добра. Запамятуем. Далейшы поступ думак аўтара такі: калі грамадзкая агрономія—частка соцыяльнай палітыкі, соцыяльная палітыка ёсьць „прыкладная частка соцыолёгіі“, дык „раней чым пачаць вывучэньне грамадзкай агрономіі, трэба пазнаёміцца з соцыолёгіяй, або, прынамсі з асноўнымі соцыолёгічнымі абагульненьнямі і законамі“ (233). Што праўда, то праўда; хаця навошта яны аўтару, калі „соцыолёгія, дарэчы, як навука, *якая не дала яшчэ сталых і поўных абагульненьняў (законамернасьцяй)*“ (234 Курсіў наш *Р. В.*), калі „соцыолёгія“ зьяўляецца такім няпэўным грунтам,—гэта сакрэт аўтара.

Вернемся, аднак, да поступу аўтарскай думкі. „Соцыолёгія“ патрэбна для правільнага разуменьня і г. д. І аўтар вельмі нездаволены, што ў ВУЗ'ах „яе замянілі або замест яе здавальняліся палітычнай экономіяй“: бо яны-ж ня тое самае і ня могуць замяніць адна другую. Палітычная экономія ня прыгодна яшчэ таму, што яна навука „конкрэтная, яна мае справу толькі з эмпірычнымі законамі, якія ня маюць таго наогул абавязковага характару (Aelgemeingültigreif, як гавораць немцы), як законы навук абстрактных“ (234).

Тут мы спатыкаемся з новай блытанінай. Адкуль аўтар узяў, што палітычная экономія — навука конкрэтная? Як кожная навука, палітэкономія мае сваю абстракцыю і законы. Гэткія ёсьць: закон вартасьці, закон заработнай платы, імкненьне нормы прыбыткаў да паменшаньня і т. п. Калі-ж „конкрэтнасьць“ палітэкономіі заключаецца, паводле думкі аўтара у тым, што яна мае справу толькі з эмпірычнымі законамі, дык у гэтым стасунку яна зноў-ткі стаіць

на роўне з іншымі абстрактнымі навукамі, законы ..кіх заснаваны на, так няпрыемнай сэрцу аўтара, эмпірыі. Як-жа, запытаецца ён, быць з нямецкай Algemeingültigreiſ? Вельмі проста— здаць у архіў. Бо сучаснае становішча прыродазнаўства паказвае, што ні аб якой *абсолютнай* усеагульнасьці ня можа быць і гутаркі; ёсьць толькі ўсеагульнасьць *адносная*, якая ў сваёй галіне ўласьціва таксама і політэкономіі. Мы абмяжоўваемся гэтым кароткім заўважаньнем, каб паказаць несправядлівасьць тых грэблівых адносін, якія аўтар выяўляе да політэкономіі.

Можна было чакаць, што пасьля таго, як аўтар так расправіўся з політэкономіяй, ня прызнаўшы ў ёй самай важнай адзнакі навукі — усеагульнасьці, адкінуўшы самую магчымасьць замяніць соцыолёгію, як навуковую аснову для разуменьня і г. д., політэкономіяй, — што аўтар пакажа ёй належнае месца, якога варта яна, як „конкрэтная“ навука ў параўнаньні з абстрактнай навукай—соцыолёгіяй Ён гэта і робіць у наступных выразах: „абедзьве яны (політычная і с.-г. экономія) зьяўляюцца *незаменнымі* (курсіў наш—Р. В.) навуковымі асновамі для разуменьня і пабудовы важнейшых мерапрыемстваў у галіне грамадзкай дапамогі сельскай гаспадарцы“ (234). Вось дык дзіва! Выходзіць, не „соцыолёгію нельга замяніць політэкономіяй, а наадварот, апошнюю *нельга замяніць* „соцыолёгіяй“, ня гледзячы на ўсю яе расхваленую ўсеагульнасьць.

Што-ж гэта за „соцыолёгія“, з якой можна вытвараць гэткія штукі? Аўтар крыху адхінае заслону, якая прыкрывае гэту таемную незнаёмку. Яна, як відаць, з некаторым, вельмі рознакаліберным, інулым. Тут і Монтэск'е, і О. Конт, і Спэнсэр, і Кропоткін. Па кавалачку ад кожнага: у першага ўзята „свобода возделывателей“, у—другога палажэньне, „што політыка павінна будавацца на соцыолёгіі“, у трэцяга — laissez faire laissez passer, тое самае прыблізна ў чацьвертага,—наогул усяго пакрысе. Пасьля гэтага няма нічога дзіўнага ў тым, што такая „соцыолёгія“ дазваляе рабіць з сабой усё, што пажадаецца. Справа, нарэшце, даходзіць да таго, што, калі аўтар ужо зусім падрыхтаваў сваю „соцыолёгію“ для рашучага акту навуковага ўгрунтаваньня, ён робіць з ёю тое, чаго яна варта, і выкідае яе за борт. Трохі непаступова з боку прыхільніка нямецкай Allgemeingültigreiſ, затое сумленна з боку грамадзкага агронома. Як выкладчыку, аднак, яму вельмі патрэбна-б была таксама і паступовасьць.

Але да справы, да справы!—падганяе нас аўтар. „І сапраўды, разьбярэмся *больш рэальна* (ого, вось гэта мова!) у тых мотывах і прынцыпах, якімі кіруецца грамадзкая агрономія“ (236). Грамадзкая агрономія ёсьць частка соцыяльнай практыкі. Як частка яна вызначаецца соцыяльнай політыкай у цалку. „Соцыяльная-ж політыка ствараецца і выпрацоўваецца тэю грамадзкаю клясаю, у руках якой у даны момант знаходзіцца ўлада *і ў меру знаходжаньня гэтай улады* (курс. наш—Р. В). Улада слабая—і соцыяльная політыка яе ня будзе цьвёрдая..., калі ўлада дужая, дык і політыка, якую яна ажыцьцяўляе, робіцца больш монолітнай, станоўчай і моцнай (236). За выключэньнем апошняга пункту накот „меры знаходжаньня ўлады“ ўсё добра: мы разьбіраемся „больш рэальна“. Зразумела, „меры знаходжаньня ўлады“ ўжываецца тут для большай пыхі, і ў істоце абазначае замазваньне пытаньня аб істоце ўлады, аб яе характары, пытаньнем аб яе меры. Адсюль і неазначальнасьць у яе політыцы: „монолітнасьць, станоўчасьць, моцнасьць“. Справа зусім ня ў гэтым, а ў тым, *якая* політыка ажыцьцяўляецца, якая *клясавая* політыка.

Але аб гэтых „важных“ азначэньнях: на монолітнасьць і інш., аўтар сам хутка забываецца, калі пераходзіць

дзіць да прынцыпаў грамадзкай агрономіі. „Грядковая культура“ Дземчынскага, *як прынцып грамадзкай агрономіі*, што з сябе ўяўляла? Спробу старых памешчыкаў разьвязаць аграрнае пытаньне ў Расіі. Сталыпінскі закон аб хутарох? „Кожнаму (ці кожнаму?) было ясна, што тут ажыцьцяўляецца самая простая памешчыцкая політыка, якая мае на мэце шляхам высяленьня на хутары абязброіць сялян—стварыць сотні тысяч дробных памешчыкаў(!), якія-б моцна трымаліся за сваю зямлю і ня квапіліся на зямлю больш буйных памешчыкаў“ (237). Вельмі добра, хоць і ня зусім. Калі-б аўтар менш наракаў на недахват літаратуры па грамадзкай агрономіі, *як часткі соцыяльнай політыкі пануючай клясы*, а больш-бы цікавіўся існуючай літаратурай, дык ён пазбавіўся-б шмат якіх частковых і агульных абмылак. Ня гледзячы на ўсю праўдзівасьць характарыстыкі Сталыпінскай рэформы, мотывіроўка яе мае шмат надакладнасьці. Досыць толькі прачытаць Леніна—„Аграрную программу социал-демократии в первой русской революции“, каб адразу пераканацца, што І. Я. Некляпаеў абмінае сваю мэту. Ня дробнымі памешчыкамі, а дробнымі капіталістымі хацеў Сталыпін зрабіць хутаран. Зрабіўшыся ўласьнікамі, яны з усёй сілай паўсталі-б супроць усякага націску на пазямельную ўласьнасьць, у тым ліку і на памешчыцкую, што і зьяўлялася асяродкам пытаньня. Некляпаеў абмаляваў справу так, нібы сталыпінская рэформа мела на мэце стварыць сотні тысяч дробных памешчыкаў, якія моцна трымаліся-б за сваю зямлю і ня квапіліся-б на зямлю больш буйных памешчыкаў“. Хто-ж гэта тыя, што „ня квапяцца?“ Тыя, якія атрымалі зямлю ва ўласнасьць, зразумела, ня стануць квапіцца на ўласнасьць. Але-ж ня ў іх справа, а ў тых малазямельных і безьзямельных мільёнах гаспадарак, якія ад сталыпінскай рэформы яшчэ больш марнелі. Іх зямельны голад яшчэ больш узрастаў, і патрэбнасьць яго здавальненьня штурхала бяднейшае і серадняцкае сялянства на рэволюцыйныя выступленьні, гвалтоўнае захапленьне памешчыцкай зямлі. Супроць вот гэтых, рэволюцыйна-настроеных сялян, Сталыпін і рыхтаваў армію „дробных уласьнікаў“, якая павінна была абараняць за адно і сваю зямлю і памешчыцкую. Справа, значыцца, зусім не ў пачуцьці „здаволенасьці“, якое ліквідавала-б у „меншай браціі“, якая ўжо атрымала сваю крыху зямлі, апэтыты ў стасунку да „вялікаабшарнікаў“, захаваўшых сваю львіную долю зямлі. Справа ў тым, што аўтар, хоць ён і агроном-грамадавец, як-бы і ня ведае зусім пра вялізную масу безьзямельных і малазямельных сялян! Вось да чаго даводзіць нядбаласьць наконт марксыцкай літаратуры па пытаньні сельска-гаспадарч. політыкі, бо тая „частка соцыяльнай політыкі, якая і г. д.“ і ёсьць с.-гасп. політыка. Зразумела, с.-гасп. політыка ня скіроўваецца толькі на зямельнае пытаньне. Зразумела, пераважнае значэньне для сельскай гаспадаркі маюць тыя агульна-экономічныя ўмовы, сярод якіх ёй даводзіцца разьвівацца, як адзначае і аўтар: рынак, крэдыт, транспорт. Але якраз гэтыя самыя абставіны знашлі сваё належнае тэорытычнае выяўленьне ў працы Маркса аб дыфэрэнцыянальнай рэнце (Капітал III т. ч. II), Каўцкага „Аграрном вопросе“, Леніна—„О кооперации“, „О продналоге“ і ў партыйнай літаратуры, афяраванай гэтым проблемам ужо пры Савецкай уладзе. А прычым тут Спэнсер і fatti quanti зьяўляецца патаемным сакрэтам аўтара. Хаця, магчыма, што аўтар задумаў тут іншае: паказаць старых земцаў ня ў іх праўдзівым буржуазна-памешчыцкім абліччы, а ў выглядзе доктрынёраў, якія заўзята трымаліся некай адцягненай формулы—laissez faire laissez passer. Такі, напрыклад, сэнс можа мець зацьверджаньне аўтара, што „земцы ў

сваёй дзейнасьці... вельмі часта кіраваліся прынцыпамі, якія так энэргічна абараняліся Спэнсэрам“ (240). Вельмі „пикантно“ гучыць з прычыны гэтага ўспамінаньне аўтара аб мольераўскім гэроі, які гаварыў буржуазнай прозай.

Так, гэта была буржуазна-памешчыцкая проза. Да гэтага выводу прымушан быў прысьці і аўтар пасьля аналізу „асноўных прынцыпаў і ідэі грамадзкай агрономіі. Зусім забыўшыся на „соцыолёгічнае“ угрунтаваньне і на *сваё азначэньне*, ён мэлянхолічна адзначае: „Не, не грамадзкая агрономія ажыцьцяўляе свае ідэі і трымаецца свайго кірунку, а, наадварот,—соцыяльная палітыка пануючых кляс стварае той ці іншы кірунак для грамадзкай агрономіі“ (241). Можна было спадзявацца на тое, што калі грамадзкая агрономія ня можа *ажыцьцяўляць* свае ідэі, дык яна хоць *мае* іх. Не, аўтар яе канчаткова забівае: дарма старыя агрономы „думаюць“, што яна *мае* некія свае прынцыпы і ажыцьцяўляе некія свае ідэі. Вось як дрэнна стаяць справы! Вось ужо сапраўды—„пачаў за здароўе, а скончыў за ўпакой“. Успомнім азначэньне „грамадзкая агрономія, *як асаблівая навуковая дысцыпліна*, зьяўляецца часткай соцыяльнай палітыкі, якая мае (выходзіць нешта мае) на мэце вывучэньне і выпрацоўку грамадзкіх (відаць па-заклясавых?) мерапрыемстваў, накіраваных да ўздыму і разьвіцьця сельскае гаспадаркі“. А вышла, што яна нічога ня мае і нічога ня можа ажыцьцёвіць у якасьці „асаблівай навуковай дысцыпліны“.

Але... не такі страшны чорт, як яго малююць. У аўтара нічога і не магло выйсьці. Пабудаваць на эклектрычнай юшцы з Конта і Спэнсэра рэчаісную грамадзкую агрономію сапраўды немагчыма. Сабраная з кавалачкаў буржуазных „соцыолёгаў“ псэўда-навуковая мешаніна разьлязаецца ад першага дотыку рэчаіснасьці. Разам з крахам „соцыолёгічнага“ базісу раскідаецца і пастаўленая на ім будоўля, як некая самастойная „асаблівая навуковая дысцыпліна“. На шчасьце, рэчаісная грамадзкая агрономія—сел.-гасп. палітыка грунтуецца на зусім іншым базісе, і дзеля гэтага мае свой асаблівы зьмест. Базіс гэты—марксава тэорыя грамадзкага разьвіцьця або гістарычны матэрыялізм. Аўтар скардзіцца, што ў с.-гасп. ВУЗ‘ах ня вучаць „соцыолёгіі“. Зразумела, тае „соцыолёгіі“, якая выяўлена блытаным эклектыкам Контам і вульгарным эволюцыяністым Спэнсэрам у нас ня вучаць. Затое абавязковым прадметам ва ўсіх нашых ВУЗ‘ах зьяўляецца гістарычны матэрыялізм, які зьяўляецца тэорытычным грунтам для марксыцкай політэкономіі. На ёй ужо грунтуецца тэорытычна наша „соцыяльная“ палітыка, з якой выцякае і асаблівая с.-гасп. палітыка або грамадзкая агрономія. Так што яна—і базіс, і зьмест.

Аўтар нарэшце апамінаецца і, зводзячы грамадзкую агрономію да ролі „службовай функцыі“, тлумачыць, як яе трэба выконваць: трэба запамятаць асноўнае палажэньне марксыцкай соцыолёгіі, што „не сьвядомасьць людзей вызначае форму іх быцьця, а, наадварот, грамадзкае быцьцё вызначае форму іх свядомасьці і што ўся гісторыя людзкіх грамад была дагэтуль гісторыяй барацьбы клясаў“. Усё гэта было-б добра, каб не зьявілася, як oleux ex mahino, калі-б цень Марксава ня была выклікана дзеля таго, каб прыняць удзел у пахаваньні грамадзкай агрономіі.

Праўда марксызму заўсёды конкрэтная. У даным выпадку гэта абазначае, што калі гаворыш аб грамадзкай агрономіі, дык трэба паставіць яе ў прычынную сувязь з тымі беспасрэднымі ўмовамі, што датычаць яе. А ўжываць у якасьці яе падставы формулу аб азначэньні сьвядомасьці існаваньнем, абмінаючы ўсе папярэднія зьвеньні, можна толькі, каб пакпіць з марксызму. Больш конкрэтным зьяўляецца адзначэньне клясавае барацьбы. Але й тут аўтар

пастараўся надаць ёй спэцыфічнае адценьне. „Стоячы на клясавым пункце погляду, мы хутчэй ды глыбей зразумеем сапраўдны адваротны бок, сапраўдныя мотывы шмат якіх мерапрыемстваў у справе агрономічнай дапамогі, якія заўсёды праводзіліся ды праводзяцца якім-колечы шырокім (а сапраўды вузкім?) і някрыўдным (а сапраўды крыўдным, але для каго?), лёзунгам накшталт „палепшаньня сялянскае гаспадаркі“ або „разьвіцьця вытворчых сіл вёскі“ (вынняткі з сталыпінскага закону і з... XIV партконфэрэнцыі, якаво, га?), але якія ўрэшце, як мы мелі магчымасьць ужо адзначыць, заўсёды зьяўляюцца плодам пэўнае клясавае політыкі, пэўных клясавых інтарэсаў пануючае ў даны момант клясы“ (242). Якія дзіцячыя хітрыкі! У вадным сказе, пад адным крыльцам разам аб'яднаны: „праводзіліся“ і „праводзяцца“, гіронічнае „шырокім і няшкодным“, мотывіроўка Сталыпіна і партыі і выдатны „плод клясавай політыкі!“

Не, гэта не называецца клясавым пунктам погляду. Калі ў адну кучу кідаюць і клясавую політыку памешчыцкае дзяржавы і Савецкае дзяржавы, калі гіронію „няшкоднасьці“ прыстасоўваюць аднолькава да першай і да другой, калі лічаць за тоесамыя іхныя мотывы і іхнюю існасьць, як „плод клясавай політыкі“ наогул,— дык гэта ня лепшы выпадак абазначае зьдзек над марксізмам і поўнае перакручваньне нашае с.-гасп. політыкі. Шырызна і няшкоднасьць лёзунгу царскага ўраду наконт „палепшаньня сялянскае гаспадаркі“ сапраўды гучэлі аднэй гіроніяй, бо на справе звужалі разьвіцьцё сялянскай гаспадаркі і зьяўляліся вельмі „крыўднымі“ для вялізнай масы сялянства. А наш лёзунг—„разьвіцьцё вытворчых сіл вёскі“ сапраўды дае шырачэзную прастору і сапраўды об'ектыўна не зьяўляецца ніякай крыўдай для шырокіх сялянскіх мас. Такім чынам, гіронія тут не да рэчы і „плод“ так сама не да рэчы, бо сялянства ў нашай с.-гасп. політыцы лёгка пазнае сваё ўласнае дзіцё.

Імкненьне да абавязковага абагульненьня абстрагаваньня не заўсёды дае добрыя вынікі,—ні тэорытычныя, ні практычныя. За еднасьцю ня сьлед забывацца на розьніцу. У праціўным разе, заўсёды прыходзім да вельмі праўдзівага выведу: уначы ўсе кошкі—шэрыя. Але навучыцца з яго чаму-небудзь вельмі цяжка. Сумным прыкладам гэтага зьяўляецца артыкул выкладчыка Н. Я. Некляпаева. Можна толькі пажадаць, каб ён прыняў пад сваю ўвагу гэтую прыкрую практыку.

Нам-жа асабліва трэба прыняць пад увагу такія вось здарэньні, як артыкул выкладчыка нашага ВУЗ'у. Калі разьвінаецца і практычна ажыцьцяўляецца лёзунг „тварам да вёскі“ у нас, у БССР, калі пераважае аграрны характар рэспублікі, асабліва важным зьяўляецца ня толькі практычная пропаганда і чыннасьць, але надзвычайная дакладнасьць, выразнасьць і вытрыманасьць тэорытычнага кірунку. **Выдра.**

**Фэдэрацыя альбо вунія?** На артыкул В. Д. Дружчыца **„Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскае вуніі.** *(Працы Бел. Дзярж. Унівэрсытэту 1925 г. № 6-7 с.с. 216-251).*

Нацыянальнае вызваленьне нацый былое расійскае імпэрыі, якое прынесла рэволюцыя 1917 г., бяссумненна прынясе і шырокую магчымасьць навуковага дасьледваньня мінулага, уціснутых раней нацыянальнасьцяй, дасьледваньня ня з пагляду офіцыйнага ў імпэратарскай Расіі монізму гістарычнага процэсу ўсходня-славянскіх народаў, супроць каторага ў беларускай навуцы протэставаў проф. У. Пічэта[1]). Раней калі

[1]) У стацьці „Очередные вопросы белорусской историографии“. Вести Наркомпроса ССРБ в. 11-12 (1922 г.) с. 31.

дасьледавалі гісторыю беларускага народу, дык толькі ў тых пэрыодах, якія былі супольныя з расійскім гістарычным процэсам. Менавіта, слаба высьветлена палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі 1569 г. (калі яна страціла украінскія краі—да гэтага часу яна была дзяржавай Літоўска-беларуска-украінскай). Тут, калі ня лічыць 2-тамовую монографію І. Лаппа „Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Баторыя“ (т. II называецца „Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Литовско-русский повет и его сеймики“ амаль што нічога няма. Цікавая праца В Дружчыца гаворыць якраз пра гэты мала-дасьледаваны пэрыод і пры гэтым датыкаецца цікавай тэмы пра праўнае „Палажэньне Л.-Б. дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі“. Пытаньне гэтае ня можна лічыць за надта спэцыяльнае і няцікавае цяпер. Мы думаем, што без дасьледваньня праўных нормаў ня можна добра зразумець і ўвесь гістарычны процэс, зразумець соцыяльныя сілы і фактары, якія на яго рабілі ўплыў. Справа ў тым, што „надбудоўля“—пісанае права—была (і ёсьць) надта моцным фактарам (гэта менавіта ясна цяпер, калі савецкае права і савецкая конституцыя надзейна берагуць верхаводзтва клясы пролетарыяту ў СССР.; у мінулыя эпохі яно таксама было зброяй у руках пануючых кляс). Праўныя формы Літоўска-Беларускае дзяржавы пасьля 1569 г., як відаць, адпавядалі інтарэсам шляхты.

В. Дружчыц думае, што акт вуніі 1569 г. не канчаткова разарваў палажэньне Беларуска-Літоўскай дзяржавы да новых варункаў. Новыя акты корэктуюць і ліквідуюць ухвалы Люблінскага сойму. Найважнейшы з іх—гэта III Літоўскі Статут, які стаў грунтам, апорай „Вялікага княства Літоўскага“ ў яго барацьбе з Польшчай пасьля Люблінскай вуніі. Пастановы яго ішлі супроць актаў вуніі (такімі былі: асобная прысяга гаспадара вял. княства, незалежная дзейнасьць Рады вялікага княства, прызнаньне выключна за родзічамі Літвы-Беларусі права на атрыманьне спадковых зямель). Трэці Статут, зазначае В. Д. Дружчыц, ведае ўсе тры складнікі дзяржавы: Беларуска-Літоўская ўлада, тэрыторыя, жыхарства асобнае ад польскага. Гаспадара Статут разглядае як вялікага князя Літоўска-Беларускага. Вялікае Княства мае сваю Раду, прадсэймовыя галоўныя зьезды шляхецкіх паслоў; апошнія ў часы бескаралеўя, кажа В. Дружчыц, „прымалі характар ранейшых соймаў, якія вырашалі ўсе дзяржаўныя справы, без усялякай санкцыі супольнага сойму“ (с. 247). На супольным сойме яны абаранялі інтарэсы Літвы-Беларусі. і вялікае княства Літоўскае выступала там, як асобная дзяржаўная адзінка.

Умова вуніі, зазначае аўтар, вольнае права палякаў набываць маёнткі ў Беларусі-Літве трэцім Статутам касуецца. Жыхарства Беларусі-Літвы мела асобныя ад палякаў прывілеі. Яно мела свае законы (III Статут, асобныя конституцыі): суд, дзяржаўную беларускую мову (да 1697 г.), свае асобныя цэнтральныя ўрады; асобнасьць фінансаў, скарбу і бюджэту; асобнае войска і яго камандыраў; асобныя тытул, герб, пячатку...

Значыцца, цалком правільна адзначае В. Дружчыц, „вывады гісторыкаў, зробленыя на аснове акту Люблінскага прывілею аб страце княствам дзяржаўнай незалежнасьці і зьліяньні з Польшчай у 1569 годзе, сьпешны і неабаснаваны“ (с. 250).

Адсюль і асноўны вынік аўтара: „політычнага адзінства, нават фармальнага, у Рэчы Паспалітай, як відаць, не існавала: усе элемэнты дуалізму на фэдэрацыйных асновах выразна выяўлены ў пабудове Рэчы Паспалітай“ (с. 251).

Бяссумненна вялікая заслуга В. Дружчыца ў тым, што ён, як ніхто

да яго, ясна паставіў пытаньне і давёў, што Беларусь-Літва была дзяржавай і пасьля 1569 г. Нам здаецца, што толькі апошні вынік гэтага вучонага пра фэдэрацыйныя асновы, значыцца, пра фэдэрацыю, зроблены няправільна. Хацелася-б, каб аўтар не канчаў на гэтым працу, але абаснаваў пытаньне з юрыдычнага боку, разглядзеў-бы ўсе формы злучэньня дзяржаў і давёў, калі ўжо ён так думае (ён выражаецца крыху няясна), што тут была фэдэрацыя.

Супроць фэдэрацыйных асноў, фэдэрацыя гэтага злучэньня, на наш погляд, гаворыць многае. Фэдэрацыя, саюзная дзяржава, паводле азначэньня Г. Елінэка, „гэта складаная з некалькіх дзяржаў сувэрэнная дзяржава, дзяржаўная ўлада якое выходзіць ад яе асобных членаў, зьвязаных у вадно дзяржаўнае адзінства“ [1]). Думаем, што гэтага дзяржаўнага адзінства якраз і ня было ў злучэньні Польшчы з Літвою-Беларусьсю. Апроч таго, няма тут цалком канечна патрэбных варункаў фэдэрацыі: супольнай (апроч караля—вял. князя) выканаўчай улады, урадаў і ўраднікаў фэдэрацыі (усе яны былі ці польскія, ці літоўска-беларускія), супольнага войска, саюзнага бюджэту, суду. Далей „ва ўсіх—піша Ю. Гачэк—саюзных дзяржавах існуе двухпалатная сыстэма: у ваднэй народнай палаце—прадстаўлена нацыя, у другой—дзяржавы“ [2]). Гэтага ў Польска-Літоўскім злучэньні таксама ня было, затым што супольны сэнат ня быў складзены з прадстаўнікоў асобных дзяржаў: у ім засядалі вышэйшыя ўрадавыя асобы, якія мелі на гэта права цераз свае пасады; польскіх сэнатараў было болей, чымся беларуска-літоўскіх і дзеля гэтага ня было неабходнай для фэдэрацыі лікавай роўнасьці прадстаўнікоў саюзных дзяржаў у верхняй палаце.

Таксама ня можна сказаць, што злучэньне Польшчы і Літвы-Беларусі было на фэдэрацыйных асновах.

Хутчэй гэта былі адносіны рэальнай вуніі. Ю. Гачэк цалком правільна думае, што „сутнасьцю рэальнай вуніі ёсьць організацыйная роўналежнасьць (паралелізм) пры фізычнай тожсамасьці монарха“. [1]) Якраз такі організацыйны паралелізм, калі найвышэйшай уладай Польшчы і Літвы-Беларусі быў кароль польскі і вялікі князь Літоўскі, быў і тут. Супроць існаваньня рэальнай вуніі могуць толькі сказаць, што пры ёй, звычайна, ня бывае супольных установаў,—пры злучэньні-ж Польшчы з вялікім кн. Літоўскім былі такія супольныя ўстановы: сэнат, вальны сойм. Аднак, гэта зусім не адкідае нашай мысьлі, бо такі аўторытэтны знаўца дзяржаўных злучэньняў, як цытованы ўжо Ю. Гачэк, паказвае, што і пры рэальнай вуніі могуць „існаваць супольныя органы злучаных дзяржаў“ (с. 32.) Дзеля ґэтага злучэньне Польшчы з вялікім княствам Літоўскім (Беларусь-Літва) было хутчэй рэальнай вуніяй.

Такім чынам нам здаецца, што цікавая праца В. Дружчыца каштоўна тым, што яна даводзіць дзяржаўны характар Беларусі-Літвы пасьля 1569 г.; трэба было-б ня спыняцца толькі на гэтым, але давесьці і тое, якою формаю дзяржаўных злучэньняў было злучэньне Польшчы з Беларусьсю-Літвою. З слоў аўтара можна падумаць, што гэта была фэдэрацыя, хутчэй-жа гэта была рэальная вунія.

(Хацелася-б пажадаць аўтару, каб у яго будучых гістарычна-юрыдычных работах больш ясна падкрэсьлівалася тое, што за праўнымі інстытутамі стаялі пэўныя соцыяльныя сілы, ґрупы, клясы; што тыя ці іншыя нормы, законы, праваадносіны былі вынікам агульнага экономічнага палажэньня краіны, з аднаго боку, і

[1]) Г Елінэк. „Общее учение о государстве“ 1903 г. с. 515.

[2]) Ю. Гачэк. „Общее государственное право... III. Право госуд. соединения“, с. 123.

[1]) Там-жа, с. 32.

клясавае барацьбы за ўладу—з другога. Самая вунія—злучэньне з Польшчай—была рэзультатам барацьбы і перамогі шляхты над магнатамі-фэўдаламі).

**Л. Акіншэвіч.**

**„Наш край“.** *Штомесячнік ЦБ Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры № 1, кастрычнік 1925 г.*, in folio *8, ст. 68, у ліку 2.000 экз.*

Спроба стыхійна ўзросшаму краязнаўчаму руху надаць пэўныя організацыйныя рамкі ўзьнікла ў нас на Беларусі ня так даўно, два гады таму назад, а іменна ў сьнежні 1923 г. з часу ўтварэньня пры Інстытуце Беларускае Культуры Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

За час існаваньня краязнаўства—як пэўнай організацыі—праароблена вельмі шмат працы. Праведзены акруговыя конфэрэнцыі, адбылася і ўсебеларуская. Краязнаўчыя інстытуцыі, раскіданыя па ўсіх раённых і акруговых цэнтрах і нават у некаторых сельсаветах і школах, налічваючыя ў сваіх шэрагах тысячы сяброў, зьяўляюцца вялікімі дапамагальнікамі справе вывучэньня Беларусі і яе культуры.

Канчаючы другі год свайго існаваньня, ЦБ Краязнаўства, побач з інструкцыйна-навуковай працай, распачало і выдавецкую, пачаўшы яе выданьнем свайго штомесячніка „Наш край“.

Рэцэнзуемы намі № 1 часопісі „Наш край“ дзеліцца па свайму матэрыялу на тры часткі: навуковую, інструкцыйную і хроніку.

У навуковай частцы часопісі сярод іншых матэрыялаў, аб якіх размова будзе ніжэй, зьмешчаны артыкулы: М. Шчэкаціхіна—„Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра“, А. Сянкевіча—„Аграрны рух на Меншчыне ў 1905-6 г. г.“, проф. П. Салаўёва—„Некаторыя вывады з фэнэлёгічных назіраньняў“,—якім ня месца ў часопісі краязнаўчай організацыі, а ў будучых навуковых запісках Інбелкульту.

Інструкцыйная частка часопісі, якая зьмяшчае ў сабе анкеты, програмы і інструкцыі—зьяўляецца найкаштоўнейшым з таго, што маецца ў часопісі, што мясцовы краязнаўца здолее выкарыстаць у сваёй працы. У гэтым аддзеле часопісі сярод іншага матэрыялу мы маем: „Што рабіць раённым краязнаўчым таварыствам“, програмуінструкцыю для зьбіральнікаў беларускай музычна-этнографічнай творчасьці, інструкцыю да зьбіраньня народнага слоўніка—тэрмінолёгічнага матэрыялу ў беларускай мове, мінімальную програму фэнэлёгічных назіраньняў, програму апісаньня паселішчаў гарадзкога тыпу.

Частка трэцяя часопісі—хроніка, панашаму, не задаволіць чытача краязнаўцу. Сабраны ў ёй хронічны матэрыял зьяўляецца ўсяго толькі інформацыяй аб працы паасобных сэкцый і камісій Інбелкульту, аднак ня хронікай жыцьця краязнаўчых інстытуцый Беларусі, якіх яднае ЦБК.

Асобна ў гэтым нумары стаяць два артыкулы дасьледча-*прыкладнага характару*. Гэта—артыкул проф. З. Жарынава—„Краязнаўства і працоўная школа“ і проф. Васількова „Як зьбіраць расьліны“,—што, бязумоўна, трэба адзначыць.

Якія-ж вывады?

Краязнаўчы рух на Беларусі яшчэ дагэтуль знаходзіцца ў пэрыодзе організацыі. На месцох у нас яшчэ зусім мала навуковых сіл, якія-б маглі працаваць самастойна. Ім патрэбна навуковае кіраўніцтва і выхаваньне. Гэта можа зьдзейсьніць ЦБ Краязнаўства праз сваю часопісь. Гэта і трэба паставіць *у адно з першых заданьняў рэдакцыі „Нашага Краю“*. Таму і артыкулы выхаваўча-кіраўнічага характару ў № 1 намі выдзелены асобна ад іншага матэрыялу.

Ці патрэбен часопісі навуковы аддзел? Так, бязумоўна, патрэбен, але не такога зьместу, як у № 1. У навуковым аддзеле павінны зьмяшчац-

ца артыкулы дасьледчага характару краязнаўцаў нізавых інстытуцый. Праўда, можа яны й ня будуць навуковымі ў поўным уразуменьні гэтага слова, затое вопыт працы краязнаўцы аднае мясцовасьці будзе карысьцен у працы другога, чаго і дамагаецца краязнаўства.

Аддзел анкет, інструкцый і праграм—часопісі, бязумоўна, патрэбен і яго трэба захаваць на далейшае. Гэтым аддзелам ЦБК здолее задаволіць краязнаўцу розных галін у яго штодзеннай працы.

Аддзел хронікі—трэба аддаць *выключна* жыцьцю і працы краязнаўчых організацый. Добра было-б, каб гэты хронічны матэрыял аздабляўся здымкамі і малюнкамі.

Нарэшце, пажадана, каб часопісь зьмяшчала ў сабе і літаратурны матэрыял—як апрацаваныя беларускія легенды, так і народную творчасьць —фольклёр, сабраную мясцовымі краязнаўцамі і дагэтуль не выдрукаваную. Гэтым часопісь набудзе да сябе шмат большую ўвагу.

Урэшце, пажадаем часопісі, каб назва „штомесячнік“ не засталася на паперы, а часопісь выходзіла рэгулярна кожны месяц.

**Іл. Барашка.**

**Самковіч, Пратасэвіч і Гарбацэвіч. „Наш сьцяг“.** *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1925 г.*

Толькі што вышла з друку кніжка для чацьвертага году навучаньня „Наш сьцяг“ трох аўтараў: Самковіча, Пратасэвіча і Гарбацэвіча. Кніжка досыць ёмкая, выдана ня дрэнна, толькі малюнкаў мала й няпрыгожыя, а гэта ўжо вялікая загана: добра зроблены малюнак дзіцяці дасьць часам больш, чымся расказ. Агулам пра кніжку можна сказаць, што яна выпушчана сваячасова і для разьвіцьця комплекснага выкладаньня ў школе зробіць значную карысьць. Таксама немалую ролю кніжка адыграе і ў пераходзе выкладаньня на беларускую мову. Але гэтыя вартасьці залежаць не ад самой кніжкі, а ад об'ектыўных умоў, у самой-жа кніжцы побач з добрымі бакамі ёсьць і шмат заган. Склад мовы досыць добры, у параўнаньні з „Роднымі шляхамі“ ўжо вялікі прогрэс. Тут у перакладзеных артыкулах сказы паводле расійскага сынтаксу сустракаюцца вельмі рэдка. Матэрыял-жа ў кніжцы няўважліва апрацован дый падбор матэрыялу ня зусім удалы. Аўтары выпусьцілі з погляду псыхолёгіі дзяцей і зьмясьцілі занадта многа сухога абстрактнага матэрыялу. Вось, к прыкладу, возьмем першы разьдзел. Тут аўтары прыводзяць шэраг лічбаў аб колькасьці лясное плошчы—700 мільёнаў дзесяцін, альбо аб колькасьці каменнага вугалю—30 мільярдаў пудоў і г. д. Ну, што гэткія лічбы могуць сказаць дзіцяці? Да абсолютна нічога. Гэткіх лічбаў бадай што ня ўявяць дзеці старэйшых груп, а для дзяцей 4-ай групы яны зусім непатрэбны. Увесь аддзел аб народнай гаспадарцы перасыпан лічбамі. Гэта нядобра. Трэба цьвёрда памятаць, што ў дзяцей моцна разьвіта памяць назіральная і досыць слаба разьвіта памяць абстрактнага запамінаньня, і наогул процэсы абстрактнага мысьленьня ў дзяцей адбываюцца слаба. Гэта значыць, што дзеці вельмі добра запамінаюць усё тое, што так ці йначай зьвязана з нейкай конкрэтнай формай альбо вобразам. Вось гэтыя лічбы і патрэбна было ілюстраваць дыяграмамі. Велічыню трыццаць мільярдаў пудоў сталы чалавек ня ўявіць, бо такое велічыні ў сапраўднасьці ніхто ня бачыў, то для чаго-ж яе тады падносіць дзіцяці? Хіба толькі для таго, каб затуманіць яму галаву. Зусім была-б другая справа, каб гэтая лічба была параўнана дыяграмаю з другою якоюсь кольвек галінаю гаспадаркі, больш-менш знаёмаю для дзіцяці. Магчыма, што аўтары, пішучы кнігу, бралі пад увагу інтарэсы настаўнікаў, але калі гэта было так, дык гэта вялікая памылка. Падобныя лічбы настаўнік мог-бы

ўзяць з агульнай географіі, калі яны яму былі-б патрэбны, і для настаўніка выдаваць асобную гэткую кніжку зусім непатрэбна. Пры выданьні падручнікаў заўсёды патрэбна кіравацца выключна толькі інтарэсамі дзяцей. На староцы 43 аўтары пішуць: „Мы самі ўдыхаем паветра толькі за тым, каб глынуць трошкі тлену. І жалеза паглынае тлен, хоць яно і няжывое“. Здорава сказана, і надта здорава. Аўтары хочуць зраўнаць іржаўленьне з дыханьнем. Гэта зусім няправільнае параўнаньне і не адпавядае рэчаіснасьці. Іржаўленьне лепш можна прыраўняць да гніеньня, але ўсё-ж такі ня трэба забываць, што гэта рэчы зусім розныя па сваім працэсе. Толькі старыя падручнікі называлі гніеньне паступовым гарэньнем. Іржаўленьне можа адбывацца тады толькі, калі ў паветры маюцца пары вугальнага квасу, а гэта значыць, што паветра павінна быць сырое, у сухім-жа паветры ніякага іржаўленьня быць ня можа. Дыханьне-ж адбываецца пры ўсякіх абставінах. Вось такое няправільнае выкладаньне навуковых фактаў можа зьбіць з толку ня толькі вучня, але часам і настаўніка. Слаба высьветлена злачынная дзейнасьць царквы ў мінуўшчыне. Па гэтым пытаньні прыведзен толькі адзін артыкул—„Агнём і крывёй у імя бога“; у гэтым артыкуле пералічваюцца некаторыя суды і сьмяротныя кары, якія рабіла царква з выдатнымі асобамі. Супроць гэтага артыкулу ня прыходзіцца нічога мець, але аднаго гэтага артыкулу мала, каб высьветліць сутнасьць царквы і рэлігіі наогул. Для высьвятленьня гэтага пытаньня патрэбна было зьмясьціць больш адпаведныя мастацкія апавяданьні, якія-б яскрава высьвятлялі клясавую сутнасьць царквы і рэлігіі наогул. Пры апісаньні імпэрыялістычнае вайны аўтары мала спыняюцца на ўцекачох, якія ўцякалі ад немцаў у часе ўсясьветнай вайны. Гэта справа ў гісторыі беларускага народу мае вельмі вялікае значэньне і пры распрацоўцы комплексу БССР на ім патрэбна было-б уважліва спыніцца. Але аўтары прыводзяць толькі маленькі расказік Бядулі—„Крыжы“. І больш нічога.

Невядома, чаму гэта аўтары перахрысьцілі Карля Маркса ў Караля Маркса. Панямецку, здаецца, кажуць Карль, а не Кароль; думаю, што і нам гэтае слова належыць акцэнтаваць так, як яго акцэнтуюць немцы. Тым болей, што з словам кароль у нас зьвязана зусім іншае разуменьне. Слова кароль, як імя, у нас пашырана вельмі нязначна, яно шырока распаўсюджана ў польскай літаратуры, але там яно ня мае таго разуменьня, якое яно мае ў нас, дый акцэнтацыя ў польскай мове слова кароль вельмі падобна да акцэнтацыі нямецкага Карль. Адным словам, нашай мове ўжываць слова Кароль, замест слова Карль—вялікая памылка, лепей было-б ужыць Караль, а не Кароль.

Пры апісаньні плянэты Марса, аўтары прыводзяць малюнак Марса з каналамі. Вось гэтага зусім ня трэба было рабіць, бо ўжо даўно высьветлена, што тое, што здавалася каналамі на Марсе, ёсьць ня што іншае, як оптычная ілюзія. Гэта ўжо высьвятлялася некалькі раз і ў газэтах, і ў журналах, а асабліва ў справаздачы аб досьледах над Марсам у 1924 г. ў артыкулах „Барацьба за існаваньне“ і „З жыцьця расьлін і зьвяроў“. Аўтары сіляцца давесьці, што ў прыродзе ідзе бязупыннае змаганьне за жыцьцё. Але гэтыя артыкулы пісаны вельмі суха, не мастацкі, так што для вучняў яны будуць вельмі нуднымі. Лепш было-б аўтарам запазычыць па гэтым пытаньні артыкулы. Мастацкіх артыкулаў па гэтым пытаньні ў расійскай літаратуры шмат, напрыклад, у Траяноўскага, Шмідта, Сініцына і інш. Надта сьціспа выкладзена тэорыя Дарвіна аб эволюцыі відаў. Такую вялікую рэч, як тэорыя Дарвіна, так сьціскаць няможна, бо вучань нічога не зразумее. У тэорыі

Дарвіна павінна быць кожнае слова падмацована малюнкамі, а голыя словы ня робяць патрэбнага ўражаньня. На працягу ўсяе кніжкі аўтары ня спыняюцца на гігіене чалавека. Праўда, гігіене дзяцей вучаць у трэцяй групе, але ня шкодзіла-б аб гэтым зьмясьціць некалькі артыкулаў у чытанцы і для чацьвертага году навучаньня, тым больш, што ў гэтай групе павінен вывучацца організм чалавека. У кніжцы зьмешчана досыць мала вершаў, якія-б сваім рытмам і зьместам адпавядалі-б псыхіцы дзяцей,—большасьць вершаў усё сур'ёзныя. На працягу ўсяе кніжкі ня знойдзеш артыкулу, які-б надаў дзіцяці вясёласьці, сьмеху. Для організму дзяцей патрэбны і сьмех, і гульні і веды. Немагчыма ўвесь час набіваць дзіцячую галаву рэальнымі ведамі, бо мазгі дзіцяці ад пераапрацоўкі гэтых ведаў могуць стаміцца і нейкі час зусім бязьдзейнічаць. Вось гэтай уласьцівасьці дзяцей аўтары зусім не ўзялі пад увагу, і ўся кніга зложана ў большасьці з сухога дзелавога матэрыялу, які прасякнут людзкім горам і клясавым змаганьнем. Я гэтым не хачу сказаць, што ў школьных падручніках не павінна трактавацца клясавая барацьба; для яе там павінна быць адведзена пераважнае месца, але трэба ўважна сачыць, каб гэтае вялікае пытаньне ў нашых падручніках ня стала шаблёнам.

**Настаўнік Я.**

**Курило. О.** *Фонетичні да деякі морфологічні особливості говірки села Хоробричів, давніше Городнянського повіту, тепер Сновської округи на Чернігівщині. Київ, 1924. (Всеукр. Акад. Наук. Збірник Істор.-Філол. відділу, № 21)—Стр. II-III.*

Праца О. Курыла належыць да таго тыпу прац па дыялектолёгіі, задачай якіх зьяўляецца памагчымасьці дакладнае і вычарпальнае апісаньне наяўнага фонэтычнага і морфолёгічнага складу гаворкі, каторая вывучаецца бяз досьледу пахаджэньня таго ці іншага гуку або формы, бяз імкненьня абаснаваць іх гістарычнымі данымі.

Кожны запіс гаворкі, няхай сабе ён зроблен не спрактыкаванай рукой, каштоўны для дыялектолёгіі. Але Курыла—ня просты запісальнік-аматар, а запісальнік, узброены навуковай падрыхтоўкай і практыкай. У яе апісаньні мы маем не мэханічнае пералічэньне гукаў (і формаў), што існуюць у гаворцы, якая вывучана ёю, а хутчэй фізыолёгію гукаў говоркі, з дакладным аналізам іх прыроды. Такія працы—рэдкія зьявішчы ў навуковай літаратуры, і таму іх трэба вельмі і вельмі вітаць. Асабліва павялічвае каштоўнасьць працы О. Курыла тая акалічнасьць, што яна апісвае беларускую гаворку. Беларуская дыялектолёгія бедна на добрыя працы, якія адказваюць навуковым вымаганьням, і апісаньне, зробленае Курыла, зьявіцца каштоўным укладам у скарбніцу беларускай мовы.

Аўтар апісвае гаворку в. Хоробрычай, калісьці Гараднянскага пав., Чарнігаўскай губ., г. зн. гаворку, якая належыць амаль недасьледжанай да гэтых часоў мясцовасьці. Гэтая самая гаворка чуваць у 4-х бліжэйшых вёсках, а далей ужо распачынаецца мова на украінскі лад. „Насельніцтва гэтае выспы называе сябе „ліцьвінамі", таксама называюць яго і суседзі-украінцы.

Пасьля невялікай гістарычнай доведні пра в. Хоробрычы, аўтар апісвае гаворку. Галоўная ўвага зьвернута ёю на гукі; меней месца займаюць формы, сынтакс зусім не закранаецца. У канцы кніжкі падаюцца запісы гаворкі, пададзен сьпіс імёньняў, прозьвішчаў і назвы вуліц гэтае вёскі. Гэтыя дадаткі маюць вялікую вагу, бо дапаўняюць лік прыкладаў, а ў некаторых выпадках даюць магчымасьць дадаць сёе-тое да характарыстыкі гаворкі, што аўтар з невядомых прычын абмінуў.

Нельга абыйсьці § 2, у якім аўтар піша аб гатунку націску ў данай га-

ворцы. Гэта, калі ня мыляюся, першая спроба ў гісторыі беларускай дыялектолёгіі. Надаючы вялікае значэньне характару галоснага, яго становішчу пад націскам або не пад ім, аўтар падзяляе разьдзел галосных на два падразьдзелы і разглядае спачатку галосныя пад націскам, а далей галосныя ў становішчы не пад націскам. Розьніца паміж імі і ў колькасных і ў якасных адносінах. Большай увагі заслугоўвае разьдзел націскных галосных. Усе гэтыя галосныя зьяўляюцца дыфтонгічнымі гукамі, як называе іх аўтар, або прасьцей, дыфтонгамі, як іх называюць іншыя дасьледцы. Апрача Развадоўскага (гл. Max. i Prace, т. I), а ў апошні час Ганцава, ніхто не займаўся фізыолёгіяй гэтых гукаў, і таму вельмі ўдалае апісаньне іх прыроды—вялікая заслуга Курыла. Пытаньне аб беларускіх дыфтонгах, як вядома, прыцягвала і прыцягвае цікавасьць дасьледцаў. І таму нельга не пашкадаваць, што аўтар абмежаваўся толькі апісваньнем іх прыроды, а не паспрабаваў, карыстаючы сваю блізкасьць да іх, вызначыць умовы іх зьяўленьня, вытлумачыць прычыны ўзьнікненьня на месцы *о ў адных выпадках ó, у іншых—ȣ. Зразумела, гэта не складала задачы аўтара, але гэта можна было дасягнуць, пададбраўшы больш прыкладаў і разьмеркаваўшы іх у пэўным парадку.

У разьдзеле галосныя, якія стаяць у ненаціскным становішчы, мы сустракаем розныя адмены гуку „а“ на месцы не націскных е, о, ѣ, у залежнасьці ад становішча ў слове ў адносінах ненаціскному складу. Гэтае зьявішча, зразумела, можа быць ахарактарызавана, як аканьне-яканьне, і прытым аканьне моцнае, уласьцівае паўночна-ўсходнім беларускім гаворкам.

У разьдзеле зычных трэба адзначыць пэўныя хібы. Так, аўтар, азначаючы гук, які пішацца ім церас ł, кажа, што „ён мае якраз той самы ўласны зык, як і расійскае літаратурнае „л“ цьвёрдае“, ні слова ня кажучы пра тое, што на месцы ł часта, у пэўных становішчах, мы чуем ŭ. Тымчасам у запісах гаворкі ў канцы кнігі можна знайсьці шэраг прыкладаў на гэтае зьявішча. Тое самае можна сказаць і пра губное „w“, пераход якога ў „u“ аўтар таксама не азначае, а ён у наяўнасьці. Нічога ня пішацца і пра так званае падваеньне зычнага (у групе зычных —l, u—+j), хоць довады гэтаму ў запісах ёсьць.

Разьдзел морфолёгіі вельмі кароткі і зьяўляецца па існасьці парадыгмамі скланеньня і спражэньня, ілюстраванымі шэрагамі прыкладаў. Факт „захаваньня“ складаных формаў прыметнікаў і займеньнікаў, з пункту погляду беларускай мовы, ня выклікае таго зьдзіўленьня, якое зьяўляецца ў аўтара-украінца. Сярод дзеясловоўных формаў цікавы сьцягваньні формы, як hułáe (2sg), hułàm (1pl) і інш.

Можа быць, нават і пры тым тыпе працы, які абраў аўтар, ня лішне было-б зрабіць якія-небудзь абагуленьні, ахарактарызаваць зьявішча гаворкі. Гэта само напрашваецца, але гэтага няма, праца выглядае няскончанай.

Гаворка, апісаная О Курыла належыць, да мала дасьледжаных да гэтага часу беларускіх гаворак, якія прымушаны загінуць ва украінскім моры, што іх абкружае. Але, ня глядзячы на гэту сваю ізоляванасьць, яна здолела захаваць свае тыповыя Беларускія рысы, як аканьне ў галіне галосных, дзеканьне і цэканьне, часткова мяккае, часткова цьвёрдае „р“ у галіне зычных. Гэтымі рысамі яна далучаецца к блізкай Магілеўскай губ. паасобна і наогул—к групе паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак. Адрозьніваецца яна ад іх толькі наяўнасьцю дыфтонгаў. Зразумела, у захаваньні гэтай рысы не малое падтрыманьне ёсьць з боку суседняга абшару паўночна-маларасійскіх гаворак.

**Л. Арасімовіч.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод пісьменьнікаў і літаратараў**

* *Міхась Грамыка* скончыў пісаньнем сваю п'есу „Скарынін сын з Полацку", якая йшла ў пастаноўцы трупы Беларускага Дзяржаўнага Тэатру ў дзень сьвяткаваньня 400-годзьдзя беларускае кнігі 30 сьнежня.

* *А. Барычэўскі* і *Ўл. Дзяржынскі* працуюць над укладаньнем падручніка „Беларуская поэтыка", які мае быць выданы к восені 1926 г.

* *Цішка Гартны* працуе над п'есай з сучаснага жыцьця.

* *Я. Ліманоўскі* мае друкаваць у газэце „Савецкая Беларусь" сваё новае апавяданьне з падзей бягучага часу.

* *З. Бядулю* консыліум дактароў прыпісаў двухмесячны спачынак з прычыны цяжкае нэрвовае хваробы.

* *М. Пятуховіч* прыгатаваў да друку лекцыі па гісторыі беларускае літаратуры.

* *Я. Неманскі* піша роман.

* *У. Дзяржынскі* скончыў складаньнем другую частку выпісаў з беларускае літаратуры.

* *Максім Гарэцкі* здаў да друку свае апавяданьні „На імпэрыялістычнай вайне".

* *Алесь Гурло* выдаў праз выдавецтва „Маладняк" зборнічак вершаў „Спатканьне".

* *М. Мялешка* цягне далей апрацоўку матэрыялаў па сялянскім руху ў Беларусі. Ім сабраны і падгатаваны да друку збор адозваў соцыялістычных партый, якія працавалі ў 1905 г. ў Беларусі і выдалі іх у розных беларускіх гарадох ды мястэчках. Сярод адозваў іншых партый маецца дзесяць адозваў беларускіх нацыянальна-соцыялістычных партый—Беларускае Соцыялістычнае Грамады і Соцыялістычнае Партыі Белай Русі.

**Тэатр і мастацтва**

* П'еса Міровіча „Кар'ера Брызгаліна" ішла першай пастаноўкай 21 сьнежня.

* У другой палове тэатральнага сэзону, апроч абвешчанага дырэкцыяй Бел. Дзярж. Тэатру рэпэртуару, мае быць пастаноўлена адна музыкальная комэдыя. За лік адной з чужаземных клясычных п'ес будзе пастаноўлена адна з п'ес аднаго з сучасных заграінчных пісьменьнікаў.

* Мастацкая рада Бел. Дзярж. Тэатру ў далейшым будзе праглядаць программы концэртаў, якіх рэшана ў бягучым сэзоне паставіць некалькі.

* Маскоўская Беларуская Тэатральная Студыя гатовіць да пастаноўкі п'есу Ф. Аляхновіча „Чорт і баба".

* 6 сьнежня адчынілася ўсебеларуская мастацкая выстаўка. Выстаўка прыцягае да сябе шмат гледачоў і выклікае жывы посьпех.

* Мастак Крюгер напісаў для Бел. Дзярж. Выдавецтва портрэт старшыні Саўнаркому БССР т. Адамовіча, які хутка будзе надрукаваны.

* На абвешчаны Галоўполітасьветаю конкурс п'ес для вясковае сцэны да канца лістапада паступіла 40 беларускіх драматычных твораў.

* У рэпэртуар бягучага году трупа Ў. Галубка ўключыла п'есу „Спадчына" Потшэра, якую ставіцьме рэжысэр Бел. Дзяр. Тэатру М. Папоў.

* Галоўполітасьветы запрасіў Я. Купалу перакласьці на беларускую мову сцэнізацыю аповесьці Сэйфулінай

„Вірынэя“. Сцэнізацыя пераднамечана для вясковае і клюбнае сцэны.

* Дырэктар Віцебскага Музычнага Тэхнікуму композытар Посьнікаў гармонізаваў некалькі дзесяткаў беларускіх народных песень.

* В. Гарбацэвіч, аўтар „Чырвоных кветак Беларусі“, напісаў новую п‘есу „Дукорскія муры“. Сюжэт п‘есы гістарычны, з часоў панаваньня на Чэрвеньшчыне пана Ашторпа, вядомага ката. У п‘есе зьмешчана 30 нумароў сьпеваў, музыкі і скокаў.

* У час адчыненьня Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горках 28 лістапада трупаю Галубка было адыграна некалькі п‘ес і дадзена некалькі концэртаў. З п‘ес граліся „Пан Сурынта“ і „Ганка“. Спэктаклі зрабілі добрае ўражаньне на аўдыторыю.

* З 8 сьнежня адчыніўся пры Інбелкульце драматычны сэмінарыум. Запісалася да 50 слухачоў.

* Камісія беларускае песьні канчаткова разгледзела і ўхваліла песьні, якія перашлюцца ў Кіеў, у народную украінскую капэлю „Думка“. Капэля мае намер зрабіць артыстычнае турнэ па СССР з мэтаю папулярызаваць украінскія й беларускія песьні.

* Композытар Аладаў працуе зараз над орыгінальнаю беларускаю опэраю на тэму „Сымон Музыка“ Я. Коласа.

## Друк

* Дзяржаўным Выдавецтвам надрукованы насьценны адрыўны каляндар на 1926 г. Каляндар аздоблены мастацкаю дошчачкаю.

* У Воршы выдан другі нумар часопісі „Маладняк Аршаншчыны“.

* У Дзяржаўным Выдавецтве Беларусі друкуецца другая частка роману Цішкі Гартнага „Сокі цаліны“—„На перагібе“.

* Вышаў з друку і хутка пойдзе ў продаж збор апавяданьняў Я. Неманскага „На зломе“.

* Апошнімі часамі вышлі з друку выданьні Бел. Дзярж. Выдавецтва: 1) *А. Федасенка і Я. Сьцяпанаў*—Мэтодычныя ўвагі для лемантара „Чырвоная Зьмена“. 2) „Наш Шлях“—чацьвертая кніжка пасьля лемантара ў напісаньні *Самковіча, Пратасэвіча* і *Шашалевіча*. 3) *М. Бухарын*—Шлях да соцыялізму і рабоча-сялянскі саюз. 4) *І. Сталін*—Запытаньні і адказы, і інш.

* Вышаў з друку зборнік данясеньняў у міністэрства ўнутраных спраў і дэпартамант паліцыі губарнатараў і начальнікаў жандарскіх аддзяленьняў Беларусі аб рэволюцыйным руху. Дакуманты маюць асабліва цікавы характар.

## Літаратура

* З 25 па 30 лістапада ў Менску адбыўся ўсебеларускі зьезд поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“.

* У час зьезду „Маладняка“ дзяржаўнай бібліотэкаю была наладжана выстаўка беларускае кніжкі. Выстаўка падзялялася на тры аддзелы: выданьні „Маладняка“, выданьні старэйшых пісьменьнікаў, старая беларуская кніжка. Выстаўка мела значны посьпех.

* Проф. Замоцінымі напісаны цэлы шэраг крытычных нарысаў аб беларускай літаратуры, якія ён мецьме друкаваць у ленінградзкіх і маскоўскіх расійскіх часопісях.

* Проф. Растаргуеў заняты напісаньнем схэматычнага нарысу разьвіцьця і гісторыі беларускае літаратуры на расійскай мове. Праца будзе друкавацца ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве.

## Праца Інбелкульту

* Правапісна-тэрмінолёгічная камісія закончыла разгляд гісторыка-грамадзяназнаўчае тэрмінолёгіі, якую апрацаваў У. Чэржынскі. Надалей яна занялася зоолёгічнай тэрмінолёгіяй.

* Літаратурная сэкцыя ІБК пастанавіла зьліцца з мовазнаўчай сэкцыяй.

* З мовазнаўчай сэкцыі, слоўнікавай і мовазнаўчай камісій выдзелена правапісная падкамісія, якая павінна будзе ўсталяваць беларускі правапіс.

* Бібліографічная камісія зараз правярае картатэку па вывучэньні вытворчых сіл прыроды. За мінулы год ёю зложана пяць бібліографічных паказчыкаў.

* Адбылася перабудова камісіі па вывучэньні рэволюцыйнага руху. У сэкцыю выбраны прэзыдыум з пяці асоб і намечаны плян працы на будучы час. У плян уваходзіць: 1) вывучэньне чыннасьці соцыялістычных і нацыянальна-соцыялістычных партый у Беларусі, рэволюцыйны рух сялянства, рабочы рух, праца беларускіх комуністычных сэкцый, складаньне бібліографічнага слоўніка рэволюцыйных дзеячоў і інш.

* Прэзыдыум на пасяджэньні сваім 17 сьнежня пастанавіў для справы наладжаньня культурнай сувязі з заграніцаю заснаваць бюро.

У бюро назначаны т. т. Аршанскі, Жылуновіч і Смоліч.

* 11 сьнежня ў мовазнаўчай сэкцыі вядомы дасьледчык беларускае мовы проф. Растаргуеў прачытаў даклад на тэму: „Дыялекты ўсходніх паветаў Гомельскае губ. ў іх сучасным стане“. Лекцыя сабрала багатую аўдыторыю, зацікавіла ўсіх і выклікала жывыя доўгія спрэчкі.

## ХРОНІКА УКРАЇНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* О. Сьлесарэнка працуе над раманам „*Дзеці Валетыя*“ і над апавяданьнем „*Прыгоды Сенькі Палазка*“. Закончыў ён новэлу „*Князь Барцыла*“.

* У ленінградзкім аддзеле Дзяржаўнага Выдавецтва РСФСР вышла з друку ў перакладзе на расійскую мову кніжка апавяданьняў О. Досьветнага „*Тюнгуй*“.

* Валер‘ян Паляшчук друкуе ў ДВУ зборнік „*Грамадзкі сьлед*“ — вершы 1922-1923 г. г., і „*Літаратурны авангард*“—зборнік полемічных і тэорытычных артыкулаў.

* У Кіеве заходамі проф. дзяржаўнага музычна-драматычнага інстытуту ім. Лісенкі І. О. Куніным арганізаваны першы украінскі „Тэатр-Чытача“. Тэатр мае на мэце праз тональна-сымфонічнае чытаньне рэволюцыйнае поэзіі і прозы знаёміць масы з рэволюцыйнай творчасьцю, а разам з тым падняць культуру мастацкага слова на высокую ступень. Тэатр ужо распачаў практычную працу. 11 лістапада ён выступаў перад агульным зборам кіеўскіх рабкораў. Сымфонычнае чытаньне зрабіла на рабкораў агромністае ўражаньне.

* У Празе ўтварылася ўжо каля году назад літаратурная арганізацыя „Жоўтнева кола“. За апошні час „Жоўтнева кола“ выявіла шырокую чыннасьць; у яго склад уваходзяць пісьменьнікі А. Паўлюк, Падоліст, Дарашэнка, Хмялюк, Галоўка і Рымар. Штотыдню зьбіраюцца публічныя сходы. Сябры „Жоўтнева кола“ бяруць чынны ўдзел у часопісі „Наш Сьцяг“. З удзелам Паўлюка гатуецца да друку прысьвечанае украінскаму рэволюцыйнаму пісьменству нумар чэскае часопісі „Hogf“.

* Мастацкае аб‘яднаньне „Березіль“ аднаўляе пастаноўку п‘есы Джымі Хігінс пад кіраўніцтвам Л. Курбаса, якая прашла ў мінулы год з вялічэзным посьпехам. П‘еса грацьмецца ў новым складзе артыстых.

* Рэжысэрам Васілько - Міляевым ладзіцца да пастаноўкі ў кіеўскім дзяржаўным тэатры „Энеіда“ Катляроўскага. Над музычным афармленьнем „Энеіды“ працуе композытар Верыкоўскі.

* Рэжысэр таго-ж тэатру Ф. Лапацінскі пачаў працаваць над опэрэтаю Суліванa „Мікадо“, якую тэатр нядаўна атрымаў з-за рубяжа. Опэрэта будзе пастаўлена ў пляне гострае політсатыры.

* Пры мастацкім аб‘яднаньні „Березіль“ пастаноўлена адчыніць драматычную студыю.

* У Харкаўскім дзяржаўным драматычным тэатры ў пачатку студзеня 26 году будзе пастаўлена п‘еса Лесі Украінкі „Лісова Пісьня“. П‘есу ставіць Ігнат Юра, дэкорацыі піша мастак Петрыцкі.

* Композытар Казіцкі напісаў два хоры на словы П. Тычыны—„Плач Яраслаўны“ і „Дзіўны флот“. Композытар С. Драмцоў скончыў опэру „Іван Морозенко“ на 3 дзеі. Композытар Яноўскі працуе над опэраю „В огнях Монмартра“. Ён-жа напісаў сэрыю дзіцячых песенек на украінскай мове для фортэп‘яну. Композытар Богуслаўскі скончыў пісаньне дзіцячай опэры „По зорі“ на сюжэт дзіцячае п‘есы тае-ж назвы Гжыцкага, якая зараз ідзе ў дзіцячым тэатры.

* 5 сьнежня памёр рэдактар газэты „Вісты“—орган усеукраінскага

Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, В. Блакітны-Еланьскі, які адначасова вёў шырокую культурную працу ў розных галінах украінскае культуры. В. Блакітны быў яшчэ маладым і поўным здольнасьці да рознастайнае працы.

* Савет Народн. Камісараў УССР пастанавіў заснаваць у Харкаве спэцыяльны Шаўчэнкаўскі Інстытут, падобны Пушкінскаму будынку ў Ленінградзе. Новая ўстанова згодна проэкту мецьме быць навуковадасьледчаю і мецьме заданьнем зьбіраць розныя літаратурныя і мэмарыяльныя матэрыялы, а таксама дасьледжваць іх.

* Наркамасьветы Украіны зацьвердзіў новае мастацкае таварыства „Асоцыяцыя рэволюцыйных мастакоў Украіны“. Асяродак таварыства будзе знаходзіцца ў Кіеве.

* Вясною 1926 г. маецца быць скліканым усеукраінскі зьезд у справе мастацкае асьветы. Зьездам будуць абгаварвацца гэткія пытаньні: 1) разгляд сеткі і тыпаў мастацкіх ВУЗ-аў і школ, 2) скуткі мэтодолёгічных работ, 3) распрацоўка навуковых пляваў і інш.

* У Выдавецтве аб‘яднаньня украінскіх пісьменьнікаў у Маскве „Сім“ выпушчаны з друку збор твораў Т. Шаўчэнкі. Прадмова да выданьня напісана поэтаю У. Гадзінскім.

* У гэтым-жа Выдавецтве вышла з друку новая кніжка вершаў поэтаў Грыцко Коляды „Штурм і Націск“.

* У Выдавецтве „Чырвоны Шлях“ вышаў збор твораў песьняра Міхайлы Йогансена—„Доробок“.

375.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 8.



---

Б.Д.В. № 5. Галоўлітбел. № 11556

Менск. 1-я Дзяржаўная друкарня. Зак. № 127. У ліку 2000 экз.